Беларуская мемуарная бібліятэка

Уладзімір Някляеў

# Знакі прыпынку



# ЁН НЕ ТОЙ, ХТО СЁННЯ ЁСЦЬ

Патрэба ў такой кнізе выспявала даўно. Сярод манбланаў, эверэстаў макулатуры, бясконцых так званых творчых пакут, рэлаксацый, медытацый, псеўдарамантычных уздыхаў, росквіту патэнцыйна і не толькі патэнцыйна хворых на галаву хацелася нечага здаровага і асэнсаванага. Хаця б намёку на думку, якая незаўважна патанула ў сусветнай плыні славаблудства. Яна сканала не толькі ў мастацтве, не знайсці яе і ў спажыўцоў яго — сённяшніх шматлікіх ратавальнікаў чалавецтва. Яе не стала ці не ў большай частцы нашага сучаснага жыцця, ягоным руху, накірунку, ладу і памкненнях у бягучасць і будучыню. Будучыню, якой без духоўнасці і культуры можа і не быць, бо духоўнасць, культура — зрок і слых не толькі сённяшняга дня, а дня яшчэ нябачнага, які ледзьве зачынаецца, і першнаперш у мастацтве і мастацтвам, на якое сляпыя і глухія амаль пагалоўна ўсе нашы ўладары — павадыры манкуртаў і зомбі. Бог не даў.

Бог пакараў іх яшчэ жывымі, не даў ні прадбачання, ні розуму падаслаць той саломкі адзаду, на якую рана ці позна яны кульнуліся б, спрабуючы ўбачыць неба над сабой. А неба ім не будзе, бо яно даравана як памерлым, гэтак і жывым стваральнікам, а не разбуральнікам. Дойлідам, жыццё якіх цяжкое і складанае, лёс непрадказальны, супярэчлівы і такі пакручасты, што і магіла яго няздольная выпрастаць. Лёс гэты нагадвае дрэва, што зачалося насуперак усім і ўсяму, крапіўнае семя, якое ўхапілася за жыццё няўчас і не на месцы, насуперак нават прыродзе. Тую ж нашу ўсімі апетую бярозу на верхавым балоце. Балота то яно балота, але сухадольнае. Вада не навідавоку. Жывая ці мёртвая? Невядома. Патаемная, сама з сабой змагаецца, схаваная пад лекавым сфагнавым мохам, сівым спрадвечным нашым — і шкодзіць, шкодзіць дрэву, зводзіць

яго. А яно, калі ўжо ўзялося, упарціцца. І ўсё ў неба ды ў неба. Толькі камель цяжэе, набрыняўшы неўтаймаванай дужасцю існага. Жыльна вяжацца ў вузлы, як у спрацаванага чалавека з цягам часу мышцы на руках і нагах, акорваецца мазалямі гадоў і выпрабаванняў. І выстойвае, выстойвае да наканаванага яму веку, непазбежнай і прыдатнай чалавеку спеласці.

Але калі і ляжа ўжо пад сякерай ці пілой таго ж чалавека, захоўвае характар. І ні з сякерай, ні з калуном да яго не падступіцца. Ты яго і на абух, і на клін. Не паддаецца. Грузнуць сякеры ў суцэльным жыллі, ламаюцца тапарышчы, трушчацца кліны. А дрэва толькі крэкча, як зімовы лёд: трашчу, трашчу ды не ўпушчу. Але калі ўжо справішся з ім — і ў печ ці камін — агонь зыркі і высокі, угрэўны. І жару, жару, буйнога, доўгага. Хопіць выгнаць вільгаць, прагрэць і сцебку, і падпол. Вугаль яшчэ доўга будзе сіненька, без газу блукаць па зачыненай ці закратаванай цемры печы і каміна, як стоены ўспамін на сыходзе зусім не нікчэмнага жыцця. Жыцця сапраўднага, што не прахам пайшло, некага ўсё ж сагрэла і прымусіла настарацца да сёмага поту. Такая ўжо непрадказальнасць стыхіі, яе неспасціжная, літасцівая і жорсткая моц у спалучэнні з празарлівай абачлівасцю, з нечаканымі ўхіламі ў розныя бакі і забяганнем наперад самой сябе, яе саломкай адзаду і вогненным ці не зорным сыходам і вяртаннем наперадзе.

Вось чаму пра кнігу Уладзіміра Някляева «Знакі прыпынку» цяжка пісаць, адназначна ацэньваць яе. Паўсюдна адметныя знакі, знакі падасланай адзаду саломкі, выпеставанай часам бярозы і тым жа часам, які імкнецца да яе бярозавіку, згвалтаванай, ці нястрымным у відавочным памкненні згвалтаваць.

Цяжкасць жа іншага кшалту — пазнавальнасць. Набліжанасць да кожнага з нас таго, пра што Някляеў апавядае. Гэта наша рэчаіснасць, хаця і паэтызаваная. Рэчаіснасць, ад якой мы яшчэ не адбегліся. Адсюль і жаданне пярэчыць, спрачацца, хаця аўтар заўсёды ніколі і нікольки не той чалавек, з якім можна і трэба спрачацца. Напісанае, створанае, тое, што існуе ў якасці твора, прабачце мне, — нябожчык, які, можа, і мае дачыненне да нас, нашага ладу думак, але ўжо набыў неаспрэчную самастой-

насць. У яго ўжо зусім іншае вымярэнне, самаўхіленне, хаця ўсе сцвярджаюць, што кніжкі пішуць для чытача, міфічнага і нябачнага. Толькі на самой справе сапраўдным творцам кіруе зусім не чытач, а творца самога творцы. Той, хто ў ім. Нехта вышэйшы за яго, патаемны і вельмі ўладны.

Чытачу ж адведзена ў гэтай патаемнасці пазнаваць, прымаць ці адмаўляць самому сабе ў меру свайго разумення і годнасці. Таму ад літаратуры не адна толькі карысць, але і шкода. Пра гэта на старонках кнігі Уладзіміра Някляева на схоне сваіх дзён вядуць гаворку В. Астаф'еў і В. Быкаў.

Гаворка не надта акрэсленая, амаль безвыніковая, бо яна толькі знак прыпынку на шляху двух вялікіх майстроў слова, як і на шляху Уладзіміра Някляева. Знакавых прыпынкаў у яго кнізе шмат. Шмат людзей ходзіць па ёй. Знаёмых, незнаёмых, вялікіх і не вельмі. Шчаслівы лёс, багатае на сустрэчы жыццё. І паўсюдна супынкі, пытальнікі, коскі з кропкай, для сябе і для чытача шматкроп'е, хаця і не прастаўленае, толькі пазначанае, як верставыя слупы дарог на хуткасцях лютага і жорсткага дваццаць першага стагоддзя. Знакі нашага і аўтарскага жыцця.

Але аўтар толькі ўскосна прастаўляе іх, не ўцякае ў прыдумную, часцяком ілжывую шматзначнасць, на якую пакутуюць сёння многія нашы літаратары. Ён часам нават залішне лапідарны, нечакана абрывісты, бо валодае дарам у пару наступіць на горла ўласнай песні. Гэта найпершая прыкмета майстэрства. Найноўшая проза дваццаць першага стагоддзя, проза ўмаўчання. Тут варта ўзгадаць Чэхава, Хемінгуэя, хаця сам Някляеў сведчыць, што яму больш даспадобы Аляксандр Дзюма.

Парадоксы, нестыкоўкі, неспавядальныя шляхі Божыя Някляева.

Вось яшчэ адно з таго, праз што цяжка пісаць пра кнігу Някляева, ягоную прозу. Яна строгая, патрабавальная і, нягледзячы ні на што, — цэласная. Цэласная пры ўсёй, на першы погляд, разбэрсанасці тэмы, а хутчэй тэматыкі, неадназначнасці жыццёвай постаці самога аўтара. Пранізліва шчырая без шкадавання сябе і іншых. Адкрытая, здаецца, наросхрыст. І такая

ж закрытая, звонку зашпіленая: дурань праскочыць міма і не спатыкнецца, а разумны прыпыніцца, здагадаецца.

Спатыкайцеся, людзі, прыпыняйцеся. Час даўно ўжо наспеў і прыспеў, як садовы яблык: можа ўпасці і спрахнуць нябачна. І вы ўжо ніколі не адчуеце яго смаку, асалоды, таму што існуе пара збіраць не толькі камяні, але і яблыкі. Збіраць, гуртаваць і гартаваць словы. Прыпыняцца і спатыкацца на слове. Балбатуноў у нас хоць гаць гаці. Дарэчы, няспынная і складная балбатня, як сведчаць медыкі, — адна з прыкмет псіхічнай хваробы. І мы сённяшняй сваёй хворасцю ўжо загацілі і згадзілі адну шостую частку свету, пракінулі яе праз акіяны да ўсіх Вашынгтонаў з Нью-Ёркамі і Каракасамі. Саматужна дакараскаліся. Памятаеце, з п'есы К. Трэнёва «Любоў Яравая»: «Пусціце Дуньку ў Еўропу». З тае пары і не пускаюць. Мы самі сабе заказалі дарогу ў цывілізаваны свет.

Але, прабачце, гэта ўжо мой знак прыпынку. Што ж тычыцца някляеўскіх «Знакаў», дык няпроста вызначыць нават іх жанр. Мемуары, успаміны, публіцыстыка, эсэ, філасофскія разважанні, будзённае і надзённае, асабістае і грамадска значнае, высокае і нізкае. Як тут не ўзгадаць ахматаўскае: «Когда б вы знали, из какого сора растут стихи, не ведая стыда...»

Я вызначыў бы кнігу «Знакі прыпынку» як раман. Але не ў звыклым яго ўяўленні. Раман душы, паэма, ці, як напісаў Някляеў пра Купалу, «верш скразнога пражывання». Раман несупакоенай бунтоўнай душы на папялішчы нашага, класічнага ўжо «раскіданага гнязда». Дзе багатыя россыпы ўсяго безумоўна патрэбнага, але столькі ж і праху. Праху любага і дарагога, бо гэта і ёсць сам чалавек. Прах свайго быцця, з якім чалавек згаджаецца і адначасова яму адмаўляе. Таму чытач «Знакаў» — а гэта, лічы, чытач самога сябе, свайго часу, сваёй эпохі — вымушана і сутворца. Сутворца ў супадзеннях, а больш несупадзеннях, суперажывальнік і прыхільнік — і разам з тым апанент-супернік, праціўнік. Супраціўляюцца і пярэчаць сэрца сэрцу, душа — душы. Як і павінна быць пры сутыкненні дзвюх планет, двух метэарытаў, бо ў іх процілеглыя кірункі руху.

Якраз пра гэта, пра розныя кірункі нашых зямных і нябесных рухаў мы з паэтам Генадзем Бураўкіным і гаварылі, прачытаўшы пачатак някляеўскіх «Знакаў» у часопісе «Дзеяслоў». Віктар Астаф'еў назваў сваю геніяльную кнігу, падобную да някляеўскай, «Затёсы». У нашай гаворцы было здзіўленне нечаканасцю пяра Някляева. Новым раскрыццём яго асобы, унутранага жыцця. Жыцця ў сабе, але не толькі для сябе. Ацэнка была двухбакова высокая — і ў той жа час сышліся на шкадаванні: дарэмна, дарэмна Валодзя завітаў у палітыку. Богам пазначаны творца.

Пра гэтае «дарэмна» думаецца мне і зараз. Толькі ўжо не так катэгарычна, а па-нашаму, па-беларуску (вымушана, жыццёва) памяркоўна і апраўдальна. Так яму наканавана звыш, і не ён, дык нехта іншы з творцаў павінен быў устаць, заняць тое месца ў нашым жыцці, на якое ўстаў, усклаўшы на сябе цяжар праўды, Уладзімір Някляеў.

Ён быў гатовы да гэтага, падрыхтаваны пакаленнямі Магераў, беларускіх продкаў па маці, і пакаленнямі прыволжскіх бунтароў па бацьку. Гатовы праз наканаванне, падрыхтаваны прадчуваннем сябе ў будучым.

Іншым разам яго папракаюць савецкім мінулым. А ў каго з тых, хто нарадзіўся ў савецкім часе, мінулае іншае? Ні ў кога. Але як упарта і ў тым часе Някляеў шукаў самога сябе! Не атрымалася пайсці ў геолагі: закахаўся ў дзяўчыну, і каханне заступіла дарогу ў геалогію — стаў радыётэхнікам. Так і не зразумеўшы, што такое электрычнасць, кінуў гэты занятак — не ягоны. А колькі людзей учэпіста займаецца не сваёй справай, жыве не сваім жыццём. І нічога, усім задаволеныя. Мо таму і жыццё на нашым свеце стабільнае, але вельмі крохкае, ломкае і надрыўнае.

Паступіў у педагагічны інстытут у Мінску. Потым — Літаратурны інстытут у Маскве. Але не стаў педагогам, не датрываў да маскоўскага дыплома літаратурнага работніка (літраба) — кінуўся ў рэчаіснасць. На ўзвядзенне светлай будучыні чалавецтва: вялікія камуністычныя будоўлі ў Сібіры, на Поўначы, на Далёкім Усходзе.

Гэта ці не тыповая біяграфія творцы савецкага часу. Калі творца не атрымліваўся, абзывалі летуном, дармаедам. А калі атрымліваўся...

Някляева ўзвялі ў ранг амаль афіцыйнага паэта. Ад імя маладых літаратараў ён агучваў вітанне партыйнаму з'езду, яму пляскалі ў далоні сакратары ЦК КПСС Брэжнеў і Гарбачоў. Што гэта было? Гэта было прызнанне. І як бы мы не адносіліся да савецкага мінулага, — не беспадстаўнае. Тая ўлада ўмела распазнаваць сапраўдны талент і пустое, хаця і звонкае, мілае яе сэрцу графаманства. Умела расстаўляць фігуры па шахматнай дошцы сваёй прасторы. Але Някляеў і ў той час не быў паслухмянай фігурай, якой можна гуляцца. «Як толькі пацягне раскрыцца, расхрыстацца, так згадваецца запавет Канфуцыя: "Ніколі не распавядайся пра сябе ні добрага, ні кепскага. У першым выпадку вам не павераць, у другім — прыўкрасяць"».

І яшчэ някляеўскае з ягоных «Знакаў». «Пісаць трэба сэрцам, душой... Гэта, так бы мовіць, з навукі, з літаратуразнаўства.

Пісьменнік піша сабой. І, як аловак, як крэйда, спісваецца. Ён піша словы і сябе самога — у словы пераўтвараецца і ў іх знікае».

Ці не ў гэтым сутнасць пісьменніка, творцы Уладзіміра Някляева? Ягоная сутнасць тады і сёння, калі ён ішоў і ідзе на Галгофу: «Гавары праўду!» І кажа: «Інтэлект чалавеку для чаго заўгодна, толькі не для разумення мастацтва. Мастацтва ўвогуле не трэба разумець. Яно не для таго». Мо менавіта таму Уладзімір Някляеў, кладучы на паперу, як на плаху, сваю аўтабіяграфію, адначасова недзе культывуе і адчужана пазбягае яе. Бо гэта ўсё ж біяграфія душы, штохвілінна пераменлівай, праўдзівай і падманлівай, як тая ж душа. Цяжка, неверагодна складана злавіць імгненне, злавіць самога сябе. Свой цень і прывід. «З усяго, што было, згадваюцца найчасцей крэўскія пагоркі, па якіх іду, маленькі, і нанізваю на сцяблінку мятліцы сонейкі суніц».

Мне ж часцяком згадваецца сустрэча з Някляевым ці не ў першую паслячарнобыльскую восень, калі мы з Ігарам Шкляраўскім на яго літаратурную прэмію садзілі ў чарнобыльскай

зоне лес. Пад вечар, нібы асвячаючы, папятляў па тым лесе да таго, пэўна, беспрытульны заяц, радуючы нас і наганяючы сум. Мы рыхталіся да вячэры — і я пачуў па радыё, як Маргарэт Тэтчэр сказала пасля сустрэчы з М. Гарбачовым: вось сёння ён займае ў Савецкім Саюзе ўсе самыя высокія, якія толькі магчыма заняць, пасады, але кім ён будзе, куды падымецца заўтра?

За вячэрай я пераказаў яе словы. Някляеў засмяяўся: маўляў, чаго яшчэ жадаць, куды падымацца? Дарэмна смяяўся. Жалезная лэдзі была яшчэ і лэдзі празорлівая: Міхаіл Гарбачоў стаў першым прэзідэнтам Савецкага Саюза. Але празорлівасць мудрай жанчыны не прасцёрлася да таго, што першы прэзідэнт стане і прэзідэнтам апошнім.

Не дадзена нам ведаць, хто мы ёсць сёння і кім будзем заўтра. І меней за ўсё ведае пра тое творца. «Пушкін казаў: “Яшчэ павесялімся”». А бабця Някляева казала: «Сёння — як ёсць, а заўтра — бліны».

У свой час, калі Уладзіміра Някляева абралі старшынёй Саюза пісьменнікаў, адзін з нашых аксакалаў радасна мовіў: «Брава!» Але крыху пазней схамянуўся і дадаў: «Ён жа сібарыт, а хто працаваць будзе?»

Нават у пісьменнікаў: працаваць — найперш габляваць. Ці ў кабінетах засядаць. А ўжо пісаць — пасля.

Усё, пэўна, так: не ўжыўся ў кабінет. Сібарыт, эстэт. І яшчэ хтосьці трохі. Вось гэты хтосьці трохі яшчэ і падараваў нам сябе, і ўпусціў нас у свет сапраўднага паэта, сучаснага літаратара, сённяшняга беларуса.

*Віктар КАЗЬКО*

# ЦУДЫ ЎСЕ Ў АДНЫМ-АДЗІНЫМ ЦУДЗЕ
Спроба аўтабіяграфіі

## ТАК НАПІСАНА

Калі 6 чэрвеня 1999 года, у дзень 200-годдзя Аляксандра Пушкіна, апынуўся я за мяжой, аказалася, што ў мяне не зусім акрэслены статус. У Пушкіна — акрэслены, а ў мяне — не. Таму паўстала пытанне пра палітычны прытулак, бо статус палітычнага эмігранта акрэслены цалкам. Гэтак, што ты не можаш зваротна перайсці мяжу, вярнуцца дамоў...

Падціскалі мяне з такім рашэннем, падбівалі да кроку такога і з нашага боку, і з таго. Кожны са сваім інтарэсам — а ў мяне які?..

І з беспрытульнага тлуму ў галаве прыснілася мне, нібы ўрэшце пайшоў-такі я палітычнага прытулку прасіць. Аказаўся ў нейкай казённай польскай установе, дзе гэты прытулак альбо даюць, альбо не даюць, і злосная на ўсіх «прытульшчыкаў» свету пані раздражнёна зайшлася ненавіснай мне кірмашовай візготкай:

— Як ледзь мы лепей зажылі, так адразу ўсе ў беднае польскае панства паперліся!.. А вам нашто наш прытулак?.. Вы і так паляк, у вас дзядзька ў Польшчы жыве!

Здранцвеўшы, я ўспомніў, што ў мяне яшчэ і бацька рускі, і наогул Бог ведае, хто я, але пачаў даводзіць, што я ўсё ж беларус, хоць у мяне бацька рускі і дзядзька ў Польшчы жыве, ды пані слухаць не стала:

— А скуль мы ведаем!.. Мы на словах нікога не прымаем — пішыце заяву і аўтабіяграфію!.. — І я фізічна запомніў, як у тым сне на нейкім бланку, які мне выдала візготная пані, на ягоных верхніх лінейках чорным па белым напісаў: «Аўтабіяграфія для прыёму ў беларусы».

Помню, што лёгка, як заўсёды, пачаў аўтабіяграфію з месца і даты народзінаў, але з тым, што далей пісаць, як выявіцца

беларусам так, каб мяне прынялі ў беларусы, — узнікла праблема...

Сон гэты быў з тых хуткіх, кароткіх сноў пад ранне, якія цалкам і падрабязна запамінаюцца, і я пра яго стаў думаць, бо адчуваў, што не такая ўжо і дурнота мне прыснілася.

Я задаўся просценькім пытаннем: а колькі ж напісаў я за сваё жыццё гэтых самых аўтабіяграфій?.. Безліч!.. А для чаго я іх пісаў? Каб паступіць у тэхнікум, у інстытут, у Саюз пісьменнікаў, каб паехаць за мяжу, каб атрымаць медаль, ордэн, прэмію, каб працаваць у газеце, у часопісе, на тэлебачанні, каб стаць карэспандэнтам, загадчыкам аддзела, галоўным рэдактарам — і гэтак далей, і далей, і далей, і яшчэ чорт ведае для чаго... І калі ў прэамбуле, у абавязковай сваёй частцы: дзе і калі нарадзіўся, на каго вучыўся, з кім і калі ажаніўся — аўтабіяграфіі тыя былі аднолькавымі, дык далей, у частцы змястоўнай і больш-менш адвольнай, у залежнасці ад таго, куды і па што я з імі шчаміўся, плішчыўся, былі яны даволі ро́знымі. Прычым настолькі, што ў біяграфію аднаго чалавека іх і не складзеш... А каб не толькі скласці, але і пражыць гэтыя біяграфіі без узаемавыключэнняў, трэба падзяліць іх па меншай меры на чалавек трох-чатырох, адным не абыдзешся.

Я ніколі не адчуваў у сабе асаблівай цэласнасці, нават не ўяўляю, як гэта чалавек сябе цэласным пачувае. Цэласнасць у нейкія асобныя моманты, калі трэба ўсе свае часткі сабраць, каб прыняць адно-адзінае рашэнне, — калі ласка. А так, каб праз усё жыццё, — не. Не магу разабрацца ў частках, няма інструкцыі па зборцы — і не разумею, як. Хоць людзі, якія лавілі мяне на ўнутранай раздвоенасці (адна жанчына нават сказала, што я ўвесь вітражны), даводзілі, што яны цэласныя і ёсць.

Ну, добра. Няхай так. Але як з аўтабіяграфіяй для ўступлення ў беларусы быць? Ды не з аўтабіяграфіяй — ці мала чаго не свайго ў ёй прыдумаць можна...

І зразумеў я раптам, што ніяк. Што толькі так, як ёсць. Як я пражыў, як напісана. Богам на небе і мной на зямлі. Бо так, як напісана, я і жыў. І быць так і таму, як напісана, з усёй маёй біяграфіяй, з усім маім жыццём.

# КАРАНІ

Даўным-даўно адзін з каралёў Брытаніі, састарэўшы і стаміўшыся быць каралём, вырашыў скінуць з плячэй сваіх цяжар улады і падзяліць каралеўства на тры часткі паміж трыма дочкамі, адну з якіх, Кардэлію, у апошні момант абдзяліў. Дзякуючы геніяльным фантазіям Шэкспіра, увесь свет ведае пра тое, што сталася далей...

Значна менш, чым легенда пра ўладара Брытаніі караля Ліра, вядомая свету гісторыя пра ўладара Вялікага Княства Літоўскага Гедзіміна, які, састарэўшы, вырашыў падзяліць паміж сямю сынамі найбагацейшыя гарады сваёй дзяржавы. Двух са сваіх семярых сыноў, у тым ліку Альгерда, вялікі князь абдзяліў.

Па смерці Гедзіміна Альгерд, якому дасталося Крэва, рушыў вайной на брата свайго Яўнута, адабраў у яго вялікакняскі, па спадчыне Яўнуту перададзены, вянец — і з дапамогай другога свайго брата, Кейстута, сам стаў вялікім князем.

Амаль праз сорак гадоў Кейстут гэтаксама, як дапамог Альгерду, дапаможа стаць вялікім князем і сыну Альгердаву, свайму пляменніку Ягайлу, а Ягайла ў «падзяку» за гэта загадае забіць яго ў кутняй вежы Крэўскага замка. Мала таго, Ягайла загадае забіць у Крэве і сына Кейстута, свайго брата стрыечнага Вітаўта, якога ўратуе, выведзе з вязніцы жанчына...

Напал жарсцяў чалавечых, што віравалі ў Крэўскім замку, нікольні не меншы, чым у трагедыях Шэкспіра. У Крэве стагоддзямі спляталіся, сцягваліся ў вузел заблытаныя шляхі і сцяжыны нашай гісторыі.

Пад рэшткамі замкавых сцен, на руінах нашай гісторыі прайшло маё дзяцінства. Праз гэта, адсюль я — беларус. Нацыянальнасць — не запіс у пашпарце, а мова, гісторыя і культура, да якіх ты належыш. Хоць бацька мой, Пракоп Міхайлавіч Някляеў, родам з Волгі, — ва ўсім рускі чалавек. З неабдымнымі, як прыволжскія стэпы, памкненнямі і стыхійным, так да скону і не ўтаймаваным, характарам. На вайне яго, цяжка параненага і кантужанага, нават закапалі былі ў магілу, але ён і ў магіле

выжыў. У 1945 годзе, калі ён адваяваў, яго не адпусцілі на Волгу, а накіравалі ў Заходнюю Беларусь. Тут лёс і звёў яго з маёй маці, так што я ў нейкім сэнсе — вынік вайны, таму і напісаў у адной з першых сваіх паэм: «Сутыкненне нацый і народаў вырашала: быць мне ці не быць?..» Пра тое самае адна з найбольш біяграфічных маіх аповесцяў «Мірон ды Мірон».

Маці мая, Анастасія Іванаўна Магер, вечная працаўніца, ціхая верніца. Калі бацьку я помню з пісталетам у руках, з якога — ледзь што не па ім — пачынаў ён страляць ва ўсе бакі, дык маці — са Святым Пісаннем, з малітваю перад абразом: «Даруй, Божа, пасланаму Табой мужу майму...»

Малілася яна, калі царкву ў Смаргоні зруйнавалі, пад яблыняй, якую называла Царквой. Ва ўсіх дрэў у нашым садзе былі свае імёны...

Так я і вырас, гэтак — паміж пісталетам і абразом — і прайшло дзяцінства. Амаль усё, што мной напісана, адтуль.

## ГРАМАТА

Чытаць я навучыўся недзе гадоў у пяць — і не па лемантары, а па Бібліі. Мой дзед Ясь, Іван Маркавіч Магер, якога дасюль у Крэве згадваюць як святога, аслабеў на вочы і ўжо не бачыў літары Святога Пісання. «Цяпер твае вочы будуць маімі», — сказаў ён аднойчы і стаў вучыць мяне грамаце. Літары ў нас называліся Агрэст, Бульба, Гурок, Карова, Морква, Парэчка, Свіння, Цялушка, Шчаўе, Яблык — яны раслі ў садзе і на гародзе, мыкалі і рохкалі ў хляве. І штовечар я дзеду, заікаючыся і ад няўмення, і ад намагання хоць неяк спасцігнуць тое, што напісана, чытаў: «Слово в начале было у Бога и само было Бог».

У вайну, не надта любячы Саветы, якія яго раскулачылі, адабралі зямлю, лес, тартак і зрабілі амаль жабраком, дзед Ясь хаваў у сваёй хаце савецкага афіцэра. Габрэя, ды яшчэ камісара. Знайшоў яго, усяго ў крыві, у яме, дзе буртавалася бульба. Сказаў жонцы, дачцэ і тром сынам, якіх немцы за гэта, каб даzналіся, разам з ім адразу б павесілі: «Бог паслаў да нас чалавека, каб мы яго зратавалі...»

Калі дзед памёр, ён паслаў мне з таго свету доказ існавання Бога. Праз гады я напісаў пра гэта ў прыпавесці «Чмель і вандроўнік», прысвечанай Васілю Быкаву.

У Крэве я пайшоў у першы клас. З другога класа вучыўся ўжо ў Смаргоні. Скончыўшы сёмы, захацеў стаць геолагам. Вандроўкі, намёты... Касцёр, гітара... Рамантыка. У чатырнаццаць год «паступаць на геолага» паехаў у Кіеў, дзе драматычна закахаўся. Бялявенькая такая, яснавокая... Не помню, як яе звалі, але помню, як мяне праз яе білі. Пяцёра таксама ў яе закаханых хлопцаў, з якімі жыў я ў адным інтэрнацкім пакоі. Старэйшыя за мяне, ужо пасля арміі... Закручвалі ў коўдру — і кедамі! Каб раскахаўся... Справіцца з імі было мне не па сіле, паскардзіцца не дазваляў характар. Трываў, колькі мог. Аднойчы закашляўся — на насоўцы кроў. Ну, думаю, рамантыка рамантыкай, каханне каханнем, а жыццё даражэй. Бывай, бялявая!.. Дый экзамены, бо не да іх было, здаў я абы-як. Не паклалася перада мной сцяжына, па якой можна было б пайсці ў геолагі... Не лёс.

Праз два гады падаўся вучыцца ў Мінск на радыёмеханіка, не стаўшы перад тым ні ветэрынарам, як бацька хацеў, ні, як хацела маці, музыкам. Хоць маці і ўгаварыла бацьку прадаць карову і купіць мне акардэон.

Але і радыёмеханіка з мяне не выйшла. Законы, па якіх бегае ток па электраланцугах, аказаліся неспасцігальнымі. Пасля трэцяга курса вярнуўся дахаты, сказаў: «Усё. Не маё». Маці ў плач: «Сынок, ты ўжо хоць дзе-небудзь давучыся, людзі ж думаюць, што адусюль цябе выганяюць. З хаты на вуліцу не выйсці...»

Каб магла маці выходзіць на вуліцу, паехаў давучвацца. А як давучыцца, калі не цяміш, якую навуку спасцігаеш?..

Перад зімовай сесіяй купіў кнігу Альберта Эйнштэйна. Нават не ведаючы, нашто і чаму... І раптам чытаю, Эйнштэйн прызнаецца: вось усе кажуць, што я геній, тэорыю адноснасці прыдумаў і ўсялякае такое, а я, па праўдзе сказаць, дагэтуль не ведаю, чаму электрычная лямпачка гарыць.

Раблю ў кнізе закладку ды шыбую з Эйнштэйнам здаваць экзамен па спецыялізацыі. Шэры зімовы ранак, у аўдыторыі лямпачкі гараць. Бяру экзаменацыйны білет і, нават не чы-

таючы прапанаваных мне пытанняў, вяртаю білет выкладчыку. Кажу: у вучэльні вашай я выпадкова, зараз вы паставіце мне двойку, мяне выганяць — і гэта будзе справядліва. Але, каб усё ж хоць нешта талковае я адсюль вынес, не шкадаваў пра зусім ужо марна страчаны час, растлумачце вы мне на развітанне: чаму электрычная лямпачка гарыць?..

Давай мне выкладчык распавядаць, як адзін электрон штурхае другі электрон, а другі — трэці і гэтак далей... Я ўважліва слухаю, галавой ківаю... Дзякую за тлумачэнні — і кладу перад выкладчыкам на сваю заліковую кніжку разгорнутую кнігу Эйнштэйна: а вось ён не ведаў...

Прозвішча выкладчыка было Дубко, але ён не аказаўся дубам. Выпускнік прэстыжнага маскоўскага (Баўманскага) інстытута, ён ацаніў мой, як сёння б гэта назвалі, перфоманс і даў мне магчымасць скончыць электратэхнікум сувязі.

З дыпломам маладога спецыяліста я апынуўся спачатку на Далёкім Усходзе, пасля ў Сібіры і на Поўначы... З гэтымі маімі інстытутамі, з іх хоць і кароткімі, але насычанымі праграмамі, не параўнаць аніякія іншыя. Ва ўсялякім выпадку, не параўнаць з імі ні педагагічны, ні літаратурны інстытуты, адзін з якіх я скончыў, а другі, зноў жа, не...

## ЛІТАРАТУРА

Першая мая кніга павінна была выйсці на рускай мове, калі я вучыўся ў Літаратурным інстытуце. Свету яна не пабачыла: я забраў рукапіс з маскоўскага выдавецтва «Молодая гвардия». На мяне там глядзелі, як на вар'ята, але я ведаў, што рабіў: у выдавецтве «Мастацкая літаратура» паабяцалі выдаць мае беларускія вершы. У выбары я не вагаўся: першая кніга павінна быць беларускай. Бо пра карані, пра Крэва.

Прыехаў з Масквы ў Менск падпісваць дамову, а мне паказалі адмоўную (так званую закрытую) рэцэнзію. На чатырох аркушах. Зваротная старонка апошняга аркуша была ў плямінах ад сала, са слядамі нажа — і пахла цыбуляй... Нейкія людзі ў выдавецтве пілі, закусвалі, пасцяліўшы на рэдакцыйным ста-

ле газету, пад якую падклалі, што пад руку патрапіла, каб стол не парэзаць.

Паэзія тады ўяўлялася мне храмам — і гэта было, як лаянка ў храме. Не сама рэцэнзія, якую, як пасля прызнаўся яе аўтар, яго змусілі напісаць, а тое, як абышліся з ёй, са мной і з самім храмам ягоныя служкі. Я быў гатовы ўзненавідзець усю беларускую літаратуру...

Урэшце кніга са зменenaй назвай (не маёй, а выдавецкай) і без аднаго верша (пра які я потым сам забыўся і нідзе яго не друкаваў) выйшла. Найперш намаганнямі Рыгора Барадуліна, які падключыў да гэтага як цяжкую артылерыю Куляшова з Панчанкам. Народных, якія мелі вагу і моц, паэтаў.

Выкінулі з кнігі верш пад назвай «Праўда». Усяго чатыры радкі:

Божа мілы, да магілы
Мне прасіць тваёй парады:
Дзе набрацца боскай сілы,
Каб казаць людскую праўду?

Выкінулі, мусібыць, праз тое, што ў той час, у пачатку 70-х, Бога ў нас не было.

Неяк я праглядаў сваю першую кнігу — і намагаўся зразумець: з чаго маглі ўзнікнуць праз гэтыя вершы хоць нейкія праблемы?.. Не зразумеў.

Я і зараз шмат чаго не разумею, таму займаюся, займаюся і займаюся літаратурай. Бо толькі праз яе (праз мастацтва) і яшчэ праз Бога (праз веру) можна ў гэтым свеце нешта ўцяміць. Хоць крышку, хоць неяк наблізіцца да ўсведамлення: дзеля чаго ты тузаешся ў жыцці?

Калі сказаць, што няма і не можа быць з гэтага тузання ніякага выніку, гэта будзе праўда, але нейкая надта ўжо абсалютная, касмічная — за межамі разумення. Таму, можа, і пілуем мы, рэжам, трушчым неймаверную праўду на меншыя, маленькія і маленечкія (кожны на сваё) праўдачкі. Здавалася б, з іх, няхай і маленькіх, але бясконцых у сваёй колькасці, ужо даўно павінна была б скласціся нейкая адна вялікая праўда,

а яна не складваецца, не складваецца... Ці, нечакана для ўсіх і кожнага, раптам склаўшыся, зноў рассыпаецца. Бо не можа быць праўдзівым малюнак, складзены з кубікаў. Тым больш, што ўсе ведаюць: на кожным баку кожнага кубіка — фрагменты розных малюнкаў.

І ўсё ж менавіта мастацтва здолела больш-менш праўдзіва накідаць абрысы свету, у якім няма адной для ўсіх праўды. І найперш гэта здолела зрабіць літаратура, якую не цікавіць, чаму гарыць электрычная лямпачка.

Тая літаратура, у якой я пачынаў, савецкая імперская літаратура, скончылася. Яна патанула, як «Тытанік». Лёс тых, хто знік у акіяне разам з караблём, трагічны. Але ці не горшая, бо самотная, доля тых, хто застаўся на беразе.

Мы чыталі вершы на стадыёнах, друкаваліся ў часопісах з мільённымі накладамі — і мільёны хацелі быць падобнымі на нас, на паэтаў. На каго яны хочуць быць падобнымі сёння?..

Парадаксальная праўда ў тым, што і на стадыёнах, і ў часопісах мы ўсё зрабілі для таго, каб ні стадыёнаў, ні часопісаў у нас не стала.

Сёння літаратура не большая, але і не меншая за сябе. Займае тое месца, якое займае. І з ім можна звыкнуцца, калі пісаць і пісаць, а не ўспамінаць і ўспамінаць...

Калі пісаць, дык толькі так пісаць,
Як бліскавіцу доўжыць бліскавіцай,
Як з вены ў вену кроў пераліваць...
Пісаць, як спавядацца і маліцца.

# ПАЛІТЫКА

«Калі ты не займаешся палітыкай, дык яна зоймецца табой...» Мной яна ўпершыню (шчыльна, каб адчуў) занялася ў сярэдзіне 70-х.

Набліжаўся чарговы з’езд КПСС. Мяне выклікалі ў Маскву ў ЦК камсамола. «Ты выбраны з усіх паэтаў Савецкага Саюза, каб напісаць прывітанне з’езду ад савецкай моладзі».

Пытацца: «Чаму я?» — не выпадала. «Дзякуй за гонар». Сапраўды ж: адзін з усіх.

Напісаў і паехаў у Менск. Праз месяц зноў выклікаюць. «Твае вершы зацверджаны ў ЦК КПСС. Ты выбраны з усіх, каб прачытаць з трыбуны з'езда...»

Да канца эпохі Брэжнева, абвешанага зоркамі і анекдотамі, заставалася чатыры гады. Гарбачоў ужо быў сакратаром ЦК. У грамадстве, не для ўсіх заўважны, блукаў прывід таго, што пасля назвалася перабудовай. І ў гэткі час мне чытаць на ўсю краіну: «Плыви, страна, эпохи ледокол!..»

Я ўсё разумеў... Няшмат знойдзецца паэтаў, якія выпіць са мной захочуць.

Пасля тыя ж паэты, усё ж выпіваючы, дапытвалі: «Чаму не адмовіўся?..» А вы станьце пасярод неабсяжнага кабінета сакратара ЦК па ідэалогіі — і адмоўцеся. Скажыце: «Пайшоў ты са сваім з'ездам!..» Толькі перад тым папрасіцеся ў псіхушку з больш-менш адвольным рэжымам, дзе б вам хоць пісаць дазволілі.

Пайшлі бясконцыя рэпетыцыі... На радыё, тэлебачанні, у крамлёўскім Палацы з'ездаў... З усіх бакоў гэбісты, загадчыкі цэкоўскіх аддзелаў і сектараў — чалавек сто за гэта адказвала. Я ў соты раз чытаў пра ледакол эпохі — і ў соты раз думаў...

Кожнаму чалавеку дае жыццё шанец на выйгрыш. Некаму — выйграць грошы, некаму — лёс. Калі шанец такі вялікі, дык ён, звычайна, адзін. Але большасць людзей, мяркуючы, што ён не апошні, яго прапускаюць.

Мой шанец выглядаў як лёс. І ў соты раз падумаўшы, я вырашыў яго не прапусціць: сказаць не пра тую краіну, якая плыве, а пра тую, якая патанае... Расстраляць мяне, прыкінуў, наўрад ці расстраляюць, часы ўсё ж не сталінскія. Канешне, пасадзяць, але шанец таго варты...

Ды адно — падумаць, іншае — зрабіць.

Не змог. Не здолеў.

Не знайшлося ў апошні момант сілы, мужнасці. І не толькі таму, што на крамлёўскую сцэну, якую ў тры шэрагі аточвала ахова, выпусцілі не ў прызначаны час, а гадзіны на паўтары

пазней, нібы нешта западозрылі. І не таму, што папярэдзілі, каб не надта хваляваўся чытаючы: усё адно пойдзе фанаграма, запісаная ў студыі на Шабалаўцы. Якая розніца: пачулі б мяне ці не?.. Проста не здолеў, не змог. Не хапіла мяне на гэта. Выйшаў: «Плыви, страна, эпохи ледокол!..» І вяла заляскалі ў далоні Брэжнеў, Суслаў, Гарбачоў...

Я не быў тады (і нават не мысліў, што буду) дысідэнтам, не збіраўся выступаць (беларускі савецкі паэт) супраць савецкай улады. Мяне не задавальнялі ў ёй канкрэтныя асобы і — адпаведна — іх канкрэтныя дзеянні. Гэткай матывацыі аказалася недастаткова, каб з разлікам, запланавана здзейсніць тое, на што здольныя толькі людзі апантаныя. Якія ні на што не разлічваюць.

Шкадаваць пра гэта позна, а прызнацца ў гэтым — не. Хай яно і без патрэбы. Хіба толькі дзеля таго, каб праясніць адну з прычын, па якіх не скаліся ў мяне адносіны з новай беларускай уладай, з Лукашэнкам. Я не мог дапусціць, каб тое, што адбывалася са мной некалі на імперскай сцэне Савецкага Саюза, праз паўжыцця паўтарылася на местачковай сцэне. На ўзроўні фарса. Хоць і на крамлёўскай сцэне была не такая ўжо высокая трагедыя, але ўсё ж...

Гэта ўсё было ў тым, мінулым жыцці, што засталося ў краіне, якой не стала. Савецкі Саюз, той «ледакол эпохі», пра які чытаў я вершы на з'ездзе КПСС, спачатку ўмёрз у лёд, а пасля патануў.

Гледзячы, як зацягваецца новым лёдам палонка, я задаваўся пытаннем: калі б я здолеў зрабіць на тым з'ездзе тое, што думаў зрабіць, дык ці даўжэй бы плыў ледакол, ці патануў бы хутчэй?.. Ці гэта нічога не змяніла б, ні на што б не паўплывала — і ўсё было б, як ёсць?

Вада ў палонцы ўздрыгвала і не давала адказу.

Праз гады ў мяне з'явіўся яшчэ адзін шанец на выйгрыш, які выглядаў як лёс.

Палітычны досвед, які займеў я ў мінулым жыцці ў зніклай краіне, быў негатыўны, таму ў новай краіне, у новым жыцці набліжацца да палітыкі я не хацеў. Тады яна сама наблізілася

да мяне — і гэтым разам яшчэ шчыльней. Так шчыльна, што абняла і ледзь не задушыла ў абдымках.

У 2010 годзе ў Беларусі праходзілі прэзідэнцкія выбары — і я стаў кандыдатам у прэзідэнты. Вечарам 19 снежня 2010 года, калі людзі на выбарчых участках яшчэ галасавалі, і я — няхай тэарэтычна — мог стаць прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь, на мяне і маіх паплечнікаў напалі бандыты. Пасля аказалася, што гэта байцы спецпадраздзялення Міністэрства ўнутраных спраў. Збітага, на хуткай дапамозе мяне завезлі ў шпіталь, адкуль праз некалькі гадзін я быў выкрадзены — і апынуўся ў выніку «выбараў» не ў рэзідэнцыі прэзідэнта, а ў турме.

Там я напісаў паэму «Турма». Без турмы (а значыць, без палітыкі) я не напісаў бы яе.

Мы не можам ведаць наперад, якімі шляхамі правядзе нас лёс па жыцці, перад якімі паставіць выбарамі, каб мы спраўдзілі сваё прадвызначэнне.

## ЖЫЦЦЁ

Наўрад ці хто-небудзь чуў, каб я на жыццё жаліўся...

Некалькі разоў яно падломвалася — дык што ж... Бацькі мае жылі куды цяжэй, не жалячыся. І ніколі і нічога, молячыся, маці ў Бога не прасіла. Толькі дзякавала, толькі дзякавала...

У кнізе «Так», напісанай у Польшчы і Фінляндыі, дзе мне не надта хацелася быць, я на вокладку вынес радкі з паэмы «Ложак для пчалы», самай беларускай з усіх напісаных мной паэм:

> ...Як смерць, бялее маці,
> Кажа маці: «Не прасі.
> Ані каліва якога,
> Ні свайго і ні чужога,
> Як бы ты ні бедаваў,
> Не прасі нічога ў Бога —
> Ён і так табе ўсё даў...»

Паэма гэтая маці і прысвечаная.

У гэтай жа кнізе — прысвячэнні жанчынам, якіх кахаў. Нябесныя жанчыны. Я не варты ніводнай з іх.

Апроч кахання, сям'і, сяброў, Бог даў яшчэ і занятак, які па мне. Літаратуру. Паэзію. Хоць доўгі час, даволі жорстка сябе ацэньваючы і самому сабе не давяраючы («Нібыта ўвайшоў без білета Туды, дзе спытаюць білет...»), я і Богу не давяраў. А раптам Ён памыліўся?.. І толькі пасля трэцяй ці чацвёртай кнігі, ці нават пасля пятай, пасля «Прошчы», я падумаў, што, можа быць, і не сталася памылкі на нябёсах. А калі сталася, дык невялікая. Такая, якую можна выправіць на зямлі.

...Я рабіў некалькі спробаў (даруй, Божа!) пакінуць зямлю. Бог не даў мне гэтага здзейсніць. Не дазволіў саграшыць перад Крэвам, перад продкамі, перад маці, а перадусім — перад Ім. Каб я ўрэшце ўцяміў:

Ува ўсім, што ёсць, было і будзе —
Ані ў чым цябе магло не быць.
Цуды ўсе ў адным-адзіным цудзе:
У неверагодным цудзе
Жыць.

*Сакавік 2004, Хельсінкі, Менск;*
*кастрычнік 2008, 2010, 2012, Менск*

# ТЭХНАЛОГІЯ СЫХОДУ

6 чэрвеня — 205 год з дня народзінаў Пушкіна. І ў мяне юбілей. Дакладней, юбілейчык, звязаны з некаторымі пераменамі ў лёсе. Роўна пяць год таму ў гэты дзень я з’ехаў з Беларусі ў Польшчу, а потым у Фінляндыю. Як пісаў Аляксандр Сяргеевіч, «в приют убогого чухонца».

Рашэнне тое было найперш унутраным, знешнія абставіны толькі спрыялі яму. Галоўным чынам у тым, што нібыта тлумачылі прычыны. Можна было абысціся і без гэтага, без тлумачэнняў, але... Трэба тлумачыць, не ў лесе жывем.

Вось жывем і ўсё спрабуем пачаць новае жыццё — звычайна з панядзелка. І застаемся ў ранейшым жыцці, упіраючыся ў пытанне: а як новае пачаць? Не знаходзячы спосабу, якім можна нешта змяніць. Разумеючы, што добра ці дрэнна, але да панядзелка ўсё ж дажылі. А змянілі б нешта, дык яшчэ невядома, што было б.

Так можам і не даведацца ніколі...

Каб пачаць новае жыццё, трэба проста сысці са старога.

Вось гісторыя аднаго сыходу.

Ёсць у мяне прыяцель, у якога маці — арнітолаг, бацька — таксідэрміст. Гэта значыць — чучаламайстар. Так павялося, што здаўна ў іх сям’і — адны толькі арнітолагі ды таксідэрмісты. Дзед быў арнітолагам і прадзед. Часам асвечаная традыцыя. Хлопцу наканавана было стаць арнітолагам — ён ім і стаў.

І вось ён ужо прафесар, доктар біялагічных навук, увесь, так бы мовіць, у пер’ях, і ўвесь дом ягоны забіты чучаламі. Чучалы засталіся ў спадчыну ад прадзеда, ад дзеда і бацькі, а тут яшчэ жонка майго прыяцеля да таксідэрміі, да чучаламайстравання прыахвоцілася — і цяпер у яго не дом, а музей арніталогіі: ужо дзетак са школы на ўрокі біялогіі туды водзяць.

Але аднойчы гэты аграмадны загарадны дом-музей згарае. Я сустракаюся з прыяцелем, спрабую суцешыць, бо справа ўсяго жыцця — і не аднаго — згарэла. Ён гэтак гаротна ківае, уздыхае: маўляў, што ж цяпер зробіш... Ну, я й прапанаваў яму, не маючы магчымасці прапанаваць нешта іншае, з гора выпіць.

Калі выпілі — і выпілі добра, па чарцы за кожнае птушаня, — прыяцель мой раптам кажа: у нашай кампаніі трэцяга не хапае. Пытаюся: каго? А ён адказвае: таго, хто дом падпаліў. Я за яго піў бы і піў і наліваў бы яму і наліваў — так ён мне ўслужыў! Ніхто так не ўслужыў бы: ні сябра, ні брат родны.

І тут мой прыяцель, з якім мы былі знаёмыя з даўняга часу і пра якога, як мне здавалася, я ўсё наскрозь ведаў, сам сабе наліў і вось што пачаў пра самога сябе распавядаць... Любоў да птушак традыцыйна прывівалася ў іх сям'і праз галубятню. І калі ён зусім яшчэ маленькім упершыню на галубятню падняўся, белы голуб, вельмі падобны, як яму здалося, на голуба Пікаса, абкакаў яго. Хлопчык глядзеў уверх — і голуб так удала патрапіў: на твар, на губы. Гэта выклікала ў майго прыяцеля наймацнейшую дзіцячую агіду, якая не знікла з гадамі. Боскія птушкі ўяўляліся яму самымі прыкрымі з усіх зямных істот, ад галубоў жа яго проста ванітавала, і з гэтым пачуццём — дакладней, насуперак яму, наследуючы сямейныя традыцыі і нібыта спаўняючы сыноўні доўг — ён заняўся арніталогіяй. Пры гэтым пачуваўся так, нібыта ў роце ў яго дзярмо, і ўгаворваў сябе, нібы гэта цукерка — проста смак у яе такі. І жыў ён у доме сярод чучалаў, ад якіх не меў нічога, апроч алергіі. Гэты дом з чучаламі быў ягонай турмой, але ў той жа час і родным гняздом, і справай, якую ніяк было не кінуць. Урэшце, усё згарэла дашчэнту — і ён вольны.

Выпілі за свабоду і за таго трэцяга, які яе прынёс. І гледзячы на тое, як прыяцель сам сабе наліў і сам з сабой выпіў, я западозрыў, што выпіў ён якраз з гэтым трэцім. Якога быццам і не было за нашым сталом...

Ніякага прыяцеля-арнітолага ў мяне не было і няма, таксама як і няма прыяцеля-таксідэрміста. Усё вышэй выкладзенае —

чыстай вады выдумка, трохі змененая фабула п’есы, якую я пачаў і, як шмат што іншае, не дапісаў. І каб п’есу мне не дапісваць, самі ўявіце гэтую дзею на сцэне з чучаламі...

А пераказаў я фабулу вось для чаго.

У нейкім сэнсе я таксама, кіруючыся пэўнымі традыцыямі і ўмоўнасцямі, амаль усё жыццё пражыў у доме з чучаламі. У тым доме ў мяне было Чучала Паэта, Чучала Грамадскага Дзеяча, Чучала Славы, Чучала Пашаны (з ордэнам) — я нават, прыбіраючы адны чучалы і замяняючы іх на іншыя, вырашаў, здавалася, нейкія важныя, дзяржаўныя справы. Урэшце ў мяне быў сам дом, які я, складваючы цаглінку да цаглінкі, будаваў 50 гадоў. І, у адрозненне ад прыяцеля, ні праз дом, ні праз тое, што было ў ім, я не адчуваў алергіі. Гэта было тым, чаго я дабіваўся ў жыцці, і гэта было тым, што я, як уяўлялася, заслужыў. І вось гэта ўсё, як толькі я перасёк мяжу з Усходу на Захад, у адзін момант абрушылася. Не стала ні славы, ні дома — толькі попел ды руіны. А найстрашнейшае, што на тым попеле і на тых руінах нібыта не стала самога мяне. Вось толькі што быў Уладзімір Някляеў — і няма яго. Таму што не стала імені, на якое спачатку ты працуеш, а пасля яно працуе на цябе. Яно было, але засталося на Усходзе. На Захадзе яно нічога і нікому не казала.

Усё пачыналася з нуля.

Я быў ашаломлены. Гэта была драма, якая працягвалася каля года, пакуль я выбіраўся з-пад руін і попелу.

Калі выбраўся, паўстала пытанне: што рабіць?.. Сітуацыя змянілася, нада мной кружылі ўжо не паэтычныя, кшталту голуба Пікаса, а палітычныя птушкі. Якія, дарэчы, значна больш тлустыя, але ўнутры іх... І я не стаў адлоўліваць новых птушак для вытворчасці новых чучалаў, не стаў збіраць цэглу для новага дома. Я наліў і выпіў за свабоду. За поўную і абсалютную, бо ў мяне нідзе і нічога цяпер не было. А значыць, не было патрэбы нешта недзе шукаць, акрамя як у самім сабе самога сябе.

Праз пэўны час высветлілася, што я ў самім сабе ёсць. Як той трэці ў маім прыяцелі, які падпаліў дом з чучаламі...

Нешта губляць заўсёды цяжка, часам бывае шкада нават нейкай згубленай бірулькі. І як раней ведаў я толькі гэта, так цяпер ведаю яшчэ й іншае: хоць бы аднойчы варта ўсё згубіць. Уключна з іменем. І ўсё пачаць з нуля. Як на гадзінніку апоўначы, калі час рухаецца нібыта не ў бок канца, а ў бок пачатку — да світанку.

Варта ўсё згубіць, каб зразумець: нічога ты не згубіў. І не чапляцца за чучалы. А тым больш не жэрці дзярмо, угаворваючы сябе, нібы гэта цукерка — проста смак у яе такі.

*21 траўня 2004, Хельсінкі*

# «ЯШЧЭ ТРОХІ ЖЫЦЦЯ...»

*Ці падабаецца Вам Ваша імя? Ці не шкадуеце, што Вам не дасталося якое-небудзь іншае?*
Падабаецца. Маё імя мае глыбіню і неабходнае мне гучанне.

*Які колер вачэй і валасоў Вам падабаецца найбольш?*
Вочы падабаюцца блакітныя, а валасы русявыя.

*Якія станоўчыя якасці ў чалавеку найбольш цэніце?*
Шчырасць і мужнасць.

*Якія чалавечыя заганы не церпіце?*
Віжаванне, ці, кажучы савецкаю моваю, сексоцтва.

*Ці верыце Вы ў сяброўства?*
Веру.

*Які Ваш любімы занятак?*
Узыходзіць на дах.

*Як Вы разумееце шчасце, шчаслівы лёс, шчаслівае жыццё?*
Усё гэта цудоўныя словы. Успрымаю і разумею іх перш за ўсё як словы...

*Які лёс, на Вашу думку, асабліва варты жалю і наракання?*
Лёс, які не стаўся лёсам.

*Які момант у Вашым жыцці Вы лічыце самым радасным?*
Той момант, у які сама па сабе ўзнікае думка: я яшчэ жыву...

*Які ў Вашым жыцці момант быў самы горкі, нешчаслівы?*
Такога моманту, здаецца, не было.

*Чаго Вы яшчэ хацелі б у жыцці дасягнуць ці дачакацца?*
Яшчэ трохі жыцця...

*Якая асоба ў гісторыі чалавецтва Вам найбольш сімпатычная?*
На гэтае пытанне адказваць не хочацца.

*Герой якога рамана ці іншага мастацкага твора Вам найбольш сімпатычны?*
Партос, герой рамана «Тры мушкецёры»...

*Ваш любімы паэт, пісьменнік, кампазітар, жывапісец?*
Янка Купала, Моцарт, Мадзільяні.

*У чым, па-Вашаму, найбольш поўна праявіўся геній прыроды?*
У раўнавазе, якая існуе паміж небам і зямлёю.

*Якая жывёліна (звер, птушка) Вам найбольш сімпатычная?*
Воўк і сокал.

*Якая Ваша любімая страва?*
Любая страва, прыгатаваная з бульбы.

*Пра якую мясціну на зямлі ў Вас застаўся самы прыемны ўспамін?*
Уразіла тая зямля, якая вакол Прагі, і сама Прага.

*Калі б лёс прымусіў пакінуць радзіму — якую краіну выбралі б Вы для перасялення?*
Спачатку Польшчу, пасля — Фінляндыю.

*Ваша ўяўленне пра сямейнае шчасце?*
Шчасце гэтае павінна быць спакойнае.

*Аб якім упушчэнні (нескарыстанай магчымасці) на сваёй жыццёвай дарозе вельмі шкадуеце?*
Пра гэта ніколі не думаў; ні аб чым не шкадую.

*Чым (якімі падзеямі, здарэннямі) засталося ў памяці дзяцінства?*
Чыстай беларускай мовай.

*Якое значэнне надаеце бытавым умовам жыцця і працы?*
Вялікага значэння не надаю.

*Ці ёсць у Вас фінансавая мара?*
Няма.

*Што (які матэрыял, якую тэму) шукаеце перш за ўсё ў свежых газетах?*
Цяпер ужо ніякай.

*Якую кнігу (твор) Вы любіце перачытваць?*
«Тры мушкецёры».

*Ці верыце Вы ў фатальную непазбежнасць наканаванага лёсам?*
Веру.

*Якая расліна (дрэва, кустарнік, кветка-зёлка) Вам найбольш падабаецца?*
Бэз.

*Ваша любімая пара году?*
Восень.

*Якая яна — жанчына Вашай мары?*
Яе імя...

*Ваша стаўленне да рэлігіі?*
Станоўчае.

*Ці верыце ў прыкметы?*
Веру.

*Кім збіраліся стаць у дзяцінстве?*
Святаром.

*Ці прыслухоўваецеся Вы да чыёй думкі, прымаючы рашэнне?*
Не.

*У чым, на Вашу думку, нацыянальная ідэя Беларусі?*
У самой ідэі.

*Якой Вы бачыце Беларусь праз...?*
Беларускаю.

*2001, Хельсінкі; 2012, Менск*

# ЗНАКІ ПРЫПЫНКУ

* * *

Веданне таго, што мы ніколі не скончымся, не знікнем, даецца нам яшчэ да жыцця, да зямнога лёсу — і яно, тое веданне, на час жыцця забытае ці аднятае, палягае ў аснове нашых фантазій пра неўміручасць. Калі не пра неўміручасць нас такіх, якія мы ёсць, дык пра неўміручасць нас нейкіх іншых, якімі мы ў той неўміручасці (вечнасці душы) станем... Так ёсць, так павінна быць, бо інакш мы не адважыліся б мець тых, пра каго немагчыма, невыносна думаць, што некалі іх нідзе не будзе — дзяцей і каханых. Так ёсць, бо іначай мы — вар'яты.

* * *

Першае, што помніцца, — маці...

Яна нахіляецца нада мной, за ёю — праз вокны — сонца, залатыя валасы казычуць шчаку, шчабеча рук яе радасць ластаўчыная: «Хлопчык мой...»

Светла. Святочна і далёка.

...Пройдуць гады — і буду чакаць сына. Перакананы буду, што народзіцца сын. Я ўяўляў сабе нашу з ім мужчынскую кампанію, нашы з ім мужчынскія размовы...

Нарадзілася дачка.

Доктар рагатаў: «Тут вам не стол заказаў». І ва ўсім я вінаваціў дактароў з іх недарэчнымі жартамі.

Якія былі жарсці!

Сёння не ведаю, чым за дачку аддзячыць лёсу. Мы далі ёй імя Ева, што значыць жыццё. Шчабеча рук яе радасць ластаўчыная: «Татка мой...»

* * *

Мы з братам спазніліся...

У шпітальнай палаце стаялі шэсць жалезных ложкаў, і на пяці ложках ляжалі хворыя жанчыны, а шосты быў пусты, зусім

пусты, з яго нават матрац знялі, праз драцяную сетку віднелася пафарбаваная драўляная падлога, пад ложкам нявытаптаная, таму нібыта гусцей пафарбаваная, чым пасярод палаты, дзе мы застылі, дапытліва пазіраючы на хворых старых жанчын, у якіх не было пра што пытацца, бо ўсё відавочна. Але я ўсё ж спытаўся: «А дзе Настасся Іванаўна?..» І пяцёра хворых старых жанчын неяк паспешліва, адна перад адной, я ніколі не забуду гэты хворы, старэчы хор, на розныя галасы прапелі, прамармыталі: «Памерла... памерла... памерла... памерла... памерла...»

Маці ляжала ў трупярні адна — зусім голая на высокай, мне па пояс, кушэтцы. Зрадзела-пасівелыя валасы, абветраны, снегам шэрпаны і сонцам палены твар, спрацаваныя, у вузлах і зморшчынах рукі, стаптаныя на падэшвах, стрэсканыя ногі і — ад грудзей па калені — гладкае-гладкае, белае-белае, маладое-маладое, яшчэ цёплае цела. Недагладжанае, недапешчанае, недалашчанае...

Мы купілі ёй самую прыгожую, якую толькі знайшлі ў Смаргоні, сукенку. Пры жыцці пра такую яна і не марыла.

Пры жыцці, калі я пытаў: «Што падарыць табе на дзень нараджэння?» — кожны раз адказвала: «А ты дай мне якую капейчыну, я сама сабе куплю што-небудзь...» І купляла парсючкоў. Каб вазіць мне і брату кілбасы, вяндліну... Цягала і цягала ў Менск тое мяса разам з трохлітровікамі марынаваных гуркоў, памідораў. Прыязджала з такімі клункамі, што не падняць. Калі мы казалі ёй, каб не гарбела, не цягала, бо ўсё ў крамах ёсць, слухала, галавой ківаючы: «Ёсць — і дзякуй Богу...»

Аднойчы, не паддаўшыся на яе хітрыкі з капейчынай, за якую сама сабе яна што-небудзь купіць, я завёў яе ў смаргонскую краму і купіў ёй футра. Назаўтра, калі мы справілі дзень яе нараджэння і з’ехалі, яна пайшла на кірмаш, прадала футра і купіла парсючкоў...

Днём ёй не было калі, а ўвечары, пакуль вочы бачылі, яна чытала... Беларускія кнігі, расейскія, польскія... Яе здзіўляла, што людзі ўсё пішуць і пішуць, калі ўжо ёсць Святое Пісанне, — і ёй цікава было: што ж яшчэ нехта можа прыдумаць, апроч таго, што прыдумаў Бог?

Траціну жыцця прарабіла яна бухгалтаркай у канторы машынна-трактарнай станцыі і расказвала майму малодшаму брату казку пра чарцяня з іменем Бухгалтар, якое прыдумала бухгалтэрыю.

Бацька быў хворы на рак, сам ужо не ўставаў, і мы не казалі яму, што маці памерла, пакуль не прывезлі яе дахаты ў труне. Вывелі яго, каб развітаўся, у пакой, дзе яна ляжала, і ён схіліўся да яе і спытаў, з ёй жыццё пражыўшы: «Хто гэта?..» І я да сёння — грудзьмі і спінай — помню, як працяла, наскрозь пранізала мяне гэтае, здавалася б, амаль вар'яцкае пытанне.

Мы пахавалі маці ў Крэве, дзе яна нарадзілася і куды хацела вярнуцца на вечны спачын — да бацькоў, да дзядоў, да продкаў... Побач з ёю пакінулі месца для бацькі.

Бацькавы продкі — на беразе Волгі, там ягоныя крэўныя магілы, і ён, ужо памёршы, не хацеў класціся ў Крэве. Гэтак упарціўся, што, калі мы з братам везлі яго ў труне з Менску, спыняў нас, не даваў ехаць машыне, глушыў і глушыў, як спрактыкаваны механік, матор. Потым ён ляжаў, знясілены змаганнем, у тым жа пакоі, у якім ляжала нядаўна маці, і я, стоячы на тым жа месцы, на якім ён развітваўся з ёю, пытаўся, над труной схіляючыся: «Хто гэта?..»

...Некалі мы схіляліся з маці над хуткаплыннай вадой рэчкі Крэўлянкі, адбіваліся ў ёй разам з небам і аблокамі, і маці пыталася ў мяне, малога, на мой адбітак паказваючы: «Хто гэта?.. Ну, скажы, хто?..» Я кідаў у ваду, у неба з аблокамі камень — і ў кружным рабінні на вадзе не ставала нікога.

* * *

У дзяцінстве, ранкам прачнуўшыся, я амаль заўсёды знаходзіў свае чаравікі — кожны паасобку — у розных кутах. Дзед казаў: «З табой дамавік гуляе». Хоць ведаў, што звычка ў мяне такая: кідаць, кладучыся, чаравікі абы-куды. І прыкмета аднекуль узялася: ісці ў адным чаравіку — скарачаць зямны шлях маці. Колькі крокаў ступіў — на столькі дзён скараціў. Таму, абуўшы

адзін чаравік, я скакаў да другога на аднойназе, але колькі я на адной назе ні скакаў — маці ўсё адно памерла.

Мы не можам ніяк, нічога і нікога ўратаваць?..

Хіба нельга было ўзяць адзін чаравік і басанож падысці да другога?.. Можна было. Але такое простае вырашэнне праблемы жыцця і смерці ніводнага разу не прыйшло мне ў галаву.

* * *

Прыснілася, што ёсць на свеце Бог.

* * *

Спытаўся ў саснёнага Бога: «У чым сутнасць майго жыцця? Дзеля чаго я на свеце?..» Бог адказаў: «Дзеля апошняга імгнення. Уся сутнасць твайго жыцця ў апошнім імгненні».

У сне я падумаў, што пачуў банальнасць. Ці нават глупства, калі Бог не схітраваў. Што можа стацца ў тое апошняе імгненне?

Прачнуўшыся, зразумеў, што гэта не банальнасць. Тым больш — не глупства. Бог не кажа глупстваў нават у сне.

* * *

Усё, што ўсведамляе сябе, — смяротнае. Несмяротнае толькі тое, што сябе не ўсведамляе. Калі нават існуе яно ўсяго імгненне.

* * *

Уменне жыць — ва ўменні радавацца жыццю. Больш ні ў чым.

* * *

Усміхайся! Гэта раздражняе.

* * *

У Джона Фаулза: «Скептычная, але ўтульная ангельская душа — іронія напалам з умоўнасцямі».

Як бы да ўмоўнасцяў дадаць іроніі няўтульнай беларускай душы?

З усяго, што адбылося тады каля Усходніх могілкаў і па дарозе на Курапаты, гэты сядзячы мітынг уразіў мяне найбольш. Уражаны, я хацеў напісаць, што нельга перамагчы на каленях, на кукішках! Але я быў разам з усімі... і напісаў не пра сядзячы мітынг, а пра маўклівы.

Мы ведалі, пра што маўчалі з імі,
Жывыя з мёртвымі і мёртвыя з жывымі.
І ўпершыню, маўклівы сцяўшы рот,
З натоўпу глянуў люд. Амаль народ.

У тым і праблема, што *амаль*.

* * *

З прозы К. Чорнага (раман «Сястра»):

— Жыў слаўна, а як жылося?

— Клопату ў мяне болей, як мяне самой.

— Веснавая зямля была ціхая, як музыка.

— Яна хоча, каб дзіцё радзілася, а ён хоча пашыць сабе гарнітур з сіняга бастону... Так ні таго, ні другога і няма.

— У радасных палях засумавала лета і паволі памерла, любячы жыццё і хочучы жыць.

— Мы ўсе павінны быць народныя людзі.

— Я жыву па сваіх прыватных справах.

— Ядры яго дагары, пайшоў, як падмецены...

* * *

У першыя дні майго жыцця ў Варшаве раптам апанаваў мяне адчай. Я страціў разуменне ўсіх прычын, па якіх апынуўся за мяжой, якія, здавалася, дарэшты разумеў ад'язджаючы — і не было сіл на тое, каб паспрабаваць зноўку ўцяміць: як яно ўсё так сталася?.. Я не жадаў ні чуць нікога, ні бачыць, не хацеў ведаць ні таго, што пра мяне кажуць, ні казаць нешта, што пра іншых ведаў.

Цяпер, па часе, я разумею, што псіхалагічны стан быў абумоўлены фізічным пачуваннем, тым, што я не ачомаўся ад

інсульту, але тады душа, нутро маё знемагала — і пры чым тут інсультныя мазгі?..

Я не ведаў, куды сябе падзець. Мяне прадалі тыя, каго любіў. Значыць, трэба іх і ўсё з імі звязанае адкінуць, адпрэчыць. Забыць. Як не маё, як чужое.

У аднапакаёўцы маіх даўніх, яшчэ студэнцкіх сяброў, дзе мясціліся мы ўшасцёх з коткай і сабакам, не было ніякіх беларускіх кніг, апроч маёй кнігі «Выбранае», некалі сябрам маім надпісанай, і я пачаў перачытваць самога сябе, і ўпершыню прачытаў сябе самога як некага іншага, чужога, і шпульнуў кнігу ў акно. Праз пяць хвілін мне здалося гэтага мала, я выйшаў на вуліцу, дзе каля дзіцячага шпіталя два мужыкі калупаліся ў зямлі, папрасіў у іх лапату, знайшоў метраў за трыста закінуты двор, выкапаў яму і пахаваў кнігу, прытаптаўшы зямлю... Так яна там, мусібыць, і ляжыць — непадалёк ад беларускай амбасады.

Мне захацелася пахаваць мінулае — гэтак я ў ім усё ўзненавідзеў!..

Нічога і нікога пахаваць я не здолеў. Усё і ўсе ўва мне. Як тая, якую не перапісаць, закапаная кніга.

* * *

Калі я стаў старшынёй Саюза пісьменнікаў, застаючыся галоўным рэдактарам часопіса «Крыніца» і газеты «Літаратура і мастацтва», спачатку садралі шыльду над уваходам у рэдакцыю часопіса. Гэта ж трэба было ўночы ўстаць, перціся па горадзе з ломікам — рукамі цвікі з каменнай сцяны не вырваць. Можна было б падумаць, што зрабілі гэта бамжы, п'янтосы, каб на пляшку займець, шыльда была бронзавая, але неўзабаве садралі шыльду і на ўваходзе ў рэдакцыю газеты. Тая не бронзавая была і не адна вісела, разам з шыльдамі іншых рэдакцый, дык іх дэманстратыўна пакінулі... Значыць, не п'янтосы, тады хто? Не Лукашэнка ж Замяталіна з ломікам паслаў?.. І ўрэшце шыльду з дзвярэй майго кабінета ў Саюзе пісьменнікаў прынародна садраў адзін народны паэт, так што я, мусібыць, чэмпіён Саюза па садраных шыльдах.

* * *

За два гады тузаніны з Лукашэнкам і Замяталіным я вычарпаў ліміт трываласці. Па ад’ездзе ў Польшчу здалі нервы — і калі ў Варшаве пачаўся кангрэс міжнароднага PEN-цэнтра, я з’явіўся на яго расхрыстаны...

Які гэта пісьменніцкі кангрэс! Палітыкай ім статут не дазваляе займацца! Масоны! Пусціце мяне — я вам скажу, чым вы займаецеся!..

Не пусцілі... Карлас Шэрман не пусціў — каму там яшчэ было на мяне зважаць. «Ты зразумей, — бубніў ён мне, — зараз не час і не месца...» Даводзіў, што Беларускі ПЭН-цэнтр яшчэ не перарэгістраваны — і наўрад ці, калі я выступлю, перарэгіструецца. Я казаў яму на гэта, што ён стары і пудлівы ліс, — і толькі пазней зразумеў, што прычына асцярожнасці Шэрмана была не адно ў перарэгістрацыі. Карлас не ведаў, чаго ад мяне чакаць, і няведання пабойваўся. Тады я на яго за гэта злаваў, а пасля быў удзячны яму, што ён прыгасіў ува мне жарсці, не даў выявіцца ў ролі спсіхаванага эмігранта.

* * *

Рэдактар «Gazety Wyborczaj» Адам Міхнік страшна раздражнёны першымі публікацыямі пра маё з’яўленне ў Варшаве ў газеце польскіх левых «Trybuna», якіх і якую ён на дух не выносіць. Тым не менш паабяцаў падтрымку — і выклаў сваё асабістае меркаванне пра эміграцыю.

Міхнік згадаў польскую эміграцыю пачатку васьмідзясятых гадоў. Тысячы людзей з’ехалі за мяжу. Нехта — ратуючыся, хтосьці — пратэстуючы супраць увядзення ў Польшчы ваеннага стану. Калі ўсё мінула і яны вярнуліся — ніхто іх, вядома, эміграцыяй не папракаў. І ўсё ж вісела над імі нявыказанае: «А што ж вы, курвы, там рабілі, калі мы тут за алей для дзяцей у крамах біліся ды ў вязніцах сядзелі?..» І ніхто з гэтай эміграцыйнай хвалі — ні палітыкі, ні журналісты, ні акцёры, ні літаратары — так і не здолеў вярнуць той маральны капітал, які меў да эміграцыі, а тым больш папоўніць яго ці здабыць новы. На першыя ролі і ў палітыцы, і ў журналістыцы, і ў мастацтве

выйшлі тыя, хто заставаўся на радзіме, біўся ў крамах за алей і сядзеў у вязніцах.

Намёк у вельмі тонкай польскай вуалі — наскрозь празрыстай...

* * *

Для рускіх, у адрозненне ад палякаў, вуаль — не матэрыял.

— Усё, што зроблена табой дасюль, зроблена правільна, — наўпрост казаў мне Сяргей Станкевіч, які ўцёк у Варшаву з Масквы. — Але гэта толькі першы крок. Другі: вярнуцца ў Беларусь. Трэці: калі Лукашэнка цябе не пасадзіць, зрабіць усё, каб пасадзіў. Хоць за што: за палітыку, за крымінал, за парушэнне правіл дарожнага руху — гэта не мае значэння. З турмы ў любым выпадку ты выйдзеш кандыдатам у прэзідэнты.

Я не надта баяўся турмы, але не хацеў ні ў кандыдаты, ні ў прэзідэнты.

— А чаго ты ў такім разе хочаш? — з найшчырым неразуменнем пытаў Станкевіч. — Калі не скарыстаць сітуацыю, дык навошта было ўсё пачынаць? Гэта ж паліттэхналогіі, вялізныя грошы, а табе ўсё далося за так! І ўсё кінуць кату пад хвост?.. Тады гэта беларуская клініка — і няхай вашай клінікай і далей кіруе Лукашэнка. Ён такі выпадак не ўпусціў бы, я ў свой час да яго прыгледзеўся... Ведаеш, што ён першае хацеў зрабіць, калі стаў прэзідэнтам? Пасадзіць Кебіча! Каб адчуць уладу! Віктар Чарнамырдзін не даў пакрыўдзіць Вячаслава Францавіча... А ты пасадзіш Лукашэнку — і ніхто за яго не заступіцца! Хіба дзеля гэтага не варта пасядзець самому?..

Мне карцела спытаць: «Чаго ж ты сам сесці не захацеў, каб стаць прэзідэнтам?..» — але я не спытаў. Тонкая матэрыя. Вуаль.

* * *

На прэс-канферэнцыі ў Варшаве папрасілі назваць прычыны, па якіх я пакінуў Беларусь. Я збіраўся назваць дзве: ціск улады і здраду сяброў. Але сказаў толькі пра адну. Пра першую. Пакуль казаў пра яе, зразумеў, што другая прычына нікога не цікавіць.

Ад мяне чакалі звароту да польскіх уладаў з просьбай аб палітычным прытулку. Не дачакаліся — і страцілі цікаўнасць.

Пасля прэс-канферэнцыі было некалькі інтэрв'ю — і журналістка з тэлебачання палічыла не лішнім папярэдзіць: «Толькі палітыка, пане, толькі палітыка...»

* * *

Доўга рыхтавалася сустрэча спікера (рэальна ўжо былога, але фармальна яшчэ дзейнага) беларускага парламента Шарэцкага з прэзідэнтам Польшчы Квасьнеўскім. Нарэшце, яго (Шарэцкага) пад Каляды прывезлі з Вільні ў Варшаву — і спачатку я, пасля Пазняк падрабязна тлумачылі яму, чаго ён павінен дамагацца на сустрэчы, што казаць. «Адразу прасіце прытулку для эміграцыйнага беларускага ўрада, у чым Квасьнеўскі адмовіць, затое згодзіцца на ўсё астатняе...» У выніку наш спікер каля гадзіны распавядаў Квасьнеўскаму пра тое, якія б захады ён, Шарэцкі, зрабіў для вырашэння палітычных ды эканамічных праблем, з якімі сутыкаецца... Польшча.

«Дык у Беларусі ўсё нармальна?..» — спытаў, развітваючыся, прэзідэнт Польшчы і больш ні з былым спікерам беларускага парламента, ні з кім-небудзь яшчэ з беларускіх палітыкаў сустракацца не пажадаў.

Увечары Шарэцкі, цалкам сабой задаволены («Мы з ім пагаварылі як прэзідэнт з прэзідэнтам!»), чытаў мне свае вершы. Пра бярозы (ці пра дубы, пароду дрэва я ўжо не помню), якія на чужыне шумяць яму пра Беларусь...

* * *

Калі нехта й мог выйграць у Лукашэнкі першыя прэзідэнцкія выбары — дык гэта Генадзь Карпенка. Таму да другіх прэзідэнцкіх выбараў ён не дажыў.

Перад першымі выбарамі супернікі Карпенкі (Кебіч, Лукашэнка, Шушкевіч) зрабілі ўсё, каб Карпенка ў выбарах не ўдзельнічаў. Са 100 з лішкам тысяч сабраных ягонымі валанцёрамі подпісаў ЦВК прызнаў сапраўднымі 93000. З 78 дэпутатаў Вярхоўнага Савета, якія падпісаліся за вылучэнне Карпенкі

кандыдатам у прэзідэнты, 14 дэпутатаў раптам адклікалі свае подпісы. Сярод іх толькі Дзмітрый Булахаў быў з каманды Лукашэнкі: кіраўнік ягонай ініцыятыўнай групы. Астатнія (якіх актыўна агітаваў дэпутат Алег Трусаў) падтрымлівалі Шушкевіча і Кебіча. Можна сказаць, што вось тыя 14 дэпутатаў і выбралі прэзідэнтам Беларусі Аляксандра Лукашэнку. Ці ва ўсякім выпадку: першымі за яго прагаласавалі.

Сярод тых 14-ці быў паэт (у той час таксама дэпутат) Анатоль Вярцінскі. Ён адзін з іх усіх папрасіў пасля ў Генадзя Карпенкі прабачэння.

* * *

Генадзь Карпенка ўмеў рабіць усё тое самае, што і Аляксандр Лукашэнка, толькі лепш. У адных сітуацыях ён мог быць гэткім самым народным, як і цяперашні «народны прэзідэнт», а ў іншых — інтэлігентным.

Карпенка быў вучоным, дэпутатам, дырэктарам, мэрам — і ў гэтым была ягоная моц. Разам з тым меў ён адну (але істотную) слабасць: сібарыцтва.

Увогуле сібарытам (калі жыццё дазваляе) быць не кепска. Ды не ў палітыцы, дзе ты можаш нічога не рабіць толькі ў тым выпадку, калі нічога не хочаш. А калі ты нічога не хочаш, дык што ты робіш у палітыцы?

У Карпенкі была магчымасць праз суд змусіць ЦВК зарэгістраваць яго кандыдатам у прэзідэнты, дабіцца ўдзелу ў прэзідэнцкіх выбарах. Ва ўсякім разе паспрабаваць гэта зрабіць. Ён не стаў займацца гэтым — і менавіта праз сваё сібарыцтва. А яшчэ праз свой амаль класічна беларускі, а значыць, не надта рашучы і недастаткова амбіцыйны характар. Праз гэта, між іншым, ён доўга не мог зразумець, чаму ягоны амбіцыйны паплечнік Віктар Ганчар апынуўся разам з не менш амбіцыйным Дзмітрыем Булахавым у выбарчым штабе Аляксандра Лукашэнкі.

* * *

Прасібарыціўшы прэзідэнцкія выбары, Карпенка стаў казаць, што не наспела яшчэ для прэзідэнцтва ягоная пара. Для

дырэктара саўгаса Лукашэнкі наспела, а для дырэктара завода, мэра, доктара тэхнічных навук Карпенкі — не...

Карпенка не верыў, што Лукашэнка можа стаць прэзідэнтам. Ён уявіць, дапусціць не мог, што нармальныя людзі могуць яго выбраць. Гэта была найістотная ягоная памылка: ён не адчуваў, што людзі гатовыя галасаваць за каго заўгодна, абы толькі супраць сістэмы і тых, хто яе ўвасабляе. Ён загадзя аддаваў перавагу Кебічу, бо быў яшчэ заварожаны сілай той сістэмы і тых людзей, асабліва людзей маскоўскіх, крамлёўскіх, якія Кебіча падтрымлівалі. У нейкі момант ён і мяне ў тым пераканаў — і я заклаўся на скрыню каньяку з Дзмітрыем Булахавым, што ўсе іх старанні з Ганчаром марныя: Лукашэнка прайграе...

Прайграў я. Але й прайграў, хоць і выйграў, Булахаў.

* * *

Калі Лукашэнка стаў прэзідэнтам і прызначыў Віктара Ганчара віцэ-прэм'ерам (а не прэм'ерам і не кіраўніком адміністрацыі), у Ганчара даволі хутка ўзніклі сумневы ў правільнасці зробленай ім стаўкі.

У шпіталь, дзе ляжаў з гіпертанічным крызам Генадзь Карпенка, якога дамовіліся мы разам наведаць, Ганчар прыйшоў раз'юшаны. Гадзіну таму Іван Ціцянкоў (прызначаны кіраўніком упраўлення спраў прэзідэнцкай адміністрацыі) запрасіў яго ў свой кабінет, а ў тым кабінеце — гара футравых шапак. І кіраўнік спраў прэзідэнта шырокім жэстам прапанаваў намесніку кіраўніка ўрада: «Выбірай любую!..»

— Я ўжо ашалеў у той кампаніі, у якой апынуўся, — казаў Ганчар, — і, можа, толькі гэтай шапкі мне й не хапала, каб з кампаньёнамі расплявацца!

— А я, Віця, узяў бы шапку, — іранічна збіў Карпенка напал з Ганчара. — Хоць ведаў бы, за што служыў. Пасля ўнукам бы паказваў, як будзёнаўку.

* * *

Карпенка казаў, што любімы ягоны занятак у Вярхоўным Савеце — гульня «Шушу ганяць».

Пляжыць Шушкевіча.

«Шушу ганяць» любілі і Булахаў з Ганчаром.

Праз гэтую гульню нікому не вядомы дырэктар саўгаса Лукашэнка стаў знаным палітыкам, а потым і прэзідэнтам.

Праз гэтую гульню Карпенкі, Ганчара і Булахава проста не стала.

Але ж пагулялі. Шушу паганялі.

* * *

Усе мне раяць (калі хачу вярнуцца ў Беларусь) не займацца ў эміграцыі палітыкай. Добра. Вось не палітычнае, а літаратурнае пытанне, звязанае з галоўным героем нашых дзён: дзе ў беларускай літаратуры характар, тып, персанаж, які б нагадваў Аляксандра Лукашэнку і прадракаў тым самым магчымасць з'яўлення такой нязвыклай для беларускага менталітэту асобы?.. Можна колькі заўгодна гадаць і казаць пра тое, якога гэты чалавек роду-племені, але нарадзіўся і сфармаваўся ён ва ўсіх сваіх якасцях менавіта ў беларускім асяроддзі. Дарэчы, такой жа нечаканай асобай з характарам, падобным да характару Аляксандра Лукашэнкі, з'яўляецца і Зянон Пазняк. Тое, што гэтыя людзі спавядаюць процілеглыя ідэалы, для літаратуры не мае істотнага значэння, бо тып ёсць тып і характар ёсць характар. Безумоўна, два гэтыя тыпы, два гэтыя характары не ва ўсім супадаюць, але калі яны і не блізкія адзін да аднаго, дык ва ўсякім разе аднолькава далёкія ад класічнага, так скажам, літаратурнага вобраза беларуса — чалавека рахманага, сціплага, разважнага, памяркоўнага, на якога якраз і завёў моду спасылацца і не рахманы, і не сціплы, і не разважны, і ні ў чым не памяркоўны Лукашэнка.

Класічнаму літаратурнаму вобразу беларуса куды больш адпавядаюць два іншыя палітыкі, якія менавіта праз гэтую адпаведнасць — і ў першую чаргу праз яе — страцілі, а можна сказаць, што сціпла, разважна, памяркоўна аддалі тую рэальную ўладу, якую мелі. І вось як, напрыклад, характарызуецца адзін з іх у свой зорны час, калі быў ён кіраўніком дзяржавы і на яго ўскладаліся ці не ўсе надзеі беларусаў:

«Звычайны чалавек, прамаўляе “памяркоўна”, заклікае да згоды, нічога не ламае, не перастаўляе, хоць стаіць за рэформы і перамены, выступае за дэмакратыю, але не за БНФ, супроць камуністычнай наменклатуры, але за сумленных камуністаў, за рынак, але і за парадак, за паступовасць, размаўляе па-беларуску, але стаіць за Расею... Ідэальнае ўвасабленне памкненняў што-небудзь палепшыць, анічога не робячы».

Гэта сказана ў спякотнае лета дзевяноста другога года Зянонам Пазняком пра Станіслава Шушкевіча.

Імя яшчэ аднаго палітыка, характар якога яшчэ больш, чым характар Шушкевіча, адпавядае класічнаму літаратурнаму вобразу беларуса, — Сямён Шарэцкі. Вось звернутыя да яго словы дэпутата Андрэя Клімава, якія сказаныя былі ў халодным лістападзе года дзевяноста шостага:

«Навошта вы пісалі гэты артыкул пра фашызм, Сямён Георгіевіч? Няўжо для таго, каб пасля падпісаць пагадненне?..»

Андрэй Клімаў, які катэгарычна, зусім не па-беларуску прапаноўваў арыштаваць Лукашэнку за спробу дзяржаўнага перавароту, за што й апынуўся сам у турме, не мог дапяць у той крытычны момант беларускай гісторыі, што ўсё якраз адбываецца так, як павінна быць: па-нашаму, разважліва і памяркоўна... А гэта значыць, што калі ўдзень падпісанае абвінавачванне і падрыхтаваныя дакументы да імпічменту, то ўночы ўсё вельмі проста, разважліва і памяркоўна можа быць заменена на пагадненне. Ну і пагадзіліся ў выніку з тым, што ў Беларусі ўсталюецца дыктатура, але дыктатар не будзе замінаць Сямёну Шарэцкаму прадстаўляць беларускую палітычную апазіцыю на тэрыторыі братняй дэмакратычнай Літвы.

Калі раптам Шарэцкі ці Шушкевіч на мяне ўскрыўдуюць, дык дарма. Гаворка датычыць не асабістых адносінаў, а тыпаў і характараў, агульных рысаў сучасных дзейнікаў палітыкі, тых пераважна ўласцівых ім якасцяў, якія ў палітычнай барацьбе альбо забяспечваюць перамогу, альбо прадракаюць паразу. Іх перамогі альбо паразы вызначаюць далейшую якасць палітыкі, а праз яе — якасць нашай будучыні, нашага грамадскага і прыватнага жыцця. Свае паразы вядомыя нам палітыкі

тлумачаць найчасцей тымі маральнымі крытэрыямі, якія не змаглі яны ў сабе адпрэчыць, тымі маральнымі законамі, якія не здолелі пераступіць. Але якая нам справа да іх асабістых крытэрыяў і законаў?.. Калі яны прынялі на сябе адказнасць як палітычныя лідары, дык мы чакаем ад іх палітычнага выніку, рэальнай перамогі, а не рэфлексій па праблемах сумлення і маралі. Гэта падыходзіць для літаратуры, але не для палітыкі, якая не мае маралі, а мае толькі вынік, што з самага пачатку сваёй палітычнай кар'еры лепш за ўсіх зразумеў Аляксандр Лукашэнка. І калі вярнуцца да пытання пра тое, ці ўгаданыя, ці прадбачаныя ў сваім з'яўленні рэальныя, жывыя тыпы і характары дзейнікаў беларускай палітыкі ў беларускай літаратуры, дык можна сказаць, што Шушкевіч і Шарэцкі нібыта самі сябе спісалі з правільных школьных сачыненняў пра класічны літаратурны вобраз беларуса, у той час як Пазняк з Лукашэнкам нават блізка не прадбачаныя і не ўгаданыя. Беларусаў такога тыпу, такога характару не знайсці ні ў творах Кузьмы Чорнага і Максіма Гарэцкага, ні ў раманах Івана Мележа, ні ў п'есах Кандрата Крапівы і Андрэя Макаёнка... Чаму? Бо беларуская літаратура напісаная гэткімі ж класічнымі беларусамі, вобразы якіх яна стварала.

* * *

«Ліст у Сібір» Тодара Кляшторнага (таго самага, які напісаў: «Ходзім мы пад месяцам высокім, а яшчэ — пад ГПУ», за што ГПУ яго й расстраляла):

> Астрыжан клён асеннімі сярпамі —
> Лістоў няма...

Сярпамі жнуць, а не стрыгуць, але ж асенніх нажніц не бывае, так што такой бяды, што недакладна, калі хораша. Як і:

> О, вечар, вечар,
> Што завечарыўся?

Нібы й нічога няма, а хораша.

Хораша зрабіць з нічога — гэта і ёсць талент. І яшчэ талент — адчуваць, што ёсць хораша. Хай нават праехаўшы на тым са-

мым вобразе, як на санках з гары, яшчэ раз (нават два разы, бо радкі гэтыя і ў першай, і ў апошняй страфе):

Стыне ўсё... Ледзянымі сярпамі
Выйшла восень рабіну касіць.

Гэта ў вершы «Зазімак». Тут, праўда, сярпы ўжо косяць, а не стрыгуць. Бліжэй да дакладнасці, але далей ад таго, што ёсць хараша.

* * *

Неадольнае жаданне адолець.

* * *

Ён зірнуў аднойчы на свет праз дзірачкі ў гузіку. Дзірачкі былі дзве — і былі два светы: у кожнай дзірачцы свой.

Ён выламаў сарцавінку гузіка — дзірачка стала адна. І свет стаў адзін — з няроўнымі, зубчастымі краямі.

Ён зраўняў краі — свет стаў круглы.

Ён прыйшоў да высновы, што самы вялікі цуд у свеце — дзірачка.

* * *

1999 год. Польскае тэлебачанне. Паўвекавы юбілей камернага тэатра. Тэлевядучы пытаецца ў былога дырэктара тэатра пра першы, пастаўлены 50 год таму, спектакль — і дырэктар ніякавата адказвае, што першы спектакль, праўда, быў пастаўлены па п’есе савецкага драматурга. «Але ўжо наступная пастаноўка, — устрапянуўшыся, доўжыць дырэктар, — была прыстойная...»

У студыі акторы, рэжысёры, драматургі — і ўсімі гэта ўспрымаецца зусім нармальна. А калі напрыканцы праграмы тэатральны крытык кажа пра Дастаеўскага: «Вялікі польскі пісьменнік, які змушаны быў пісаць па-расейску...» — ён зрывае хай не авацыі, але ўсё ж апладысменты.

У нацыяналізма, як і ў любой іншай *калектыўнай* з’явы, — праблемы з этыкай.

* * *

У 1920 годзе пад Варшавай насмерць біліся 1-я Літоўска-Беларуская дывізія (а таксама створаны ў 1919 годзе Менскі полк, які пазней стаў 86-ым стральцовым палком войска польскага) з боку палякаў і так званая *Мазырская група* пад камандаваннем Ціхана Хвесіна з боку рускіх. І ў Літоўска-Беларускай дывізіі, і ў Менскім палку, і ў Мазырскай групе ў пераважнай большасці былі беларусы.

Рэзаліся так зацята, што мала хто ацалеў...

За што рэзаліся?

Палякі — за польскае, рускія — за рускае...

Беларусы за чыё?

* * *

Прыйшла пара рухацца (Быкаў ужо ў Нямеччыне) з Варшавы ў Хельсінкі — і на развітанне з Зянонам Пазняком і ягонай жонкай Галінай вячэраем у Чэслава Сэнюха. Для Чэслава Зянон — найганаровы госць, таму чаго толькі на стале не стае, а Галіна раптам кажа: «Як я дахаты хачу! Хоць на ваду і на хлеб, але дахаты...»

Я гляджу на Зянона — дзве слязіны ў вачах. Нейкае імгненне... Наплылі і высахлі, але след іх застаўся ў паглядзе.

Каб не заўважылі, як мяне торгнула, выйшаў нібыта перакурыць...

Радзіма — разуменне шкоднае.

* * *

Пасля ўсяго, што перажылося ў апошні год, ніяк не чакаў, каб хто-небудзь чым-небудзь мяне расчуліў. Але такое сталася — і зрабіў гэта Быкаў, самы суворы чалавек нашай літаратуры. У кватэрцы ў Хельсінкі, дзе ён жыў паўтара года і дзе жыць цяпер мне, я знайшоў на пісьмовым стале гэткі прывітальны ліст, што шчымануло недзе там, дзе сэрца...

А дома ж ледзьве не кулаком гразіў: я табе дам!.. Любімы пісьменнік прэзідэнта!..

Вось і разбярыся.

У кожным дні мы розныя, у кожным момантце — іншыя.
Там, дзе мы былі, — мы ў натоўпе. «Раскрыжуй яго!..»
Там, дзе мы апынуліся, — мы самі ў сабе...

Ён пакінуў мне свой камп'ютар. Старэнькі, запылены. Я стаў яго чысціць і знайшоў прыклееную знізу пад маніторам паперчынку. На ёй напісана: «Ёсць першая старонка. З Богам!..»

* * *

Дабіваюся ад Стася (унука) адказу на тое, чаму ён зноў залез у мой камп'ютар, хоць абяцаў не лезці?.. Ён пакрыўджана і ўпарта маўчыць. Амаль крычу, каб не маўчаў, бо нічога нельга растлумачыць маўчаннем, растлумачыць нешта можна толькі словамі! Не дабіўшыся ніякіх слоў, сядаю працаваць, спрабую аднавіць тэкст, які Стась выпадкова знішчыў. Сам ён збягае ў лес — як заўсёды, калі крыўдуе.

Плюю на тэкст, іду шукаць... Знаходжу за валунамі, працягваю мезенец: «Добра, міравая. Гары ён гарам, той тэкст, вунь і без яго колькі ўсяго ў свеце...» Малы чапляецца сваім мезенцам за мой, але замест «Мірыся, мірыся і болей не біся» чую ў адказ: «Растлумачыць словамі можна толькі словы».

* * *

Спрабую давесці Стасю, якое дзіва — паэзія, але слухаць пра дзіва паэзіі ён не ў настроі. Тым самым і мяне з імпэту збівае, таму прамаўляю то нейкую няўцяміцу, то банальнасць... Маўляў, усе і ўсё — цені і пыл, а паэзія — вечнасць. Нязгасны чалавечы дух.

Мы ідзём узлескам, сцяжынаю ўздоўж мора, над якім, апускаючыся, палымнее і, здаецца, вось-вось падпаліць ваду вечаровае сонца. Стась спыняецца, глядзіць на мяжу вады і полымя, пытае: «А сонца пагасне?..» Адказваю, што калі-небудзь абавязкова — як і ўсялякі агонь. Як і ўсё...

Малога гэта не засмучае. Ну, пагасне дык пагасне... Ён ідзе далей так, як вядзе яго сцяжына, скача-падскоквае і, вынаходзячы рытм руху, раптам рыфмуе падскокваючы: «Што для чаго, калі сонца пагасне навек, што для чаго напісаў хоць адзін чалавек?..»

* * *

Ідзём са Стасем у кнігарню, каб купіць яму якую-небудзь фінскую кнігу, — ён ужо чытае трохі па-фінску, але толькі тое, што цікава. У кнігарні на стэндзе новых выданняў стаіць серыйны томік Агаты Крысці з невядомай мне назвай: «Нікому не ўдалося ўратавацца». Бяром, каб паглядзець, а гэта «Дзесяць мурынчыкаў». Гаспадар кнігарні тлумачыць, што назва перакладзена ў адпаведнасці з законам супраць расавай дыскрымінацыі. «Раней у нас, — кажа, — цукеркі былі, якія называліся «Пацалунак негра», цяпер яны проста «Пацалунак».

Я пытаюся:

— А чаму раман «Майстар і Маргарыта» Міхаіла Булгакава стаў раманам «Сатана з’явіўся ў Маскве?»

Гаспадар смяецца, ён з гумарам: «Рускіх закон супраць дыскрымінацыі не датычыць».

* * *

На вакзале з грузінам выпадкова пазнаёміўся — прыехаў з Масквы ў Хельсінкі сыр купляць. 600 тон для пачатку. На фірме «Valio» яму сказалі: «У нас прадстаўніцтва ў Маскве — праз яго і купляйце».

Ён ашаломлены. «Слухай, дурдом! Я ім наўпрост жывыя грошы прапаную, а яны мяне сплаўляюць!.. Кажуць: мы не парушаем дамоўленасці! Якія дамоўленасці, калі жывыя грошы?..»

З такога гора пайшлі ў рэстаран. Афіцыянт гарэлку кілішкамі стаў насіць. Трыццаць грамаў у кілішку за пяць еўра. Пляшка абышлася, як білет да Масквы.

З яшчэ большага гора грузін захацеў станцаваць лезгінку. Аркестар — піяніст, кантрабасіст і ўдарнік... Яны не зразумелі нават, чаго ён хоча.

Вярнуліся на вакзал, выпілі ў бары піва. Грузін, як я ні супакойваў яго, расстройваўся ўшчэнт. «Слухай, няхай сыр не захацелі прадаць... Але не сыграць лезгінку?..»

Ён быў жывейшы за свае жывыя грошы... І раптам падумалася: колькі ж разоў слухаў я рэстаранную, заказаную аркестру, лезгінку? Сто, дзвесце, трыста?.. Ва ўсіх рэстаранах ад Бе-

расця да Хабараўска. А хто-небудзь, дзе-небудзь, калі-небудзь «Лявоніху» заказаў?..

Наўрад ці. Я не чуў.

* * *

Тут непадалёку ў бок Ramsinniemi (у Хельсінкі, Фінляндыя) гатэльчык ёсць невялічкі, мы са Стасем (з унукам) праз лясок туды на мора ходзім. Ад гатэльчыка спускаешся на пірс дашчаны, з якога даў нырца — і паплыў... Зручней, чым ісці да глыбіні па камянях ад берага.

За ўсё лета (а такога сонечнага і цёплага, нават спякотнага лета не было ў іх, кажуць фіны, ці сто гадоў, ці ніколі) ніхто нас ні разу не спыніў, не пераняў, а гэтым разам пераймае жанчынка і тлумачыць, што хадзіць нам сюды нельга, бо гэта прыватныя ўладанні. Ну, я прабачыўся, сказаў, што лічыў, паколькі гатэль... а калі не, дык не.

Ідзем дахаты, дарогай тлумачу Стасю, што хадзіць сюды болей не будзем, бо тут усё прыватнае. Шпунт малы спыняецца, недаўменна азіраецца назад і пытае:

— І мора?..

Тое самае і мне, прабачаючыся, карцела спытаць у жанчынкі. Толькі не як чатырохгадоваму дзіцяці, а як *савецкаму* чалавеку.

* * *

Савецкая свядомасць (хай сабе *нельга*, але калі хочацца, дык *можна*) найбольш раздражняецца драбязой.

Тут у другі бок праз другі лясок ёсць і пірс, і пляж, і мора — для ўсіх. На беразе альтанка, у якой можна кілбаскі ці мяса падсмажыць, а каля яе кафэ маленькае. Са знаёмым, які з Піцера прыехаў, узялі піва і кілбаскі ў краме — сядзім, п’ём, смажым... Піва скончылася, дакупілі ў кафэ, пайшлі ў альтанку. Бяжыць з кафэ гаспадыня: «Нельга!..» Што нельга?.. Аказваецца, піва, купленае ў кафэ, можна піць толькі ў кафэ ці за столікамі побач. А ў альтанцы п’юць толькі прынесенае з сабой...

«Чаму так?..»

Яна і сама не ведае, чаму так, але і высвятляць з намі не збіраецца, чаму... Нельга — і ўсё.

Для нас гэта ідыятызм, і мы пачынаем даводзіць ёй, што гэта ідыятызм, шукаем спачування наўкол, але нам не спачуваюць. «Нельга — і ўсё». Два фіны, з якімі амаль па-сяброўску мы толькі што размаўлялі, адсоўваюцца і пазіраюць калюча.

Найлепей, не спрачаючыся, перайсці з півам пад парасон каля кафэ, там не горш. Дык не: мы выліваем піва на траву за альтанкай...

На пратэст наш ніхто і ніяк не рэагуе. Вылілі дык вылілі, гэта можна.

* * *

Дапісаў паэму «Паланэз», якой запоўнены быў і я сам, і ўвесь белы свет — і адчуў адразу і ў самім сабе, і ва ўсім белым свеце бясконцую пустату. Такую пустату, якую, здаецца, не адолець і нічым ужо не запоўніць, якая нахлынае кожнага разу пасля моцнага энергетычнага выплеску. Так было пасля «Індыі», «Прошчы», «Саракавінаў», а ўпершыню — пасля «Маланкі», калі я панічна спалохаўся («Усё! Скончыўся! Памёр!..») і не ведаў, што пасля смерці рабіць...

Цяпер ведаю. Пайшоў у рускую бібліятэку (ёсць такая ў Хельсінкі) і набраў у валізу столькі кніг, колькі змог панесці. Каб чытаць, чытаць і чытаць...

Калі сканчаецца соль, можна пазычыць яе ў суседзяў. Тое самае з энергіяй.

Дома выцягнуў з валізы дзве, якія пад руку патрапіліся, кнігі — і «Канец веку» Паўла Антакольскага глянуўся ў «Люстэрка» Сямёна Кірсанава.

Аўтар «Люстэрка» (ён на дзесяць гадоў маладзейшы за Антакольскага, але абодва яны паэты аднаго пакалення, а дакладней, аднаго часу, у якім Блок, Маякоўскі, Ясенін) адносіўся да аўтара «Канца веку», як бы гэта сказаць... ну, як кожны паэт да кожнага паэта. Помню, аднойчы, працытаваўшы пачатак верша, які стаў (з музыкай Хрэннікава) вядомай песняй: «Как

соловей о розе поет в ночном саду, я говорил вам в прозе, на песню перейду...» — Кірсанаў спытаў, кілішак з каньяком прыгубляючы: «Ну, что это, если не серенада для прапорщиков, которые перед институтками изъясняются?» — і мяне проста прадрапала гэтае «серенада для прапорщиков» у адносінах да паэта, які напісаў «Санкюлота». Дый верш пра салаўя і ружу не здаваўся мне серэнадай для прапаршчыкаў, але што ж: «Там жили поэты, и каждый встречал друг друга надменной улыбкой...»

Ад Паўла Антакольскага займеў я адзін з самых моцных энергетычных імпульсаў, упершыню пачуўшы (і ўбачыўшы), як ён чытае вершы. Было гэта ў 1971 годзе на ягонай юбілейнай (75-гадовай) вечарыне. Маленькі, лысенькі, худзенькі, ён выйшаў на сцэну з кавенькай, стаў, на яе абапёршыся — і на яшчэ не аціхлых апладысментах, якімі сустрэлі яго ў вялікай зале ЦДЛ, пачаў чытаць:

Мать моя — колдунья или шлюха,
А отец — какой-то старый граф,
До его сиятельного слуха
Не дошло, как, юбку разодрав
На пелёнки, две осенних ночи
Выла мать, родив меня во рву! —

і адразу ж адступілі некуды ў глыбіню сцэны ўсе семдзясят пяць пражытых ім гадоў разам з адстаўленай да крэсла ў левай кулісе кавенькай. Ён, здалося, узняўся над сцэнай і лётаў над ёй, бліскаючы, як архангел мечам, маланкамі метафар...

Пасля вечарыны, узрушаны, я ў фае стаў выказваць сваё захапленне Сямёну Кірсанаву, і ён пачаў круціць галавой, азірацца (не ім жа захапляюцца), шукаючы магчымасць ад мяне адчапіцца, а тут якраз выйшаў з залы Антакольскі, і Кірсанаў падштурнуў мяне да яго: «Вот, Павлик, молодой белорусский поэт восхищается тобой, твоими соловьем и розой...» Антакольскага не цікавілі ні я, ні Кірсанаў, ні салавей з ружай, цікавіла яго толькі маладая прыгожая жанчына, што йшла пад руку з ім, і ён сказаў хуценька, суха, зусім не такім голасам, якім чытаў вершы: «Да-да, я был в Витебске, ногу там сломал...» —

а прыгажуня паглядзела на мяне так, нібы я, невядомы беларускі паэт, вінаваты ў тым, што вядомы рускі паэт зламаў у Віцебску нагу...

З тым Антакольскі са сваёй спадарожніцай і пайшлі, а Кірсанаў, убачыўшы маю разгубленасць, прапанаваў суцяшальны кілішак каньяку. У бары я спытаў (каб спытаць пра нешта), чаму Антакольскага не толькі ягоныя аднагодкі, але й значна маладзейшыя за яго паэты называюць Паўлікам, і Кірсанаў (зусім нечакана пасля «серэнады прапаршчыка для інстытуткі») прачытаў верш, які я не ведаў, ён нідзе не друкаваўся.

Я обезглавлен на Страстной неделе.
Шел мокрый снег. И в пять часов утра
Пришли ко мне защитники. Сидели,
Пока я сам им не сказал: «Пора!»
Жена мне обещала: «Не забуду».
Вертлявый поп латынью щегольнул,
Все убеждал, что надо верить чуду
И, кажется, не очень обманул.
Что было после, к сожаленью, тайна.
Я только исполнительный актер.
Я только тень. Я молод чрезвычайно.
Мне двадцать лет осталось до сих пор.
По облакам, пурпуровым и снежным,
Я прохожу с кровавой головой.
Из ангелов — кто будет самым нежным?
Кто раздробит мой панцирь гробовой?
И снится мне: недалеко от цели
Нахлынет свет — и кончится игра.
Я обезглавлен на Страстной неделе,
На площади Мадонны, в шесть утра.

Гэта Антакольскі напісаў у 1916-ым, калі яму было дваццаць, і радок: «Мне двадцать лет осталось до сих пор...» — Кірсанаў прадэкламаваў, літаральна падрабіўшыся пад інтанацыю аўтара — нібы для таго, каб я зразумеў, чаму 75-гадовы Павел Рыгоравіч Антакольскі да гэтай пары Паўлік. І я зразумеў не толькі гэта, а, гледзячы на немаладога Кірсанава, які ўлюбёна чытаў маладога Антакольскага, уцяміў яшчэ і тое, што пры ўсіх «надменных улыбках» і абвінавачваннях у напісанні «серэнадаў для

прапаршчыкаў», няма ў свеце большага сяброўства, чым сяброўства паэтаў, болей высокай любові, чым іх любоў да паэзіі.

Прамінула 30 гадоў, многае ўва мне змянілася, але вось гэтае адчуваннне ўсіх паэтаў як сяброў і паэзіі як любові нязменнае — і пасля бяссоннай начной чытанкі яно напаўняе мяне, як акно напаўняе раніца, выцясняючы пустату.

* * *

Не ведаю, скуль узялі фінскія мас-медыя гэтую інфармацыю, але яны сцвярджаюць, што да свайго апошняга трагічнага выхаду ў Баранцава мора саракааднагадовы камандзір атамнай падводнай лодкі «Курск» меў за плячыма толькі адзін так званы баявы паход. У той жа час камандуючы Паўночным флотам вінаваціцца ў смерці падводнікаў і кажа, што флот страціў свой найлепшы экіпаж. Дык калі экіпаж з камандзірам, у практыцы якога толькі адзін баявы паход, — гэта найлепшы, то якія ж тады астатнія?..

Згадваецца пейзаж, які некалі мяне ўразіў: бухта ў Паўночнаморску. Яна гэтак застаўленая падводнымі лодкамі, эсмінцамі, крэйсерамі, што вады не відно. І ўсё гэта тапырыцца ва ўсе бакі марознай бранёю, радарамі, гарматнымі ствaламі, тарпедамі, ракетамі... На атамным крэйсеры «Кіраў», тагачасным флагмане Паўночнага флоту, я спытаў камандуючага: а нашто столькі? І ён адказаў, што зброі лішняй не бывае.

Я не пацыфіст, як Алесь Адамовіч, і не думаю, што зброя ў свеце ўвогуле непатрэбная, але перакананы, што вельмі часта яна бывае лішняй. А вось тыя сто васямнаццаць падводнікаў, пераважна хлапчукоў, якія загінулі на субмарыне «Курск», лішнімі ў гэтым жыцці не былі.

Трагедыя расійскай субмарыны...
«Як гэта так?..» — мяне пытаюць фіны,
Нібыта я расійскі адмірал...

Яшчэ жыве, як здань, Саюз адзіны,
Яго легенды і яго быліны,
І доўжыцца жахлівы серыял.

Хай рухнуў *Рым* — стаяць яго руіны:
Афганістан, Чачня, Чарнобыль... Міны
Раскіданы сярод пяскоў і скал.
Імперыя ўсё шчэрыць зуб звярыны,
І на шляху расійскай субмарыны
Паўсюль яе скарожаны метал.

Смерць не страсеш, як страшны сон з пярыны...
Як рускаму, мне спачуваюць фіны,
І ўсюды клін — куды сябе ні кінь...

За хлапчукоў расійскай субмарыны
Памолімся. Ва ўсіх нас Бог адзіны —
Амінь.

*24 жніўня 2000, Хельсінкі*

* * *

У 1914 годзе пацярпеў катастрофу і патануў акіянскі лайнер «Імператрыца Ірландыі», які ішоў з Канады ў Еўропу. Загінула 1012 чалавек. Сярод іх было нямала беларусаў, які плылі дахаты — хто для таго, каб забраць за акіян свае сем'і, а нехта — каб застацца дома, бо не пашэнціла за акіянам.

Чаму пра трагедыю «Тытаніка», на якім загінулі 832 чалавекі, ведае ўвесь свет, а пра трагедыю «Імператрыцы Ірландыі» мала каму вядома? Таму што патанула не імператрыца Ірландыі, а толькі тое, што гэтак называлася. На палубе не шпацыравалі прынцэсы з багацеямі (прагульваліся хіба тыя, хто мог выканаць іх ролі: брытанскія акторы), каюты трэцяга класа былі забітыя простым людам.

Простае знікае проста.

* * *

У панядзелак 27 лістапада 2000 года:

1. Пачаўся рамазан. Мусульманам нічога нельга есці ад узыходу да заходу сонца. Добра тым мусульманам, хто на поўначы, дзе ад узыходу да заходу сонца паспяваеш спаліць не болей як адну-дзве цыгаркі.

2. Пачаўся восьмы дзясятак жыцця Уладзіміра Сямёнавіча Караткевіча.

3. Пачаўся чарговы прэзідэнт Злучаных Штатаў Амерыкі Буш-малодшы.

У сувязі з трыма гэтымі пачаткамі скончыліся:

1. Сакратар Рады бяспекі Рэспублікі Беларусь.

2. Старшыня Камітэта дзяржбяспекі Рэспублікі Беларусь.

3. Міністр культуры Рэспублікі Беларусь.

* * *

З фінскага антыалкагольнага закона:

«Забараняецца скарыстоўваць алкаголь з мэтай ап'янення».

* * *

Вясной у Хельсінкі — выстава беларускіх прамысловых тавараў, арганізаваная стараннямі Міхаіла Марыніча, пасла Беларусі ў Латвіі, а заадно і ў Фінляндыі, дзе беларускага пасольства няма. Прыехаўшы, Марыніч пазваніў, мы спаткаліся...

Тое, што толку ад ягоных стараннях не будзе ніякага, стала відавочна, калі на прэс-канферэнцыю з нагоды адкрыцця выставы не завітаў ніводны фінскі журналіст. А чаго няма ў сродках масавай інфармацыі — таго няма ў жыцці... Гэткія пагардлівыя, у лепшым выпадку абыякавыя адносіны да лукашэнкаўскай Беларусі паўсюль на Захадзе, і, мажа, найвастрэй адчуваюць іх якраз дзяржаўныя функцыянеры, якія афіцыйна кантактуюць з Захадам, найперш дыпламаты. Асабліва тыя, у кім ёсць самапавага, гонар... Колькі разоў я назіраў, як на ўсялякіх урачыстых прыёмах беларускія дыпламаты стаяць ад усіх убаку — і іх дыпламатычна абмінаюць.

Пасля прэс-канферэнцыі селі мы ў гатэлі, і Міхаіл Марыніч, адзін з самых талковых службоўцаў і ў кебічаўскім, і ў лукашэнкаўскім урадзе, выклаў мне ў агульных рысах сцэнар прэзідэнцкіх выбараў з удзелам наменклатуры. Створанай Лукашэнкам вертыкалі, яе далёка не апошніх асобаў. Па сцэнары ўрад перад выбарамі падаваў у адстаўку — і ягоны кіраўнік вылучаўся кандыдатам у прэзідэнты. Па тым, як Міхаіл Афанасьевіч інтэлігент-

на заікаўся, называючы прозвішчы некаторых вертыкальшчыкаў, ён быў далёка не ўпэўнены, што тыя пойдуць да канца.

Як час паказаў, яны й не пайшлі, здалі Марыніча. Перавароту ў палацы не адбылося. Марыніч сам паспрабаваў зарэгістравацца кандыдатам у прэзідэнты, а Лукашэнка «зарэгістраваў» яго ў турму.

* * *

Свабода і ўлада...

Мала ў свеце паняццяў больш далёкіх адно ад аднаго, чым гэтыя. Хто толькі і што толькі пра свабоду і ўладу ні пісаў, ні казаў...

Карл Людвіг Бёрнэ (Іуда Лейб Барух), які нарадзіўся ў гета ў Франкфурце, а памёр у гета ў Парыжы, пра свабоду: «Быць свабодным — гэта нішто; стаць свабодным — гэта ўсё».

Калі насамрэч так, дык мы (беларусы) блізкія да мэты. Да *ўсяго*. Толькі чаго вартыя нашыя намаганні і які ў іх сэнс, калі далей — *нішто*?

Жыццё — гэта *ўсё*, ці яно *нішто*, калі далей — смерць?

Габрэйскія штучкі.

Той жа Бёрнэ пра ўладу: «Тайна ўлады ў тым, каб ведаць: іншыя яшчэ болей баязлівыя, чым мы».

Ну, бадай... Але яшчэ трэба трошкі шыць.

* * *

З Быкавым сустрэліся на міжнародным кангрэсе па праблемах Цэнтральнай і Усходняй Еўропы ў Тампэрэ. Горад паміж двума велізарнымі азёрамі, рака, стары млын — прыгожа... І пасярод гэтай замежнай прыгажосці Васіль Уладзіміравіч спытаў, якая ўсё ж з усіх прычын, па якіх з’ехаў я за мяжу, была настолькі важкай, што змусіла да такога кроку? «Тут жа ў нечым, — сказаў ён, — адчай...»

Мы стаялі на мосце, вада шумела пад намі... І ў шум вады я стаў расказваць, як яно было, і як паасобку ўсё выглядала драбязой, а, склаўшыся ў адно, сталася прычынай. І я назваў яе ў паэме «Паланэз», напісанай у Варшаве. Лірычная гераіня паэ-

мы не разумее, чаму лірычны герой пакінуў радзіму, дапытваецца: «Скажы, скажы, дзеля чаго зрабіў ты гэта?..» — і той адказвае: «Найперш, каб зратаваць паэта». Для мяне гэта і прычына больш чым дастатковая, і адказ вычарпальны, да якога нічога не трэба прыплятаць. Ды тое для мяне, а для астатніх... «Вось для вас, — я спытаў, — гэтага дастаткова?» — і ён, гледзячы ў ваду, кіўнуў...

Я так зразумеў, што дастаткова. Праз паўзу ён папрасіў прачытаць што-небудзь з паэмы. Гэта быў адзіны выпадак, калі я чытаў яму вершы. У Тампэрэ пад шум вады.

Пасля загаварылі, бо пра гэта паэма, пра Беларусь, пра яе шлях. Быкаў сцвярджаў, што Беларусь мела не тое што гістарычны шанс, а прапанову гісторыі стаць еўрапейскай краінай, і прапанову не скарыстала, шанс незваротна страціла. Незваротна, бо двойчы да прапаноў сваіх гісторыя не вяртаецца, і цяпер застаецца толькі разбірацца, як мы шанс той страцілі і чаму?..

Нешта падобнае я чуў ад яго і раней, бачанне будучыні Беларусі было ў яго ў апошнія гады не надта радаснае, але ўпершыню ён сфармуляваў гэта так катэгарычна: гістарычны шанс стаць еўрапейскай краінай Беларусь страціла незваротна. Я стаў спрачацца... Прынамсі, сказаў, калі будзем разбірацца, як страцілі і чаму, дык будзем пісаць, а будзем пісаць, дык будзем мець літаратуру, а будзем мець літаратуру — будзем мець Беларусь. І наогул, Беларусь, можа, і ёсць тое, што ўвесь час мы знаходзім і страчваем, страчваем і знаходзім. Чаму краіна, Радзіма абавязкова павінна быць у геаграфічных межах?..

Быкаў, падумаўшы, сказаў, што гэта ўва мне — эмігранцкае. І дадаў вядомае пра пыл Радзімы, які не панесці на падэшвах ботаў.

* * *

Радкі:

Імёны паляць.
За іх тры веданні ўзамен
Даюцца з таямніцы Тао... —

у паэме «Паланэз» маглі б і не напісацца, калі б Наталля Татур і NN не зацягнулі мяне ў дом, дзе ўвесь варшаўскі (пераваж-

на дамскі) бамонд сабраўся на сустрэчу з тайскім манахам (філосафам, гуру), з якім (дзеля чаго мяне й зацягнулі) меў я пасля тайную размову, поўную прароцтваў (многія з якіх, між іншым, спраўдзіліся), і гуру мне — сярод іншага — тлумачыў, як і што вызначаюць у нашым лёсе нашыя імёны ды прозвішчы, і чаму іх трэба (напісанымі на паперы ў час адпаведнай абрадавай дзеі) спальваць...

Ягоныя тлумачэнні істотна адрозніваліся ад таго, што даводзяць звычайна вешчуны ды вяшчунні, якія займаюцца астралогіяй ды нумералогіяй. Каб спраўдзіць свой лёс, дакладней, прадвызначэнне, неабходна адкідваць выпадковасці, якія замінаюць яго спраўдзіць. Такімі выпадковасцямі могуць быць прозвішча ды імя — не табой табе дадзеныя. Адкінь іх (спалі) — і сам сваім іменем назавіся.

Так робяць манахі.

Я ўспомніў гэта ў размове з Быкавым, калі мы стаялі ў Тампэрэ над шумам вады, у якую ён глянуў, галаву з маста схіліўшы, і сказаў:

«Сябе ад сябе не адкінеш».

* * *

Скончыўся кангрэс у Тампэрэ. Быкаў на некалькі дзён заставаўся, я ад’язджаў. Развітваліся ўвечары ў кавярні каля вакзала. Саставілі два столікі. Васіль Уладзіміравіч з Ірынай Міхайлаўнай, Якуб Лапатка, які прыехаў некалі ў Хельсінкі на паўгода і застаўся ці не назаўсёды, Аліна Бельская, якая апынулася ў эміграцыі першакурсніцай універсітэта, я, мая дачка Ева... Вось і ўсе беларусы, што знайшліся на той час у Фінляндыі.

Васіль Уладзіміравіч не хацеў развітвацца. Усяляк адцягваў развітанне: сам хадзіў да бармена, браў яшчэ віна... Але ўсё канчаецца хутка, а найхутчэй віно. Апошні келіх выпілі за тое, каб некалі ўсім разам спаткацца дома.

Перад тым я сказаў Быкаву, што мне, калі не хачу назаўсёды застацца ў эмігрантах, давядзецца ехаць у Беларусь, каб памяняць пашпарт, і ён падарыў мне зялёную кепку з вялізным брылём. Для маскіроўкі. Той кепкай я і махаў яму з тамбура, калі

крануўся цягнік, а ён доўга, даўжэй за ўсіх ішоў за вагонам па пероне...

Ніколі ўжо ўсе разам мы не спаткаемся.

* * *

Заўтра, сёння ўжо, бо апоўначы, мне 55... Пяцьдзясят пяць чаго? Жыццяў, скананняў? Усяго...

Не шараговая лічба 55. Выгінастая, пакручастая. І роўная. Яшчэ пры сіле. Здаецца нават, што адзінкі ад яе пачнуць адскокваць, а не дадавацца: 55, 54, 53... Але так не будзе.

Нічога ўжо так не будзе, як было. І дзякуй Богу.

Дзякуй Богу, што даў нарадзіцца. Дажыць да 55-ці. Спазнаць... А хацеў жа памерці маладым. Даруй, Божа...

Не Ты вінаваты, што жыццё стамляе. Вінаваты той, хто стамляецца. «Я не стаміўся, — кажу я сам сабе, — не стаміўся». І нават веру, што не супакойваю сябе, не ўгаворваю.

За паўвекам пачаўшы жыць з нуля, вучуся не думаць пра будучыню. Ва ўсялякім разе так, як думаў дасюль. Думаю: дасць Бог дзень...

Будучыня — люстэрка. Мінулае. Яго хопіць па скон.

Вучуся, гледзячы ў люстэрка, не злавацца, не скардзіцца, не крыўдаваць. Трываць. Дараваць жывым жывое... Нібыта ўмеў і раней, але вучуся. І вялікая навука наперадзе. Калі Бог дасць...

Не прашу ў Бога нічога, дзякуй Богу за ўсё.

Дзякую за Маці, за Бацьку, якіх любіў, якіх пахаваў. Па-людску ўсё, па-боску...

За каханне дзякую і каханую, за сям'ю, за дзяцей... Як доўга ведалася, што гэта не трэба, замінае!.. Але Бог ведае болей...

Дзякую за Анёла, які ахоўваў мяне і ратаваў, ахоўвае і ратуе...

Не ўсё ад Яго аднаго, волі Ягонай залежыла, маё залежыла ад мяне. Нешта магло быць лепш, вышэй, але няма на што і няма на каго наракаць. Хіба толькі на самога сябе — там, дзе самога сябе не хапіла. Толькі дзе гэта, дзе? — калі ўжо ёсць разуменне, што і гэткія нараканні — марнае і пустое. Так жыў, такім быў... Не мог быць інакшым. А што шкада, дык што ж... Часам можна дазволіць сабе такую слабасць, гэта не грэх. Прынамсі, не вялікі.

Амаль літаратурны грэх.

Дзякую Богу за літаратуру. Прабачаюся, што гнявіў Яго, жадаючы, прагнучы большага, чым Ён даў. Я больш не ўзяў, чым Бог не даў. Не ўзяў лянотай, слабасцю, спакусамі — сваё не ўзяў, што ад мяне залежыла. І цяпер наракаць, шкадаваць?.. Калі і ў спакусах жыў — і ў якіх спакусах! — і дзякую Богу яшчэ і за гэта.

Дзякую і за тое, што павёў мяне Бог па свеце, вырваўшы са спакус. Карані засталіся, цяжка, але — шлях. Да самых каранёў, да крэўскіх могілкаў.

* * *

«Самы моцны той, хто стаіць адзінока», — паўтарае Колас словы Ібсена, запісваючы іх у альбом Аляксандры Зотавай. Словы гэтыя не могуць быць выпадковымі, бо адрасаваныя жанчыне не староннявй: ёй падараваў Колас свой фотаздымак, надпісаўшы: «Уладальніцы адзінай душы».

* * *

«Я старэйшы... — перадае Колас быццам бы жартаўлівыя словы Купалы пры іх першай сустрэчы, — я ўжо сваёй маці ўсміхаўся, а ты яшчэ і разу ў калысцы не вякнуў».

«Той-сёй можа падумаць, што паміж мною і Купалам сапраўды ляжала нейкая непрыязнь, — прагаворвае Колас, нібы наперад пярэчачы такому меркаванню. — І нібыта вынікала яна праз спаборніцтва за першае месца».

Так, «той-сёй» можа такое падумаць...

Купала з Коласам пазнаёміліся, калі кожнаму было па трыццаць. Гэта нават на сёння людзі не юначага ўзросту, а ў 1912 годзе — сталыя мужыкі. Пераспелыя для сяброўства...

У адносінах паміж імі відавочна адно: Колас *стараўся* сябраваць. Чаго не скажаш пра Купалу.

У траўні 1938-га Купала хварэе на крупознае запаленне лёгкіх — і Колас амаль месяц штодня (!) наведвае яго ў шпіталі. А ў 1939-м, 23 лютага, Колас піша ў лісце да Сяргея Гарадзецкага: «З тыдзень таму назад была тэлеграма ад Лазоўскага —

прыслаць верш да XVIII з’езду партыі. Напісаў, паслаў праз Янку. А 21.02 зноў атрымліваю тэлеграму з напамінам пра высылку вершу к 25.02. Выходзіць, што Янка не перадаў...»

Колас сур’ёзна занепакоены... Бо гэта не драбяза... Лазоўскі мог і не выслаць напамінальнай тэлеграмы, а далажыць пра невыкананне высокага даручэння.

Купала падводзіў Коласа не аднойчы... Не наўмысна, праз *асаблівасць* (як заўважае Колас) *натуры*, але падводзіў. Колас дараваў, трываў. Не вытрываў, калі Купала не пераслаў яму ліста ад сына, які без вестак прапаў на фронце.

Невядома, ці быў насамрэч той сынаў ліст, але Колас свой напісаў.

«Ташкент, 17 верасня.

Дарагі Янка!

Можа, і не варта было б пісаць табе пісьмо, бо ты ў вялікім клопаце аб сабе самім не помніш болей нікога і на пісьмы нікому не адказваеш. Ты ў гэтым бачыш асаблівасць сваёй натуры і, відаць, такая “асаблівасць” расцэньваецца табою як нешта надзвычайнае, уласцівае толькі Янку Купалу. Іначай нельга найсці тлумачэнне таму, што ты не дужа спяшаешся адказаць на маё пісьмо. Чатыры дні таму назад прыслаў мне пісьмо Пятрусь Броўка. Ён даведаўся пра мой адрас з таго пісьма, што я пісаў табе. Вось і бярэ мяне крыўда. І асабліва крыўдна мне, што ўзяўся ты, як піша Пятрусь, перасляць мне пісьмо ад Юркі. А гэтага пісьма, як і ад цябе, усё няма. Ці ведаеш ты, што такое для бацькі і маткі сын, асабліва ў такі час?.. Не, Янка, ты гэтага не ведаеш, або ў цябе няма нармальнага чалавечага сэрца. А ты ж паэт. Паэт жа, калі ён сапраўдны паэт, ёсць рэха людскіх пачуццяў, а не чарапаха, зашыўшыся ў свой тоўсты футляр, зрэдку высоўваючы сваю галаву, каб паглядзець, ці няма чым пажывіцца. Ты, Янка, не злуйся: нічога не зробіш, а праўда вочы коле...

Гэта маё апошняе к табе пісьмо. Пісаць і не мець адказу на свае пісьмы — гэта тое самае, што гукаць у чыстым полі, дзе няма жывое душы. Жыві здаровы. У цябе для гэтага ёсць магчымасці.

Бывай, Янка, здаровы.

Якуб Колас».

Не вытрываў — і не толькі крыўду з-за сына, а ці не ўсё, што гадамі тузала, вярэдзіла, балела, — выказаў...

Апошні раз яны спатკаліся ў сакавіку 1942 года ў Казані, адкуль Колас напісаў жонцы ў Ташкент: «8. III. за сталом у аднаго з нашых знаёмых сустрэўся з Янкам. Нічога асаблівага не гаварылі, не сварыліся і не дружылі».

Пасля такога ліста — і «нічога асаблівага не гаварылі»? Так не бывае, не можа быць. Калі ж так было, дык толькі ў адным выпадку: Колас свайго апошняга ліста да Купалы не выслаў. Напісаў і ў стол паклаў. Гэта ў ягоным характары.

Праблема іх сяброўства ў тым, што Купала адносіўся да Коласа, як паніч да мужыка, — і гэта не самае сімпатычнае з таго, што было ў Купалу.

Пасля смерці Купалы Колас піша ў лісце (8.07.1942) да ягонай жонкі: «Дарагая Ўладзіслава Францаўна!.. Не верыцца мне, што ўжо не сяду я болей побач з Янкам за адным сталом. Але што паробіш? Так, відаць, судзіла ўжо доля. Ніколі не думаў таксама я, што страта Янкі такім вострым нажом пройдзе па сэрцы...»

Прайшла, не магла не прайсці... Усё, што ёсць побыт, пазабывалася, знікла, засталося толькі тое, што над побытам. Паэзія, пра якую ўжо да скону будзе гаварыць Колас толькі ў звязку з Купалам, аддаючы яму перавагу і перад усімі, і перад сабой.

Высакародны чалавек.

* * *

Якуба Коласа, які перажыў Янку Купалу на 14 гадоў, не стала 13 жніўня 1956 года. З раніцы ў дзень смерці ён занёс у ЦК КПБ ліст пра стан беларускай мовы. «Найвялікшым духоўным багаццем народа з'яўляецца яго мова. У мове адлюстроўвалася гісторыя народа, яго барацьба, яго смутак і радасць, яго любоў і гнеў. Прашу зразумець мяне правільна...» Тым самым Канстанцін Міхайлавіч Міцкевіч, Якуб Колас, як бы завяршыў свае зямныя справы — і заняўся справамі нябеснымі.

* * *

Калі паэт пражывае свой век і памірае, акружаны дзецьмі і ўнукамі, у сваім ложку, дык наўрад ці жыццё ягонае і смерць стануць легендай. Вунь Гётэ, скажуць, няхай і вялікі паэт, але ж колькі жыў!.. Столькі жыць, калі ты паэт, непрыстойна. Ды яшчэ ў дабрабыце, па-людску. Не пашчасціла табе, зажыўся, не забілі цябе ці сам не забіўся, то цягні жыццё ў хваробах і галечы, тады, можа, і адшчыкнеш што-небудзь ад легенды... Інакш займееш біяграфію з бібліяграфіяй — і не больш за тое.

Колас памёр за пісьмовым сталом. На стале — па-сялянску — стаяла бульба. Ложак — у пакойчыку побач... І амаль усё, што магло стаць легендай Якуба Коласа, стала легендай Янкі Купалы. Саслізнула са стала, перакінулася з ложка, скінулася ў лесвічны пралёт.

* * *

«*Я не паэт, а грамадзянін!*» Прыдуманая Рылеевым, паэтам не асаблівага таленту, фраза гэтая стала шырокавядомай агіткай у пераказе Някрасава: *«Паэтам можаш ты не быць, грамадзянінам быць ты мусіш...»*

Байранам ты можаш не быць, Рафаэлем можаш не быць, Моцартам... Можаш не быць Пушкіным, але мусіш быць Рылеевым...

Калі паэт Пушкін ехаў з Міхайлаўскага ў Пецярбург, дзе ён з ягоным характарам мог апынуцца разам з грамадзянінам Рылеевым на Сенацкай плошчы, дарогу яму перабег заяц. Гэта была кепская прыкмета — і Пушкін павярнуў назад. Цяпер таму зайцу паставілі помнік.

Паэту Цютчаву заяц дарогу не перабягаў, Цютчаў быў 14 снежня 1925 года ў Пецярбурзе, жыў у гасцініцы непадалёку ад Сенацкай, з якой у той дзень носу не паказаў. Яго не павесілі разам з Рылеевым — і ён напісаў: «Цераз лівонскія я праязджаў палі...», «Калі праб’е апошні міг прыроды...» і шмат іншага.

Я гэта да чаго? Да таго, што некалі ў вершы «Мост Шандара Пецёфі» сам напісаў: «Паэт не той, хто апяе свабоду, а той, хто ў бітве згіне за яе...»

пільнага вартавога — Савецкага Саюза, Эстонія пачала атрымліваць ад Фінляндыі дагэтуль небывалую дапамогу. Фіны дзяліліся з эстонцамі грашыма, адзежай, ежай, бытавой тэхнікай... Эстонцы маглі за ўсё гэта толькі бясконца дзякаваць і расказваць пра свой цяжкі лёс...»

І гэтак далей... Мяркую, трохі ведаючы, што такое Эстонія, нам цяпер лягчэй уявіць, што такое Фінляндыя. І наўрад ці яна стала такой выключна з-за стэрыльна чыстай фінскай спермы.

* * *

У 1721 годзе ў горадзе Уусікаупункі (гэта зусім не так цяжка вымавіць, як здаецца) быў падпісаны мір паміж Расіяй і Швецыяй. Фінляндыя ў тым падпісанні ніякім бокам не ўдзельнічала, яе без яе дзялілі, і яна амаль цалкам засталася ва ўладаннях Швецыі. Расіі дастаўся заснаваны шведамі Выбарг і частка Карэліі.

У 1809 годзе Расія забрала усю Фінляндыю сабе. Да 1917 года Фінляндыя была часткай Расіі на правах Вялікага княства, у якім упраўлялі расійскія генерал-губернатары. І ў адносінах да шведаў, і ў адносінах да рускіх фіны былі на дзіва лаяльнымі, нават стараннымі падданымі.

У пасляваенныя гады ўзнік міжнародны тэрмін *фінляндызацыя* — трохі іранічны, але фіны мала зважаюць на іронію ў адносінах да іх. Фінляндызавацца — гэта значыць жыць па суседству з вялікай дзяржавай і не падпарадкавацца ёй, але падтрымліваць самыя цесныя эканамічныя і палітычныя сувязі. Гэта талент, які рацыянальныя фіны выяўлялі бліскуча.

У адрозненне ад нас.

* * *

Восень 2004 года... Пад канец фінскага жыцця праехаў на пачатку верасня ўсю Фінляндыю з поўдня на поўнач — праз Тампэрэ, Ювэскюль, Оўлу, Раваніемі, Муонія, Кілпісьярві — да Тромсё ў Нарвегіі. Самае нечаканае ў дарозе — зялёная даліна ў гарах уздоўж нарвежскіх фіёрдаў Ледавітага акіяна. Пасля пустой тундры Лапландыі перакочваеш за Кілпісьярві перавал — і раптам такое... Палі, гароды, выганы — толькі што вінаград

не расце. Вось табе і поўнач... Хоць і павявае ўжо сіберам — і паўночная ноч на падыходзе.

Нарвегія — адзіная краіна ў сённяшнім свеце, якая не мае замежнага доўгу. Калі б толькі наяўныя грошы, якія там ёсць, падзяліць на ўсіх нарвежцаў з дзецьмі ўключна, дык на кожнага б выйшла па сем мільёнаў еўра.

Краіна не проста выглядае багата — яна багата жыве. Куфаль піва ў Тромсё каштуе амаль столькі ж, колькі ў Хельсінкі паўлітэрак гарэлкі. У барах не надта пасядзіш... Таму сеў я на беразе Ледавітага акіяна і — ад няма чаго выпіць — стаў капаць на берагавой лініі ямку. Далані на тры ў шырыню і даўжыню. Выкапаў і пайшоў, а ямку заліла вада.

Нібыта нічога не сталася... Калі не лічыць таго, што павялічыў я паверхню Паўночнага Ледавітага акіяна. Далані на тры ў даўжыню і ў шырыню...

* * *

ЖЫЦЦЁ

*Раман у 2-х частках*

Толькі ўстаў, а дзень пад вечар.

*(Канец першай і другой часткі)*

* * *

Канфуцыя спыталі:

— Ці можна дазнацца, што было раней за неба і зямлю?

— Можна, — адказаў Канфуцый. — Раней было тое ж, што і цяпер.

* * *

«Свет ёсць тое, што адбываецца, — сцвярджае Людвіг Вітгенштэйн. — Нешта можа адбывацца альбо не адбывацца, а ўсё астатняе станецца тым жа самым».

* * *

Я не думаю пра вечнасць, яна сама падумае пра мяне.

* * *

Калі ніхто не ведае, якая розніца паміж струннай групай і вівісекцыяй, дык струнная група пра гэта таксама не ведае.

* * *

Інтэлект у чалавеку для чаго заўгодна, толькі не для разумення мастацтва. Мастацтва ўвогуле не трэба разумець. Яно не для таго.

* * *

Нічога не сказаўшы, даў зразумець.

* * *

Юрый Кузняцоў прыехаў у Менск, каб спаткацца з Г. Б. Пры сустрэчы я спытаў: «Ты, праўда, толькі дзеля гэтага?..» Ён адказаў: «Нават мімалётная закаханасць закідвала мяне на Сахалін».

Ну, можа быць. Хоць што да мяне, дык як толькі адкрывалася, што тая, якая мне глянулася, штосьці там рыфмуе ці спрабуе рыфмаваць, я мімалётна знікаў.

Праз дзень ці два сядзім у бары гатэля «Юбілейны». Кузняцоў ужо не ў тым настроі, каб «закідвацца на Сахалін», гаворым пра адцягненае. Да нас — яўна з намерам, каб я пазнаёміў яго з Кузняцовым, — падыходзіць А. А., якога ведаў я з часоў літаб'яднання пры газеце «Знамя юности». Вітаецца і гэтак па-свойску, паблажліва пытаецца ў мяне: «Ну, как поживает матчына мова?» — на што Юрый Палікарпавіч касмічна-запаволена, як толькі ён гэта ўмеў рабіць, уздымае вочы, глядзіць і пракідвае: «Пайшоў на..!»

Калі рускамоўна-менскі паэт А. А., для якога рускі паэт Юрый Кузняцоў як быў, так і застаўся недасяжнай зоркай, пайшоў туды, куды яго паслалі, я спытаў Кузняцова, скуль ён яго ведае? Аказалася, ні скуль. Першы раз бачыць. «Але ў профіль, — кажа, — відаць, што мудак і графаман».

У геніяльных паэтаў геніяльная інтуіцыя.

«Гэта глыбінна і прынцыпова важна, што ў беларусаў язык ёсць язык, а мова ёсць мова, не змешана боскае і зямное», — сказаў мне аднойчы імперскі рускі паэт Юрый Палікарпавіч Кузняцоў.

* * *

Нацыянальнае пачуццё хіба лепшае ад іншых? Кахання, сяброўства, бацькоўскіх пачуццяў?.. Канешне ж, не — і ў нармальным грамадстве яго нібыта не існуе. Але гэтак жа нібыта не існуе паветра.

* * *

— Глядзі, — сказаў Барадулін, — помнік ідзе...

Я азірнуўся: ішоў Гілевіч.

З Гілевіча сапраўды ў кожны момант помнік выпірае, асабліва калі ён на трыбуне, дый шпацыруе ён помнікам — і за гэта, ці за нешта іншае, яго можна не любіць, не трываць, як Барадулін не трывае («Навошта дэбаты, навошта падлікі: Гілевіч — цыбаты, а Быкаў — вялікі»), але мне чамусьці часцяком згадваецца адзін, так бы мовіць, відэакадр: стаяць каля Дома ўрада Шушкевіч, Карпенка, Гілевіч, усе трое высокія, плячыстыя, магутныя, волаты дый толькі, і іх абцякае ручаінамі дробненькі саўмінаўскі люд...

Я падумаў тады, што гэткую б беларускую ўрадавую троіцу проста паказваць свету, казаць: глядзіце, во яны якія, беларусы! — і нічога ў знешняй палітыцы болей не трэба было б рабіць. А то драбнаты ўсялякай аднекуль панасыпалася — і ўсё круціцца пылам...

* * *

Савецкі Саюз не аблайвае сёння хіба лянівы: суцэльны ГУЛАГ, імперыя зла... Так, СССР быў і ГУЛАГам, і быў імперыяй. Але не толькі. У ім былі яшчэ, апроч усяго іншага, найвялікшыя ў чалавечай гісторыя літаратурныя падмосткі — ад Хабараўска да Брэста. І на іх стаялі паэты. У канцэртных і тэатральных залах, у палацах спорту, на стадыёнах. Стадыёны раўлі, выбухалі авацыямі, заміралі ў знямелай цішыні.

Дзе і калі яшчэ было такое?..

Паэзія ў той час была хутчэйшай за сам час. Як вецер перад цягніком.

* * *

Паслясавецкая будоўля новага савецкага мінулага.

* * *

Спектаклі па п'есе Карнейчука «Фронт» ставіліся ў 1942 годзе не толькі ва ўсіх чатырох, колькі іх працавала тады ў Маскве, тэатрах, спекталь быў пастаўлены і ў Берліне.

Барыс Пастарнак схадзіў на мхатаўскі спектакль, сказаў: «Калі б такімі п'есамі можна было выйграваць бітвы, я б глядзеў іх штодзённа. А калі нельга, дык нашто іх ставіць?..»

Немцы ў 42-м годзе нават прамову Сталіна да 25-й гадавіны Кастрычніцкай рэвалюцыі надрукавалі. З купюрамі, але надрукавалі.

* * *

«Што робіць ваяр, — пытае  Кастанеда, — калі бачыць, што яму канец?.. Ён робіць *тое самае*».

Гэта называецца *бездакорнасць*.

* * *

Гейдар сцвярджае, што ёсць ГЭТА і ёсць ІНШАЕ. І ўсё.

Але і ГЭТА, і ІНШАЕ — не ЎСЁ.

* * *

Жывеш сабе — і ты маркіз дэ Гіз.

* * *

«Данос слугі перажыве Вальтэра», — казаў грамадзянін Фушэ, міністр паліцыі ва ўрадзе Дырэкторыі, які ўсё ведаў пра даносы. «Худы з землянiстым тварам трупа і душой дэмана, драпежным носам, усмешкай у тонка сціснутых губах, з валасамі і бровамі без колеру і бясколернымі, рыбінымі вачыма», — як апісвае яго Бамаршэ. І відаць з апісання, як першы драматург Францыі баіцца галоўнага паліцыянта, бо ў Фушэ на Бамаршэ — шафа даносаў.

Бамаршэ казаў: «Калі выдаць сапраўды поўныя зборы твораў нашых пісьменнікаў, дык самым аб'ёмістым у многіх будзе апошні том з залатым цісненнем: “Даносы”».

* * *

На майго бацьку пісалі і пісалі даносы. Усё маё жыццё, ад самага дзяцінства, пазначанае чорнымі меткамі гэтых даносаў і ўсім тым, што было за імі. Крыкамі бацькі: «Падлюкі! Сукі!..» Стрэламі з пісталета — калі ён дазнаваўся, што зноў нехта нешта на яго «намаляваў». Праз гэта — мая нянавісць да сексотаў. Данос для мяне — тое, у чым выяўляецца чалавечая подласць.

* * *

Патэлефанавалі з Радыё «Свабода» з просьбай сказаць штонебудзь пра «Крыніцу», першую і другую — у службе аналітыкі надумалі рабіць нейкі матэрыял...

Не сказаў нічога, а ўспомнілася адно: як ляжаў у шпіталі, амаль нерухомы — і прыйшоў Р. па мой подпіс пад лістом у гараж, каб выпусцілі адтуль рэдакцыйную машыну: пакатацца ім закарцела. У мяне рука паралізаваная, а ён кладзе на маю руку сваю — і ў дзве рукі мы выводзім подпіс...

У той дзень я не ведаў яшчэ, што гэтаксама, паклаўшы адзін аднаму руку на руку і ўсе разам паклаўшыся на руку С., яны напісалі на мяне данос.

З тым Р. пабег — і за ўвесь час, пакуль качаўся я ў шпіталі, болей ні разу і ні з чым не забягаў.

Хоць бы дзяжурны яблык прынёс.

* * *

Я стрымана адношуся да Алеся Сцяпанавіча Разанава — ён стрымана адносіцца да мяне. Прычына — у тым, што сталася ў рэдакцыі «Крыніцы» ў 1999 годзе. Магчыма, тое, што сталася, мы абодва перабольшылі: яно не павінна было стаць прычынаю ўзніклай паміж намі стрыманасці. Магчыма. Цяпер позна разбірацца. І без патрэбы, бо ўсё гэта — пыл над дарогай, які, няхай праз стрыманую, але ўсё ж павагу адзін да

аднаго, найперш да таго, што кожным зроблена, мы стараліся асабліва не ўздымаць. Так, мы, аддаляючыся, разышліся, але разышліся ў адным накірунку. І калі будуць лічыць па вялікім рахунку, нам залічыцца дарога, а не пыл над ёй.

* * *

Найпершая якасць, якая вызначае эстэтычны, мастацкі ўзровень паэзіі, ёсць этычны, чалавечы ўзровень паэта.

Маецца на ўвазе не тое, што паэт не п’е, не паліць, не гуляе, а тое, што ён не боўтаецца ў часе, як г.... у палонцы.

Што верны ён не прызначэнню і таму, хто прызначыў, а Прадвызначэнню і Таму, хто прадвызначыў.

Што бессаромна цалуе ён усе патайныя пагоркі, далінкі і плаўныя схілы каханай, але не падлізвае нічый азадак.

Што мае ён свае перакананні і прынцыпы — і на тым стаіць.

Што сярод рэчаў, трантаў і ўсяго, што ён прадае, каб неяк жыць, няма прададзеных сяброў.

Што сярод напісанага ім няма даносаў...

«...і сярод ненапісанага таксама даносаў няма», — як дадаваў звычайна Уладзімір Караткевіч.

* * *

Грузін сябе найлепей пачувае, з’еўшы шашлык з віном, а беларус — зжэршы беларуса з г...ом.

Асаблівасці нацыянальнай кухні.

* * *

Ніл Гілевіч на з’ездзе (пісьменніцкім, 13-м) падышоў у перапынку і сказаў: «У вас, Уладзімір Пракопавіч, занадта жорсткая пазіцыя».

Гэта праз Зянона Пазняка, якога я перад тым (на радзе) прапанаваў вылучыць ад Саюза пісьменнікаў кандыдатам у прэзідэнты Беларусі. Чамусьці Гілевічу (і не аднаму яму) усё, што сыходзіць ад Пазняка, здаецца заўчасным, радыкальным, а значыць, тым, што можа ў выніку пайсці не на карысць беларушчыне.

Я сказаў Н. С., што адзіная мая жорсткая пазіцыя — не мецъ жорсткіх пазіцый, так што я не зусім разумею, пра што ён, на чым і разышліся.

З Гілевічам не аднойчы мы разыходзіліся — і сыходзіліся. Можна яго за нешта (як і мяне, і Барадуліна, які яго не любіць, і кожнага) любіць ці не любіць, але нельга не аддаць належнае: тое, што ён робіць, — на карысць беларушчыне.

* * *

Пачаў пісаць ліст Барадуліну — спачатку са страшнага сну, пасля распісаўся, стаў разбірацца і са з’ездам, і з тым, што яму папярэднічала, але не дапісаў і не адправіў зразумеўшы: без толку.

«Грыша,
прыснілася, нібы другім разам, чаго не можа быць, і я так і сніў, што таго не можа быць, — *і толькі мы ўдвух* — Міхася Стральцова хаваем, і ты кладзешся раптам на дамавіну ягоную, кажаш: “Закапай і мяне, Валодзя...”

Як закапаць, калі ты жывы?.. “Дык мёртвага, — ты даводзіш, — закапаць не штука, во ты жывога закапай, усё адно ж некалі закопваць, не табе, дык некаму, чаго чакаць, на некага работу перакладваць?..” І так неяк проста, як праўду, гэта прамаўляеш, аж я й не ведаю, што мне рабіць, і чапляюся за тое, што так няправільна: аднаму двух закопваць. Ты пытаешся: “А як правільна?” — “А так, Грыша, правільна, як ёсць: удвух аднаго пахаваем, а пасля ўжо, некалі, на пару з некім — аднаго з нас...” Разумею, што кажу абы-што, бо няма ў гэтым аніякіх правіл, я б мог і раней за цябе папрасіцца, і ні закапаным быць, ні закопваць не страшна, але жах як не хочацца аднаму заставацца — і такая палёгка, калі ты, паківаўшыся, усё ж згаджаешся, што так сапраўды няправільна: аднаму двух... І мы ўдвух, як мае быць, даводзім да ладу стральцоўскі грудок, і адно толькі ніякавата, што я цябе нібыта абдурыў...

Ледзь не пазваніў табе ўночы, прачнуўшыся спалохана, але перахрысціўся: пра што казаць? Пытацца, ці жывы?..

Ты жыві, калі ласка, доўга, добра?..

Перасіліўся я апошнім разам у Менску — і халера ўсялякая сніцца, і чорт ведае пра што думаецца. Але здараецца і пра някепскае падумаць: пра цябе, сівы мой дружа... Тут са мной твае “*Палыновыя санеты*”. “І зразумееш на чужых вятрах, што толькі дома ты і быў адзіны. Цяпер, як гук забытае лаціны, наводзіш на сябе самога страх”. І не наводзіў бы, дык сам наводзіцца... Але такой бяды, адолеем.

Я казаў табе пры чужаземцах, што ты найпершы (*вялікіх і геніяльных* пакінем тым, каму надта ўжо хочацца) паэт ва ўсёй беларускай паэзіі, дык так яно і ёсць. Гэта такая ж праўда, як і тая, што я цябе, абдурыўшы ў арыфметыцы, не закапаў...

Але чаму Міхась Лявонавіч прысніўся, як ты думаеш? Раней я ніколі яго не сніў — ні жывога, ні мёртвага. А тут і не зразумеў, які ён... Дамавіна ж і пустой магла быць?

“Мне цяжка быць самім сабой былым. Жарсць сватае маю світанак шэры.

Я ўжо цяпер, як беспрытульны дым, перад якім пазачынялі дзверы”.

Іншым разам, ведаеш, здаецца, што і я ў паэзіі не п’яным пеўнем пракукарэкаў, але ты пацалаваны Богам, Рыгор Іванавіч, і я не зайздросны праз гэта, а шчаслівы... Дзякуй Богу, што пацалаваў Ён беларуса, надта ж мала іх, беларусаў, Ім пацалаваных. Але ж не Ён вінаваты ў тым?.. Самі ўсё думаем, што абцалуемся з усімі і нас ні за што абцалуюць, і з д’яблам хітруем.

Я здагадаўся ўрэшце, чаму мне Стральцоў прысніўся. Мы з ім пра Купалу ўсё гаварылі і гаварылі, пра смерць Купалаву, у Каралішчавічах аднойчы — ночы тры запар. Я кінуў на тры тыя ночы *не даваць яму піць, каб пісаў*, ні чарта ён і да таго тым разам не пісаў, мы пілі, пілі і таўклі, таўклі словы. Ты ж помніш: п’янка яго не змоўчвала і не адурняла, ён Купалу ўсяго ў любым стане напамяць чытаў. Гаварыў ён не толькі за мяне болей, але і талкавей, бо і быў талкавейшы, але ён не ведаў, хто забіў Купалу, а я тады ўжо ведаў — і толькі праз веданне гэтае мне ўдавалася ўтрымлівацца з ім на роўных, на кожнае ягонае слова не разяўляць рот. Таму, мусіць, я нават па п’янцы не прагаварыўся, не сказаў яму *хто*, ды ён і не пытаўся, думаў,

што сам ведае кажучы: *нехта са сваіх*. І зараз я нібыта *мушу* яму сказаць, бо ён мне прысніўся, і сказаць праз цябе, бо ты і прысніўся, дзіўна прысніўся разам з ім, і ты ў мяне пра гэта ў музеі Купалавым пытаўся: Купалу забіў *вершнік без галавы*, К. забіў Купалу, Грыша, скінуў Івана Дамінікавіча ў лесвічны пралёт, данос на яго напісаўшы.

Я казаў табе, скуль мне тое вядома, а калі сам быў спытаўся ў Александроўскай: “Як я, Ларыса Пампееўна, магу ведаць, што гэта праўда?”, яна перахрысцілася: “Хрыстом Богам клянуся”. І сказала, што не толькі ад Панамарэнкі, але і *сама* гэта ведае.

Во каля гэтага ў тую ноч і кружылі мы з Міхасём Лявонавічам...

Якія былі ў Купалы прычыны канчаць жыццё самагубствам? Ніякіх. Ды яшчэ гэтак, сторч галавою, з лесвіцы — пры, так бы мовіць, звычцы да харакіры...

А ў гэбістаў былі прычыны скончыць з ім? На той час — не. “Партызаны, партызаны, беларускія сыны...” Але ж раней *хацелі* скончыць і *помнілі*, як яно не ўдалося... *Такое такімі* не забываецца, аднак каманды ніхто не дае, а без каманды нельга, дык каб жа хто-небудзь узяў ды ўгадаў, *што каму* хочацца, бо да таго ж: што з гэтым нацдэмам *далей* рабіць?.. І знайшоўся той, хто ўгадаў: штатны стукач, якога раздзірала зайздрасць. Той самы, які ўжо даносіў, які шмат чаго ведаў — і таму шмат што ўгадваў *за* і *пра* сваіх гаспадароў. У той момант ведаў найперш тое, што яго ўпікнуць хіба толькі за *перавышэнне паўнамоцтваў,* але даруюць і пакінуць служыць. І яму даравалі, і яго пакінулі на службе, і мы — і ты, і я — з ім за руку здароўкаліся. Вось што ў нашай літаратуры сядзіць, Грыша, вось чаму яе Бог не цалуе, адварочваецца... А калі пацалаваў некага асобна, дык дзякуй і маліся, маліся і дзякуй, што абраў, што выбраў, — і нічога болей не прасі...»

* * *

З ліста Ігара Шклярэўскага да Станіслава Куняева (калі яны яшчэ сябравалі):

«Прочел рецензию Абрамыча *(Барыса Слуцкага, які падтрымліваў Шклярэўскага ад самага ягонага прыезду ў Маскву).*

Я его люблю и уважаю, но он совершенно не понял мой мир. Природа, свобода слов и чувств, мысль во плоти, в чешуе, в росе, в порыве — для него это не мысль, ему надо рассуждение, то есть голая формула, нужны философские потуги и намеки... истинный поэт хрен ложил на все рассуждения... Я разозлился страшно и Абрамычу напишу... он не понимает самого пронзительного — пространство и жизнь, костер и ледяное небо...»

Прыкладна тое самае я напісаў некалі ў лісце да Разанава, але так і не адправіў ліст, парваў. Бо Куняеў, рускі нацыяналіст, хоць і балюча, перакошана, але сябраваць умее (таму і надрукаваў у «Нашем современнике» ўспаміны да юбілею Шклярэўскага «В нашей дружбе и волчьей, и нежной...»), а касмапаліт Разанаў (ніякі ён не беларускі нацыяналіст) — не. Ніяк.

А ўвогуле я пісаў і рваў лісты і да Быкава, і да Барадуліна, і да...

Напішаш, падумаеш — і парвеш.

Парванае не застаецца.

* * *

Актрыса Ранеўская тэлефануе раніцой паэтцы Ахматавай і кажа, што ёй сніўся Пушкін.

— Зараз жа еду, — адказвае Ахматава.

Калі мроіць нейкую супольнасць, трызніць нейкім (паэтавым над побытавым) узроўнем адносін, дык гэтакім.

* * *

У Алега Чухонцава: «Кыё! Кыё! По колена стоя в воде...» Колькі энергіі ў гэтым «кыё» і страшнага *зместу*. А зусім жа не слова. Гук, крык.

* * *

У паэме «Дванаццаць» радок *«Шоколад миньон жрала»* прыдуманы жонкай Блока. У яго было: *«Юбкой улицу мела»*.

Дзеля такой праўкі варта было ажаніцца.

* * *

Чалавека можна выхоўваць у праўдзе колькі заўгодна — гэта не шкодзіць яму маніць.

* * *

Там, дзе ты не сам герой, — там няма герояў.

* * *

«Не кожнаму жыццё да твару». Ежы Лец.

* * *

Калі ў адно сабраць усе заключэнні пра вырад чалавецтва, дык яно паўстане даўно і канчаткова звыраднелым.

Характэрная дэталь: аўтары заключэнняў гэтых, напісаных у розныя часы, пераважна сталага веку. Каля мяжы вываду альбо ўжо на ёй...

* * *

Леанід Дранько-Майсюк, эмпірычным шляхам прыйшоўшы да высновы, што раману «Лабух» можна было б даць назву «Віягра», кажа, што і гераіню рамана можна было б назваць не Лі-Лі, а неяк інакш.

Можна было. Ліліт. Але гэтае імя прыватызаванае ў літаратуры Набокавым.

У мастака Абеля Пана (Прэфермана) ёсць літаграфія «Ліліт». Увогуле гэтых ліліт, лілітак і лілітачак у выяўленчым мастацтве (як і ў літаратуры) хапае, але панаўская Ліліт, бадай, з найлепшых. Жанчына-змяя з даўжэзным хвастом, доўгімі ўскудлачанымі валасамі і сексуальна задаволеным — ва ўвесь рот — смехам на твары: «Зноў спакусіла!»

З найлепшых таксама, хоць і зусім іншая, Ліліт на барэльефе Сабора Парыжскай багамаці. Тут жанчына-змяя ў Эдэме на дрэве пазнання, ствол якога яна абвіла хвастом. Каля яе, надкусваючы яблык, стаіць Ева, якая яшчэ адзін яблык падае Адаму. Барэльеф выраблены так, што яблык, які Ева трымае зверху, а Адам знізу, можна прыняць і за кончык сука на дрэве, і за нешта іншае... Гэтая сабораўская Ліліт ні ў чым не падобная на Ліліт з літаграфіі Пана, апроч аднаго: на яе твары тая ж гранічная сексуальная насалода і задаволенасць: «Спакусіла...»

Ева, як вядома з запісу ў дамавой кнізе Эдэму, другая жонка Адама. Першай была Ліліт.

* * *

Сюжэт. Бацька і сын — адвакаты. І за савецкім часам усё ў іх файна, а за паслясавецкім — яшчэ лепш. Грошы не пераводзяцца.

«Але ўсё да пары, — вучыць бацька сына. — Таму, калі ўхапіў рубель — трымай. Каб ніхто не вырваў: ні жывы, ні мёртвы. Помні: усё, апроч грошай, пясок».

Бацька памірае. Сын, каб грошы не вырваў мёртвы, падлічвае, як правесці бацьку ў апошні шлях найтанней. Спальвае яго ў крэматорыі. Урну з прахам забірае дахаты.

Злодзеі залазяць у кватэру. Шукаюць золата. Знаходзяць пясок, пыл нейкі ў урне. Высыпаюць на падлогу.

— У, зладзюгі! Абрабавалі ды яшчэ пяску столькі ў хату нацягнулі!..

І падмятаецца падлога — і ўсё жыццё ў сметніцу.

* * *

Сюжэт. З рэальнага жыцця (вёска Лідзіна Старасельскага сельсавета Шклоўскага раёна).

Маленькі, гарбаты, апрануты ў фрэнч і галіфэ, запраўленыя ў боты, з пугай за галянішчам і складзенай газетай у руках — Пятро Каспячэнка. Збірае па хатах малако і возіць у раён на малаказавод.

Жонка — на дзве галавы вышэй за яго, здаровая, жылістая. Ён напіваецца штодня, кожнага разу яе мяцеліць. Спрабуе ў пысу даць, дастаць не можа, камандуе:

— А ну, зэдаль сюды!..

Яна прыносіць зэдаль, ён стае на яго. Жонка падстаўляецца і просіцца: «Пецяя, ну, не бі, ну, не бі...» Ён у пысу ёй, у пысу! Калі, п’яны, падае, яна падымае і шкадуе: «Ой, Пеценька мой, моцна пабіўся?..» І нясе ў ложак.

У хаце, парог у якой — тры бярвяны, за якія кожны раз чапляецца і завальваецца п’яны гаспадар, жывуць усе разам: ка-

рова, свіння, гусі з курамі. Гаспадар ні чарта па гаспадарцы не робіць, толькі малако возіць ды газету чытае.

У горад ездзіць! Граматны! Адзін такі на ўсю вёску. І яна цягае яго ўсё жыццё на сабе, каб ён яе лупіў...

* * *

Беларусь — лікёра-трактарны завод.

* * *

Дыялог.

— Ды я... ды вас... — жабай пачаў надзімацца Кныш.

— Не лопні ў порткі, — сказала Вера.

* * *

Вера (развёўшыся): «Мяне ранкам ніхто не мучае, нават кашаль».

* * *

Яе папрокі ён абвяргаў падарункамі.

* * *

Сустрэў К-га. Ён стаў такім змаршчыненым, што выглядае мудрым. Але як пачаў прамаўляць...

Мудрасць не ў зморшчынах, а ў звілінах.

* * *

З дзяцінства ўспамін: зайшоў госць у падворак дзедавай хаты ў Крэве, выпіў вады са студні. Сказаў дзеду: «Смачная, Ясь, вада!»

Я пасмакаваў: вада як вада. Ніякая.

Вада не мае смаку.

Праз гады зайшоў у той жа падворак, выпіў вады з той жа студні. Сказаў стрыечніку: «Смачная, Лявон, вада!»

Стрыечнік дапіў з кубка апошнія кроплі: «Дзедава...»

Вада мае смак.

* * *

Чалавек і сам памылка, і створаны пераважна для памылак.

* * *

Можна было б напісаць нешта пад назвай «Папярэдні раман». Спасылаючыся ў ім на тое, што нібыта ўжо вядома з папярэдняга рамана.

* * *

Самапераробка Купалы:

Падымайся з нізін, сакаліна сям'я,
Над крыжамі бацькоў, над курганамі,
Занімай, Беларусь маладая мая,
Свой пачэсны пасад між славянамі!

Курганы пасля праўкі становяцца *нягодамі*, а славяне робяцца *народамі*.

* * *

Шмат без чаго, напісанага Купалам, можна было б абысціся, а без самога Купалы — не.

* * *

9 ліпеня 2006 года мастакі Уладзімір Вішнеўскі і Рыгор Сітніца наладзілі ў Крэўскім замку каралеўскае свята. Каранавалі караля паэтаў. Пасадзілі на трон — Вольга трымала над галавой караля вянок...

Потым сабралі і ўмуравалі ў сцяну замка 60 камянёў.

Так мае шэсцьдзясят гадоў паклаліся ў шэсць стагоддзяў.

* * *

Стрыечны брат памёр. Яўген Магер. Ён маладзейшы за мяне амаль на дзесяць гадоў, а вось...

З усіх братоў ён быў найбліжэй мне. Можа, праз тое, што мы абодва «галавой стукнутыя». І ў метафарычным, і ў найпро-

ставым сэнсе. Мяне дзядзька некалі над парожным каменем падкінуў і не злавіў, а трохгадовы Жэня зрынуўся з трэцяга паверха шпіталя, з якога вырашыў уцячы.

Вось уцёк адусюль...

Займаючыся матэматыкай (кандыдат навук), ён быў паэтам.

Чаму ён першы?..

У царкве, калі адпяялі, я памаліўся за астатніх братоў і папрасіў Бога, каб браў па чарзе.

* * *

У дзяцінстве я прыдумаў штосьці геніяльнае. Нешта такое, з чым чалавецтва магло б зрабіць гэткі самы крок наперад, як з вынаходніцтвам кола. Але я забыўся: што?..

Запомнілася іншае. Такое, на што чалавецтву напляваць. Напрыклад, як Клаўдзія Шульжэнка, па радыё абавязкова народная артыстка СССР, спявала: «Не говорите такие слова, я ведь могу рассердиться!..» І я думаў: «А хто ёй кажа такія словы? Народнай артыстцы СССР? Ленін ці Сталін?.. І што будзе, калі яна раззлуецца?..»

Цяпер пытанне: ці мог такі хлопчык прыдумаць нешта кшталту кола?..

* * *

Бліскучая фраза (хутчэй за ўсё французская прымаўка) у фільме Жана-П’ера Жэнэ «Амелі»:

*«Калі палец указвае ў неба, толькі асёл глядзіць на палец».*

* * *

Вось тэкст:

«Пясняр вёскі (*маецца на ўвазе Купала),* прыкаваны к зямлі змалку, жывучы ёю, думаючы аб ёй наяву і ў сне, большую вагу сваіх думак пасвячае ідэалу жадання зямлі, свабоднае працы на ёй. *(Слабак ён, вынікае, пясняр вёскі, хай нават ён Купала).* Работнік якраз мала ўспамінае аб гэтай рэчы: праца

паднявольная ў фабрыцы ці майстэрні родзіць жаданне палепшыць яе варункі, скінуць гвалтоўнасць яе характару, аслабіць. У беларускай літаратуры прадстаўніком гэтага настрою з'яўляецца Цішка Гартны. Фундаментальны матыў яго песні — гэта пачуццё сваёй сілы, сіла ўсяго рабочага класа, які творыць скарбы свету. Вось чаму ўсе мукі яго жыцця — нічога перад яго сілаю і не падрываюць у ім веры і надзей. Зварот чыстых ідэй у дзела — упорна працаю — захапляе ў Цішкі Гартнага сваёю вераю і неперадатнасцю».

Тэкст сапраўды захапляе *неперадатнасцю*.

Хто гэта і пра каго?..

Гэтак Зміцер Хведаравіч Жылуновіч, першы старшыня беларускага часовага ўрада, ён жа пісьменнік Цішка Гартны, кажа ў лекцыі, прачытанай студэнтам Беларускага народнага ўніверсітэта ў Маскве ў 1918 годзе.

Згадаў я гэты тэкст і вярнуўся да яго, каб заканспектаваць, чытаючы артыкул Ніла Гілевіча пра самога сябе пры публікацыі «Лысай гары» ў газеце «Народная воля». І хоць артыкул *неперадатны*, а ўсё ж не надта арыгінальны: усім і ўсяму ў нашай літаратуры нешта папярэднічае.

* * *

Якубовіч неяк казаў мне, што падштурхоўваў Лукашэнку, каб той у знешняй палітыцы да нечага, як вагон да цягніка, прычапіўся: ці да прагабрэйскай палітыкі (бо гульні з ісламскімі краінамі Бліжняга Усходу небяспечныя, ЗША за іх могуць пакараць), ці, на выбар, да палітыкі прапапскай, пакуль жывы Караль Вайтыла.

Вайтыла памёр, застаўся адзін варыянт, без выбару...

На нармалёвых стасунках з Ізраілем, канешне, можна было б рабіць палітыку. Хоць бы настальгічную... Ну, калі ўжо Хаім Вейцман, першы ізраільскі прэзідэнт, з Моталя.

* * *

Бураўкін у каторы раз распавядае пра тое, як яны з Вярцінскім збіралі подпісы пад лістом у абарону Быкава. Але гэтым

разам ва ўспамінах ягоных усплывае даволі цікавы эпізод з Іванам Навуменкам, маім суседам.

Навуменка ліст адразу не падпісаў, пабаяўся... Бураўкін жа з Вярцінскім пастанавілі завяршыць збор подпісаў у нейкі там дзень (Бураўкін сам не памятае, у які?) апоўначы. І ўсё, кропка. Хто падпісаў, той падпісаў. І раптам апоўначы тэлефануе Навуменка: «Генадзь, я перадумаў, хачу падпісаць». — «Хацець ты, Іване, — адказвае Бураўкін, — можаш, але падпісаць — не. Раней трэба было падпісваць, калі мы табе гэта прапаноўвалі, а цяпер позна». І кладзе слухаўку, каб спаць.

Але тут тэлефануе Алесь Адамовіч: «Слухай, толькі што Навуменка са мной гаварыў, ты яму ліст падпісаць не даеш, дык няхай падпіша...» Бураўкін і яму адказвае, што позна, бо ёсць наконт гэтага дамоўленасць. І ёсць прынцыпы ў рэшце рэшт... Зноў кладзецца спаць, але яго падымае званок у дзверы: Адамовіч з Навуменкам. Адамовіч кажа: «Дай ты яму гэты ліст падпісаць, бо да раніцы тэрор будзе...»

Навуменка падпісаў і сказаў:

— *Цяпер я магу жыць у згодзе з сумленнем.*

Я перапытаў: «Так і сказаў?» — і Бураўкін кіўнуў: «Слова ў слова. Вось такі быў некалі Іван...»

* * *

Ляжу ў адной шпітальнай палаце (дыягназавалі прадінсультны стан) з Аляксандрам Сімуравым, колішнім карэспандэнтам «Праўды» ў Беларусі. Зараз яму (жнівень 2007-га) 86 гадоў — і ён, як кропельніца над ім ці вуця пад ягоным ложкам, поўны ўспамінаў. Слухаю — і яшчэ раз лаўлю сябе на думцы пра дэтэрмінаванасць таго, што і як мы помнім.

Ёсць дзве легенды пра двух беларускіх партыйных функцыянераў як пра ратавальнікаў і абаронцаў беларускіх літаратараў. Адна пра першага сакратара партыйнага ЦК Панцеляймона Панамарэнку, нібыта ратавальніка многіх, найперш Коласа і Купалы, другая — пра сакратара ЦК па ідэалогіі Аляксандра Кузьміна, ратавальніка Быкава і Адамовіча. І калі Колас з Купалам сваю ўдзячнасць Панамарэнку ніяк не засведчылі, дык

і Быкаў, і Адамовіч, згадваючы ў сваіх запісах Кузьміна, хоць і стрымана, але кіўнулі: так, удзячныя. За ўзнагароды, за тое, што выдавацца дапамагаў...

У Сімурава з Кузьміным нешта, мусібыць, некалі не склалася (хоць абодва яны Аляксандры Трыфанавічы). І Сімураў, лежачы насупраць мяне на шпітальным ложку, згадвае зусім іншае.

— Калі ўсчалася валтузня з Быкавым праз аповесць «Мёртвым не баліць», звоніць мне Кузьмін: «Зайдзі!..» Прыходжу, яшчэ ў парозе стаю, а ён адразу: «Трэба Быкава ў “Праўдзе” адмяцеліць. І наогул у цэнтральнай прэсе біць яго часцей, бо ён гэткі ж вораг, як Сахараў ці Салжаніцын. А для нас яшчэ і большы».

Кажу Сімураву, што, магчыма, Кузьмін дым пускаў. Наўмысна для Масквы... Бо я таксама яго збольшага ведаў, і па натуры не выглядаў ён на чалавека, які ў адно вуха кажа адно, а ў другое — другое.

Сімураў кажа: «Добра, давайце пра натуру... Калі жывы быў першы сакратар ЦК, начальнік Кузьміна і ўсяе Беларусі Машэраў, былы нібыта партызан і нібыта герой, дык Кузьмін ініцыяваў стварэнне філіяла музея Вялікай Айчыннай вайны ў Расонах. У школе, дзе калісьці Машэраў настаўнічаў. Музей мусіў распавядаць пра гераічную партызаншчыну, а значыць... зразумела, пра каго. І Кузьмін невылазна ў Расонах сядзеў, каб найхутчэй разгарнуліся новыя старонкі кнігі па гісторыі партызанскай вайны. А загінуў Машэраў — і не трэба ніякіх новых старонак, ніякіх музеяў. Бо Ціхан Кісялёў, які змяніў Машэрава, не надта Пятра Міронавіча любіў, паколькі надта доўга быў другім у ягоным цыбатым цені. І калі дырэктар музея прыехаў у Менск прасіць грошы, якіх зусім мала ўжо трэба было, каб усё да ладу давесці, Кузьмін пагнаў яго ў каршэнь: які, на хрэн, музей, хто там, на хрэн, герой?..

Больш за тое: калі на гібель Машэрава амаль ніяк не азвалася Масква, і нават папаўзлі чуткі, што аўтакатастрофу беларускаму кандыдату ў Палітбюро ЦК КПСС наладзіў КДБ, дык Кузьмін пра тое, што ніякі Машэраў не герой, публічна заявіў на рэгіянальнай нарадзе карэспандэнтаў цэнтральных газет, якая праходзіла ў Менску. Калі б, маўляў, героем быў, дык не

адмаўлялі б яму тройчы ў прысваенні афіцэрскага звання. Ён жа спачатку ў запеччы сядзеў, а пасля ў немцаў быў. Што ж ён у іх рабіў, калі не супрацоўнічаў? І бацьку ягонага пасадзілі яшчэ да вайны як антысаветчыка...»

Сімураў не выдумляе, ён праўду ўспамінае. Але ці ўспомніў бы ён гэтую праўду, калі б Кузьмін з ордэнам яму дапамог ці з якой прэміяй, неяк аблашчыў?.. Наўрад ці. А калі б і ўспомніў, дык маўчаў бы, як поўная вуця пад ягоным ложкам.

Між іншым, Генадзь Бураўкін прагаласаваў некалі супраць прысуджэння яму (Сімураву) Дзяржаўнай прэміі БССР за кнігу пра Балгарыю. І Сімураў да гэтай пары слова ў слова (хоць сам жа не чуў, нехта яму пераказаў) памятае тое, што прамовіў Бураўкін: «Калі кніга пра Балгарыю, дык няхай балгары і даюць яму прэмію, пры чым тут Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка?..»

Такое не забываецца. І Сімураў ледзь стрымліваецца, каб не ўспомніць пра Бураўкіна «з усёй цеплынёй», але, асцерагаючыся, што я магу пераказаць, кажа толькі, некуды ў шпітальную столь гледзячы: «Няпросты чалавек Генадзь Мікалаевіч...»

* * *

Выпісаўся са шпіталя і паехаў на лецішча да Бураўкіна. Адсвяткаваць ягоны 71 дзень нараджэння. Па дарозе згадаў, як святкавалі 70, і як мяне гняло, што ўсе пастарэлі. І ён, і Рыгор, і... Карацей, я праз гэта набраўся і таму ні чарта болей не помню, апроч таго, як гняло і як праз гэта набраўся.

Гэтым разам не піў, а Генадзь Мікалаевіч выпіў. Не так, як я мінулым разам, але ўсё ж... І пачаў казаць мне, калі ўжо падняліся з-за стала і на вуліцы шашлыком закусвалі, што ўсё правільна я рабіў, спрабуючы некалі Лукашэнку на наш бок перацягнуць. Удала ці няўдала рабіў — гэта іншая справа, але правільна. Шкада, што не давёў усё да нейкага лагічнага канца. Зноў жа, невядома, да якога...

Думкі такія з'явіліся ў галаве Генадзя Мікалаевіча пасля таго, як Вітаўт Кіпель давёў яму, што зацятая канфрантацыя з уладай — не самае лепшае, а самае горшае з таго, што мы,

літаратары, маглі зрабіць і зрабілі на шкоду Беларусі і беларушчыне. Васіль Быкаў, ён, я... Тую ж самую памылку дапусціў перад намі Зянон Пазняк, і гэта стала нібыта ўзорным стылем паводзін апазіцыі, а насамрэч — рамантычнай дуратой. Сапраўдная палітыка — гэта перш за ўсё гнуткая сістэма дамоўленасцяў і кампрамісаў. Такім шляхам чалавецтва і прыйшло да дэмакратыі, якая і ёсць не што іншае, як сістэма кампрамісаў. І калі б мелі мы хоць нейкі палітычны досвед, нейкую школу дэмакратыі, мы б таксама пайшлі гэтым шляхам. Дамаўляліся б з уладай, каб не ўсё беларускае згубіць, каб нешта змяніць да лепшага.

Прыблізна тое самае (толькі ўжо не пра мяне, а ўвогуле пра нейкую нескарыстаную магчымасць) Бураўкін паўтарыў, калі да нас падышоў Аляксандр Старыкевіч. Той катэгарычна не згадзіўся: «Нічога і ніхто, ні вы і ні Быкаў не змаглі б зрабіць, каб нешта ў Лукашэнку змянілася. Так што няма пра што шкадаваць».

Ён адышоў, а Генадзь Мікалаевіч наліў па кілішку: «Давай вып’ем і падумаем...»

* * *

Любы чалавек замкнёны на болей хітрыя замкі, чым любы самы хітры сейф.

* * *

Зачасціўшы апошнім часам на судовыя пасяджэнні, паглядзеў я на аднаго суддзю (які Казуліна судзіў), на другога, на трэцяга... Можа быць, яны і думаюць пра сябе, што яны суддзі, але ніякія яны не суддзі. Бо суддзя — гэта найперш вольны чалавек, незалежны ў сваіх рашэннях ні ад каго і ні ад чаго, апроч закона. Гэтыя ж, якія, можа, думаюць, што яны суддзі, не вольныя людзі, а парабкі, халопы, і закон для іх — жаданне пана.

Ім нават не скажаш: «Некалі вам сорамна будзе дзецям сваім у вочы глядзець», — бо ў іх вачах і не начаваў сорам. Гэтаксама, як сумленне ў душы ці гонар у сэрцы.

Адно слова — смерды.

* * *

Памёр Барыс Ельцын.

Ён зрабіў дзве рэчы: даў свабоду і аддаў уладу, чаго да яго ў Расіі ніхто не рабіў.

Я сустракаўся з ім толькі аднойчы: у Свярдлоўску, дзе ён быў першым сакратаром абкама партыі. Там праводзіліся дні літаратуры, і пісьменнікам, як яно скрозь вадзілася, наладзілі спатканне з галоўным мясцовым начальнікам.

Ідучы на сустрэчу з гаспадаром такога кавалка зямлі, на якім магло б размясціцца немаведама колькі Люксембургаў і Ліхтэнштэйнаў разам узятых (пра што, выступаючы, Ельцын, канешне ж, не прамінуў сказаць), я меў пра яго наступную інфармацыю.

Акторка Свярдлоўскага драматычнага тэатра распавяла мне гісторыю пра тое, як нейкі маскоўскі тэатральны мэтр (здаецца, М. Ульянаў), сказаў Ельцыну, прыехаўшы ў Свярдлоўск, што ўсё тут файна, адпавядае ідэалам, вось толькі тэатр не на ўзроўні, не адпавядае... І Барыс Мікалаевіч адразу распарадзіўся ўзровень падняць. На столькі, каб адпавядаў.

Пачалі разбірацца, у чым прычына неадпаведнасці? Аказалася, у тым, што на службу акторы з’яўляюцца не з самай раніцы, як увесь працоўны люд, а хто ўдзень, хто пад вечар. Тады пад’ёмам тэатральнага мастацтва Барыс Мікалаевіч заняўся сам: кожным ранкам, едучы ў абкам, стаў, як той ваявода з дазорам, заязджаць у тэатр. Пад гэты час усе павінны былі быць на сваіх месцах: вахцёры — на вахце, акторы — на сцэне. Кіпець у рэпетыцыях, гарэць у творчых пошуках...

Калі ваявода з’язджаў, тэатр разыходзіўся дасыпаць. Каму бліжэй — тыя па хатах, каму далей — па грымёрках. Бо пасля вечаровых спектакляў, ды калі яшчэ яны прэм’ерныя, ды з банкетам — усё ў табе без ніякіх рэпетыцый і творчых пошукаў гарыць ранкам і кіпіць.

Апроч гэтай «культурнай» інфармацыі, меў яшчэ я інфармацыю, так бы мовіць, палітычную.

Са Свярдлоўска нас на самалётах і верталётах сталі перакідваць з месца на месца для сустрэч з працоўным людам. Нейкі час быў я ў пары з рускім празаікам Юрыем Скопам (у той час даволі папулярным), пасля застаўся адзін. З поўдня на поўнач плыла і плыла ўнізе бясконцая прастора з рэдкімі агнямі паселішчаў: Верхні Тагіл, Ніжні Тагіл, Ніжняя Салда, Верхняя Салда, Верхняя Тура, Ніжняя Тура, Новая Ляля, Качканар, Ваўчанск, Ашмар’я, якую ўсе называлі Кашмар’яй, а за ёй ужо, здавалася, край свету... Усё гэта ляцела, мільгала, праводзіла-сустракала, панура збіралася на сустрэчы ў клубах, бытоўках, у нейкіх дамах без дахаў, а то і ў чыстым полі: «Мы шчаслівыя, што сёння ў нашым Ваўчанску...» — і вось ці ў тым Ваўчанску, ці ў Новай Лялі сустрэўся мне сакратар гаркама партыі з барадой, як у папа. Дый не ў кожнага папа такая — проста лапатай барада... А тады, калі партыяй і краінай кіравалі чыста паголеныя Брэжнеў і Суслаў, хутчэй можна было са снежным чалавекам сустрэцца, чым з барадатым партыйным сакратаром. Да таго ж ён аказаўся земляком, сынам выселеных у 30-я гады ў Сібір беларусаў (шкада, прозвішча ягонае недзе згубілася, засела ў памяці *Багамякаў,* але гэта пазней, гэта ўжо Цюмень, дзе Багамякаў быў такім жа начальнікам, як Ельцын у Свярдлоўску). Я дзівіўся з партыйнай барады, разумеючы, як няпроста яна земляку майму (няхай сабе прозвішча ягонае будзе *Барадач*) далася, а паколькі зямляцтва схіляе да больш даверлівых, чым звычайна, размоў, дык я не вытрываў і спытаў: як?..

Як і трэба было чакаць, на яго пісалі, даносілі — і справа ўрэшце дайшла да бюро абкама. Сакратар па ідэалогіі ставіць пытанне рубам: ці барада, ці партыя. Барадач адказвае, што не бачыць антаганізму. Чаму не могуць быць і партыя, і барада?.. Пытанне ставіцца на галасаванне, і, канешне, партыйная кар’ера Барадача скончылася б, калі б не Ельцын, які пажартаваў перад галасаваннем: «Ды пагаліся ты, дзеўкі болей любіць будуць, панімаеш...», — а калі Барадач адказаў на гэта, што жанаты, і жонка яго, у адрозненне ад партыі, і бара-

датага любіць, Ельцын раптам спытаўся ва ўсіх: дык ці справа бюро — барада Барадача, ці ўсё ж гэта справа ягонай жонкі? Тым больш, што барада ў партыі — не навіна, і яна ніяк не супярэчыць марксісцка-ленінскай філасофіі.

Барадач застаўся і ў партыі, і пры пасадзе.

Маючы ўяўленне пра Ельцына як пра (няхай і своеасаблівага) прыхільніка мастацтваў і абаронцу правоў чалавека, я спытаў на сустрэчы ў абкаме: а як у Свярдлоўску са свабодай творчасці і разнастайнасцю мастацкіх накірункаў? Спытаў не для таго, каб адказ пачуць, а каб і яму, і нам павесялела, бо задурэлі ўжо ўсе ад паказальнікаў эканамічнага развіцця. Ельцын пытанню ўзрадаваўся. «У нас са свабодай творчасці — свабода. Тыя ж, хто йдзе няправільным накірункам, яны ў нас...» — узняў і сціснуў ён свой, пасля на ўвесь свет знакаміты, кулак, і тут з-за дзвярэй, у якія выйшлі, зняўшы дазволенае, тэлевізійнікі, гэткі крык, нібы рэжуць некага: «А-а-а!..» Ельцын робіць паўзу, глядзіць на свайго памочніка, той выскоквае ў калідор, вяртаецца і кажа, што там у тэлевізійнікаў асвятляльная стойка ўпала, гарачым сафітам прыпякло некага, але нічога страшнага, жыць будзе, і Ельцын заканчвае, кулак на стол апускаючы: «Яны ў нас вось так... Артысты, панімаеш...»

* * *

З'ездзілі ў Глушу (Бураўкін, Букчын, Гарэцкі, Вярцінскі, Законнікаў, Тычына, Тарас, Наталля Адамовіч... чалавек сорак), каб адзначыць 80-годдзе Алеся Адамовіча. Быў слаўны восеньскі дзень з сонцам і дожджыкам, наогул было ўсё гэтак хараша, як рэдка бывае. Гаварылі пра Адамовіча на могілках, у клубе, у застоллі... Калі вярталіся ў Менск, Валянцін Тарас, ужо трохі нападпітку, раптам спытаў: «Як думаеце, чуў нас Алесь ці не?.. Я дык па літарах на камяні на ягонай магіле, *А-л-е-с-ь А-д-а-м-о-в-і-ч*, загадаў: чуе, не чуе? Чуе, не чуе?.. Выйшла, што чуе. Нават літара апошняя тая, з якой слова гэтае пачынаецца: *ч*уе!»

Нехта спытаў: «А ты мяккі знак улічваў?..»

* * *

У эсэ пра Алеся Адамовіча, вызначаючы ягоны характар, Янка Брыль згадвае, як ва ўсіх літаратурных вандроўках Адамовіч знаходзіў час і месца, каб сілаю памерацца — і не абы з кім, а менавіта з Брылём, самым мажным і дужым з усіх беларускіх літаратараў. Гэта сапраўды было ў характары Адамовіча, інтэлігента ў акулярах, вонкава падобнага на бухгалтара: давесці сваю сілу, перамагчы наймацнейшага.

Іншая рэч, што не заўсёды ўдавалася — і ён страшэнна перажываў. Дый Брыль быў не з тых, хто прайграваць любіў. Калі яны боркаліся недзе ў Прыкарпацці, іх сфатаграфаваў Уладзімір Калеснік і прыслаў абодвум фотаздымкі. Брылю — фотаздымак, на якім ён наверсе, Адамовічу — на якім наверсе ён...

* * *

«Еще я разглядел сигнально вспыхивающее очками лицо летописца ленинградской блокады и партизанских трагедий Беларуси, румяно-воспаленное изнутри от непрерывного пылания гражданского благородства».

Зусім не цяжка ўгадаць, пра каго з беларусаў піша Яўген Еўтушэнка... Гэта і хуткі, як накід алоўкам, і ўдалы, і дакладны партрэт Алеся Адамовіча.

* * *

З Алесем Адамовічам, які вярнуўся з-за мяжы і прывёз французскі каньяк, заходзім да Васіля Быкава. Быкаў давай угаворваць Адамовіча выпіць хоць кілішак «свайго французскага» — той ні ў якую. П’е гарбату, распавядае, як з’ездзіў... Калі развітваемся, глядзіць у люстэрка і пытае: «Табе не здаецца, Вася, што апошнім часам я стаў выглядаць лепшым за свае творы? Па Парыжах катаюся, пра Луўр расказваю. Як Сейфуліна».

Пра пісьменніцу Лідзію Сейфуліну і Луўр — гісторыя вядомая. Яна з’ездзіла ў Парыж, пабывала ў Луўры і, вярнуўшыся, распавяла:

«Ходила-ходила, ой, какая скука! У всех мадонн что-то овечье в лице. Вдруг вижу картину: лежит пьяный дед, ну, мужик,

и возле него некрасивая женщина кормит какого-то дегенерата. Я думала, это шайка хулиганов, а это — “Святое семейство”!»

У аўтабіяграфіі Сейфуліна пісала: «Та интеллигенция, которая работала с Советской властью, делала всё, что надо было... И совершенно так же я сделалась писательницей».

Карней Чукоўскі пра яе казаў: «...пишет она гораздо хуже, чем я думал: борзо, лихо, фельетонно, манерно. Глаголы на концах. Прилагательные после существительных. Но сама она гораздо лучше своих сочинений... Сейфуллина боевая: вечно готова выцарапать глаза за какую-то правду».

Апошняя фраза тут не Чукоўскага, а Сталіна: гэта ён так сказаў пра Сейфуліну.

Яе мужа, таксама пісьменніка, расстралялі, абвінаваціўшы ў тэрарызме.

Яна магла б напісаць пра сябе і пра яго. Пра каханне. Пра любоў і нянавісць. Пра тое, як пражыла жыццё. І мог быць цікавы раман — няхай і з «дзеясловамі на канцах». Але яна пісала пра іншае: пра класавую барацьбу.

За гэта яе ўзнагародзілі ордэнам.

«Калі літаратар значна лепшы за свае творы, дык найчасцей жыццё напісаных ім твораў канчаецца разам з ягоным жыццём, — уздыхнуўшы, кажа Быкаў у адказ Адамовічу. — А ты, Саша, яшчэ й не п’еш...»

* * *

У артыкуле Янкі Пазняка «Барацьба беларусаў з Расеяй» (ці не апошнім, напісаным у 1939 годзе, у якім Я. Пазняка не стала) чытаю:

«Бальшавіцкі гісторык прафесар Шастакоў дык нават намагаецца ўгаварыць беларусам, што яны толькі тады былі шчаслівыя, калі жылі ў лучнасці з вялікім рускім народам».

Цікавае тут не змест (чаго хоча Шастакоў), а форма (граматычная): Шастакоў тое, чаго ён хоча, «намагаецца ўгаварыць беларуса*м*». У дадзеным выпадку гэта, можа быць, і памылка, але ёсць (ці была ды сплыла) у жывой беларускай мове і такая форма. Мая баба Алімпа (якая з Панары пад Крэвам)

казала: «Я ўгаварыла яму...» Давяла нешта некаму, уклала ў вушы.

А што да Шастакова — дык беларусам дасюль тое самае ў вушы ўкладваюць.

* * *

Тэлефануе Наталля Шаранговіч і просіць напісаць успаміны пра Міколу Селяшчука. Выдавецтва «Мастацкая літаратура» выдае кнігу да ягонага юбілею.

Пытаюся: «Наталля, ты хіба не разумееш, што ніякіх маіх успамінаў у дзяржаўным выдавецтве ніхто не надрукуе?» Адказвае, што разумее, але ўспаміны ў кнізе надрукуюць. Яна пра ўсё дамовілася, ніхто не выкіне ні радка.

За радкі не чапляліся. Выкінулі тэкст з кнігі цалкам.

І болей не патэлефанавала мне Наталля Шаранговіч. Я б ёй сказаў: «Нічога, Наташа, такой бяды». Але яна не патэлефанавала.

* * *

«Жыву над акіянам», — часцяком казаў Мікола Селяшчук і гэтаксама сказаў, калі я знаёміў яго з актрысай Святланай Сухавей. І хоць мелася на ўвазе ўсяго толькі крама «Акіян», якая была (і ёсць) у тым доме, на верхатуры якога мясцілася мастакоўская майстэрня, але прамовілася гэтае *жыву над акіянам* так, што ў вачах актрысы ўзняліся хвалі. Сляды іх, памойму, можна заўважыць на партрэце Святланы Сухавей, напісаным Селяшчуком.

* * *

Адну з маіх кніг («Знак аховы») афармляў Мікола Селяшчук.

Мы сябравалі.

Ён паказаў мне макет вокладкі, я спытаў: «А што ты тут намаляваў?.. Дзе тут я?..»

Я не думаў яго пакрыўдзіць... Мне здавалася, што я жартаваў.

Перад тым ён рабіў накіды майго партрэта, і ў яго было некалькі маіх фотаздымкаў. Адзін з іх ён умайстраваў на во-

кладку замест малюнка. Сказаў: «Калі табе больш падабаецца глядзець на самога сябе, дык глядзі».

Прыйшоўшы наступным разам да яго ў майстэрню, я убачыў, што палатно са спробай майго партрэта загрунтаванае.

Такі вось, пры ўсёй знешняй мяккасці, характар. Ці, можа быць, яму таксама здавалася, што ён пажартаваў.

Мы не высвятлялі адносін — проста нейкі час не сустракаліся. Можа, з паўгода, пакуль Яўгенія Янішчыц не запрасіла нас абодвух у госці, каб адсвяткаваць выхад сваёй кнігі «Пара любові і жалю», якую таксама афармляў Селяшчук. У тыя часы з’яўленне новай кнігі сапраўды было святам.

Дома ў Янішчыц была і мая кніга «Знак аховы». Селяшчук узяў яе ў адну руку, кнігу Жэні ў другую, падняўся і спытаў: «Дзе тут я?..»

Ніхто, апроч нас, нічога не зразумеў...

Не помню, хто, ці Жэня, ці Раіса Баравікова, у якой ці не ў той жа год выйшаў у афармленні Селяшчука зборнік вершаў «Такое кароткае лета», спытала яго: «А чаму ты сфатаграфаваў Някляева, а не намаляваў?..» — на што ён адказаў, здзівіўшы калі не ўсіх, дык мяне: «Іх надта шмат, Някляевых, каб намаляваць аднаго». І прачытаў са «Знаку аховы»:

Мой родны!.. Бог табе суддзя.
Суды сабе падобных лепяць.
Якая песня ў лебедзя?
Як лебедзь.

Канфлікт быў, што называецца, вычарпаны. Але да партрэта майго ён так і не вярнуўся, на тым загрунтаваным палатне ўзнікла іншая карціна...

Зусім незадоўга да сваёй трагічнай сустрэчы з Тырэнскім морам ён піша карціны «Загнаны анёл» і «Падарожжа ў Афон». Першая мяне ўразіла, я прыходзіў паглядзець на яе не раз і не два, бо яна была пра тое ж самае, пра што думалася і як адчувалася ў той час мне самому. Можа быць, з банальнай нагоды пяцідзесяцігоддзя: сумнаватай, хоць яшчэ нібыта і палётнай, як у таго анёла, пары падвядзення вынікаў.

Калі ў апошні раз (ва ўсіх сэнсах апошні) выпівалі мы ў ягонай майстэрні каву з каньяком, я сказаў, што з назвамі, канешне, заўсёды праблема. Кнігу, бывае, лягчэй напісаць, чым назваць. Гэтаксама, зразумела, і карціну, але чаму ўсё ж *загнаны анёл?* Ён глянуў на мяне, як мне здалося, сумнавата, нават з жалем: «Не назваць жа было *загнаны Някляеў...*» І ўбачыўшы, як я наструніўся, узіраючыся ў твар анёла, тут жа дадаў, белазуба ўсміхнуўшыся: *«Ці Селяшчук...»*

Другая карціна, «Падарожжа ў Афон», ніяк мяне не зачапіла... Па той простай прычыне, што я і не здагадваўся пра яе існаванне, ён мне яе не паказваў. Не ведаю, чаму...

У 2006 годзе Фелікс Янушкевіч, Уладзімір Тоўсцік, Уладзімір Савіч, Георгій Скрыпнічэнка, Уладзімір Вішнеўскі ды іншыя сябры Беларускай акадэміі выяўленчага мастацтва наладзілі выставу ў менскім гістарычным музеі, якая шчымліва нагадала мне знакамітыя выставы гэтых жа, тады яшчэ маладых, мастакоў на праспекце Машэрава. Сярод іх твораў, выстаўленых у гістарычным музеі, я і ўбачыў упершыню карціну Міколы Селяшчука «Падарожжа ў Афон». Прычым, каб не падвёў мяне да карціны, якая вісела ў не надта асветленым кутку, амаль адразу за дзвярыма пры ўваходзе, Леанід Дранько-Майсюк, дык я б мог яе і не ўбачыць...

...Паміж дзвюма скаламі, адна з якіх, мусібыць, Святая гара з узнесенымі на яе храмамі, як паміж Сцылаю і Харыбдай, — карабельчык. Ён пад ветразем, але пад такім, што ледзь вецер зварухнецца — ветразь сарвецца. На карабельчыку кот, сабака, чацвёра даволі дзіўных мужчын і адна не менш дзіўная аголеная жанчына. Людзі гэтыя, як і прыручаныя імі звяры, быццам бы разам, бо ў адным карабельчыку, і ў той жа час яны — кожны паасобку. Настолькі асобна, што думаеш: калі раптам карабельчык пачне патанаць, то наўрад ці нехта некага стане ратаваць...

Карабельчык нібыта застыў на вадзе, і здаецца, што ніхто з тых, хто апынуўся на гэтым маленькім каўчэгу, не ведае ні таго, куды плыць, ні таго, ці плыць наогул? Хоць з мора паміж скаламі вырастаюць чатыры кветкі, якія кожны з чатырох мужчын, паплыўшы, можа сарваць для жанчыны. Але не падобна,

што ў падарожжа гэтае выбраліся яны па кветкі. На тварах іх адначасна і неспатоленасць, і спатоля, і зблуканае святло парыванняў, і цені стомы, і няўцямнасць, і рэшткі надзеі... Паплылі яны, падобна, нават не для таго, каб даплыць, падняцца на скалу і ўвайсці ў які-небудзь з храмаў... Нейкая іншая ў іх мэта плавання, ці яе зусім няма... Альбо яна ўжо дасягнутая — і яны адплываюць... Над імі, на мачце, чатыры чайкі, гатовыя адляцець... І усё гэта разам: і чацвёра мужчын, і жанчына, і кот, і сабака, і чайкі, і кветкі ў моры, і зблуканае святло парыванняў, і стома, і няўцямнасць, і надзея — называецца, як сведчыць надпіс на борце карабельчыка, — *Ул. Някляеў*.

Адразу ўспомнілася: «Іх надта шмат, каб намаляваць аднаго...» І ажно горла перахапіла: «Ну, Селя...»

Жэст?.. Жэст — ды яшчэ які! Жэст сапраўднага мастака. Не мог жа ён думаць, што развітальны.

Хто ведае: можа, падарожжа нашае сапраўды бясконцае — і ўсе мы яшчэ спаткаемся на карабельчыку, які плыве і да Святой гары, і невядома, куды... І, можа быць, спаткаемся мы не толькі ўсе з усімі, але і кожны з самім сабой.

* * *

Культурны дом. Нацюрморт на кухні.

* * *

Прыклад някепскай сучаснай прозы:

«На Шыкатане, на беразе Ціхага акіяна, на краі свету, не думаецца пра прыгажосць і бясконцасць прасторы, якая называецца планетаю Зямля, не робіцца зразумелай твая нікчэмнасць (быў такі сахалінскі кампазітар з беларускім прозвішчам Нікчэмны, які напісаў знакамітую некалі песню са словамі “На вострaве нармальная пагода...”) ды дробнасць перад магутнымі сіламі прыроды і самою прыродаю ўвогуле, а прыходзіць момант, калі пачынае здавацца, што перад табою проста дэкарацыя акіяна ці шырокі экран кінатэатра і, калі пратканіненую паперу прабіць — за ёю будзе проста цемра, якая ёсць нішто, пачатак пачаткаў ці канец канцоў альбо пачатак канца ці канец пачатку; якая знішчае

ўвогуле ўяўленне пра час і прастору, і ўсялякі пачатак адначасова робіцца канцом, а канец — пачаткам, і ўсё сціскаецца ў кропку і гэтая кропка — ты, адзінокі, забыты ўсімі, пакінуты...»

Гэта пачатак аповесці «Пуціна» Барыса Пятровіча, першае апавяданне якога надрукаваў я некалі ў часопісе «Крыніца».

Аўтар здаваўся мне тады тыповым беларусам. Спакойным, ураўнаважаным. Ціхмяным. Але вось праз гады (ён ужо аўтар некалькіх кніг) гуляем мы ў карты... Мне ўсё адно, прайграю я ці выйграю, бо гуляем так — ні на што. А яму не ўсё адно, ён гуляе на ўсё! І ажно бялее і губы кусае, калі я раблю ход лепшы за ягоны... А калі раптам прайграе, дык кідае карты ўроссып і гатовы мяне кончыць, знішчыць, забіць!

Памыліўся я некалі ў вызначэнні ягонага характару... Зрэшты, ці не ўсе ў гэтым — у адносінах да ўсіх беларусаў — памыляюцца?

* * *

Паміраючы ад раку, Яўген Будзінас напісаў сцэнар свайго пахавання і аддаў жонцы для выканання.

Ні ў якім разе не несці яго ў царкву. І дома — ніякіх папоў, малітваў...

Труну паставіць у ягонай любімай прыстройцы на лецішчы ў любімых Дудутках. Пажадана, каб сталася гэта зімой, — і ён глядзеў бы, як падае снег, але ад сцэнарыста яно не залежыць.

Сталася гэта ўвосень. Падала ў садзе апошняе лісцё.

Ніякай пахавальнай музыкі. Толькі тая, якую любіў. Найперш песні Акуджавы...

З нейкім зусім іншым сэнсам гучала над труной у прыстройцы: «И друзей созову, на печаль свое сердце настрою...» Ці песня Лазы «На маленьком плоту...» Асабліва: «Но мой плот вовсе не так уж плох...»

Далей па сцэнары — развітанне з любімым млынам. Каля млына — развітанне з сябрамі. Тут сказаць, хто і што хоча...

Спаліць у крэматорыі. Моўчкі, без прамоў.

Памінкі справіць у ягоным любімым грузінскім рэстаране ў Сцяпянцы. Успамінаць пра тое, пра што ўспомніць хораша і весела. Як хораша і весела было жыць.

Пахаваць у Дудутках...
Жэня вытрымаў стыль.
На сорак дзён падаў снег.

* * *

Памёр Мікола Сідаровіч.

Жыццё паменела яшчэ на аднаго чалавека, якога я любіў.

З Віктарам Ледзеневым мы зайшлі да яго за тыдзень да смерці. Сітуацыя была ўжо безнадзейнай — і мы, і ён гэта ведалі. Ён сказаў: «Калі вы не хочаце, я не памру». Мы сказалі, што не хочам. Ён абняў нас: «Вось і дамовіліся. Сядаем за стол...»

Ніколі ўжо не спяём мы за сталом: «Махне пералётная птушка крылом...»

Пералётнымі птушкамі адляцелі тыя, з кім звёў некалі лёс у рэдакцыі газеты «Знамя юности». Валера Холад, Алег Лысаконь, Ота Наважылаў, Толя Ярась, Жэня Будзінас...

Калі нехта кажа: «Жыццё губляе сэнс», — што мае на ўвазе? Які сэнс?.. Што мы ў жыцці маем, апроч людзей?.. Што, апроч іх, губляем?..

Больш ніколі не нахіліцца да мяне Коля, не абдыме за плечы: «Ты мне, Воўка, скажы...»

Што сказаць табе, родны?..

Бывай.

* * *

На 9 дзён па Міколу Сідаровічу сабраліся... Пасля з Вілам (Віктарам Ледзеневым) доўга сядзелі ўдвух... Міколу крэміравалі — і Віл, з якім мы ўжо нямала сяброў пахавалі, спытаў: «Ты як хочаш? Каб цябе закапалі ці спалілі?..» Я пацепнуў плячыма: не ведаю, — і Віл сказаў: «Можна не ведаць, як жыць. А ўсё астатняе трэба ведаць».

* * *

Яе муж, палітвязень, абʼявіў галадоўку, патрабуючы, каб пытанне пра ягоную краіну, дзе найпершымі каштоўнасцямі названыя чарка ды скварка, было разгледжана ў Савеце

бяспекі ААН. Калі гэтага не станецца, ён дагаладаецца да смерці.

Муж галадаў тыдзень, другі, трэці, чацвёрты, пагроза смерці стала рэальнай. Хтосьці ўгаворваў яго спыніць галадоўку, нехта чакаў, калі ён памрэ.

Ведаючы ягоны характар, яна разумела, што ён сканае, але ад свайго не адступіцца. Трэба было яго ратаваць.

Яна пайшла да амбасадара адной з самых магутных дзяржаў свету. Не стала казаць пра дыктатуру і дэмакратыю, а выдыхнула: «Калі ён памрэ, я памру таксама, бо не змагу без яго жыць».

Амбасадар адной з самых магутных дзяржаў свету, мусібыць, ведаў, што такое насамрэч ёсць чалавечыя каштоўнасці. Ён накіраваў свайму ўраду дакумент, у якім абгрунтаваў тэрміновую неабходнасць разгляду ў Савеце бяспекі ААН таго пытання, на якім настойваў палітвязень, што і было зроблена.

Палітвязень спыніў галадоўку.

Жанчыну, якая зратавала ад смерці свайго каханага, 27 лютага 2008 года пахавалі на могілках у вёсцы Тарасава пад Менскам. З гэтага дня ў нас з'явілася месца, да якога ўсе і кожны, хто кахаў і кахае, можа прынесці кветкі.

Гэта ёсць тое, што можа стаць легендай. А імя жанчыны з гэтай легенды — Ірына Казуліна, да шлюбу — Сабалеўская.

* * *

Не стала Уладзіміра Будніка... Самага светлага з усіх музыкаў, з якімі давялося мне, абняўшыся, паспяваць у гэтым свеце.

Памёр ён ад раку.

Калі я вярнуўся з Фінляндыі, першым знаёмцам, спатканым у Менску, быў якраз ён. У скверы на вуліцы Сонечнай... Аказалася, з нейкага часу мы суседзі.

Ён быў непахмялёны, папрасіў пазычыць на пляшку. Я ўздыбіўся: «На гэта — не!» Нібы сам кроплі ў рот не браў... Што да іншых, дык мы вялікія выхавацелі.

Калі развіталіся, я, адыходзячы, азірнуўся: ён прасіў на пляшку ў мужыка на суседняй лаўцы. Вярнуўшыся, я даў яму на тую пляшку, каб ён не прыніжаўся, — усё адно ж у некага выпрасіць.

Назаўтра ён патэлефанаваў: «Давай сустрэнемся». Я падумаў: «Во прысуседзіўся, цяпер піць штодня...» А ён вярнуў пазыку. Акуратна складзенымі, але ўсё ж скамечанымі дробнымі купюрамі. Нібы нажабраваў. Я не хацеў тыя грошы браць, але не ўзяць нельга было: ён пазычыў — і вяртае.

Зайшлі да яго, дзе ў вэрлаху амаль бамжацкай аднапакаёўкі стаяў раяль, а яшчэ пісьмовы стол са старадаўнім крэслам. Ён ганарыўся, што такое мае. «Сядай, на ім Радзівіл сядзеў!..»

Я сеў за стол, ён за раяль — і найграў мелодыю... Менавіта *мелодыю*, а не больш-менш рытмічную паслядоўнасць гукаў, якую, як толькі гукі сціхлі, не ўспомніць. Меладызмам і вызначаўся ягоны талент, і толькі ў таленце ён выглядаў чалавекам, які ўсур'ёз нешта цяміць у гэтым свеце, а ва ўсім астатнім быў наіўны, як дзіця.

Помню, як ён паказаў мне мелодыю, з якой узнікла песня «Янка Купала». Рытмічна яна была зусім іншай, чым потым стала (ён спяваў яе са словамі: «БАМ нас чакае, Нашыя сэрцы гукае...»), але ўсё адно гэта была мелодыя, у глыбіні якой хаваўся той драматызм, які і дазволіў напісаць адпаведны тэкст. Буднік не ўспрыняў яго адразу: «Ты што!.. Не пойдзе... Так толькі пра Леніна можна...» Я сказаў: «Валодзя, Купала — наш Ленін». І ён згадзіўся: «А праўда што...»

З «Янкам Купалам», дарэчы, мы некалькі год нікуды не маглі прабіцца, але ўрэшце Шпянёў з Паліводам у аранжыроўцы і Кудрын у вакале гэтак дакладна расставілі ўсе акцэнты, што не пачуць песню не мог ужо нават глухі, — і яна прабіла эфір.

Гэтым разам ён граў і напяваў мелодыю (голас ягоны застаўся ў мяне на дыктафоне) са словамі: «Усё прайшло...»

Аказалася, гэта апошняя ягоная песня.

Калі напісаўся тэкст, я паказаў песню Ціхановічу. Той за яе адразу ўхапіўся: «Няхай Буднік прыносіць клавір». Сталі разам шукаць Будніка. Мабільны тэлефон ягоны не адказваў. Гукаўся гудкамі, акумулятар быў яшчэ поўны энергіі, але ўжо *ўсё прайшло...*

А песня засталася:

З даўняй даўніны
Аблачынамі
Ціха плывуць у небе думы курганоў...
Ты зямля мая
Белакрылая,
Бераг высокі белых буслоў.

* * *

Прачытаў сярод «сведчанняў» міліцыянтаў на судах над тымі, хто святкаваў Дзень Волі (2008), паказанні нейкага сяржанта Рыбакова, якому, між іншым, 33 гады. Затрыманы ім маладафронтавец пытаецца: «А куды ж, у які бок мы ішлі? Вы павінны гэта ведаць, бо Вы кажаце, што мы з Вамі стаялі “твар у твар”»? — і б е л а р у с к і міліцыянт узросту Хрыста крычыць у адказ: «Какой “твар”? Какой “твар”? У меня “лицо”, а не “твар”! Не знаю я никакого “твара”»!

Раптам падумаў, што не заўважаў раней, як яно блізка: т в а р і т в о р. На паверхні ляжыць, а не заўважаў.

Гэты сяржант Рыбакоў (дарэчы, з гэткім жа прозвішчам і суддзя, які прыгаварыў Казуліна, і колішні тэлеідэолаг... нешта шмат падонкаў Рыбаковых) — твор без твару. Недаляпіў Гасподзь.

І яшчэ геніяльны дыялог на судзе (суд над Кацярынай Красновай).

Адвакат: «За что вы задержали девушек?»

Скрыганоўскі (баец спецназу): «Они пытались прокрасться на каток».

Адвакат: «Что значит “прокрасться”?»

Скрыганоўскі: «Не понимаю вопроса».

Адвакат: «Каким образом они шли?»

Скрыганоўскі: «Каким-каким! Путем ходьбы на двух ногах в сторону катка...»

Паўза...

Адвакат: «А как вы их задерживали?»

Скрыганоўскі: «Мы заходили с фронта».

Колькі ні займайся літаратурай, хоць зубы аб яе абламай, а спецназаўца Скрыганоўскага не пераплюнеш.

* * *

Учора (25.04.08) з Бураўкіным ды Іосіфам Навумчыкам (ён прыехаў з Віцебска на пасяджэнне назіральнай рады БХК, дзе і сустрэліся) зайшлі да Гілевіча. Навумчык спяшаўся на цягнік, таму пагасцяваў нядоўга, а мы прабылі разам гадзіны чатыры.

Пасля мікраінсульту Ніл Сымонавіч з кавенькай, кепскавата рухаецца нага, рука... Але ўпершыню ён не жаліўся на здароўе! Здаравейшы быў — толькі і рабіў, што жаліўся, а тут раптам — не.

«Забыўся з радасці, што хворы», — здзіўлена сказаў Бураўкін, калі мы выйшлі.

Бураўкін да Гілевіча (праз ранейшыя між імі рахункі) не надта хацеў заходзіць, а той адкрыта і шчыра быў рады нас бачыць, што Генадзя Мікалаевіча і здзівіла. Не згадваючы аніякіх крыўд (а згадваць іх ён, увогуле, мастак), Гілевіч смяяўся, жартаваў, нават наладзіў (сястра пазавіхалася) невялічкае застолле. І гаварыў, гаварыў кампліменты нам, мы ў адказ — яму, і я ўжо ўстаў з чаркай, каб спытацца: «Госпадзі, дзе ж мы раней былі?..» — але тут Гілевіч сказаў: «Дзякуй Богу, што мы адзін у аднаго ёсць». І я нічога не спытаўся.

* * *

«Глядзяць зялёнымі вачыма, як незанятыя таксі...» — уладзівастоцкія вершы Барадуліна, якія маглі б быць і берасцейскімі. А вось:

...Я стою на краю географии, мира, дня,
И Москва не зла, не суетна, не жестока,
Это просто город, построенный для меня,
Если смотреть на него из Владивостока.

*Ирина Ермакова, «Интерпоэзия», № 1, 2008.*

* * *

У «НН» прачытаў некалі (забыўся ўжо, хто гэта і пра каго): «Жвавы, як пажылы апазіцыянер».

Чорт ведае чаму, але ўспомнілася. На апошнім (2008) Чарнобыльскім шляху.

* * *

Беларускаму Хельсінскаму камітэту не далі правесці з’езд нават у кавярні, з гаспадыняй якой папярэдне пра гэта дамовіліся. Прыйшлі (па словах гаспадыні) два чалавекі і настойліва парэкамендавалі ад дамоўленасці адмовіцца.

Паехалі ў нядзелю (11.05.08) у вёску Забалоцце, дзе жыве Таццяна Процька. Там у яе прыбудова да дома, у якой і правялі з’езд. Вызвалілі ад абавязкаў старшыні (па яе заяве, якую яна пацвердзіла) Процьку і абралі новага старшыню.

Таццяна відавочна нервавалася. «Дзякуй, што вы ёсць і што вы не баіцёся...» І нічога, апроч гэтага сумнеўнага камплімента на развітанне, не змагла (не захацела) сказаць. Дэманстратыўна не ўдзельнічала ні ў абмеркаванні дзейнасці камітэта, ні ў галасаванні.

Пакрыўдзілася. Па-жаночаму ўскрыўдавала.

Мне шкада было яе. Прыняць рашэнне яна прыняла, але, мусібыць, не думала, што яе так лёгка адпусцяць. Хоць адна з дэлегатак папрасіла слова і заплакала: «Таня, не сыходзь, застанься...» Але больш ніхто застацца не прасіў, а тым больш не заплакаў.

З прыбудовы я прайшоў на кухню, дзе гаспадыня каву гатавала. Не стрывала, бразнула нейкай накрыўкай па пліце: «Гэта ўсё маё, я ўсё гэта пачынала, цягнула, а яны хто такія, гаўнюкі?!.»

Я не стаў ёй нагадваць, што Беларускі Хельсінскі камітэт (гэтаксама як і Беларускі ПЭН-цэнтр) пачаўся з Карласа Шэрмана. З ягонай падачы і з ягонай дапамогай. Але потым ужо цягнула камітэт Таццяна, гэта праўда. І я сказаў: «Панервуйся, толькі нядоўга, да раніцы. Бо ўсё правільна. Трэба сыходзіць, пакуль у аглоблях не ўпала. А то твой жа воз цябе і пераедзе».

У Менск я вяртаўся з Мечыславам Грыбам, які спытаў, ці чытаў я ўспаміны Кебіча? «Чытаў». — «І што?» — «Ну, калі

па ўспамінах, дык чысты анёл». — «Вось-вось, і я пра гэта, — сказаў Грыб. — Але ж мы насамрэч ведаем, хто ён такі». — «А хто ён такі?..» На гэта Мечыслаў Іванавіч не адказаў адразу, перапытаўшы: «А мы па той дарозе едзем?..» Потым памаўчаў і дагаварыў: «Кебіч жа напісаў, што гэта ён прывёў Лукашэнку ў палітыку і ніводнага разу пра тое не пашкадаваў. Дык хто ён такі?..» — «Гаўнюк?..» — выказаў я меркаванне, і Грыб не стаў шукаць іншай дарогі: «Без пытанняў».

І дадаў, трохі памаўчаўшы: «Ды ўсе гаўнюкі...»

Зянон Пазняк казаў мне ў Варшаве: «Калі б Грыб у 1994-м, а Шарэцкі ў 1996-м не аказаліся гаўнюкамі...»

Я ўспомніў, кім зусім нядаўна назвала сваіх калег Працька, і сказаў хутчэй для сябе, чым для Грыба: «Мнагавата». — «Чаго?..» — спытаў Мечыслаў Іванавіч, і я адказаў, каб далей у гэта не лезці: «Ды машын на дарозе, хоць ва ўсіх выхадны...»

* * *

Задушанае сабачаня на трасе «Брэст-Масква».

Той, хто задушыў яго машынай, не спыніўся. Тут лес абапал — мог бы закапаць.

І вось пытанні, на якія пакуль няма адказу.

З аднаго боку: траса, хуткасць, жалезны рух наперад. Якое сабачаня?

З другога боку: нікому не патрэбнае (як мёртвае, гэтак і жывое) сабачаня на дарозе. Які рух наперад?

Мы *спрабуем* адказаць на гэтыя пытанні, але нічога *не робім,* каб займець адказ. І не займеем, пакуль не спынімся і не пахаваем сабачаня.

* * *

У Язэпа Янушкевіча ў Ракаве (17.05.08) схадзілі на могілкі. Памаліліся над грудкамі ягоных бацькоў. Потым пайшлі на кірмаш. На могілках, апроч нас, ніводнага (апроч нябожчыкаў)

чалавека. Хоць субота, вольны вечаровы час. А на кірмашы — цераз вуліцу ад могілкаў — натоўп. Агрэсіўны, бо па суботах у Ракаве кірмаш з чатырох вечара (калі такое было?), а мяса па нейкіх прычынах будуць прадаваць яшчэ пазней, з пяці. Як жывыя грызліся за тое мяса — бачылі б нябожчыкі. Нібы ў савецкія часы, калі не купіць было. А тут проста пачакаць гадзіну трэба, на ўсіх хопіць. Так што мяса ні пры чым. Сквапнасць. Натура.

Сярод нябожчыкаў двое, бацька і сын, на могілках — якраз праз мяса. Хоць мяса ні пры чым. Натура. Сквапнасць.

Ёсць такое мяса, якое называецца абразальнае. Ці абразное — дзе як. Такога не знойдзеш ні на адным кірмашы свету, апроч нашага. Бо нідзе, апроч як у нас, за тое, што ты, выгадаваўшы кабанчыка, прывёз яго на кірмаш прадаць, ад таго кабанчыка не адкрояць найлепшы кавалак на паўкілаграма. Прычым за так, ні капейчыны табе за той кавалак не заплаціўшы. Лічачы, што ты абавязаны падзяліцца. Інакш — няма табе месца на кірмашы. Больш за тое: не аддасі кавалак — могуць і ўсяго кабанчыка забраць. Санэпідэмстанцыя наляціць: зараза ў мясе! Бацыла!.. Яшчэ і штраф улепяць.

Жонка і маці нябожчыкаў (мужа не стала ў сорак два, сына ў дваццаць) была якраз «абразальшчыцай». Не пасаду такую мела, а прывілею гэткую праз сваю пасаду. І спачатку, як людзі казалі, па-боску абразала. Па паўкілаграма. Пасля пачала абразаць па кілаграму, потым па паўтара... Людзі кажуць: занадта. Што застаецца ад кабанчыка, калі ты ад яго паўтары кілі найлепшага мяса адымаеш?.. А яна не чуе. Дом шыкоўны купляе, мэблю дарагую. І вось аднойчы муж, сеўшы ў тым шыкоўным доме на дарагое крэсла, з'ядае кавалак мяса, абрэзанага жонкай. І аказваецца на могілках, бо ў тым мясе аказваецца атрута. Не нейкая там зараза ці бацыла, а мыш'як. Атруціць хацелі, канешне, яе, але ён тое мяса з'еў першы...

Мужа яна хавае — і далей абразае. Сын падрастае, яна машыну яму купляе. Сын на той машыне разганяецца і забіваецца...

Яна не кінула абразаць і не падалася ў манастыр грахі замольваць. Як абразала на ракаўскім кірмашы, так на ра-

каўскім кірмашы і абразае. Дзе яшчэ такое мясістае месца знойдзеш?..

* * *

У Стакгольме на Еўрапейскім літаратурным кангрэсе (чэрвень 2008) сустракаю Уладзіміра Яварыўскага. Дзень мінае, другі, трэці... Пасяджэнні, даклады, прыёмы... «Сумна мне, Володзіку, — кажа старшыня спілкі ўкраінскіх пісьменнікаў. — Хацелася б нечага такога... Каб запомнілася, што ў Стакгольме быў».

Ягоны намеснік Анатоль Крым прапаноўвае: «Дык пайшлі ў рэстаран гарэлкі вып'ем!..»

Пайшлі. Выпілі. Гарэлка ў рэстаране — 150 еўра за пляшку. Весялей не стала.

Тады я ўспамінаю, што маю ў Стакгольме знаёмага бамжа. Цёзку Яварыўскага, ягонага земляка, які ўжо болей за 20 гадоў жыве на кімсьці кінутай, паламанай яхце ў цэнтры шведскай сталіцы. Нават на дзвюх яхтах, нікому і нічога за гэта не плацячы. А як толькі муніцыпальныя службы «спісаць» на бераг яго спрабуюць — так тэма для газет, якія ператварылі ўкраінскага бамжа ў шведскую славутасць.

У апошні стакгольмскі вечар *гуляем на яхце*. Аніводнага шведа, бульбашы ды хахлы. Свая гарэлка, свая гаворка, свае песні... «Здорава мы ўчора... — кажа ранкам, ледзь галаву ў руках трымаючы, Яварыўскі. — Будзе што пра Стакгольм успомніць...»

* * *

Памёр Аляксандр Салжаніцын.

Апошнімі гадамі Расія не чула свайго генія. Вялікія людзі сёння ёй без патрэбы, з імі ёй няўтульна.

Дый раней не надта яна да геніяльных сыноў сваіх прыслухоўвалася. «Ты вялікі? Дык пайшоў ты!..»

Самолет по небу катит,
Солженицин в нем сидит.
«Вот-те, нате! Хрен в томате!» —
Бёлль, встречая, говорит.

*Прыпеўка 70-х гадоў*

* * *

8.08.08, у дзень адкрыцця 29-х Алімпійскіх гульняў у Кітаі, пачалася чарговая вайна на Каўказе.

Называецца мноства прычын вайны і мноства людзей, якія ў ёй вінаватыя. Насамрэч вінаватыя ўсе і не вінаваты ніхто: на Каўказе проста павінна быць якая-небудзь вайна. Бо так было заўсёды. А ніколі дасюль не пачыналася вайна ў дзень адкрыцця Алімпійскіх гульняў толькі таму, што гульняў было значна меней, чым войнаў.

Апошняя вайна ў Чачні распачалася на Новы год.

* * *

Выступае (9.08.08) па тэлебачанні чыноўнік асяцінскага прадстаўніцтва ў Маскве і кажа, што не разумее, чаму ў той час, калі ў Цхінвалі забіваюць асяцінскіх жанчын і дзяцей, маўчыць грузінская інтэлігенцыя?..

Праз гадзіну выступае прадстаўнік грузінскай інтэлігенцыі і кажа, што не разумее, каго прадстаўляе ў Маскве чыноўнік асяцінскага прадстаўніцтва...

Тым часам у Цхінвалі ўжо на другі дзень вайны забіта больш за 1500 чалавек.

* * *

— З рускімі ваяваць без толку, — казаў Фрыдрых II.

— Чаму? — пыталіся ў яго.

— Яны сапсуюць любую перамогу.

— Чыю, Ваша Вялікасць?..

— Усё адно чыю, але сапсуюць.

Рускія, кінуўшы падпаленую Маскву, сапсавалі перамогу Напалеону...

Рускія самі сабе сапсавалі перамогу над Германіяй...

Прусак Фрыдрых ведаў рускіх.

* * *

Як паказалі Алімпійскія гульні, рускіх, далучаючы да іх і беларусаў, не любяць зусім не таму, што яны савецкія...

* * *

Сто, калі не тысячу разоў мне казалі, што я не на тым шляху, не на тым баку, бо ўсяму беларускаму, найперш мове з літаратурай, наканавана скананне.

Няхай так.

Але я ў тым не буду вінаваты.

* * *

З Ігарам Шклярэўскім амаль тыдзень (другі тыдзень верасня 2008) прабылі на лецішчы ягонага брата на Бярэзіне. Ігар прыехаў з Масквы з усёй сваёй рыбацкай зброяй, у першы ж дзень злавіў жыўца на шчупака, але болей ні вуду, ні спінінг у Бярэзіну ні разу не закінуў. Жывец застаўся кату Бонусу.

Ігар гаварыў, гаварыў і гаварыў... Дзень і ноч, дзень і ноч... Пра паэзію і пра гульню. Трэцім ці чацвёртым ранкам я спытаў: «Дык мы пойдзем лавіць?..» Ён якраз распавядаў пра тое, якія жарсці душу распіралі, калі перад самым юбілеем (яму ў ліпені было 70), усё прайграўшы ў казіно, ён пазычыў, ужо сабраўшыся дахаты, дзве тысячы даляраў, адну паставіў на 25, на свой дзень народзінаў, другой тысячай абклаў нумар з чатырох бакоў па 250 — і шарык упаў у нумар...

Пасля спытаў у адказ на маё пытанне: «Як ты думеш, чаму я кінуў лавіць?..»

Рака — не рулетка.

Жарсці не тыя.

Тым не менш, каб хоць выгляд зрабіць, што збіраемся лавіць, сталі ладзіць лодку, якая працякала з кармы, і ён згадаў, як плаваў некалі матросам.

— Матрос Шклярэўскі! — спыняе мяне аднойчы на палубе капітан. — Вашы дзеянні ў выпадку пагрозы затаплення судна?

— Ацэньваю верагоднасць затаплення, рыхтую выратавальныя сродкі для пасажыраў, стараюся не дапусціць панікі...

— Усё херня, матрос Шклярэўскі! Хапайце малаток і прабівайцеся да шлюпкі!

* * *

На прэзентацыю кнігі (17.09.08) Валерыя Казакова «Цень гобліна» прыехаў (дакладней, Казакоў яго прывёз) Уладзімір Беразеў — паэт і рэдактар часопіса «Сибирские огни».

У застоллі пасля прэзентацыі сядзелі побач. Ён прачытаў некалькі вершаў, я запомніў чатыры радкі:

Украдут жену, пророк умрет,
Откочует в Азию народ.
Там, где ничего не залатать,
Будет только бабочка летать.

Беразеў па сутнасці (па крыві) не рускі, а мангол, які называе сябе рускім паэтам.

Часопіс «Сибирские огни» фінансуецца з бюджэту. 160 тысяч еўра ў месяц. Пры накладзе 1500 асобнікаў. А Чаргінец (Чаргаўнец, як называе яго Барадулін) усё пяе песні пра царскую шчодрасць і міласць Лукашэнкі, які нібыта адзіны на постсавецкай прасторы падтрымлівае літаратурную перыёдыку і кнігавыданне.

* * *

На гадавіне па Будзінасу ў Дудутках спаткаўся, нарэшце, з Казуліным, з якім не бачыўся з дня пахавання ягонай жонкі. Ён і тады ўжо быў ціхі, а цяпер зусім сцішэў. Не Казулін, а цень ягоны.

«Турма — не маці», — во што праўда.

Пытаюся: «Ты здароўем сваім пасля турмы займаўся? Хоць які-небудзь медагляд зрабіў?..» Аказалася, не. Дома рабіць асцерагаецца, а за мяжой ніхто не прапаноўвае. Ні амерыканцы, да якіх толькі што ён злётаў па запрашэнні іх прэзідэнта (дарэчы, білет на самалёт для героя барацьбы з апошняй еўрапейскай дыктатурай, запрошанага прэзідэнтам ЗША, — эканомклас, ногі не выцягнуць), ні немцы, якія раней, калі ён быў яшчэ ў турме, абяцалі малочныя рэкі й кісельныя берагі. Папрасіў мяне з кімнебудзь пра гэта (медагляд) перагаварыць, самому няёмка.

Найістотнае, як мне здалося, чаго ў ім не стала, — штоімгненнай зацікаўленасці ў самім сабе. Гэта небяспечна для любога і кожнага, а ўжо для публічнага чалавека, палітыка...

Прах, попел Жэні пахавала Лера ў Дудутках на лецішчы, прыцягнуўшы на магілу камень разы ў паўтара большы за той, які я Быкаву з Фінляндыі прыцягнуў. Не камень, а ледзьве не скала з чырвонага граніту. Спытаў, ці гэта яна зрабіла па запавеце Будзінаса, ці ўжо сама прыдумала, — рукой махнула: «Ой».

Раніцай таго дня (4.10.08) патэлефанаваў Барадулін: «У Дудуткі не змагу паехаць, галава нясцерпна баліць, праз тыдзень у шпіталь кладуся... Паслухай верш, напісаў сёння ўночы:

На шалях дабра і зла
Няма раўнавагі ніколі.
У хітрай свавольніцы долі
Расплывісты почырк вясла.

На шалях зла і дабра
Ніколі няма раўнавагі.
У вечнага дрэва кара
Баліць ад няўвагі й знявагі.

Вясельная чарка й куцця
На шалях трывання і знікання.
Трывогі гарластая каня
Галосіць на лузе жыцця».

Выказваю захапленне доляй з расплывістым почыркам вясла і пытаю: «Дык, можа, калі ты не едзеш у Дудуткі, я прачытаю там гэты верш з прысвячэннем Будзінасу? Усё ж кладзецца, як мае быць...» — і Грыша адразу адказвае: «Добра, прысвячай, усё адно ж верш застанецца, які ён ёсць...»

Я прачытаў і аддаў верш Леры.

Прысвячэнне спадабалася Казуліну, і па дарозе з Дудутак дахаты ён раптам кажа: «19 кастрычніка ў Ірыны дзень народзінаў, першы без яе самой... Ты так здорава напісаў быў, калі яе не стала...»

Зразумеўшы намёк, тэлефаную назаўтра Барадуліну. Усе, маўляў, у захапленні, ад усіх паклоны... Найпершы паклон і найбольшае захапленне ад Казуліна. У ягонай жонкі Ірыны 19 кастрычніка дзень народзінаў, першы без яе самой...

Барадулінператэлефанаваў літаральна праз паўгадзіны: «Слухай...»

## АДДАНАСЦЬ

*Памяці Ірыны Казулінай*

Быць каханай — значыць адданай.
Не паспець разгубіцца ў жыцці.
Юны грэх падзяліўшы з пашанай,
На Галгофу за вернасць ісці.

Ад пячорнага позірку жаху
Не адвесці світальных вачэй.
Не сысці з урачонага шляху,
Дзе ўспамінам ступаць калючэй.

Адрачыся ад здрадлівай згоды.
Толькі ўскрыльвацца. Толькі смялець.
І згарэць,
Каб на небе лагоды
Зоркай самаахвярнай балець.

«Грыша, — пытаюся, — чым жа ты пішаш, калі галава табе нясцерпна баліць?..»

«А халера яго ведае...»

* * *

Тры дні (сярэдзіна кастрычніка 2008) — у Кіеве на Другім Міжнародным пісьменніцкім форуме «Слова без кардонаў». Пры ўсёй пампезнасці шыльды — за ёй звычайная тусоўка, на якой прыемна пабачыцца і выпіць з тымі, з кім без гэтага не пабачыўся б і не выпіў.

Найбольшае ўражанне, як заўсёды, ад самога Кіева ды Дняпра. Падол, Уладзімірскі спуск, Сафійка... Менску, які ён ні любімы, не раўняцца.

Яшчэ адно ўражанне — вершы Паўло Вольвача ў «Літаратурнай Украіне»:

...І вустами куль і межиріч
Шепотять. А луни — у крові нам.
Адже Україна... Адже ніч...
Невловимо?
Дарма. Україна.

Яшчэ ў тым жа нумары «ЛУ» (за 9.10.2008) — артыкул Алега Раманчука (рэдактара часопіса «Універсум»).

«Цяперашні ўкраінскі так званы істэблішмент усяляк дэманструе амаральнасць... ён пазбаўлены не толькі разумення ўкраінскай культуры, але і разумення палітычнай культуры ўвогуле. Таму замест фармавання ўкраінскай нацыі, насамрэч нацыянальнай, патрыятычна з’арыентаванай эліты, ён дбае выключна пра асабістыя інтарэсы».

На месца *ўкраінскі* паставіць *беларускі* — і ўсё адно ў адно. Дый *рускі* паставіць — будзе тое ж самае.

Сітуацыя ва Украіне складаная. Юшчанка падпісаў указ аб правядзенні датэрміновых парламенцкіх выбараў, урад (Цімашэнка) не дае на іх грошай. Людзі — хто за што і хто за каго. Нават пісьменнікі. Яварыўскі — за Юлю (яна — адна надзея), Чараднічэнка — за Віктара (адна надзея — ён).

Разабрацца, прааналізаваць сітуацыю цяжка. Інтуітыўна мне здалося, што Юшчанка — за Украіну нават супраць сябе. Астатнія наўрад ці. Юля, можа, і за Украіну, але супраць сябе — ні ў якім разе.

* * *

Дзмітро Паўлычка абсалютна дакладна прачытаў скразную метафару верша «Ляўкі»:

«Уладзімір Някляеў... яму належаць праніклівай сілы радкі пра тое, як жыў і як пачуваўся ў савецкім часе беларускі прарок — хвалены ўладай і ёю ж забіты Янка Купала:

Быў страшны Купала, на ім,
Яшчэ даваенным, жывым,
Святочна кашуля гарэла!

Праз гэты вобраз можна ўбачыць і Паўло Тычыну ды Максіма Рыльскага, Уладзіміра Сасюру ды Андрэя Малышку, на якіх гэтаксама гарэла іхняя святочная, прэзідыумная апратка! Вось жа ўсё, што за таталітарным рэжымам мела святочнае прызначэнне, — гарэла, пякло, спальвала надламаныя сэрцы. Паэзія Уладзіміра Някляева напоўненая нечаканымі метафарамі, за якімі — пакутная доля Беларусі» (Прадмова

Д. Паўлычкі да кнігі перакладаў Святланы Жолаб «Річка — нескінченна». Кіеў, 2007).

А вось жа некалі (пры першай публікацыі ў часопісе «Полымя») Анатоль Вялюгін (сам, без мяне) у радках:

Ён будзе на сходках начных
Спяваць, зратаваных ад кулі
Сяброў абдымаць, на якіх
Святочна палалі кашулі!

— зрабіў праўкі:

Сяброў абдымаць — *і на іх*
*Святочна запальваць кашулі!*

Змяніўся скразны сэнс метафары, якім Анатоль Сцяпанавіч ахвяраў або дзеля экспрэсіўнасці («і на іх святочна запальваць кашулі», канешне ж, больш экспрэсіўна, чым «на якіх святочна палалі кашулі»), альбо каб свядома ад скразнога сэнсу адысці. Болей падобна на другое, бо апошнія радкі верша таксама змененыя.

Было:

Усё гэта будзе пасля.
Усё гэта будзе ніколі.
Пасля — у мальбе і праклёнах,
Ніколі — у спратах віны
Мільёнаў маўклівых, мільёнаў
Жывых і святочна спалёных,
Саснёных, як смутныя сны...

— а стала:

Пасля — у мальбе і праклёнах,
Ніколі — у спратах віны...
*Адзін і адзіны з мільёнаў,*
*Адзін і адзіны, спалёны*
*На росстанях смутных вайны.*

У самім, так бы мовіць, вершанапісанні розніца не такая ўжо істотная, але ў сэнсе напісанага — заўважная.

Найдакладней, бадай, сэнс таго, што хацелася сказаць, выявіўся пры перакладзе на рускую мову:

Лишь глянет судьба исподлобья
Глазами минутной вины,
Читая на камне надгробья
О Родине смутные сны.

«Працую, панімаеш, над паляпшэннем...» — часцяком, калі я заставаў яго над праўкамі рукапісаў, дасланых у рэдакцыю часопіса «Полымя», дзе ён загадваў аддзелам паэзіі, казаў Адмірал, як у літаратурным асяродку называлі Анатоля Вялюгіна, светлая яму памяць. Іншым разам пасля ягонай працы над паляпшэннем у тэксце не заставалася нічога, што б нагадвала арыгінал.

* * *

Праз сем гадоў па напісанні дастаў з шуфляды і перачытаў драму «Армагедон». Не ў тых варыянтах, якія прапаноўваў для тэатра і Раеўскаму, і Луцэнку, і ад якіх яны дружна адбіліся: «Валодзя, выбачай, але тут палітыка...» — а без скаротаў, цалкам.

Пры чым тут палітыка?..

Тут жыццё ва ўсіх ягоных выявах. І ў тым, што ў выявах жыцця разам з усім ёсць і палітыка, не я вінаваты.

Армагедон з’армагедонены.

* * *

Як вы мяркуеце: ён памёр у час ці не ўгадаў?

* * *

Кожны раз, стоячы ў Маскве каля нанава адбудаванага ў 2000 годзе храма Хрыста, пачуваю сябе ніякавата...

На гэтым... над гэтым... пад гэтым самым месцам, дзе выгнуўся ў неба пазалочаны купал і ўзнёсся крыж, я плаваў... плёхаўся... даваў нырца... купаўся...

Пасля таго як храм, збудаваны ў гонар перамогі ў Айчыннай вайне 1812 года, бальшавікі ў 1931 годзе знішчылі, на ягоным месцы павінен быў паўстаць як сімвал новай эпохі велічны Палац Саветаў. Але не паўстаў. І замест палаца з’явіўся басейн,

у якім я і плаваў, калі вучыўся ў Літаратурным інстытуце на «інжынера чалавечых душ».

Дык была ж душа, калі вучыўся я на яе «інжынера»? Але ж ніводнага разу ні сам я сабе не сказаў, ні яна не падказала: «Грэх!»

Чаму?..

«Палац Саветаў» не паўстаў, ён нават не пачынаў будавацца, быў зроблены толькі ягоны праект з Леніным на самай верхатуры, які, здавалася, даставаў правай, узнятай, рукой да неба. «Палац Саветаў» быў гэткі ж казачны, як палац цара Салтана ці Кашчэя Несмяротнага, але пра яго казалі і пісалі, як пра нешта, што насамрэч існуе. Эскізы праекта друкаваліся ў школьных падручніках у адным шэрагу з зусім рэальнымі збудаваннямі. Там жа было напісана, што палац гэты на 350 метраў вышэйшы за Эйфелеву вежу і толькі трохі ніжэйшы за гару Эльбрус.

У мой школьны час гэтая казка ўжо не расказвалася, але сам казачны прынцып, па якім уяўнае выдавалася за рэальнае, не змяніўся. Па сутнасці, гэта быў асноўны, базавы, на якім стаялі і сілкаваліся ўсе астатнія, прынцып савецкай эпохі. «Мы жывем у развітым сацыялізме», — казаў настаўнік грамадазнаўства, і хоць не тое што мы, школьнікі, але і сам настаўнік не ведаў, што ён такое ёсць і з чым яго, гэты развіты сацыялізм, ядуць, калі есці няма чаго, усё адно казачны развіты сацыялізм павінен быў існаваць у нашай свядомасці — і ў ёй існаваў — рэальна. Гэтак жа рэальна, жыўцом, існавалі тыя, хто гэты сацыялізм — з непазбежным услед за ім камунізмам — прыдумаў, найперш Ленін. А вось Бог і ўсё пра Яго, як прыдумаў і стварыў Ён свет, выдавалася за казку...

А які ў казках грэх?

Казачны.

Ніякі.

Даруй, Госпадзі.

* * *

Фраза: *«На меня накатила государственная, можно сказать, бодрость...»*

* * *

У 1999 годзе з’езд БНФ абвяшчае палітэмігранту Зянону Пазняку, што ён не старшыня Беларускага народнага фронту.

У 2008 годзе з’езд БСДП (Грамада) абвяшчае палітвязню Аляксандру Казуліну, што ён не старшыня партыі.

А колькі было іншай дробна-партыйнай валтузні...

Сённяшняя (пасляпазнякоўская) палітычная апазіцыя цешыцца думкай, што яна, якой бы ні была, усё адно лепшая за ўладу. Бо еўрапейская, дэмакратычная, інтэлігентная... Але гэта фантазіі. А праўда палягае ў тым, што Беларусь сёння мае маргінальную ўладу, а да яе яшчэ і змаргіналізаваную апазіцыю.

* * *

10.12.2008. З’езд Беларускага ПЭН-цэнтру — і я вызваліўся ад сваёй апошняй «начальніцкай» пасады.

Бураўкін і Казько энергічна (мусібыць, змовіўшыся) угаворвалі застацца. Віктар Апанасавіч праз тое, што ў прэзідэнта ПЭН-цэнтра павінен быць аўтарытэт (а маладзейшыя, маўляў, яшчэ і пісаць не ўмеюць), Генадзь Мікалаевіч — праз тое, што адчувае нейкую небяспеку з боку маладзейшых (згрупаваных вакол «Нашай Нівы» з «Arche»). Даводзіў нават, што з такой колькасцю дэлегатаў (22 са 147) з’езд не можа прымаць легітымныя рашэнні, а тым больш пераабіраць прэзідэнта, бо няма кворуму. І хоць яно насамрэч было так, я ўсё ж давёў справу да галасавання, бо дзе і калі той кворум збіраць...

Абралі, як я і прапанаваў, Андрэя Хадановіча.

Пасля, як водзіцца, сядзелі, выпівалі... «Правільна зрабіў! — пляскалі мне па плячах Генадзь Мікалаевіч з Віктарам Апанасавічам. — Трэба пісаць, пакуль час ёсць. Бог ведае, колькі яго, таго часу, засталося...»

«А як жа, — хацеў я спытаць, — аўтарытэт ды кворум?» — але ўбачыў, што на такія дробязі яны ўжо забыліся.

* * *

Найчасцей амбіцыі ў чалавеку значна большыя за яго самога.

* * *

Інтэрв'ю пра палітыку.

«Кім бы вы хацелі быць, калі б не былі Някляевым?» — пытае журналістка, мяркуючы (і выглядаючы праз тое дурнічкай), што задае надта арыгінальнае пытанне.

Я адказваю, што нікім.

«А кім бы не хацелі быць?..» — не адчапляецца яна, і я кажу, каб адчапілася: «Пазняком з Лукашэнкам».

Гэта было ўвечары, а ноч пераначаваўшы, тэлефаную той журналістцы, каб інтэрв'ю не друкавала, пакуль не прачытаю і не выпраўлю.

«Каго выкрасліць? — пытае яна з'едліва. — Пазняка ці Лукашэнку?»

А выглядала дурнічкай.

* * *

Тры дні (12–14.12.08) — на беларуска-польскім літаратурным семінары «Бязмежжа», у 12-ты раз арганізаваным няўрымслівым Яўгенам Вапам. «Такіх людзей ужо няма і хутка зусім не будзе», — гэта пра яго.

Завёз ён нас (з Менску былі Барыс Пятровіч, Алесь Пашкевіч, Міхась Скобла ды Алена Макоўская) на хутар пад Нараўку (агратурыстычную гаспадарку «Бора-Здруй» у Новым Ляўкове), дзе гаспадары Казлоўскія (насамрэч ГАСПАДАРЫ, бо і паднялі ўсё і цягнуць усё самі, сваёй сям'ёй) усіх гасцей сваіх смачна (баб-каю ў кішках, якую забыўся я, калі смакаваў) кормяць і соладка (жытнёўкаю) пояць. А гаспадар Барыс яшчэ і сам малюе, і сам на гармоніку грае, і сам свае анекдоты расказвае...

На літаратурных чытаннях найбольш глянуўся Міхась Андрасюк з ягонай мякка-ўсмешлівай (у нечым блізкай да памежна-правінцыйнай кінастылістыкі Кустурыцы) прозай. Значна лепшымі за сябе ранейшых выглядалі Міра Лукша і Віктар Стахвюк. Слаўнае дзяўчо Ілона Карпюк, якая і спявае, і кіно здымае (даволі пранізлівы фільм пра родную вёску, якая вымірае).

Карацей, хоць і вымірае, але ўсё ж дыхае, жыве яшчэ Беларусь на польскім боку Белавежы, і не адзін Сакрат Яновіч (якога

я з 1999 года не бачыў, і які ў Нараўку, на жаль, не прыехаў) — беларус на Беласточчыне. Ва ўсякім разе, не ён апошні.

* * *

На Беласточчыне, бадай, як на мадэлі, відаць, што чакае беларусаў, калі ў выпадку аб'яднання са «старэйшым братам» яны стануць нацыянальнай меншасцю ў складзе Расійскай Федэрацыі. Застанецца сярод іх купка людзей, якія будуць адчайна тузацца, каб мець нацыянальнае радыё, газету, тэатр, нейкі абмежаваны час на нейкім тэлеканале, але большасць незаўважна асімілюецца проста па практычных патрэбах. Нацыя страціць саму сябе — і няма чаго тут задурваць галовы моўнымі ды культурнымі парытэтамі. Парытэты заўсёды перакідваюцца ў прыярытэты, якія былі, ёсць і застануцца найперш палітычнымі. Іх для беларусаў здольная адстаяць толькі свая, нацыянальная, беларуская дзяржава. І калі беластоцкім беларусам хай амаль безнадзейна, але ўсё ж можна яшчэ на яе азірнуцца, дык цалкам страчанай Беларусі азірнуцца ўжо не будзе на каго.

* * *

Учора (20.12.08) пахавалі Ніну Мацяш. Яна памерла ў ноч з 18 на 19. Стамілася жыць. Спынілася сэрца.

Дзень быў пахмурны, няўтульны, са снегам і дажджом, з пранізлівым ветрам. На могілках, мерзнучы, я глядзеў на Ніну ў труне і баяўся, што яна захварэе. Злавіў сябе на гэтым і чамусьці нават не здзівіўся.

Перад адпяваннем у царкве было развітанне ў белаазёрскім Доме культуры, дзе мясцовыя ўлады на грамадзянскай паніхідзе не далі ні слова прамовіць. Нікому — праз пісьменнікаў, якія прыехалі з Менску. А раптам скажуць нешта не тое...

Анатоля Вярцінскага гэта надта ўжо абурыла... Ён заўсёды любіў пагаварыць, а пад старасць стаў гаваруном проста нястомным. Хоць што ён мог на той паніхідзе сказаць? Тое самае, што казалі пасля на могілках. Усе — у тым ліку і ён, і я...

«Сёння пад гэтым не надта вясёлым небам мы развітваемся з адной з найлепшых тваіх дачок, Беларусь. З дачкой са шчырым,

чыстым і мужным сэрцам, з прамяніста-светлай і глыбокай-глыбокай душой. Такой дачкой ты можаш гэтак жа ганарыцца і гэтаксама любіць яе, як яна ганарылася табой і любіла цябе, Беларусь...»

Пахавалі Ніну не ў Нівах, яе роднай вёсцы, да якой прыбудаваўся Белаазёрск, а на новых могілках — у чыстым полі. На старых могілках, на якіх пахаваныя яе бацькі, нібыта не знайшлося месца.

Затое памінкі былі багатымі. І, трэба сказаць, высокімі. Відаць было, як за гады, пражытыя побач з Нінай, блізкія да яе людзі ўзняліся душамі. Ужо праз адно гэта — не дарма, бедная, пакутавала.

Алена, сястра Ніны, сказала: «Мы ўсе думалі, што гэта мы яе падтрымлівалі, люлялі на руках. А гэта яна нас падтрымлівала і люляла. І цяпер, калі яна нас пакінула, мы нібы ў паветры з пустымі рукамі...»

Калі вярталіся дахаты, памінаючы Ніну яшчэ і ў дарозе, успамінаўся і ўспамінаўся верш: «Раз’ясніваўся дзень і ноч растаць хацела, Але твая сляза ў маю слязу глядзела...» Чамусьці толькі ён.

* * *

Празаічны тэкст можа ўзнікаць гэтак жа сам па сабе (нібы пад нечую дыктоўку), як і паэтычны. Так зусім нечакана ад першага сказа да апошняга напісалася апавяданне «Цмок».

* * *

З жывым не размаўляў. З нябожчыкам не змог.

* * *

Напісалася апавяданне пра тое, як ці не ўсе мы, запрошаныя Богам на свята, абыходзімся будзённым. Пакліканыя на Алімпійскія гульні, штурхаемся на раённых спаборніцтвах.

«Раённыя спаборніцтвы» апавяданне не назвалася. Назвалася «Алімпійскія гульні».

* * *

Выйшла нарэшце (з вялізнымі праблемамі і намаганнямі) кніга «Цэнтр Еўропы». Год таму магла б выйсці...

Першае, што ўбачыў, — недагляды. Ну вось як не заўважыў, прамінуў іх, чытаючы рукапіс?..

Добра яшчэ, што хоць «Цімоха» на «Цмока» паспеў перарабіць. А то было б: «Юзік», «Цімох»...

Разнерваваўся...

Трохі супакоіўся тым, што недагляды можна знайсці ва ўсіх кнігах — нават у самых вялікіх. Рабінзон у Дэфо разоў дзесяць ходзіць з карабля на бераг, цягаючы дабро, якое сцеражэ (ці павінны сцерагчы) сабака, а той, прыстаўлены гаўкаць, нават не цяўкае. Ніводнага разу не гаўкнуў, не цяўкнуў. І пасля за ўсё сваё амаль трыццацігадовае жыццё на востраве Рабінзон (у гэткай адзіноце!) аніводнага разу з тым сабакам (няхай сабака пражыў не 28, а 14 гадоў) не загаварыў.

Затое Рабінзон амаль штодня купаўся ў моры... А ў «Трох мушкецёрах» ніхто з герояў (а гэта ж каралі, каралевы, маркізы з графінямі, французская знаць) ні разу не памыўся. Згадваецца толькі нейкае ружовае, адмысловае мыла, якое меў Араміс, каб мыць рукі, але ці памыў ён іх тым мылам — невядома...

Між іншым, Дзюма са сваім афрыканскім паходжаннем (і ўвогуле як чалавек поўдня) быў не надта ахайны, а ў Дэфо не было сабакі.

* * *

Папрасіў Барадуліна сёння (10.01.09) напісаць верш (для рамана «Аўтамат з газіроўкай з сіропам і без»), які б ён хацеў напісаць, але не напісаў у гады хрушчоўскай адлігі.

— У якім годзе? — спытаў чамусьці Рыгор Іванавіч. Я сказаў, што ў 1961-м.

Барадулін напісаў — і вось які быў бы той верш.

Рахманыя, няўпартыя,
Мы ўсе — адзін калгас.
Кіруе намі партыя
І думае за нас.

Дазвол ёсць жыць у лагеры
Сацыялізма ўсім.
Дарма буржуі звягаюць,
Мы не зайздросцім ім.
На волю нам не хочацца,
Мы рушым свет стары,
І вораг не праточыцца
У цвёрдыя муры.
Дакладна кожны ведае:
Быў камуніст — Ікар!
Для мар пра заўтра светлае
Хапае голых нар.

* * *

Сёння Вадохрышча.

Маці было б 90. Магла б жыць...

Тэлефаную зраніцы брату, кажу: давай з'едземся ці ў Смаргоні, ці ў Менску, адсвяткуем так, нібы жывая. Ён у адказ: «Дык яна ж памерла».

Што на гэта скажаш?..

* * *

Вось ужо колькі гадоў тэлефануе па начах, вярнуўшыся з казіно ў свой адзінотны дом, Ігар Шклярэўскі і кожны раз, перш чым я паспяваю паслаць яго куды-небудзь, паспявае сказаць: «Калі табе няма каму патэлефанаваць уночы, тады табе няма каму патэлефанаваць днём — і ўвогуле табе няма каму слова сказаць».

* * *

«Мы втроем сидим *за скромным столиком в углу...* и я виновник этого собрания: обмываем мой первый гонорар — в “Европейской”.

— А это кто ж такие? — хмуро проговорил Битов, глядя *на трех необыкновенно высоких и тонких девушек...*

— М-ма-некенщицы. Одну из них я з-знаю, — проговорил “скромный” Миша Петров...

Через минуту они (манекенщицы) решительно пересели к нам...»

*(Валерий Попов, «Запомните нас такими», изд-во журнала «Звезда», 2003 г., с. 27–28).*

І ў той жа кнізе таго ж аўтара апісанне таго ж свята першага ганарару, але ўжо на стар. 156:

«...Заведение не менее важное в литературной жизни — гостиница “Европейская”. Я истратил там свой первый гонорар... И как истратил! Был *взят отдельный кабинет в бельэтаже* над большим залом, где летит на витраже Апполон... Были — Андрей Битов, будущий русский классик, Миша Петров, будущий дважды лауреат Госпремии в области физики, — и *пять манекенщиц!*»

Што называецца: no comment.

* * *

З ганарарам за першую кнігу (амаль паўтары тысячы рублёў, шалёныя грошы) шыбую ад касы непасрэдна ў краму, але на выхадзе з выдавецтва мяне даганяе Барадулін: «Няма тут каму і за што прастаўляць, нясі грошы дахаты!..»

Быў 1976 год, Рыгор Іванавіч у застоллях яшчэ ўдзельнічаў, але ўжо не актыўна: наліваючы іншым, сам не піў. Кайфаваў ад успамінаў...

Ні з кім, апроч яго, піць мне ў выдавецтве не надта й хацелася... Але ж не ісці дахаты, не справіўшы рытуал.

Званю Вялюгіну. Так, маўляў, і так, трэба справіць рытуал, а Барадулін... «Бяры скрыню, — не даслухаў Анатоль Сцяпанавіч. — У мяне мора закусі».

Мора дык мора, скрыню дык скрыню... Крама ад дома Вялюгіна цераз дарогу, дакладней, цераз праспект, прыцягваю скрыню гарэлкі, а ў Вялюгіна на круглым стале пасярод гасцёўні насамрэч мора закусі: поўны тазік камсы.

Узнялі кілішкі над тазікам.

— Дык за цябе! — сказаў Вялюгін. — Ты Богам не пачуваешся?

Я падумаў, што ён пра кнігу, засаромеўся:

— Не, ну што вы, Анатоль Сцяпанавіч...

— А я пачуваюся. Гэтаксама, як мы з табой зараз у тазік, Бог з нябёсаў у акіян глядзіць.

* * *

5 раніцы (25.01.09). Тэлефонны званок. Ігар Шклярэўскі, не вітаючыся, чытае вясёлым голасам:

Дорогой ты мой Некляев,
Мы еще не старики
И от дома до реки
Как-нибудь доковыляем.

І, не развітаўшыся, кладзе трубку.

Днём тэлефануе Алег Шклярэўскі.

— Ведаеш, што мой брат надумаў?.. Прадаць кватэру ў Маскве і паставіць помнік у Магілёве над дняпроўскай кручай: хлапчук з вудаю... А на пастаменце — вершы: «Дорогой мой друг Некляев, мы пока не старики и от дома до реки как-нибудь доковыляем».

Я кажу:

— Жартуе.

— Жартуе... Як ты думаеш, колькі кватэра каштуе? Два з паловай мільёны даляраў...

* * *

У Лошыцкім парку катаўся на лыжах. Лыжнікаў на ўвесь парк — я ды кот, які слізгае па снезе, бо лапа перабітая. Затое п’янтосаў... Пад кожнай яблыняй купкі... Мужыкі, бабы, хлопцы, дзеўкі... Гэта на камвольным камбінаце скончылася змена.

* * *

На ўстаноўчым з’ездзе партыі БХД, створанай высілкамі Паўла Севярынца, глядзеў, як маладыя хлопцы навыперадкі стараліся сябе паказаць, сцвердзіць, як намагаўся кожны давесці, што менавіта ён асілак і герой, — успамінаў сябе такім і думаў: як смешна! І куды яно ўсё падзелася?..

* * *

Валянціна Тараса пахавалі. На Паўночных могілках, дзе пахаваны бацька Рэні, жонкі Тараса. Яна развітвалася з ім

апошняй, нахілілася над ім, пацалавала і сказала: «Валя, чакай мяне...»

Я падумаў, што вось гэта, бадай, адзінае ў свеце, у чым можна быць упэўненым: Валя Рэню дачакаецца.

* * *

За тры дні тры смерці... Люсьена Барташ, дзяўчынка з маладосці, сусед Вячаслаў Іванавіч, Валянцін Тарас... Такое адчуванне, што ўсе і скрозь толькі тое і робяць, што паміраюць.

Помню, калі хавалі Брыля, я сказаў Тарасу, што Іван Антонавіч ўсё ж нямала пажыў. «Гэта табе здаецца, Валодзя...» — зірнуў на мяне сваімі габрэйскімі, поўнымі вечнага смутку вачамі Валянцін Яфімавіч.

Сёння ў яго спынілася сэрца.

Спынілася яно і ў суседа Вячаслава Іванавіча, светлага чалавека. У шэсць раніцы ён зайшоў у лазенку — і не выйшаў... Больш за паўгадзіны, пакуль не прыехала хуткая дапамога, я рабіў яму масаж сэрца. Яно не білася, а я ціскаў, ціскаў...

Люся памерла раней, больш за месяц ляжала ў моргу: не было каму пахаваць.

* * *

У тлумачальным слоўніку *жыццё* — як слова, як лексема — мае зусім дакладнае значэнне. Тое ж, што названае гэтым словам, жыццё ў жыцці, само ў сабе — невызначальнае. Бо яно ў непарыўным спалучэнні, у сцяжцы з тым, што *смерць*, дзе значэння — ніякага.

З адсутнасці значэння ўзнікае згадка пра *сэнс*. Але і ён — пры спробе ўнікнення — самастрачваецца; і ён, аказваецца, толькі напружанасць, толькі стан, толькі рух, скіраваны да нечага, што вышэй за сэнс.

Тады, з адсутнасці сэнсу, узнікае згадка пра *існасць*...

* * *

Кастусю Тарасаву цяжка пасля інсульту, ён саромеецца сябе самога, хворага. Жонка ад яго, па сутнасці, адмовілася, толькі

дачка трохі даглядае, а ён піша і піша... І не абы-што, як сведчыць аповесць «На вайне».

Я спытаў яго, калі ён (амаль адразу пасля шпіталя) у нас на Карла Маркса жыў: «Косця, што ж ты цяпер рабіць будзеш?..»

Ён адказаў, ледзьве выгаварыўшы: «П-п-п-пі-саць...»

* * *

Два дні (18–19.02.09) у Маскве...

Першы дзень (дакладней, паўтары гадзіны з раніцы) — на з'ездзе МПС (Міжнароднага пісьменніцкага саюза).

Першы, каго ўбачыў, быў Станіслаў Куняеў. Ён, блізарукі, у акулярах, здалёк мяне не пазнаў, а я абышоў яго... Пасля падумаў: дарма, трэба было б парукацца, паміріцца... Мне ўжо 62, яму вунь колькі... Калі і дзе яшчэ пабачымся?.. Вырашыў падысці пазней, калі з'езд скончыцца.

Перад пачаткам з'езда (на рэгістрацыі) раздалі часопіс («Вестник» МПС) з дакладам першага сакратара выканкама МПС Івана Пераверзіна (гл. крымінальную антрапалогію Ч. Ламброзы), які пачынаецца са слоў: «Спасибо, Сергей Владимирович, за Ваше напутственное слово и за уверенность в том, что наш съезд пройдет с пользой для дела развития нашей великой многонациональной литературы».

Пакуль рыхтаваўся і друкаваўся гэты самы «Вестник» з дакладам Пераверзіна і «напутственным» словам Сяргея Уладзіміравіча (старшыні МПС Сяргея Міхалкова), той паспеў захварэць (што ў 90 год не дзіўна) і патрапіць у шпіталь. Але ж ён сцяг, сімвал... І выцягнулі яго са шпіталя! Трэба было бачыць, як з паўгадзіны ўзводзілі яго пад рукі, прыступка за прыступкай, па лесвіцы, уносілі ў залу, усаджвалі за стол... Урэшце ён звяршыў тое, што павінен быў звяршыць: прамовіў ледзь чутна, заікаючыся, сваё «напутственное» слова. «Сяргея Міхалкова, — сказаў ён, — можна весці пад рукі, але яго нельга зламаць, бо ён не згінаецца». (Бурныя апладысменты). Хто запляскаў седзячы, хто ўсхапіўшыся, а па тварах відно адно: ды ў цябе ўжо і не павінна нічога згінацца, апроч...

І яшчэ па тварах відаць было: усе і кожны разумее, хто і за што тут, не згінаючыся, сабраўся змагацца. Усё за тое ж, за што ідзе барацьба ўжо амаль 20 гадоў. За маёмасць былога СП СССР. За дом на Паварской, за ЦДЛ, за рэстараны ў ім, за тысячы квадратных метраў, раскіданых па ўсёй Маскве, за Літфонд, за Перадзелкіна... За вялікія грошы, а не за вялікую літаратуру.

У свой час мяне ледзьве не ўцягнулі ў гэтыя разборкі, таму я падняўся і пайшоў. Снедаючы ў кавярні ЦДЛ, стаў гартаць «Литературную Россию». На першай паласе (з працягам на паўгазеты) — артыкул «Пейзаж после битвы». Аўтар — Станіслаў Куняеў. «Итак, — пачынае паэт новую “повесть временных лет”, — прошел почти год нашей взаимоизнурительной борьбы за будущее Международного литературного фонда...» І далей — палымяная публіцыстыка, напісаная з такой жарсцю, з якой нават вершы ў маладосці Станіслаў Юр’евіч не пісаў. «Вы заявляете, — звяртаецца ён да аднаго са сваіх апанентаў, — что отстояли Литфонд от жулика Гюлумяна: *“Мы, таскаясь по судам, а не вы, Станислав Юрьевич, остановили его и спасли для всех нас не только Переделкино — все оставшееся неразворованное имущество МЛФ”*. Ну, во-первых, кроме вас, *таскавшихся по судам,* писательскую собственность отважно защищал ненавистный вам Переверзин. Его, а не вас, наемники Гюлумяна выбрасывали *вместе с креслом* из Литфондовского кабинета, его, а не вас, избивали, ему, а не вам, сломали руку. Но он выстоял».

Скрозь героі... Адзін не зламаўся, другі выстаяў... А Станіслаў Куняеў у выніку — старшыня праўлення МЛФ. Таго самага Міжнароднага літаратурнага фонда, у якім дырэктарам — першы сакратар выканкама Міжнароднага пісьменніцкага саюза Іван Пераверзін.

Госпадзі, Станіслаў Юр’евіч!.. У столькі год, на схіле веку — і пра такое? Не пра тое, з чым збіраюцца людзі ў незваротную дарогу, а пра... «В гробу нет карманов!» — у той жа дзень у «А-клубе», у казіно на Арбаце, скажа мне сябар твайго юнацтва Ігар Шклярэўскі, прачытаўшы ўрыўкі з перапісанай нанава «Золотой блесны» — кнігі пра вечнае. Я нібыта космасам захлынуўся — такая кніга. І ты ж некалі нешта мог... Некалі

ўдвух вы, на пару, пераклалі «Песню пра зубра». А потым прэмію *Саюзнай дзяржавы* за гэты пераклад выдурыў у Лукашэнкі ты адзін! І Шклярэўскі пагрэбаваў нават патэлефанаваць табе, каб спытаць: «Дзе ж пад перакладам маё імя, Стасік?..»

Падыходзіць да Куняева рукацца і мірыцца мне расхацелася. Няхай застаецца ўсё як ёсць: ён — рускі патрыёт, а я — юда, які прадаў крэўнае сяброўства, здрадзіў славянскаму адзінству і вялікай рускай ідэі. Той, якую ўцямяшваў некалі ў нашыя галовы Вадзім Кожынаў.

Назаўтра ў Доме рускага замежжа была прэзентацыя часопіса «Сибирские огни», які ў сваю чаргу прэзентаваў у лютаўскім нумары беларускую сучасную літаратуру. Пракруціўшы ноч у казіно на аўтаматах ды рулетцы і ўсё, што мелася, прайграўшы, я быў нявыспаны, раздражнёны не толькі МПСам з МЛФам, але і самім сабой, таму і вершы чытаў агрэсіўна, і выступаў гэтак жа, накінуўшыся чамусьці не на Станіслава Куняева з ягоным «Пейзажам...», а на Казіміра Малевіча з ягоным «Чорным квадратам» і на ўсіх тых (у тым ліку на Пуціна з Лукашэнкам), хто, не маючы здольнасці стварыць нешта насамрэч прыгожае, зачарняе ў злосці неспасцігальную, якая да таго ж вылузваецца з ягоных рук, прыгажосць...

Ускочыў нейкі чмут з казённай мордай і пачаў вінаваціць мяне ў здрадзе ідэалам. Я паспрабаваў разабрацца: якім?.. Падышоў Алесь Пашкевіч і сказаў, што ў залі клеркі з беларускай амбасады і гэбісты, таму ў арганізатараў прэзентацыі, найперш у Валерыя Казакова, могуць быць непрыемнасці. У яго ўжо пыталіся, навошта ён Някляева запрасіў?..

Я плюнуў на пейзаж з чорным квадратам — і рушыў з Пятром Кошалем піць «Хрэнавуху» ў «Ёлках-палках» каля метро «Таганская». Потым правёў Кошаля (яму цяжка хадзіць, нага стала зусім кепская) дахаты на вуліцу Гвоздзева (хто такі той Гвоздзеў, ніхто не ведае), а па дарозе назад пагрукаўся ў дзверы дома, у якім застрэліўся Маякоўскі. Пагрукаўся па той прычыне, што не ўбачыў на доме, дзе некалі была бібліятэка, аніякай шыльды, апроч бронзавай дошкі, на якой напісана, што тут жыў Маякоўскі, — і мяне зацікавіла: хто ж тут жыве цяпер? На мой

стук (кнопкі званка я не знайшоў) у дзвярах абазначыўся мужык з памерамі мядзведзя і кіўком галавы запытаў, што мне трэба? Я не стаў распытваць такога чалавека, хто тут цяпер жыве, а толькі пацікавіўся, ці захавалася нешта ў доме як музейнае — ну хоць бы пакой, у якім скончыў жыццё Уладзімір Уладзіміравіч? Мядзведзь адказаў, што пакой захаваўся і зараз пусты, нікім не заняты, так што ён можа, калі я надта хачу, прыстрэліць мяне і пакласці роўненька там, дзе ляжаў некалі Маякоўскі. Я ветліва падзякаваў за гасціннасць — і з тым паехаў з Масквы...

* * *

Калі памерла Ахматава (5 сакавіка 1966, у дзень смерці Сталіна — толькі праз 13 гадоў), пра яе смерць не было ніякага афіцыйнага паведамлення. Хавалі яе амаль употай. На сходзе, дзе пісьменнікі гэтым абураліся, і нават «самыя ціхія, — як піша ва ўспамінах К. Чукоўскі, — крычалі: ганьба!», Сяргей Міхалкоў сказаў: «Дзякуй Богу, што ў нас ёсць ДПУ!»

Калі б пасля смерці Сталіна ягонае месца заняў Берыя, гэтыя словы маглі б стаць радком гімна Савецкага Саюза, напісанага, як вядома, Міхалковым. Нават прыпевам: «Дзякуй Богу, што ў нас ёсць ДПУ»!

* * *

Па тэлебачанні сёння (21.02.09) — фільм Рыбарава «Сведка» па матывах (як у цітрах напісана) «Суднага дня» Казько (сцэнарый Піна і таго ж Рыбарава).

Фільм зняты ў сярэдзіне 80-х, я бачыў яго двойчы, але чамусьці не заўважаў раней тое, што цяпер заўважыў: *па-беларуску* ў фільме прамаўляюць пераважна *здрайцы, паліцаі*. Партызаны і ўсе астатнія патрыёты — па-руску.

Не думаю, што Рыбараў зрабіў гэта наўмысна. Падсвядома — вось у чым глыбіня праблемы.

* * *

Сярод ночы — званок Васіля Раінчыка:

— Што робіш?

Па голасе — п’янаваты. Удзень ён і цвярозы толькі ў крайнім выпадку патэлефануе, баючыся, што мяне праслухоўваюць.

— Сплю.

— Дзе?

— Дома.

— А я п’ю на вуліцы. З жонкай палаяўся.

— Ну, пі, калі палаяўся...

— Аднаму сумна. Ты са сваёй таксама палайся, разам піць будзем.

— Калі палаюся, вып’ем...

— Ты зараз палайся.

— Яна ж спіць.

— Дык пабудзі. Хвіліны тры табе хопіць?..

Кажу, каб адчапіцца:

— Не ведаю... Паспрабую...

Праз тры хвіліны званок:

— Палаяўся?

— Не паспеў...

Ён уздыхае:

— Калі б ты мяне папрасіў, я паспеў бы...

Чую, як бутэлька булькае, — і адключаецца тэлефон.

* * *

Павел Якубовіч прыдумаў даць лукашэнкаўскую прэмію «За духоўнае адраджэнне» за 2008 год Адаму Мальдзісу (са згоды самога Адама Восіпавіча, які ў прадстаўленні на прэмію фігуруе нават як пазаштатны супрацоўнік рэдакцыі газеты «Советская Белоруссия»). Ход увогуле — нібы ў развіццё лібералізацыі рэжыму — моцны. Гэткую нечаканку і эміграцыя з’ела б, і апазіцыя, трохі паморшчыўшыся, праглынула б. У звязку з нейкай іншай асобай мог бы ўсчацца гвалт, а ў звязку з Мальдзісам — не. Ён, бадай, адзіная, якая прыдатная для такой акцыі, фігура, тут Якубовіч дакладна ўсё разлічыў. Але не разлічыў ён сілы супраціву гэтай акцыі ў прэзідэнцкай адміністрацыі. Тым не менш не ўсе былі супраць, нехта быў за — і рашэнне не прымалася да апошняга (5 студзеня) абмеркавання, на якім

першая дама адміністрацыі раптам спытала: «А наступным разам будзем Някляеву прэмію даваць?..»

На тым дама не спынілася, настаяўшы на адміністрацыйным расследаванні: чаму галоўным рэдактарам прэзідэнцкай газеты была вылучаная на атрыманне галоўнай (прэзідэнцкай!) прэміі краіны кандыдатура чалавека з апазіцыі — і што, і хто за гэтым стаіць?..

Лукашэнка не запярэчыў, рашэнне па расследаванні было прынятае. Хоць незадоўга перад тым ён сказаў Якубовічу: «Калі першая дама будзе да цябе чапляцца, пашлі яе на...» Павел Ізотавіч адказаў, што ёму ніякавата пасылаць на... даму — ды яшчэ першую. Тады Лукашэнка паабяцаў, што сам яе пашле. І вось паслаў: сёння (8.01.09) прызначыў даму сапраўды першай: першым намеснікам кіраўніка сваёй адміністрацыі. Г. зн., непасрэдным начальнікам Паўла Ізотавіча. У развіццё, так бы мовіць, лібералізацыі рэжыму.

* * *

Зміцер Вайцюшкевіч угаварыў (яму трэба прапіярыць канцэрт на 8 Сакавіка) падпісацца пад праектам на інтэрнэт-радыё tut.by: слухачы выбіраюць найбольш беларускае, на іх думку, жаночае імя — і мы ў студыі пішам песню.

Было галасаванне (каля 10 000 чалавек). Дзіўна, але такім іменем стала не Алеся. Песня будзе называцца «Дамініка».

* * *

У Менску 7 красавіка прайшлі дзве вечарыны памяці: палітыка Генадзя Карпенкі і кампазітара Уладзіміра Будніка.

Абодва былі маімі сябрамі.

З Буднікам мы сябравалі, бо разам пісалі песні. З Карпенкам мы спрабавалі разам напісаць жыццё.

Песні нібыта атрымаліся... Што ж да жыцця...

Генадзь Карпенка меў публічную прыцягальнасць, ці, як зараз кажуць, харызму, дастатковую для таго, каб стаць не толькі лідарам апазіцыі, але і лідарам нацыі. Ён быў найпершым codeсапернікам для ўсіх, хто займаўся палітыкай, змагаўся за ўплыў

у парламенце, за ўладу. Менавіта праз гэта з ім па-здрадніцку абышліся ягоныя «сябры»-дэпутаты, якія спачатку паставілі, а пасля адазвалі свае подпісы пад вылучэннем Карпенкі кандыдатам у прэзідэнты. Праз гэта ў рэшце рэшт яго і не стала...

Я не сцвярджаю, што ён стаў бы прэзідэнтам. Але ён мог ім стаць.

З шэрагу іншых палітыкаў Генадзь Карпенка вылучаўся тым, што прыярытэтам для яго была нацыянальная культура. Ён не быў нацыяналістам, не, але ён разумеў, што з культуры вынікае ўсё астатняе, што менавіта яна, культура, ёсць перадумова таго, якімі будуць палітыкі, якой будзе палітыка, а ўрэшце — народ і краіна.

Мала хто ведае, што, апроч арганізаванага ім Фестывалю нацыянальнай музыкі і паэзіі, Карпенка меў план паэтапнай беларусізацыі *горада сонца,* як ён называў Маладзечна, дзе быў мэрам, і ўсёй — для пачатку — Маладзечаншчыны. І не ягоная віна, што нацыянальны фестываль, некалі любімы ягоны сын, стаў сёння нелюбімым пасынкам. Як няма ягонай віны і ў тым, што ад планаў беларусізацыі засталася толькі шыльда «Кавярня», якую замест знятай шыльды «Кафе» ён уласнаручна павесіў на вуліцы Савецкай, якая пры ім стала вуліцай Віленскай... Дый шыльда тая цяпер, не ведаю, ці вісіць, ці не знесла яе ветрам перамен... На гэтым ветры раптам іначай заспявалі нават тыя, хто меў гонар быць лаўрэатам нацыянальнага фестывалю. І не сорамна... Для іх, мусібыць, жыццё пражыць — тое самае, што й да ветру схадзіць ... Абы цёпла, абы не дзьмула.

На другім Фестывалі нацыянальнай музыкі і паэзіі мэр горада Маладзечна Генадзь Карпенка падарыў кампазітару Уладзіміру Будніку матацыклет, пра які марыў Валодзя з дзяцінства. Падарыў за тое, што кампазітар Уладзімір Буднік, адзін з найталенавітых вернікаў нацыянальнай культуры, напісаў высокую, нябесную песню пра яе геніяльнага верніка: Янку Купалу.

Аднойчы мы ўтрох, Карпенка, Буднік і я, прыйшлі да паэта Анатоля Сыса, каб павіншаваць яго з днём народзінаў. Прычым вядомы палітык, мэр, дэпутат парламента *ведаў*, да *каго*

прыйшоў з віншаваннямі — і дараваў Сысу нават ягонае нахабнаватае панібрацтва: «Давай, Генадзь, на падлогу сядзь...»

Стол у імянінніка быў зламаны на ўсе чатыры нагі — і мы селі на падлозе: яны насупраць мяне... Палітык, кампазітар, паэт — усе трое сапраўдныя, абраныя Богам... Хіба я мог падумаць тады, што ўсіх іх Бог у мяне забярэ?

Калі іх не стала, аднойчы мне здалося, што лёсы гэтых зусім не падобных паміж сабой людзей у нечым, у найістотным, усё ж падобныя, нават блізкія, што ў рэшце рэшт — гэта адзін лёс. І я, перагукнуўшыся з назвай пасмяротнай кнігі Анатоля Сыса, напісаў верш «Лён», тым самым прысвяціўшы яго нібыта аднаму Сысу, але ён — пра іх усіх...

ЛЁН

Дом мой дом на чатыр*ы* вакны
Лён мой лён на чатыр*ы* вятры
Рваў я рваў лён з чатырох старон
Выбіраў лёс з чатырох вакон

Лён мой лён вырваны вырваны
Лёс мой лёс выбраны выбраны
Праў я лён з нітамі зрэбнымі
Браў я лёс біты цярэблены

Я аддам лён мой вятрам вятрам
А сябрам лёс мой аддам аддам
Нешта ў ім я не дарабіў
Калі рваў біў ды церабіў

На сяброў я не пажалюся
У вятроў толькі спытаюся
Што ж я што ж не дарабіў забыў
Ды каго ж не далюбіў згубіў

Я прачытаў гэты верш у IBB (Нямецкім адукацыйным цэнтры), дзе была вечарына памяці Карпенкі, і хацеў прачытаць на вечарыне Будніка ў Белдзяржфілармоніі, дамовіўшыся з Аляксандрам Ціхановічам, што ён перад выкананнем апошняй нашай з Буднікам песні запросіць мяне на сцэну. Пра гэта неяк дазнаў-

ся дырэктар філармоніі і застрашыў Ціхановіча ўсімі магчымымі і немагчымымі страхамі... Перапудзіўшыся, Саша не зрабіў тое, пра што мы дамовіліся, а дасталося ад яго за гэта Ядзі Паплаўскай, якую ён абвінаваціў ва «ўцечцы інфармацыі», і якая (а не ён!) пасля вечарыны тэлефанавала мне і са слязьмі прабачалася...

* * *

12 красавіка 2009 года, гэта якраз на Вербніцу, Алене Аляксандраўне Магер, маці маіх стрыечных братоў Івана, Лявона і нябожчыка Яўгена, восемдзясят гадоў. Святкаваць (бо пост) вырашылі на Вялікдзень.

Як і чым павіншаваць?..

Яна ў Крэве першая верніца, пяе ў царкоўным хоры, крэўскі поп яе ўсяляк расхвальвае. Яна ўдава майго дзядзькі, найстарэйшая (хоць сама і не Магер) у крэўскай радні. І я падумаў: можа, надрукаваць на Вялікдзень паэму «Вялікдзень» з прысвячэннем і віншаваннямі, дык і някепскі будзе падарунак?

А дзе надрукаваць? У якой газеце, каб тую газету поп дазволіў у царкву занесці? У «Народнай волі»? Дык разам з «Народнай воляй» поп і верніцу з царквы папрэ.

Патэлефанаваў Паўлу Якубовічу. Сустрэліся — і ён на дзіва лёгка згадзіўся паэму надрукаваць. «Толькі...» — пачухаў патыліцу. «Канешне, — падняў я рукі, — пад псеўданімам. Але тады арганізуй блаславенне...»

Павел Ізотавіч паслаў ганца з паэмай да Філарэта — і той напісаў блаславенне. А назаўтра нехта настукаў мітрапаліту, што падпісаў ён блаславенне не Уладзіміру Магеру (для псеўданіма я ўзяў прозвішча маці), а Уладзіміру Някляеву.

І як лёгка падпісаў Філарэт блаславенне, гэтак жа лёгка адазваў яго...

Бог даў — Бог забраў.

Я падумаў, што і Якубовіч сваё рашэнне адзаве. Але не, паэма на Вялікдзень у газеце «Советская Белоруссия» была надрукаваная. З прысвячэннем крэўскай царкве, з каляровым фотаздымкам Алены Аляксандраўны, з віншаваннем...

Праз гэта Чаргінец напісаў на Якубовіча... ну, так скажам, інфармацыю ў прэзідэнцкую адміністрацыю. Што той Някляева друкуе...

Кожны піша і друкуе сваё.

* * *

У нейкім чалавеку можа не ставаць сумлення, мужнасці, спагады і чаго заўгодна, але ў любым і кожным з нас кавалак г... заўсёды знойдзецца.

* * *

Навакольнае асмяроддзе.

* * *

Стрыечны брат Лявон запрасіў у суботу (4.04.09) біць кабана ў Крыўску.

Забілі.

Дзень цёплы, сонечны... Найцяплейшы, як пасля мы даzналіся, за апошнія 63 гады. Значыць, гэткі красавіцкі дзень быў у 1946-м, калі я нарадзіўся. І хоць ён да мяне — ніякіх адносін, але чамусьці прыемна пра гэта думаць...

Але найцяплейшы не азначае найлепшы. Ва ўсякім разе, не найлепшы гэткі дзень для таго, каб кабана біць. Кроў не гусцее, цячэ і цячэ... Пах душны, цёпла-салодкі... Зусім не той — снежны, марозны, з якога ўрываешся ў хату, каб кульнуць чарку пад свежаніну. А тут ні чарка не кулялася, ні свежаніна не елася... Ну, не тое каб зусім, але не ў смак, не ў смак.

Усё ў свой час рабіць трэба, усё ў свой час...

* * *

Ігар Шклярэўскі кажа:

«Мне 70, а я пачуваюся ўдвая маладзейшым, я вальсую па начах, напісаўшы нечаканы тэкст, гуляю ў казіно, чытаю кнігі, я адчуваю сябе шчаслівым... і раптам заўважаю, што ні пра што не мару. Не ведаю, пра што?.. Вось гэта і ёсць старасць».

* * *

Другім разам ажаніўшыся, атрымаў віншаванне ад Ігара Шклярэўскага:

Некляев! Летит над водою блесна!
Плывет по течению лодка.
Реку никогда не заменит жена,
Как семгу худая селедка.

Каб зразумець, што гэта, так бы мовіць, жарт усур'ёз, трэба ведаць Ігара Іванавіча. У яго тэорыя: алергія (якой бы яна ні была) — ад жанчын. І тое, што па вяселлі я доўга кашляў, ён лічыць практычным доказам сваёй тэорыі. Кажа: «Гэта не праз тое, што ты курыць кінуў. Я вунь куру па пачаку ўдзень і па два ўноч — і не кашляю».

Ён насамрэч столькі выпальвае. Асабліва начамі, якія ўжо колькі гадоў на рулетцы пракручвае.

* * *

У бары ЦДЛ раптам чую: Шклярэўскі падсеў на рулетку, як на іголку...

Гэта з ягонай воляй?

Калі б ён захацеў спыніць гульню, ён спыніў бы яе... Тым больш, калі б шукаў у казіно толькі грошы. Але ён не толькі іх шукае...

У 1987 годзе паэт Ігар Шклярэўскі стаў лаўрэатам Дзяржаўнай прэміі СССР. Гэта значыць (апрача ўсяго іншага), даволі багатым чалавекам. І ўсё сваё багацце ёнператварыў у сосны, бярозы, асіны... За ягоныя прэміяльныя мы пасадзілі ў чарнобыльскай зоне лес. Пад Петрыкавам, на беразе ягонай любімай, параненай Прыпяці...

Мы садзілі малады лес у працяг старога — і калі я пасадзіў маладую сасонку побач з векавой, мне здалося, што векавуха нахілілася і пагладзіла яе.

Ноччу я падышоў да той векавой сасны... Стаяў і заклінаў яе падаць мне знак, што яна жывая... Дрэва пагладзіла мяне

па спіне. Я папрасіў здранцвеўшы: «Яшчэ раз...», — і дрэва пагладзіла яшчэ раз. Я падумаў, што вецер, але ніжнія галіны сасны былі куды вышэй за маю галаву, куды вышэй...

* * *

Усю ноч даводзіў Ігару Шклярэўскаму, што Куляшоў і Панчанка — сапраўдныя паэты. Ён слухаў-слухаў, пад раніцу пазяхнуў: «Да, не-е-плохие ребята...» — і заснуў.

Дні праз тры-чатыры (я ўжо й забыўся пра тую начную спрэчку) Ігар Іванавіч, нічога не кажучы, дае мне зжоўклую выразку з газеты «Камсамольская праўда» за 6 кастрычніка 1953 года — не ведаю, скуль яна ў яго ўзялася...

«В восьмом номере журнала “Новый мир” за 1953 год опубликовано новое произведение белорусского поэта Аркадия Кулешова — повесть в стихах “Граница”.

Повесть эта не обрадует наших читателей — ее трудно прочитать до конца, трудно отличить действующих лиц друг от друга...

Я на отдельных листках записывал имя каждого действующего лица и, по мере того как читал, делал заметки — кто кого любит, кто кого ненавидит, кто с кем встречается и т. д. Без этого трудно, почти невозможно запомнить взаимоотношения действующих в повести персонажей.

Я не верю тому, что Марина и Максим, выросшие в родном селе и до студенческих лет жившие тут, вышли в поле и заблудились, а жители, отлично знающие всех, кто живет в пограничном районе, вдруг с берданками окружили их, и возница, старый дед, повез двух “диверсантов” на заставу.

В это же время, оказывается, настоящий диверсант переходит границу».

Не дачытаўшы, пытаю: «Ну і што?.. У 53-м годзе маглі і не такое напісаць...» — а Ігар Іванавіч кажа: «Як напісана, так і ёсць, 53-ці год ні пры чым». Я не спрачаюся: «Няхай так, але ж напісана не адна “Граніца”, ёсць “Далёка да акіяна”, “Хамуціус” — у чым праблема?..» — «А ў тым, — катэгарычна адразае Шклярэўскі, — што сапраўдны паэт такой х..., як “Граніца”, не напіша!»

Нічога Ігар Іванавіч гэтым мне не давёў — і тым не менш я не знайшоў, чым яму гэтак жа катэгарычна запярэчыць.

* * *

Людзей, якія б, ведаючы Шклярэўскага, любілі яго, знойдзецца няшмат. Можа, я ды ягоны брат. У яго невыносны характар. Але ў невыносным характары ягоным — неверагодная сіла. Таму няшмат знойдзецца людзей, якія б, ведаючы Шклярэўскага, яго не паважалі.

Калі б ён быў іншы, Масква, якую прыехаў ён некалі заваёўваць, даўно б яго перажавала і выплюнула. Але паспрабуй пераживаць цвік.

* * *

З Аляксандрам Казуліным сёння (11.04.09) былі спачатку ў Барадуліна, а пасля ў Гілевіча з прапановай увайсці ў аргкамітэт па стварэнні «Беларускага дома».

Выглядаюць абодва, на жаль, не так, як у найлепшыя гады... У Барадуліна правая рука пакалочваецца, у Гілевіча да ўсяго пасляінсультнага яшчэ і цукроўніца дадалася.

Гілевіч пытаецца ў Казуліна: «Як вам мая кніга мемуараў?..» Той, засаромеўшыся, адказвае: «Выбачайце, не чытаў...» — «Ну, нічога, будзе час — прачытаеце...» — кажа Гілевіч. «Калі буду мець кнігу...» — намякае на аўтограф Казулін, і Гілевіч здзіўляецца: «У вас жа яна павінна быць, я праз Алеся П. перадаваў!» Казулін разводзіць рукамі... «Вось жа нягоднік малы, — без злосці абураецца Гілевіч, — у каторы раз падводзіць! Папрасіў яго, калі ён у Кіеў ехаў, каб Уладзіміру Яварыўскаму кнігу завёз. Пасля пытаю пры сустрэчы: “Алесь, з’ездзілі вы ў Кіеў, завезлі кнігу?..” — “З’ездзіў, Ніл Сымонавіч, завёз. Яварыўскі так вам дзякаваў!..” А праз паўгода тую кнігу з маім аўтографам пляменнік ад букіністаў мне прынёс. З кнігарні на Нямізе...»

Я хоць і звык да неабавязковасці Алеся, але выказваю сумнеў, што такое магло быць. «Дык паглядзіце, — падае кнігу Гілевіч. — Бачыце, кошт алоўкам пазначаны: 25 тысяч». — «Ну... — не ведаю я, што сказаць, — хоць кошт нармалёвы».

І Гілевіч кажа амаль задаволена: «Кошт ніштo сабе, таму і злуюся не надта...»

P. S. Пасля публікацыі гэтага літаратурнага анекдота ў газеце «Наша Ніва» Алесь П., да якога я, нягледзячы на тое, што ён насамрэч (праз што і ўзнік анекдот) не ва ўсім і не заўсёды абавязковы, вельмі прыязна стаўлюся, завітаў да Ніла Гілевіча, да якога я таксама прыязна стаўлюся, і спытаў, ці распавядаў ён Уладзіміру Някляеву гісторыю пра аўтограф для ўкраінскага пісьменніка Уладзіміра Яварыўскага. Ніл Сымонавіч сказаў, што не распавядаў. І нават напісаў абвяржэнне ў газету.

* * *

Аляксандр Межыраў памёр. У Злучаных Штатах, дзе дажываў ён жыццё ў доме для састарэлых.

Не рыфмуецца яно: паэт і дом састарэлых.

Апошні раз сустракаліся мы ў Доме творчасці. Незадоўга да ягонага ад’езду. Гэта быў канец лета, і гэта былі Дубулты, куды я выправіў Людмілу з Евай. Праз пару дзён патэлефанаваў ім, адказала Ева, тады яшчэ малая, і на пытанне, як яны там, весела закрычала: «Добра! Межыраў хоча маму ў Амерыку звезці...»

Я не падумаў, што Ева нешта выдумляе, бо ва ўсім, што тычылася жанчын, Аляксандр Пятровіч быў прафесіяналам, і спецыялізаваўся менавіта на жонках сяброў і знаёмых — пухам яму зямля.

Я прыехаў у Дубулты, літаратурны раман скончыўся — і мы ўдвух усю ноч пілі. Ён чытаў вершы, плакаў. Казаў, што не хоча ехаць. Бо тут ён геніяльны паэт, а кім ён будзе там?.. Я выказаў меркаванне, што там ён будзе геніяльным таксістам. Жарт быў не найлепшы, бо Межырава ледзьве не пасадзілі за тое, што машынай збіў чалавека. За рулём быў нападпітку — ды яшчэ збег... Межыраў пакрыўдзіўся, я пачаў выкручвацца і сказаў чамусьці, што там ён будзе рыбаком. На гэта Аляксандр Пятровіч адказаў, што ён і тут рыбак. Прычым геніяльны. Пад раніцу некуды пайшоў і вярнуўся з вялізнай рыбінай. Купіў, канешне, у рыбакоў, але наманіў, што злавіў. І папрасіў пабудзіць Людмілу, каб яна тую рыбіну засмажыла. Я пабудзіў...

Наш бедный стол
всегда бывал опрятен —
И, вероятно, только потому,
Что чистый спирт не оставляет пятен.
Так воздадим же должное ему!

Гэта, між іншым, напісана Межыравым з успамінам пра Менск.

«Ну і што, што збег?.. — спытаў Ігар Шклярэўскі, які першы, патэлефанаваўшы з Масквы, сказаў мне пра смерць Межырава. — Спалохаўся і пабег. Ён не Герой Савецкага Саюза... Дый пасля: дзе няма страху — там няма Бога».

Па голасе чуваць было, што Ігар Іванавіч, які апошнія гадоў дваццаць пяць не выпівае ў застоллі больш за кілішак, п’янаваты. Выпіў, дазнаўшыся, што Межырава не стала, а пасля ўжо патэлефанаваў. «Якую б, — спытаў, — на развітанне з ім песню заспяваць?..» І заспяваў нечакана: «В тумане скрылась милая Одесса, золотые огоньки...»

* * *

Рыгор Барадулін даў мне рукапіс кнігі (каб я напісаў прадмову) з назвай «Паслаў бы табе душу». Гэта ягонае ліставанне з маці ад 1954 года (калі ён паехаў вучыцца ў Менск) па 1971-шы — год смерці Куліны Андрэеўны. Падахвоціў яго на тое, каб скласці лісты ў кнігу, Сяргей Шапран (дый сам Сяргей сабраў тыя лісты і перадрукаваў).

Шчымлівае чытво... І шмат у чым (калі нібыта ведаеш чалавека, побач з якім пражыў паўжыцця) нечаканае. Чытаеш — і яшчэ раз пераконваешся: не ведаем мы адзін аднаго (усе ўсіх), якія мы ні ёсць блізкія. Так, не зведаўшы, і развітваемся навечна. Калі выпадкова (як праз гэтыя лісты) не зазірнем у спраты, у сховы сваіх сяброў, дзяцей, бацькоў...

Лісты высвечваюць Барадуліна *жыўцом*. Ён не хаваецца ў іх, бо няма патрэбы, і не выдумляецца, бо перад кім і для чаго? *Маці* яшчэ ж не стала *тэмай* паэзіі (што шмат каго, да прыкладу, Рыгора Саламонавіча Бярозкіна, які лістоў барадулінскіх не чытаў, раздражняла: «Ты, Грыша, як дзіця: мама, мама, мама...»).

Між іншым, з лістоў разумееш, чаму ў Барадуліна столькі вершаў, прысвечаных маці. Не маці ўвогуле, а менавіта маці Куліне. Божа, як слепа і ў той жа час мудра яна яго любіла! «Добрый день, сыночак мой любый! Палучыла узнова пісьмо і грошi. Детка маё любая, я ужо не знаю, ті сплю, ті уво сне віжу, ті правда гета ты такое чуда тварыш! Ужо на пошце усе удівляюцца, гаворуть: “Во сын невідімый!”»

А перад тым, у ранейшым лісце: «Ты став нервный ат добрай жізні...»

Як яна не хацела, каб сын рана ажаніўся! Як упіралася!.. А як толькі справілі вяселле, так маці мякка зламалася — і нявестка стала любай дачкой. Сказала толькі Куліна Адрэеўна нявестцы: «Каб ты была парасяткам, я б цябе не купіла, бо надта ж мала ясі».

Такой жанчыне штодня можна вершы прысвячаць.

Гэтай кнігай Рыгор Барадулін не толькі маці душу паслаў, многім. Ва ўсякім разе, мне.

* * *

Субяседнік Паэта зусім не чытач. Субяседнікі Паэта — Ён і Яна. Бог і Вечнасць. Больш размаўляць Паэту няма з кім і няма пра што.

Але што да Паэта Богу і Вечнасці? Калі наперад ведаюць яны ўсё тое, што ён скажа, бо самі ж і нашэптваюць, і падказваюць яму магічныя словы, падаюць таямнічыя знакі...

Ім цікава: «Ці ўгадае?» — іх займае Гульня.

Паэт — дзіця, Бог і Вечнасць — таксама дзеці.

* * *

У чым унікальнасць Уладзіміра Караткевіча?.. У тым, што ён — стваральнік сучаснай беларускай міфалогіі. Яшчэ ў тым, што ягоныя чарадзейныя ці, як ён сам любіў казаць, прыўкрасныя міфы выглядаюць больш рэальнымі, чым сама рэальнасць.

Беларуская гісторыя ў пераказе Караткевіча — гэта гісторыя магутнай еўрапейскай дзяржавы, населенай самымі прыгожымі ў свеце жанчынамі і самымі смелымі, высакароднымі,

адданымі роднаму краю воямі. Рыцарамі. Менавіта такая, сцвярджае Караткевіч, ёсць нашая краіна, менавіта гэткія ў ёй людзі. І наўрад ці знойдзецца чалавек, які, прачытаўшы Караткевіча, у гэта б не паверыў. Такая сіла ягонага таленту, такая ў ім высокая любоў да Беларусі. Гэткая ў ім мастацкая праўда — роўная з праўдай жыцця. Нават вышэйшая за яе.

* * *

Руская (і нібыта нават народная) песня «Вечерний звон» (якую ў пачатку фільма В. Шукшына «Калина красная» спяваюць зэкі) — гэта насамрэч (першапачаткова) армянская народная песня, тэкст якой быў перакладзены ірландцам на ангельскую мову, з ангельскай — на рускую, а мелодыю (новую, старажытнаармянская страцілася) да рускага тэксту напісаў паляк.

* * *

Гэткі ж самы знакаміты «гімнюк», як С. Міхалкоў (які напісаў тэксты гімнаў, па сутнасці, для дзвюх дзяржаў: СССР і РФ), — Рабіндранат Тагор, які пісаў не на хіндзі, а на роднай яму бенгальскай (Нобелеўскую прэмію атрымаў за кнігу вершаў па-ангельску). Ён не дажыў да незалежнасці Індыі, але менавіта ягоны верш стаў тэкстам гімна гэтай краіны, а ў 1971 годзе, калі незалежнай стала Бангладэш, гімнам для яе таксама былі скарыстаныя вершы Тагора.

* * *

Песню «Священная война» на пачатку Вялікай Айчыннай вайны напісаў Лебедзеў-Кумач, песню «Майскими короткими ночами» напрыканцы вайны — Салаўёў-Сівы. Што цікава — абодва з «птушынымі» прозвішчамі, ды яшчэ абодва Васілі.

* * *

Рэактыўны рускі мінамёт, вядомы пад легендарнай назвай «Кацюша», немцы называлі «Stalinorgel» («Сталінскі арган»). Увогуле, па трубах падобна... Вось толькі гук... Зусім не такі, як у нямецкіх кірхах, амаль у кожнай з якіх — арган.

* * *

1974 год, лета. Сонечная раніца. Каля Саюза кампазітараў сустракаю Ігара Лучанка. Ён у кампаніі з генералам (намеснікам, як пасля аказалася, камандуючага Беларускай ваеннай акругі) і палкоўнікам (галоўным дырыжорам аркестра БВА). Едуць некуды пад Асіповічы з нейкай інспекцыяй. «Малады паэт! — прадстаўляе мяне Лучанок генералу. — Той самы, з якім мы дамовіліся напісаць песню пра ракетчыкаў. Паехалі!..»

Ні пра што мы з ім не дамаўляліся, але няхай так... Тым больш, што яно не ўпершыню. Пра пажарнікаў песні пісалі, пра леснікоў, выратавальнікаў на рэках і азёрах... Ва ўсіх мы пагулялі, усе нам заплацілі. І Лучанок шэпча на вуха: «Паўтары сотні гарантую».

Ну, паўтары сотні — гэта паўтары сотні. «Паехалі!»

Недалёка ад Асіповічаў — Лапічы, а ўжо за тымі Лапічамі — вёска Цэль. Суцэльнае балота. Вось там, у тым балоце, і стаялі ракеты.

Кіламетра за паўтара ад Цэлі спыняемся на невялічкім пагорку, дзе нас сустракае яшчэ адзін палкоўнік, камандзір ракетчыкаў. «Размінка!» — камандуе генерал, і на багажнікі машын выстаўляецца каньяк. З пагорка відаць, як маршыруюць слаўныя воіны на плацу, вітаючы генерала песняй.

Мы ракетные секретные войска,
Выполняем стратегическую роль.
Защита Родины надежна и крепка —
И «Зяблик» — наш пароль,
И «Зяблик» — наш пароль!

Галасы слаўных воінаў ракетных сакрэтных войскаў не слабенькія, горла хлопцы дзяруць не шкадуючы. Песня далёка чуецца... Госць, палкоўнік-дырыжор, які прыехаў з намі, задаволены: «Малайцы!» І гаспадар, палкоўнік-камандзір, які сустрэў нас на пагорку, задаволены таксама: «Арлы!» А генерал, які задаволены не надта, раптам пытаецца ў яго: «А які ў вашых арлоў пароль, палкоўнік?» — і той ускідвае руку да брыля: «“Зяблік”, таварыш генерал!..»

Як генерал лаяўся — трэба было чуць. «Хто, б...!? Сюды падаць!..» А падаваць няма каго, бо малодшаму сяржанту музычнага ўзвода, які напісаў гэтую песню, — тры дні адпачынку. Якраз за тое, што так хораша напісаў. Асабліва пра «зябліка», які, аказваецца, дзейны (а таму, зразумела, сакрэтны, калі не звышсакрэтны) пароль слаўных ракетчыкаў.

«Я цябе самога ў сяржанты! У зяблікі!!!» — наліваючыся крывёю так, што, здавалася, жылы на шыі лопнуць, крычаў генерал на палкоўніка...

Не ведаю, кім урэшце стаў той палкоўнік, сяржантам ці «зяблікам», а вось Уладзімір Кур'ян, які ў 1974 годзе служыў пад Лапічамі «лабухам» і напісаў гэтую песню, стаў музычным кіраўніком Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы. Дзе і найграў мне аднойчы на баяне песню слаўных ракетчыкаў, якая й абудзіла мае ўспаміны...

Ягоныя таксама.

Адразу ж пасля трохдзённага адпачынку за добрую песню атрымаў малодшы сяржант Кур'ян сем сутак губы. Што цікава, за тую самую песню.

Пасля губы паслалі малодшага сяржанта Кур'яна, выпускніка Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі, на курсы павышэння музычнай кваліфікацыі. Каб лепшыя песні пісаў. А кіруе курсамі прапаршчык, якому цяжка кіраваць увогуле — і асабліва з раніцы ў панядзелак. Раніцай у панядзелак ён накрэслівае на дошцы шэсць нотных лінеек, спрабуе напісаць на іх ноты і доўга стаіць, намагаючыся ўцяміць, што ж у яго выходзіць не так... Усе маўчаць, няхай сабе прапар мучаецца, а малодшы сяржант Кур'ян, нядаўні выпускнік Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі, не можа не заўважыць, што нотны стан — гэта ўсё-ткі пяць, а не шэсць лінеек, пра што і кажа таварышу прапаршчыку. Той адну лінейку сцірае, астатнія пералічвае: «Раз, два, тры, чатыры, пяць, б..., пяць сутак губы за заўвагу камандзіру!..»

* * *

Калі за савецкім часам рэдагаваў я бюлетэнь «Тэатральны Мінск», дык абавязаны быў прысутнічаць на так званых здачах

спектакляў Міністэрству культуры. У той час любы спектакль трэба было *здаваць*, каб займець дазвол, *допуск* на сцэну — па меркаваннях найперш ідэалагічных. На тых *здачах* было нямала момантаў даволі камічных...

*Здавалася* опера Рыгора Пукста «Аповесць пра сапраўднага чалавека». Актор, які выконвае ролю Аляксандра Мярэсьева, паўзе па сцэне і пяе: «О, колькі дзён паўзу я — ні кроплі ў роце не было...» І адразу ўступае хор: «Гангрэна! Гангрэна! Яму адрэжуць ногі!..»

Я не вытрываў, засмяяўся.

На абмеркаванні оперы інструктар аддзела культуры ЦК КПБ (здаецца, прозвішча ягонае было Парватаў) спытаў, што я ў гераічным творы ўбачыў смешнага. Я адказаў. І нейкая дама з Міністэрства культуры адразу абурылася: «Чалавеку ногі адразаюць, а яму смешна!..»

Спектакль прынялі. Ідэалагічным патрабаванням ён адпавядаў цалкам.

* * *

Як рэдактар бюлетэня «Тэатральны Мінск», я прысутнічаў на паседжаннях праўлення Беларускага тэатральнага аб'яднання, якое ачольвала народная артыстка СССР Ларыса Пампееўна Александроўская.

У 1976 годзе Цэнтральны Камітэт кампартыі Беларусі прыняў рашэнне памяняць старшыню праўлення БТА, прызначыць замест Александроўскай Мікалая Яроменку. На паседжанні праўлення БТА прадстаўнік ЦК КПБ з прозвішчам Парватаў не тое каб лаяўся, але выказваўся даволі груба. Я не стрываў: «Што вы сабе дазваляеце?..» Усе прамаўчалі, а Ларыса Пампееўна сказала: «Гэта ягоная, а не наша праблема, Уладзімір».

* * *

Язэпу Янушкевічу спатрэбіўся пераклад верша (з польскай) нейкага Ігнася Легатовіча (настаўніка лаціны з Менску), прысвечанага нейкай Феліцыі. Я заўпіраўся (вершы аматарскія), спаслаўся на час, якога няма, а хітры Язэп сказаў, што той Легатовіч быў сляпы, як Гамер, а тая Феліцыя круціла каханне

з Бястужавым. Замуж выйшла за Рудольфа Грушвіцкага, ад якога нарадзіла сына. Міхася Грушвіцкага, кампазітара.

Супраць Гамера, Бястужава і Грушвіцкага ўпірацца не выпадала — і я змушаны быў далучыць Легатовіча да іх кампаніі.

Do Felicyi W. w Wyhoniczach.
Przyrzekłem przez noc napisać ci wiersze,
Lecz mimo chęci najszczersze,
To, co tak łatwo dla innych bywało,
dla Ciebie się nie udało... (і г. д., арыгінал).

Да Феліцыі В[айдзевіч] у Выганічах.

Я абяцаў табе, што вершы ўночы
Такія напішу, што твае вочы
Ад іх заззяюць, як ад зорных сноў,
Ды як ні завіхаўся аж да рання,
Усё ж не здолеў выказаць кахання,
Яно такое — не хапіла слоў.

Каб выявіць у словах вобраз мілы,
Я не знайшоў — ці Бог не даў мне — сілы
Узвысіцца да гэткай пекнаты,
Якую ты сама ў сабе ўяўляеш,
З якою ты на ружу пазіраеш,
З якой на сонца пазіраеш ты.

Не параўнаць ні з ружай, ні з вяргіняй
Цябе, мая пастушка і багіня,
Якою я любуюся ўначы,
Як тое сонца, што табе свяціла,
Што кацяняткам за табой хадзіла,
І што заснула на тваім плячы.

Язэп застаўся задаволены. «Я ж табе казаў: Гамер!»

* * *

На чарговым дні народзінаў Віктара Казько ў чарговы раз аглядаем ягоны сад на лецішчы ў Дудутках. Пра кожнае дрэва ў гаспадара свая гісторыя, якая штораз паўтараецца ў адных і тых жа дэталях.

Я не юны мічурынец, таму аднойчы не вытрымліваю.

— Апанасавіч, ты мне ўжо ў дзясяты раз тое самае распавядаеш! І ў мінулым годзе, і ў пазамінулым!..

Казько ўважліва разглядае прывой на грушыне.

— Ты помніш?.. Дакладна тое самае?

— Помню! Дакладна.

— І нічога не блытаю?

— Нічога.

— Дык і добра. Ты помніш, я не блытаю... Значыць, ні ў цябе, ні ў мяне — ніякага склерозу.

* * *

Кажу Віктару Казько, што ягоная кніга «Бунт незапатрабаванага праху» — гэта прах незапатрабаванага бунту...

— Гэта неяк страш-на-ва-та... — па звычцы сваёй трохі расцягваючы словы, прамаўляе Віктар Апанасавіч, які і напісаў гэтую страш-на-ва-тую, адну з лепшых у нашай літаратуры, кнігу.

* * *

Сказ з рукапісу Субоціна:

«Отчетливо помню сейчас тот испуг, который я пережил».

І праўка Маршака:

«Я до сих пор помню, как я испугался».

Вышэйшая школа рэдактуры.

* * *

Фрыдрых Энгельс у лісце да Карла Маркса: «Прабач, Карл, што напісаў гэткі доўгі ліст. Напісаць карацей не было часу».

Шкада, што не ўсе пісьменнікі знаёмыя з эпісталярнай спадчынай класікаў марксізму.

* * *

Літоўцы (тэатр Meno Fortas) прывезлі ў Менск (26.09.08) спектакль «Атэла», пастаўлены Някрошусам.

Даўно з такой асалодай не глядзеў на сцэну, па якой, як кветкі, раскідваліся метафары. Шматзначныя, вынаходлівыя. І гэта

ў банальным аповедзе пра тое, як раўнівы муж, паверыўшы паклёпу, задушыў жонку.

Здорава, між іншым, задушыў. Прыгожа.

Спектакль у 3-х дзеях, кожная — гадзіны паўтары. Някрошус не шкадаваў і не шкадуе часу, праведзенага на сцэне. Магчыма, ён лічыць, што па-за ёй час проста марнуецца. Можа быць.

Апоўначы, пад фінал спектакля, зала Дома афіцэраў, напачатку перапоўненая, амаль спусцела. Да мяне падышоў Алег Груздзіловіч са «Свабоды» і спытаў, як я думаю, чаму ўсе збеглі?.. «Менску не хапае тэатральнай культуры?..» — глядзеў ён на мяне, чакаючы, бо ў яго праз 20 хвілінаў эфір.

Я сказаў, што людзям па хатах пара.

— І больш нічога?

— І больш нічога.

Прайшоўшы за кулісы, я спытаўся ў актораў, якія на працягу ўсяго спектакля боўталі ваду ў празрыстых каністрах, імітуючы марскія хвалі, як яны думаюць, што яны рабілі?.. Яны сказалі, што імітавалі марскія хвалі, і больш нічога.

* * *

Калі туманам наплываюць (а яны наплываюць туманам) настальгічныя ўспаміны пра савецкае мінулае, дзе я, найчасцей, стаю на сцэне перад тысячамі людзей, дастаткова чвэрць гадзіны пагартаць «Архіпелаг ГУЛАГ» — і туман сплывае. І тыя тысячы людзей — зэкі, а я пастаўлены на сцэну лагерным начальствам туманіць ім мазгі.

* * *

Перад тым як напісаць «Дзікае паляванне...» і «Чорны замак...», Уладзімір Караткевіч чытаў і чытаў дэтэктывы. Ведаючы польскую мову, кніжкі набываў пераважна польскія. Іх можна было купіць у Менску ў кнігарні «Дружба». Яны выдаваліся невялікім фарматам у мяккай вокладцы, змяшчаліся ў кішэні пінжака ці паліто, дзе іх Уладзімір Сямёнавіч і насіў.

Неяк у застоллі Рыгор Барадулін спытаў: «Ты для чаго цягаеш гэтую макулатуру?..»

За сталом сядзелі ў аднапакаёўцы Міхася Стральцова на вуліцы Шчукіна, дзе, апроч стала, канапы і кніжнай паліцы, не было нічога. Нават патэльню з яечняй, засмажаную ў суседкі, бо папярэднія гаспадары кватэры, выязджаючы, забралі пліту, не знайшлося на што паставіць. Тады Караткевіч паклаў на стол чарговы дэтэктыў і паставіў на яго патэльню. Барадулін сказаў: «А, во для чаго!..»

Як час паказаў, не ўгадаў.

Стральцоў прапанаваў выпіць за такія кнігі Караткевіча, каб на іх можна было смажыць яечню без пліты.

Барадулін сказаў, што ў такім разе кнігі Караткевіча ў кішэнях насіць будзе немагчыма, асабліва ў штанах...

Караткевіч засмяяўся і выпіў.

Калі ў часопісе «Маладосць» з’явілася «Дзікае паляванне...», часопіс цягалі ў кішэнях, хоць фармат ягоны быў для гэтага зусім не зручны.

* * *

У пяцьдзясят гадоў Уладзімір Караткевіч нарэшце займеў узнагароду: ордэн Дружбы народаў. З гэтай нагоды ў Доме літаратара наладзілі вечарыну. Апроч чытачоў ды літаратараў, рознага начальства сабралася процьма. З ЦК, з міністэрстваў. Караткевіч ідзе, аточаны гэтым начальствам, з кабінета тагачаснага старшыні Саюза пісьменнікаў Максіма Танка ў залу, я жартам кажу:

— Уладзімір Сямёнавіч, дайце ордэн панасіць!

Караткевіч спыняецца, азіраецца на світу, адказвае сур’ёзна:

— Я б табе даў, але ён не мой. — І паказвае на Сяргея Законнікава: — Ягоны.

Начальства перамінаецца з нагі на нагу, глядзіць на юбіляра, на Законнікава, на мяне, на ўсё і ўсіх няўхвальна — і я разумею, што пажартаваў няўдала. Але ж не толькі ў гэтым прычына няласкавасці ў начальніцкіх паглядах, у нечым яшчэ...

Аказалася вось у чым.

Законнікаў, які працаваў у ЦК КПБ, меў непасрэднае дачыненне да няпростага працэсу ўзнагароджання Караткевіча. Ён

звярнуўся да сакратара ЦК па ідэалогіі Аляксандра Кузьміна з прапановай узнагародзіць аднаго з найлепшых беларускіх пісьменнікаў ордэнам Леніна. Але ж Караткевіч хоць і добры пісьменнік, ды іншым разам піша, як нацыяналіст. Ордэн Леніна — нацыяналісту? Могуць не зразумець. Таму афармілі паперы на ордэн Працоўнага Чырвонага сцяга.

Гэтага таксама «не зразумелі»: які з Караткевіча «герой працы»? Ён жа нідзе не працуе. Толькі ездзіць паўсюль: то ва Украіну, то ў Грузію. Так што ордэн Дружбы народаў — самае тое.

Падпісалі ў Маскве ўказ, а павіншаваць узнагароджанага згодна з рэгламентам павінен кіраўнік рэспублікі: першы сакратар ЦК Ціхан Кісялёў. Ён будзе тэлефанаваць, трэба падрыхтаваць да размовы ардэнаносца. Законнікаў ногі ў рукі — і да Караткевіча. А той адмакае ў ванне. Адмакае добра, а вось словы выгаворвае не так, каб адразу разабраць... Сказаць некаму, што ардэнаносец па нейкіх прычынах не можа (а тут яшчэ могуць падумаць: не хоча!) размаўляць з першым сакратаром ЦК — лепей адразу застрэліцца. І Законнікаў падцягвае тэлефон да ванны.

— Уладзімір Сямёнавіч, табе зараз патэлефануюць.

— Хто?..

— Не важна. Што б ты ні пачуў, кажы ў адказ адно: «Дзякуй, апраўдаю давер!» Больш ні слова.

Тут — званок. Законнікаў прыціскае трубку да намыленага вуха ардэнаносца — і той адразу, яшчэ не пачуўшы нічога:

— Дзякуй! Апраўдаю давер!

І так — разоў пяць. На тым баку ўжо трубку паклалі, а Уладзімір Сямёнавіч усё апраўдвае і апраўдвае давер...

— Слухай, а хто гэта мне званіў? І што раптам сталася? — спытаў ён, нарэшце, вылезшы з ванны, і Законнікаў распавёў яму ўсю гісторыю ягонага ўзнагароджання.

...І вось вечарына. Караткевіч апрануты ў касцюм. Трымаецца святочна. Ордэн, вядома, ужо абмыты, і гэта заўважна. У кабінеце Максіма Танка пры ўсім начальстве Уладзімір Сямёнавіч раптам здымае ўзнагароду і спрабуе прышпіліць яе Законнікаву:

— Во хто мне ордэн даў! Вы б не далі, я вас, сабак, ведаю!..

Мне ўжо той ордэн панасіць ніяк не выпадала.

* * *

Чалавек лёсу адзінотнага, Міхась Стральцоў нейкі час знаходзіўся амаль за кратамі — у Мазыры ў так званым лячэбна-працоўным прафілакторыі. А памёр ён ад раку. На памінках па ім я спытаўся ва ўсіх, хто прамаўляў пра яго, як яно водзіцца, усялякія пранікнёныя словы, сябе ўспамінаючы ўлюбёным ягоным сябрам: а хто з вас хоць аднойчы наведаў Стральцова ў тым прафілакторыі?.. Калі яму кепска было, калі ён ледзь не канаў...

Аказалася, што ніхто.

* * *

Неяк спытаўся я ў Караткевіча, скуль у яго звычка да слова *прыўкрасна,* якое і на слых, і на зрок — калька з рускай...

— А што, хіба кепска? — шчыра здзівіўся Уладзімір Сямёнавіч. — Па-мойму, прыўкрасна!

* * *

У савецкія часы была вядомая пятая графа ў пашпарце: нацыянальнасць. Уладзімір Караткевіч часцяком распавядаў гісторыю пра гэтую графу і старога габрэя, які пашпарт мяняў.

Запаўняе стары габрэй патрэбную для абмену пашпарта анкету, яго пытаюць:

— Вы хто па пятай графе?

— Іўдзей.

— А як гэта пішацца?..

— Габрэй.

З тым стары і пайшоў, а калі пашпарт быў гатовы, забраў яго не гледзячы. Дома прачытаў у пятай графе: *іўдзейскі габрэй.*

Дык вось: як толькі размова заходзіла пра нацыянальнасць — здараліся ж застоллі, у якіх кідалі адзін аднаму: «жыд», «маскаль», — Караткевіч адразу падымаўся:

— А я — «іўдзейскі габрэй»! Дык што з таго?

Да «тонкіх матэрый» нацыянальнага пытання Караткевіч ставіўся так, як і павінен ставіцца кожны нармальны чалавек: яго яно не турбавала.

* * *

У Міхася Стральцова ў апавяданні «Свет Іванавіч, былы донжуан» сказ: «І ўюнашы абступаюць мяне і пытаюць, якія я куру цыгарэты...»

Калі не ведаць таго, што можна назваць *асабістай* гісторыяй беларускай літаратуры, дык не дапяць: скуль у такога стыліста, як Стральцоў, гэткая дзікунская калька, як *уюнашы*? А слоўца гэтае якраз з асабістай гісторыі літаратуры, яно — памяць пра Міхася Лынькова, які да ўсіх маладзейшых толькі так і звяртаўся: «Ну што, *уюнашы...*»

* * *

Цікавую рэч вычытаў у Праспэра Мэрымэ (апавяданне «Локіс») Васіль Зуёнак:

«Шмат у якіх заможных літоўскіх сем’ях вы можаце ўбачыць шыкоўнае сталовае срэбра... але там не знойдзецца пярыны для стомленага госця. Ці ён бедны, ці багаты, мужык або пан, славянін можа добра заснуць і на голых дошках».

«А хто ў Літве славянін?.. — слушна пытае Зуёнак. — Беларус. Ён жа літовец, ліцвін».

* * *

Аднойчы мне выпала з’ездзіць з Уладзімірам Караткевічам і супрацоўнікам аднаго маскоўскага літаратурнага часопіса ў вандроўку.

Зрэшты, вандроўкай гэта не назавеш, бо ўжо на другі дзень мы вярнуліся дадому. Машына наша па дарозе зламалася, і сярод ночы, гадзіны ў тры, мы пастукаліся ў хату на ўскрайку палескай вёскі. Дзверы адчыніла гаспадыня, Караткевіч спытаў, ці можна нам пераначаваць.

— А колькі вас?

— Чацвёра.

— Заходзьце. Хочаце — у хаце кладзіцеся, калі вы гарадскія, хочаце — у пуні на сена... Але ж вам і паесці трэба.

І вось сярод ночы ўспорваецца гаспадар, накрываецца стол, ставіцца самагонка, наразаецца сала... Не толькі чалавек з Масквы — я таксама падумаў, што Караткевіч з гаспадарамі знаёмы і загадзя дамовіўся з імі нас разыграць. Калі ўсё ж аказалася, што не, то як быў уражаны маскоўскі госць! Нараніцу ён адвёў гаспадара за пуню і паспрабаваў грашыма падкупіць, каб той прызнаўся, што з Караткевічам знаёмы.

— Да не знаёмы! — адпіхваўся ад маскоўскага госця і грошай ягоных гаспадар. І хітраваў: — Хіба баба мая з ім зблыталася, хто яе ведае...

Трэба было бачыць, з якой вышыні пазіраў на маскоўскага госця Караткевіч! Як поўніўся ён гонарам праз тое, што жывуць на Беларусі такія вось людзі!

* * *

Тэлефануе Марыйка Мартысевіч і кажа, што яны (не ўдакладняючы, хто з ёй?) збіраюцца выдаць каляндар з агаленымі беларускімі паэтамі і не маюць сумневу, што Някляеў пагодзіцца сфоткацца галяком і як аўтар «Лабуха» той каляндар адкрые, будзе ў ім месяцам студзенем...

Голас у яе вясёлы — а што, такі прыкол, хіба не?.. хто не разумее — лох!.. — і яна перакананая, што мне таксама павінна быць весела: «Ну, што, калі вы прыйдзеце ў студыю?.. Можна, калі хочаце, сфоткацца на пару, ёсць заяўкі на вас...» — а я вось не адчуваю, што мне гэтак жа весела, як ёй, і даўно б паслаў яе, калі б не была яна слаўнае дзяўчо, якое піша файныя вершы — хоць бы пра пісьменніка Кастуся Травеня...

Вось яго б і сфоткала.

Назаўтра тэлефануе ўжо Валерыя Кустава: «Згаджайцеся, сфоткайцеся, гэта ж які прыкол!..» Кажу ёй, што згодны, калі фэйс мой, а торс — Шварцнегера. Хіба не прыкол?.. Так, маўляў, Марыйцы і перакажы.

Переказала... Зноў тэлефануе: «Марыйка прыколу вашага не зразумела. Кажа, што трэба, каб і ўнізе было ўсё вашае».

* * *

Колькі чуў, колькі сам казаў: «Вось чалавек! Голая душа!..» Пакуль не нагледзеўся стрыптызаў.
Душа, як і цела, павінна мець апратку.

* * *

Валерыі Куставай даслаў верш з апошнім радком «Бог не спіць». Праз дзень яна піша (нібы ў адказ): «Бог заснуў — і свет наш знік».

Калі параўнаць пакаленне, з якога я, з пакаленнем, з якога Валерыя, дык іх, па-першае (як ні дзіўна), болей (Валерыя Кустава, Віталь Рыжкоў, Марыйка Мартысевіч, Рагнед Малахоўскі, Вальжына Морт, Усевалад Сцебурака, Віктар Жыбуль, Вера Бурлак, Анатоль Івашчанка, Глеб Лабадзенка, Максім Шчур, Андрэй Адамовіч, яшчэ ёсць маладзейшыя за іх), а па-другое, па ўзроўні яны ў свае 20–30 вышэй (хоць не ўсе, гэта ўжо зараз відаць, здолеюць вытрываць), чым былі ў такім узросце мы.

Сцёбу толькі ў іх зашмат... На ўсіх хапіла б аднаго Хадановіча.

* * *

Брат з'ехаў з Менску ў Смаргонь. Доўга (праз тое, што Някляеў) не мог знайсці хоць якую-небудзь працу. Каб жыць, завёў гаспадарку: курэй, трусоў...

Прыязджаю ў Смаргонь, братавая кажа:

— Так, Валодзя, і жывём. Калі ўжо зусім сумна робіцца, выпіваем пляшку і глядзім, як трусы я...цца.

* * *

Садом не ў гуморы.

* * *

Ёсць такія людзі, якіх не варта паважаць, і ёсць такія, якіх нават не паважаць не варта.

* * *

Адзінае, што маем на зямлі, — адведзены нам час. І ні з кім, і ні з чым не развітваемся мы гэтак лёгка, як з часам.

Віншую з Новым годам!

Сутнасць жыцця — у развітанні з ім.

* * *

Пасля прэзентацыі анталогіі беларускай паэзіі ў Гданьску падышла шляхетная полька («пані трошкі ў гадах», як напісаў Барадулін, але бездакорна дагледжаная, з густам апранутая):

— Я люблю Маякоўскага, які казаў, што піша вершы нагамі, дык пра вас можна сказаць, што вы чытаеце рукамі.

— Мне прыняць гэта як камплімент ці... — пачаў я, і яна перапыніла, дакрануўшыся да рукі:

— Полька ніколі не падыдзе да мужчыны, а тым больш да паэта, каб сказаць «ці...»

* * *

Рэпутацыя, у тым ліку літаратурная, аднойчы сфармаваная, застаецца нязменнай. Нават калі той, чыя рэпутацыя маецца на ўвазе, змяняецца да непазнавальнасці, яго ўсё адно пазна*ю*ць па рэпутацыі. Як бычка ў статку па кляйме.

* * *

Можна дарогу прайсці ўздоўж, а можна перайсці ўпоперак.

* * *

Калі б на той свет можна было ўзяць грошы, той свет быў бы такім жа, як гэты.

* * *

Іншым разам, пастрыгаючы пазногці, ён рабіў выснову, што яны даволі хутка растуць. І ніякіх іншых высноў ніводнага разу не зрабіў.

Аднойчы, гледзячы ў люстэрка, сам у сябе спытаўся: «А колькі разоў засталося мне пазногці пастрыгаць?..» Але наўрад ці гэтае

пытанне можна лічыць нейкай іншай, адрознай ад папярэдняй, высновай.

* * *

Ён сабраўся і пад руку са старасцю рушыў у апошнюю дарогу. Праз вярсту азірнуўся: можа, апроч старасці, яшчэ хто-небудзь яго праводзіць?.. Але больш на дарозе не было нікога.

* * *

Не думай, што састарэеш. Тое, што звыкла называюць старэннем, ёсць выява памылковых перакананняў.

* * *

Калі кажуць: «Стары ўжо, пажыў...», амаль кожнага разу згадваю чамусьці фотаздымак хворага Малевіча ў шпітальным ложку. Ляжыць на крайку падушкі, прыкрыты прасцінай, загорнутай з-пад шыі на коўдру, — і барада на прасціне, праз якую ён нагадвае і Дастаеўскага, і Распуціна, і пратапопа Авакума аднačасова.

А Малевічу ў 1935-м, калі ён памёр, было ўсяго 57.

Калі памёр, замест абраза над ім павесілі ў надгалоўі «Чорны квадрат». Магчыма, выключна для гэтага (ці з думкай пра гэта) ім і намаляваны.

* * *

Наведваю Барадуліна ў санаторыі «Крыніца», кажу ў размове, што Бураўкін у шпіталі, са зрокам кепска, аперацыю зрабілі, катаракту выразалі...

«Празорцам стане», — кажа Барадулін.

* * *

«Чужая мова лашчыць мне вуха, як пірсінг на чужым языку». Для таго каб такое ўзнікла, мала, каб з’явіўся паэт А. Хадановіч. Апроч паэта А. Хадановіча, неабходны, як мінімум, пірсінг.

* * *

Пра што напісаў Леанід Дранько-Майсюк апавяданне «Анёлак і я»?..

Пра ўсё. А калі цытаваць апавяданне, дык яно пра жанчыну, для якой «першы той, з якім яна шчаслівая». Пра «рэдкую ўдачу злавіць рукою матылька». Пра «мелодыю, падобную на жвірысты шорхат ластаўкі», пра «музыку і тое вечнае, у чым свабода глядзіць у вочы каханню». Пра «вялікае і неадольнае жаданне бесклапотнасці» і пра тое, што хоць табе ў свеце гэтым гарэць, хоць тлець, але не выйдзе, як Якуб Колас некалі напісаў, «думак клопату не мець».

А пра што клопат?.. Пра жанчыну, пра матылька, пра музыку... І пра анёла, які і ў жанчыне, і ў матыльку, і ў музыцы — ва ўсіх і ва ўсім, і які гэтым разам — хлопчык. Ахоўнік ручая, што чакае, калі праплыве стронга. Рыба, за якой, можа быць, прыплыве да анёла — недзе заблуканая ў свеце — маці.

Для таго каб яна, маці, вярнулася да анёла, аўтар апавядання запускае ў ручай хлебных, злепленых з мякіша, рыб. Хлебныя рыбы не плаваюць, і аўтар гэта ведае, але ў гэтым ручаі гэтыя рыбы плывуць — і маці вяртаецца.

У сапраўднай літаратуры — сапраўдны ручай і сапраўдныя рыбы.

* * *

Адзін з найбольш вядомых радкоў пра Беларусь — выдых Уладзіміра Дубоўкі: *«О Беларусь! Мая шыпшына...»*

Прыгожа, але гэта прыгожая паштоўка. Выдых не на глыбокім дыханні — верхам лёгкіх.

Вось выдых куды глыбейшы:

Мы ідзём не плятні апяваць,
Мы складаем паэмы машынам...
О, краіна, азёрная гладзь,
О, мая дарагая краіна...

Гэта не паштоўка — адчайны ліст Тодара Кляшторнага. Прычым адчай аўтара ўзнік праз самога сябе, праз тое, што ён (змушана, бо ўжо 1927 год і так трэба) у тым жа вершы напісаў перад гэтай (апошняй) страфой:

У вячэрнюю цемру і стынь
Не палае лучына у хаце,
Прамяняў беларус-селянін
Сінявую страху на палацы.
І пад новай жалезнай страхой,
Дзе спляліся світальныя цені,
Нарадзіўся Шэкспір і Талстой,
Заспяваў беларускі Ясенін...

Ну, поўны, што называецца, атас. Тут міжволі за галаву схопішся: «Што ты, Тодар, вярзеш?!.» І выдыхнеш з адчаем, прабачаючыся за ўсіх беларускіх Шэкспіраў, Талстых і Ясеніных, а таксама за сябе самога: *«О, краіна, азёрная гладзь, о, мая дарагая краіна...»*

* * *

У казачным гарадку Вісбу на шведскай выспе Готланд, дзе ўсялякім тролям, гномам ды Карлсанам толькі і жыць, выязджаю на ровары праз вузкую браму ў старажытнай гарадской сцяне. Насустрач мне — я з горада, а ён у горад — швед. Таксама на ровары. Паколькі я і бліжэй да брамы, і з большай хуткасцю еду, то не спыняюся, разлічваючы, што ён мяне прапусціць. Прытармозіць, думаю, бо ў браме хоць і можна размінуцца, ды лепш гэтага не рабіць. Толькі я мыслю па-свойму, а швед — па-свойму. Ён, можа, сто разоў ва ўсялякіх брамах размінаўся. Але гэтым разам не здолеў — і чапляну ў мяне на самым выездзе з брамы педаллю за педаль. Ужо амаль на мосце цераз роў пад сцяной...

З лаянкай ускрыліўшы над роварам, які ўрэзаўся ў парэнчу маста, паляцеў я сторч галавою ў той роў, дзе задоўга да мяне склалі галовы многія. Найперш тыя, каго не надта хацелі бачыць готы, што першымі прыплылі на выспу, якая праз іх і назвалася Готландам. Яны развялі на ёй бараноў — і ўзвялі барана на сцяг і герб Готланда.

«Руся?..» — пачуўшы маю спадчынную, ад бацькі, лаянку, з цікаўнасцю спытаў з маста швед, з якім ні халеры не сталася: нават не ўпаў. Я зноў вылаяўся ў адказ, яшчэ не ўсведамляючы, ці жывы? А калі сам я жывы, дык што з роварам?.. Сам жа я сабе належу, а ровар — Балтыйскаму цэнтру літаратараў і перакладчыкаў, а ў яго, у ровара, руль скрыўлены і балотнік скарожаны. «Бачыш, б..., што ты нарабіў, аддавай цяпер свой ровар на х...» — выбраўшыся з рову на мост і спрабуючы выправіць руль, ласкава кажу я шведу, перакананы, што ён нічога не разумее, а той злазіць са свайго ровара і адказвае: «Забірай на х...»

Аказалася, ён вывучаў магутную рускую мову ў тутэйшым універсітэце.

Нішто сабе іх тут вучаць.

Ровар ягоны я не ўзяў, бо каму і як тлумачыць пасля, скуль ён у мяне ўзяўся, новы? І дзе я падзеў стары?.. Ды швед на тым, каб мы памяняліся, асабліва і не настойваў.

Праз пару дзён Б'ёрна, гэтага шведа з дасканалым веданнем рускай мовы, бачу на літаратурна-музычнай вечарыне ў Цэнтральнай гарадской бібліятэцы горада Вісбу. На вечарыне стройная туркменка з іменем Марал грае на раялі, шведы па-шведску пяюць, яшчэ танчаць і нават у бубны б'юць, а я дэкламую вершы. На ўсё горла. Па-беларуску. Карацей, ёсць што паглядзець і паслухаць... І што дзіўна: чалавек сто сядзяць і слухаюць.

Б'ёрн на вечарыне павёўся так, нібы мы не знаёмыя. Не падышоў, не павітаўся. Я падумаў: можа, не пазнаў? Ці забаяўся, што ўсё ж новы ровар запатрабую?.. Аказалася, не. І пазнаў, і не забаяўся. Проста не зразумеў, не ўцяміў: хто я? На якой мове лаюся, стоячы пры раялі, за якім стройная туркменка?..

Калі вечарына скончылася, ён дачакаўся мяне на выхадзе і спытаў: «Дык ты не рускі?..» І быў відавочна разгублены. Бо, аказалася, займеўшы ўніверсітэцкую адукацыю з дасканалым веданнем рускай мовы, ён нічога не ведаў пра Беларусь. Нешта такое чуў, што недзе такое ёсць, але не ведаў ні чарта.

На Готландзе я дапісваў аповесць «Вяртанне Веры». Там, сярод іншага, ёсць колькі абзацаў пра геаграфічны цэнтр Еўропы, які нібыта знаходзіцца ў Беларусі. Калі я ехаў на Готланд, такіх

цэнтраў было вылічана два: на дне возера Шо і яшчэ недзе. А калі я вярнуўся, цэнтраў Еўропы на адзін паболела: вылічылі яшчэ адзін, трэці, у Полацку.

Гэта добра. Чым болей, тым лепей. Але я ўсё думаю: як бы нам з Еўропай у якой-небудзь вузкай браме зачапіцца нарэшце педаллю за педаль?..

* * *

У прадмове да выдання ў перакладзе на рускую мову шведа Свэна Дэльбланка Уладзімір Маканін піша:

«И любопытно, что... автор делает своеобразный реверанс в сторону России, столь отличающейся своей жизнью (*пока что!)* от жизни западной». І як ілюстрацыя цытуецца Дэльбланк: «Нравилось быть русским. Вроде снова оказываешься подростком. Чувствителен, буен, нежен и порой щедр до самоуничижения. Масса всяких настроений, бесконечно богатая духовная жизнь... или по крайней мере крепкая водка. Иногда дикое желание бунта».

Дэльбланку даравальна: ён ні чарта не ведае пра рускіх. Піша тое, чаго набраўся з кніг. А Маканін жа ўсё пра рускіх ведае. Бо ведае пра сябе. І тым не менш кніжную лухту, перапісаную шведам, выдае хоць і за «своеобразный», але ўсё ж рэверанс у бок Расіі.

Расію гэтак прыдумалі ў рускай літаратуры XIX ст., што ніхто не хоча яе «перавыдумваць». Бо тады трэба наўпрост зірнуць у вочы праўдзе, а там (*пока что!*) — суцэльны жах.

Зрэшты, чаго хацець ад шведскага (і някепскага) пісьменніка Дэльбланка, калі ангельскі (і выдатны) вучоны, філосаф, ці, як яго называюць, «даследчык цывілізацый», Арнольд Тойнбі, да прыкладу, сцвярджае: «Рускі камунізм... ёсць трансфармацыя і дэфармацыя старой рускай месіянскай ідэі». Калі гэта і якія былі ў Расіі месіянскія ідэі? Можа, ідэя гарэлкі для сібірскіх абарыгенаў?.. Ці, можа быць, манархія, народнасць і праваслаўе?..

* * *

Расія для Захаду — радзіма анамальнага.

Руская літаратура як бы дэманструе Захаду нацыянальнае рускае *«святое Безумие»* (не помню, хто).

* * *

Першым прадстаўніком еўрапейскай культуры ў Расіі стаў Сімяон Полацкі. Менавіта ён, беларус, пачаў еўрапеізаваць рускую культуру, найперш літаратуру.

Літаратура да яго была безыменнай. З Полацкім прыйшло паняцце аўтара. Яшчэ не як творцы, які займаецца літаратурай прафесійна (гэта прыйдзе з Пушкіным), але ўжо асобы, якая мае літаратурныя заслугі, і праз іх — адпаведны статус у грамадстве. Славу.

Полацкі быў чалавекам амбітным — і славу ацэньваў высока. Вельмі высока. Як выратаванне душы. Слава — адзінае, у чым жыве чалавек па смерці.

* * *

Кніг ужо амаль не чытаюць, а мы ўсё яшчэ абсалютызуем ролю літаратуры, яе ўплывы на грамадства.

Літаратура — не адвечнае. Як гэта некаму ні дзіўна — значна болей часу, чым яна ёсць, яе не было.

На Захадзе (у адрозненне ад Усходу) літаратура ў якасці абсалютнай каштоўнасці сцвердзілася зусім нядаўна — пад сярэдзіну XIX стагоддзя. І ўжо пад сярэдзіну XX стагоддзя пачала якасць гэтую страчваць. Так што «залаты век» еўрапейскай літаратуры — гэта сапраўды толькі век.

* * *

Арыгінальны мовазнаўца (прадстаўнік так званай тырнаўскай школы) К. Касцючэнскі параўноўваў мовы з народамі, літары — з людзьмі. Зычныя — мужчыны, галосныя — жанчыны. Мужчыны (зычныя) — кіруюць, жанчыны (галосныя) — падпарадкоўваюцца. Надрадковыя знакі — галаўныя ўборы жанчын. Мужчынам такія ўпрыгожанні не да твару. І як жанчыны ў прысутнасці мужчын могуць здымаць дома капялюшыкі і хустачкі, гэтак і галосныя могуць здымаць надрадковыя знакі, калі яны ў пары з зычнымі.

У рускай філасофіі літаратуры болей, чым навукі. У рускім мовазнаўстве тое самае.



Гуру акмеізму Гумілёў называў футурыстаў (найперш маючы на ўвазе гуру футурызму Маякоўскага) «гіенамі, што йдуць за ільвамі».

Рускі акмеізм, які ўзнік на руінах французскага сімвалізму, любы Гумілёву «метафарай, якая ўзнесеная вышэй за ўсё». Але не толькі — і нават не столькі — гэтым. Яшчэ — і перш за ўсё — «перавагай раманскаму духу перад германскім», якую выяўляе (як перакананы Гумілёў) акмеізм.

«Я хочу, чтоб к штыку приравняли перо!» Гэтага дастаткова (для Гумілёва), каб не любіць Маякоўскага.

Штык — не раманскі («из-за пояса рвет пистолет так, что сыплется золото с кружев, с розоватых брабантских манжет»), штык — германскі дух. А ў Маякоўскага гэтых штыкоў... «Как штыком, строкой просверкав...» — чытаем у самым пачатку паэмы «Хорошо!»

Між іншым, штыкі не так ужо й «сверкают». Гэта воранёная сталь.

Як гэты грубы матэрыял увогуле пранік у прыгожае пісьменства? У свет «розоватых брабантских манжет»?

У Еўропе літаратуру як літаратуру (творчасць, мастацтва) пачалі ўспрымаць толькі ў XVIII стагоддзі. Раней яна не мела прыкмет мастацкасці, нейкіх адносін да эстэтыкі. Калі ж гэта сталася, Готліб увёў ва ўжытак грэцкае слова *эстэтыка,* вызначыўшы яго як *навуку пра ўспрыняцце.* У гэты час і ўзнікаюць тэрміны *раман*, *паэзія, драма.* Разам з мастацкімі творамі друкуюцца *навіны,* з'яўляецца *прэса* — і пачынаецца тое, што сёння стала СМІ. Фармуецца *грамадская думка.* Гэта значыць, тое, чым можна маніпуляваць у барацьбе за ўладу. Вось тады пяро і было прыраўнянае да штыка.

Літаратура, увогуле культура страціла праз гэта свой элітарны характар. Праз спробу ўзнавіць яго Гумілёў страціў жыццё.

Гумілёва расстралялі.

Маякоўскі застрэліўся.

* * *

20-гадовы сябар (у 40 гадоў расстраляны) літаратурнага аб'яднання «Маладняк» Сяргей Фамін пачынае адзін са сваіх вершаў:

*За вакном задыхаецца вецер...*

Далей у вершы абы-што, але гэты радок — якая метафара таго часу!..

І сённяшняга.

* * *

Людзі любяць трылеры наўкол і пастаралі ў доме.

* * *

«Пісаць трэба сэрцам, душой...» Гэта не з тэксту папсовай песні, гэта, так бы мовіць, з навукі. З літаратуразнаўства.

Пісьменнік піша сабой. Як аловак, як крэйда. І, як аловак, як крэйда, спісваецца. Ён піша словы і сябе самога — у словы пераўтвараецца і ў іх знікае.

* * *

Напрыканцы 70-х з'явіўся раман С. Сакалова «Школа для дурняў». У 80-я былі выдадзеныя яшчэ два ягоныя раманы: «Паміж сабакам і воўкам» і «Палісандрыя». Усе тры — разгорнутыя метафары.

Герой рамана «Школа для дурняў» — псіхічна не зусім здаровы хлопчык, які жыве ў паселішчы побач з кар'ерам, дзе здабываецца крэйда, і ўсе вуліцы, усе дамы ў паселішчы — з крэйды, і людзі атрымліваюць за сваю працу крэйдавыя грошы, і крэйдай пішуць, і крэйдай мыюць рукі, чысцяць посуд і зубы, і людзей гэтых хаваюць на крэйдавых могілках, і на грудкі магільныя кладуць крэйдавыя пліты. То бок Сакалоў стварыў для дурняў скразную метафару быцця...

* * *

Літаратура як дзіцячы занятак. «Ад двух да пяці» Карнея Чукоўскага. «Вот цветок, им любовалась муха, даже кот и тот

пришел и его понюхал...» На *апісанне* прыгажосці гэтай кветкі спатрэбіліся б горы каляровай крэйды.

Тая літаратура, якая ўсвядоміла і асэнсавала сябе як дзіцячая (Чукоўскі, Маршак), у савецкія 30-я гады з іх інфантыльнасцю дасягнула найбольшага.

* * *

Дзмітрый Прыгаў, Усевалад Някрасаў, Уладзімір Сарокін, Леў Рубінштэйн... Таленавітая хеўра. Канцэптуалісты. Ды чуецца ў гэтым слове (у дачыненні да іх) зусім не *канцэпцыя*. Як кансіліум пры ложку хворага, яны канстатуюць *канец* рускай літаратуры.

Вось вершы Прыгава:

Внимательно коль приглядеться сегодня,
Увидишь, что Пушкин, который певец,
Пожалуй, скорее что бог плодородья
И стад охранитель и народа отец.
Во всех деревнях, уголках ничтожных
Я бюсты везде бы поставил его,
А вот бы стихи я его уничтожил —
Ведь облик они принижают его.

У свой час рускія футурысты даставалі чытацкую публіку не толькі тым, што пісалі: *«Я люблю смотреть, как умирают дети...»* (Маякоўскі), але і тым, што скідвалі з «парахода сучаснасці» Пушкіна. Канцэптуалісты ад Пушкіна не адмаўляюцца, з карабля не скідваюць, але ставяць нядаўняга прарока на ягонае сённяшняе месца. І яно, калі не ў труме, дык і не на капітанскім мосціку. Так што, калі ласка, Аляксандр Сяргеевіч, давайце без прэтэнзій на ролю мысляра, а тым больш — *дзяржаўнага* мужа. Папісвайце сабе, хто не дае...

Кансіліум канцэптуалістаў фіксуе смерць літаратуры з яе месіянствам і дзяржаўнай роляй.

Прыпозненае выяўленне канцэптуалізму — Цімур Кібіраў. Тут увогуле месіянства з дзяржаўнасцю і ў спратах (як у Сарокіна) не знойдзеш. Бо няма.

Забаўка. Гульня пад назвай «Homo soveticus, goodbye!» Таленавітая, але толькі гульня.

* * *

Дзве страфы з верша Алеся Дудара «Пасеклі край наш»:

Распаўся б камень ад жальбы,
Калі б ён знаў, як торг над намі
Вядуць маскоўскія рабы
З вялікапольскімі панамі.
О, ганьба, ганьба! Ў нашы дні
Такі разлом, туга такая!
І баюць байкі баюны
Северо-Западного края...

Калі не ведаць, што напісаны верш у 1928 годзе, дык і не скажаш, што ён не пра нашы дні ганьбы, разлому, тугі...

* * *

Цывілізацыя супрацьстаіць культуры. Гэтае супрацьстаянне — насупраць нашым чаканням і пажаданням — абвастраецца. Менавіта яно ўяўляецца мне найбольш небяспечай калізіяй XXI стагоддзя. Больш небяспечнай, чым вайна за рэсурсы, якая дае пераможцам шансы на выжыванне. А перамогшы культуру, для чаго выжываць?..

Перамогшы культуру, чалавецтва пераможа само сябе. І яно ўпарта само сябе перамагае.

* * *

Пасля перамогі Рыма над Дакіяй (цяперашнія Румынія і Малдова) імператар Траян наладзіў відовішча, якое доўжылася 123 дні. На арэне біліся 10 000 гладыятараў. Было затраўлена 11 000 звяроў.

Баі гладыятараў — гэта кроў. Смерць. Але разам з тым — гэта культура.

Патрэба ў відовішчах сёння не меншая. Нават большая, бо болей хлеба і вольнага часу. І рымляне ідуць глядзець, як «Рома» б’ецца з «Міланам».

Гладыятараў замянілі футбалісты. Нехта можа назваць гэта вынікам развіцця цывілізацыі. Я згодны. Але не развіцця культуры, бо ў баях гладыятараў яе куды болей. Настолькі болей, наколькі ў «баях» футбалістаў яе меней. Настолькі меней, што зусім няма.

* * *

Шмат чаго пра Віктара Пялевіна... Шмат чаго — і рознага.

Вунь С. Корнеў (крытык) піша, што Пялевін — класічны рускі пісьменнік-ідэолаг. Кшталту Чарнышэўскага.

Дзе ў такім разе раман «Што рабіць?», напісаны ў адзіночцы Аляксееўскага равеліна Петрапаўлаўскай крэпасці? І дзе суд над аўтарам?

Пялевін — не ідэолаг. Ідэолагі не настройваюць музычныя інструменты, а ён настройвае. Але не арган ці клавесін — сучасныя электронныя сінтэзатары. На якіх націснуў адну клавішу — другая сама націскаецца. Гук пада*е*. І захапленне з таго, што ўгадваеш: якая клавіша, які гук.

* * *

Што такое свет наўкол мяне, хто ёсць *я* ў гэтым свеце і што ёсць *я* ў самім сабе?.. Дакладныя навукі адказу на гэтыя пытанні даць не могуць. На пытанні гэтыя, як паказвае досвед чалавецтва, адказу ўвогуле няма. Ёсць толькі *шлях* да яго — і пралягае ён у гуманітарнай сферы. У рэлігіі і культуры. Мастацтве і літаратуры.

Удасканальваючы тэхналогіі, прыдумляючы касмічныя апараты і найноўшыя камп'ютары, сам чалавек праз гэта не ўдасканальваецца. Застаецца, якім быў. Як і тысячы, і сотні тысяч год таму, ён і сёння гатовы ўкрасці, здрадзіць, забіць — і чалавецтва яшчэ існуе хіба праз тое, што ад татальнага злачынства яго ўтрымлівае мараль, створаная рэлігіяй і культурай, якія, у сваю чаргу, сам чалавек і стварыў, з усіх сіл намагаючыся ўсё ж удасканаліцца.

* * *

Некалі замест «аднавяскоўцы» надрукаваў на машынцы «аднавякоўцы». Прапусціў літару «с». Памылка стала вобразам — напісаўся верш: «Аднавяскоўцы мае — аднавякоўцы мае».

Гэта — выпадак. Для мяне. А для Уладзіміра Харытонава — прынцып. Ён прынцыпова піша так, нібы памыляецца, друкуючы на машынцы. У іншым тэксце, белетрыстычным (іншага аўтара), гэта, магчыма, не было б так заўважна, але Харытонаў амаль кожным сваім тэкстам намагаецца стварыць ілюзію сапраўднага дакумента. А ў дакументах памылкі выпіраюць.

Уладзіміра Харытонава амаль заўсёды ставяць побач з Эдуардам Лімонавым. І амаль не знаходзяць паміж імі розніцы. Я знайшоў. У Харытонава брыдкасловяць інтэлігенты, у Лімонава — пралетарыі.

* * *

Новая руская літаратура пачалася з альманаха «Метраполь», які выйшаў у 1979 годзе.

За мяжой.

Усе рускае новае пачынаецца ў замежжы.

* * *

Большасць аўтараў новай рускай літаратуры (альманаха «Метраполь», 1979 год) не такія ўжо новыя. Гэта шасцідзясятнікі Вазнясенскі, Ахмадуліна, Аксёнаў, Бітаў... Новых ці не ўсяго трое: Кубланоўскі, Кажэўнікаў ды Папоў (які геній Яўгеній).

У новай рускай літаратуры цікавае развіццё. Зноў жа трое аўтараў альманаха (Лімонаў, Аксёнаў і Кубланоўскі), з’ехаўшы ў эміграцыю дысідэнтамі, антысаветчыкамі, вярнуліся ў Расію нацыянал-патрыётамі.

Гэта вам не Някрасаў, Владзімаў ці Гладзілін — з трэцяй хвалі рускай эміграцыі.

* * *

Аляксандр Міронаў:

*«Бог мой — смех, меня отрицающий».*

У адным вершы ён просіць:

*«Боже, дай пистолет!»*

Другі верш выдумляе так, каб яго немагчыма было цалкам вымавіць:

Я перестал лгать
гать
ать
ть
ь!
Я стал непроизносим.

У сучаснай рускай мове былы рэдукаваны «ь» ніякага гуку ўжо не абазначае.

Нет невода в околоплодных водах.
Кто вытащит меня, урода?

Гэта таксама Міронаў. Нехта яго ўсё ж выцягнуў.

Гэта пачатак двухтысячных (2002).

Раней было інакш. Калі не выдумлялася, проста пісалася:

Ну а здесь — что ни день —
То печаль
То огонь то зола
Флорентийская тень
Мои тихие сени сожгла.

*(Locus цвярозасці, 1976)*

* * *

Студэнтам я падзарабляў у краме. Фасаваў прадукты. Дырэктар казаў: «Як ты расфасуеш — так я прадам».

Так у гандлі.

Гэтаксама ва ўсім.

* * *

«Міфагенная любоў каст» Сяргея Ануфрыева і Паўла Пепперштэйна — ці не найлепшае, што можна было прачытаць напачатку трэцяга тысячагоддзя ад нараджэння Хрыста, седзячы ў Хельсінкі і не ведаючы, дзе будзеш сядзець, калі адсюль з'едзеш. У чыіх-небудзь шлунках, дзе, як у «Міфагеннай любові каст», вайна?..

У час яны гэта напісалі, у час мне Ева кнігу падсунула.

Раней гэтых хлопцаў я б не чытаў.

А іх раней і не было б. Ліквідавалі б.

* * *

Уладзімір Яхантаў, рускі актор, бліскучы чытальнік вершаў, скончыў жыццё гэтаксама, як і Купала. Палётам у лесвічны пралёт.

Хоць пішы, хоць чытай...

* * *

У 1934 годзе на першым з'ездзе пісьменнікаў СССР паэта Барыса Карнілава (паэмы «Мая Афрыка», «Трыполле») пахваліў тагачасны партыйны бонза Бухарын.

У 1937-м Бухарын быў ужо ворагам. Літаратары А. Тарасенкаў і Л. Плоткін раптам успомнілі (у газетах), што вораг Бухарын хваліў паэта Карнілава.

У 1938 годзе Барыса Карнілава расстралялі.

* * *

За савецкім часам крытыкі настойліва скіроўвалі празаікаў ды паэтаў да галоўнай, найважнай тэмы.

У 20-я гады XX стагоддзя такой тэмай была рэвалюцыя.

*«Цішка Гартны адразу ўспрыняў Кастрычнік і з'яўляецца першавеснікам новых ідэй у беларускай літаратуры»,* — хваліў празаіка Гартнага крытык Глыбоцкі.

*«Есці мне хочацца, есці... Божа! Дай есці ты мне!»*— напісаў у гэты час паэт Ігнат Дварчанін, і крытык Глыбоцкі хоць і не хваліў яго, але й сказаць, што той надта ўжо адхіліўся ад галоўнай тэмы, не мог.

* * *

З арыштам жыццё найчасцей канчаецца, але зрэдку бывае, што пачынаецца...

Юрыя Рытхэу, першага чукоцкага пісьменніка, арыштавалі ў 14 гадоў. Ні за што. Проста трэба было некаму аэрадром будаваць каля бухты Лаўрэнція, зэкаў не хапала — вось і арыштавалі хлапчука разам з усімі мужыкамі пасёлка Уэлен.

Калі б не арыштавалі, ён так і памёр бы ў тым Уэлене анікому не вядомым чукчам. Хутчэй за ўсё, спіўся б.

Ды лёс ёсць лёс. З Чукоткі ён патрапіў у Ленінград, дзе ў 1957 годзе атрымаў тэлеграму ад Хемінгуэя: «Так трымаць, Рытхэу!»

Так, як пажадаў яму Хемінгуэй, трымаў Рытхэу не надта доўга, але гэта ўжо не лёс, а ўсяго толькі ягоная асабістая праблема.

* * *

У Шварца ў «Голым каралі»:

«Я старик грубый. Скажу прямо: умница ты, король!»

* * *

Царква Пятра і Паўла.

Вербная нядзеля.

Гляджу, як стаяць людзі, слухаюць папа, моляцца... На тварах віна і просьба. І як мяняюцца тыя ж твары, калі запальваюць тыя ж людзі свечкі!.. Нібы далучаюцца яны праз агонь да таямніц нябесных.

У каторы раз думаю пра тое, што мы, як былі, так і засталіся паганцамі. Ва ўсім, заўсёды і скрозь — і ў царкве за тыдзень да Уваскрашэння Хрыстова.

Першапачатковым сімвалам паганцаў якраз і быў агонь. Пентакл, пяцікутняя зорка. Праз яе абагаўлялася прырода, жаночы пачатак у ёй. Пентакл — знак (сімвал) Венеры, якая за 8 гадоў праходзіць у небе шлях зоркі (так праходзіць, як малююць пяцікутнюю зорку, не адрываючы асадку ад паперы).

Лацінскае «pagan» (сельскі, лясны жыхар) захавалася ў беларускім слове «паганец», а ў рускай мове замест яго ўзнікла слова «язычнік». Чаму?

У слоўніку Даля:

«Язык — гэта народ. Язычэ — гэта прадстаўнік народа. А язычнік — прадстаўнік іншага народа, які размаўляе на іншай мове, г. зн. язычэ ніякі».

Калі язычнік ёсць язычэ ніякі, дык і вераванні ў яго язычніцкія... Дзіцячае нейкае, як яно іншым разам здараецца ў Даля, тлумачэнне.

А вось што ў «Вялікай Савецкай Энцыклапедыі»:

«Язычество *(от церк.-слав. языцы — народы, иноземцы),* обозначение нехристианских, в широком смысле — политеистических религий. Язычники — в дохристианской Руси кочевники: языги, то есть степняки (от древнетюркского “йазык” — степь, равнина (хехе)».

Праўдападобна, але ўсё ж незразумела, чаму і як стэпавае, качэўнае стала рэлігійным?

Найбольш праўдзівым, а не праўдападобным, выглядае, бадай, такое тлумачэнне.

«Слово *язычник* имеет древнетюркскую основу *jaz*– (грешить). Сочетание *jaz*– + аффикс –*igci* переводится как "грешник" (*jaz*– + –*igci* ~ языгчи ~ язычиг ~ язычник).

Не исключен и другой вариант этимологии этого слова: тюркская основа jazinc (грех) + русский суффикс –ник (*jazinc* + –ник ~ язынчник ~ язычник). Однако это менее вероятно.

Таким образом, можно полагать, что русское слово “язычник” есть заимствование тюркского слова “грешник”».

У такім разе ўсе на сваіх месцах: языкі і языгі, іншаземцы і качэўнікі, язычнікі і хрысціяне, грэшныя і святыя.

* * *

«Словарь русских говоров Новосибирской области», изд-во «Наука», 1979. Чытаю:

«АНДАРАК. Нарядная суконная или шерстяная юбка. — Раньше андараки носили, но это праздничная юбка была *(Тогучин., Васино)*».

«БУЛЬБА. Сибир. *(!)* Картофель. — Картошков никто и понятия не знал — всё бульба *(Болотнин., Варламово)*».

«БЫЧАР. Человек, ухаживающий за быками; то же, что бычатник *(тое ж, ды не тое ж)*. — И скотником была, и бычаром *(Курасук., Морозовка)*».

«ГУСКА. То же, что гусиха. — А у меня раньшэ дак гусаки по двору гуляют и гуски с гусенятами (*Чулым, Михайловское)*».

Хіба не чуваць, як беларуска прамаўляе? — А у нас гусыню гуской зовут *(Карасук., Шилово-Курьян)*».

У каго «ў нас»?..

«ЗАРУЧИНЫ. — У нас называли заручины. Засватают, он собирает свою родню, она свою, ну и выпьют *(Чулым., Синельниково)*».

«КАЗАТЬ. — Она мне казала, что помидор это *(Чулым., Ужаниха)*».

«КАЙСТРАЧКА. Сумка для хозяйственных надобностей, сшитая из холста».

«КРОСНЫ. Ткацкий станок. — Вот кросны, тку половики на кроснах на зиму (*Сузун., Н. Сузун)*».

«ПРАТЬ. Стирать белье. — По-российски стирать, а мы сейчас говорим прать. *(Ордын., В. — Ирмень)*».

Хто — «мы»?..

«— Прать-то нелегко было, *особливо* в холодной воде. *(Тугучин., Васино)*».

«ПУНЯ. Небольшой сарай для хозяйственных надобностей. — Сарай, а по-нашему пуня *(Мошков., Галинское)*».

Па якому «па-нашаму»?..

«РОССТАНЬ. Перекресток двух или нескольких дорог».

«САЖЕЛКА. Котлован, залитый водой».

«УДВУХ. Вдвоем».

«ХМАРА. Большая темная туча».

«ЦЫБУЛЯ. Лук. — Лук — это цыбуля но-нашему *(Мошков., Дубровино)*».

І яшчэ сотні, тысячы слоў, прывезеных беларусамі, пераселенымі, сасланымі ў Сібір.

* * *

Прырода мовы дасюль застаецца загадкавай. У набліжэннях да разгадкі першынство належыць мовазнаўцу Вільгельму Гумбальту. «Мова народа ёсць ягоны дух і дух народа ёсць ягоная мова — цяжка ўявіць сабе нешта больш тоеснае», — вось асноўная канцэпцыя Гумбальта. Менавіта ён увёў паняцце

«моўная свядомасць народа» і сцвярджаў, што як чалавек (народ) стварае мову, гэтаксама і мова стварае чалавека (народ). Кожная мова апісвае вакол народа, якому яна належыць, круг, выйсці з якога можна толькі ў тым выпадку, калі ступіш у круг іншы.

З гэтага вынікае: іншы круг — іншая мова. Іншая мова — іншы народ.

* * *

Кожная мова падпадае пад уплывы. Беларуская — пад уплывы рускай мовы, польскай. А на сучасную рускую мову вялікі ўплыў аказала не толькі мова царкоўнаславянская (з якой увайшлі ў рускую, да прыкладу, дзеепрыметнікавыя, якія цяжка вымавіць, словы і словазлучэнні: предшествовавшее произошедшему), але і цюркскія мовы. Найбольш відавочны гэты ўплыў у сучасных рускіх прозвішчах: Иванов, Петров, Сидоров. Этнічна рускія прозвішчы, якія ўзніклі да часоў Залатой Арды і захаваліся ў фальклоры, іншыя: Илья Муромец, а не Муромцев. Тут што істотна? Тое (і яно выяўляецца, адчуваецца ў мове), што Муромец — чалавек сам па сабе, самастойны, а Муромцев — не зусім. У цюркскіх мовах не толькі імёны, але і ўсе рэчы абавязкова суадносяцца з асобай, якой належаць. Без канкрэтызацыі таго, каму яны прыналежныя, ні чалавек, ні рэч як бы і не існуюць. Усімі і ўсім нехта павінен валодаць, над усім і ўсімі гаспадарыць. Шах, бай... цар. Гэтакі менталітэт — і ён зафіксаваны ў мове. Яно не добра і не кепска, проста яно так ёсць. Там, на Усходзе. Але ці яно супадае з тым, што ёсць мы?.. Тут, на Захадзе.

Мы на мяжы кругоў. Пытанне ў тым, ці хочам мы застацца тымі, хто мы ёсць? Беларусамі. Еўрапейскім народам у еўрапейскай дзяржаве.

* * *

Сёння ўсё часцей можна пачуць: час нацыянальных дзяржаў прамінуў. На змену ім прыходзяць цывілізацыйныя дзяржавы, якія развіваюцца больш паспяхова. Найпершы прыклад: Кітай.

Добра, няхай так. Але я не чуў і не чытаў, каб хто-небудзь у цывілізацыйным Кітаі сказаў ці напісаў, што час адмовіцца ад нацыянальнай мовы.

Ніхто не даводзіць такога і ў Еўропе. Наадварот, вунь як французы з немцамі, нарвежцы з фінамі ашчаджаюць свае мовы, змагаюцца з іншамоўнымі ўплывамі! Ды ўсе народы ў сённяшнім свеце, у якім культура падмяняецца цывілізацыяй, менавіта з дапамогай нацыянальнай культуры і мовы змагаюцца за саміх сябе, і толькі беларусы саміх сябе супраць.

Чаму? Бо ў нас, як у той прымаўцы, «добрыя галовы, толькі з патыліцы зачэсаныя?..»

* * *

У палітыцы самае непрыемнае, а дакладней, няўтульнае, бо прыемнае, як для мяне, у ёй і не прысутнічае, — гэта вельмі абмежанаваня самастойнасць у прыняцці рашэнняў, залежнасць шмат ад каго і шмат ад чаго, у тым ліку ад таго, чаго нібы й няма, але што тым не менш ёсць — і называецца народам. І нельга, калі ты палітык, сказаць гэтаму народу тое, што можна яму сказаць, калі ты паэт:

Вы разлучылі дух з крывёю
І, абрусеўшы пад Масквою,
Пад назвай, дадзенай Масквой,
Не сталі нават маскалямі,
А толькі назваю адной —
І тая назва стала вамі!
Вы — беларусы? Хто такія?
Ёсць Польшча, Жмудзь, Літва, Расія —
Як вы ўшчаміліся сярод?
Адкуль з’явіліся? З балот?
З чаго зляпіліся? З туманаў?..
Такіх падмен, такіх падманаў
Не ведаў ні адзін народ.

* * *

Хто ў нас мог так сказаць пра беларусаў, калі яны выбралі Лукашэнку, як пра грузінаў сказаў Мераб Мамардашвілі: «Калі

грузінскі народ абярэ Звіяда Гамсахурдзія, я пайду супраць грузінскага народа»?

Хіба Васіль Быкаў гэтак мог сказаць, каб яго пачулі — больш ніхто.

Але і ён не сказаў.

А тым больш ніхто не сказаў, калі ўжо стала відавочна, што народа пакуль няма і невядома, калі ён будзе: «Ёсць рэчы болей важныя, чым нацыя: ісціна вышэй за нацыю».

* * *

У Міхася Чарота:

Я шумлівы чарот, я мяцежны бунтар,
Я балота буджу гучным шумам...

Дзеля чаго будзіць балота? Якой можа быць мэта, а галоўнае — вынік?..

У балоце прачнулася пачвара, якая называлася «выязная сесія ваеннай калегіі», — і 29 кастрычніка 1937 года Чарота расстралялі.

Перад смерцю ён напісаў:

Прадажных здрайцаў ліхвяры
Мяне заціснулі за краты.
Я прысягаю вам, сябры,
Мае палі,
Мае бары,
Кажу вам: я не вінаваты!

Я часта думаю пра яго, пра ўсіх іх, бурапенных, хто будзіў балота, не падумаўшы, для чаго...

* * *

Наскрозь рускаму і менавіта па-руску таленавітаму («Я пил из черепа отца за счастье на земле...») Юрыю Кузняцову я неяк даводзіў, што Дастаеўскі хоць і рускі пісьменнік, але беларус з сяла Дастоева, што пад горадам Іванавам, знакамітым сваімі кажухамі. «Чаму ж тады ён пра тое не згадаў нідзе і ніколі?» — спытаў Кузняцоў і быў вельмі здзіўлены, калі я працытаваў яму, узяўшы ў ягонай жа бібліятэцы кнігу:

«Усякая здаровая, зямная сіла верыць у сябе і ў сваю праўду, і гэта ёсць найпершая прыкмета здароўя народнага. Гэтая народная вера ў сябе і ва ўласныя сілы — зусім не застой, а, наадварот, зарука жыццёвасці і энергіі жыцця і ні ў якім разе не выключае прагрэсу і вялікага поспеху. Без гэтай веры ў сябе не выстаяў бы, напрыклад, на працягу вякоў беларускі народ і не ўратаваў бы сябе ніколі...»

* * *

Для таго каб захавацца для Еўропы, для свету, Беларусь павінна захавацца для самой сябе, што магчыма толькі пры ўмове захавання спрадвечных каштоўнасцей народа — і найперш нацыянальнай культуры. Без гэтага нідзе і нікому мы не будзем патрэбныя.

* * *

Брат пытаецца раніцай: «Сталін у якім годзе памёр? У дзевяцьсот пяцьдзясят трэцім?»

«Ну...»

«А ты ведаеш, што 953 грамы — гэта дакладная вага 1 літра 40-градуснай гарэлкі?..»

Як не ведаў я гэтага, так мог і не ведаць, але якія дзіўныя асацыяцыі могуць блукаць у братавай галаве.

* * *

Словы «Веселие Руси есть пити, не можем без этого быти» звычайна прыпісваюць Пятру І. Але цар-гуляка іх толькі паўтарыў. Першым жа сказаў іх Уладзімір Святы. Той самы, які ахрысціў Русь.

Русь, акропленая пры хрышчэнні не вадой, а гарэлкай, так і жыве, як Хрысціцель запавёў.

* * *

Народ п’е, але ведае:

Першую чарку п’еш у смагу,
Другую — у слодыч,

Трэцюю — на здароўе,
Чацвертую — на вяселле,
Пятую — на п’янства,
Шостую — на хваробу,
Сёмую — на смерць.

Народ ведае, але п’е. Усё. І самагонку (калі беларус), і сому (калі індус, пра якую я думаў, што яна, *сома,* — толькі кветка: «Гаруда, белы божы птах, сарваў з Мандары кветку *сому* і кінуў на зваротны шлях»). Аказваецца (вычытаў у слоўніку), што *soma* са ст.-інд. гэта (літаральна) *выціснутае,* а таксама *сок,* ці ў пераносным сэнсе *боскае пітво* (алкагольнае), якое, мусібыць, з гэтых самых кветак і выціскалася.

* * *

Мітрапаліт Смаленскі і Калінінградскі Кірыл (які з’яўляецца фактычна міністрам замежных спраў Маскоўскай епархіі) напярэдадні XI Сусветнага Рускага народнага сабору дае інтэрв’ю праграме «Вести». Разважае пра тое, што саборнасць ёсць традыцыя рускага праваслаўя і рускай дзяржаўнасці... і далей гоніць вецер, ды вядучы ўстрае і пытае: «Уладыка, як вы лічыце, чаму Расія, на тэрыторыі якой ад 30 да 40 адсоткаў сусветных прыродных багаццяў, была і застаецца жабрацкай краінай?» Уладыка зноў пра сваё, запаветнае: саборнасць, маўляў, заклала падмурак рускай дэмакратыі... але вядучы ўчэпісты: «Уладыка, чаму пры гэткіх прыродных багаццях Расія ўсё ж жабрацкая краіна?..» Далей рабіць выгляд, нібы ці не чуеш, ці не разумееш, пра што пытаюцца, не выпадае, і мітрапаліт адказвае:

«Вось на гэта якраз і павінен адказаць XI Рускі сабор».

Відно, як вядучаму карціць спытаццца: «Чаму ж не адказаў дзясяты?..» — але ён стрымлівае сябе і кажа: «Дзякуй, Уладыка».

Не адкажа сабор (як не адказаў і мітрапаліт Кірыл) на гэтае пытанне. Бо адказаць трэба: «Не можа быць багатай краіна, дзе няма свабоды».

Свабода для Расіі — містыка. Рэальнай свабоды Расія не хацела і не хоча, таму з яе змагання нібыта за свабоду — ніякага

выніку. Таму ні вызваленне прыгонных сялян, ні дзве пераможныя вайны, ні дзве рэвалюцыі не прынеслі Расіі нічога, апроч змены рабства на рабства. Тое самае вынікла і з сацыялістычнай перабудовы, і з найноўшага рускага капіталізму. І тое самае вынікне з усяго...

*А месяц будет плыть и плыть, роняя весла по озерам, а Русь все так же будет пить, плясать и плакать у забора.*

Так пад рускім месяцам пасеена.

* * *

Што ў беларусаў за гісторыя са сваёй гісторыяй?

Няўцямная.

Весяліцца, азіраючыся назад, не выпадае. Значыць, трэба гараваць. Але як гараваць? Заломваючы рукі, галосячы і б'ючыся галавой аб руіны Крэўскага замка? Ці не біцца галавой аб руіны? І не заломваць рукі? І не галасіць? Цішэй пагараваць... Пасумаваць крыху ды памаркоціцца... А можа, і не маркоціцца нават?..

Так, не маючы яшчэ ніякіх адказаў на тое, што ж такое беларуская гісторыя, ёсць яна ці яе няма, займелі мы ўжо слуцкі паясок пытанняў з адмысловай, цалкам беларускай выцінанкай. Галасіць альбо не? Біцца, ці не трэба? Трэба, дык наколькі?.. І за ўсім стаіць нявыказанае, але ці не найгалоўнае: а як на гэта паглядзяць? І што зробяць? А ці не стане горш?..

Беларус будзе хістацца на ўсіх вятрах і ветрыках — і будзе казаць, што не ў шкоду яму ніякая навала, абы не зламала. Ну, няхай пакруціцца-палятае, пакруціцца — дый праляціць... Гэта і ёсць аснова славутай беларускай памяркоўнасці. Абачлівасці, біялагічнай асцярожнасці, якую тактоўна называюць талерантнасцю, але, як яе ні называй, вынікае яна са страху. А страх — з гістарычнай памяці...

Хіба няма чаго баяцца?..

Яшчэ як ёсць...

Пра страты беларускага этнасу ва ўсіх нашэсцях, ва ўсіх войнах, што пракаціліся па Беларусі, страты ад чацвёртай да трэ-

цяй часткі, а то і да дзвюх трацінаў насельніцтва, прачытаць можна не толькі ў гістарычным даведніку. Прачытаць гэта можна яшчэ і ў вачах ці не кожнага беларуса.

Страх быў укаранёны, увагнаны ў беларускую плоць і кроў, а калі ён раптам страчваўся, дык яго свядома ўзнаўлялі тыя, хто хацеў на беларускай зямлі панаваць. Яны прыходзілі сюды, знаходзілі сабе памагатых, вынішчалі народ, гвалцілі яго і рабавалі...

Тут няма чым асабліва ганарыцца ні забойцам і рабаўнікам, ні беларусам. Апошнім хіба толькі тым, што ўсё ж выстаялі. А дакладней — выжылі насуперак усім і ўсяму.

Нельга сказаць, што лёс беларусаў — унікальны. Пра гэткі ж ці ў нечым падобны гістарычны лёс могуць распавесці і іншыя нацыі і народы, якія тым не менш не толькі выстаялі, але і сталі нацыямі, сталі народамі. А беларусы — хоць і выстаялі, але не сталі. І дагэтуль, фармальна маючы незалежную дзяржаву, нібыта і не ведаюць, ці могуць, ці хочуць яны беларускай нацыяй стаць. Я маю на ўвазе дзесяць мільёнаў, а не дзесяць і нават не сто дзесяць тысяч беларусаў. Дзесяць мільёнаў, якія, калі іх прызначаць у беларусы, дык будуць імі. А калі не — дык не, і так пражывуць.

Гэта зусім не характарызуе беларусаў як нейкіх выкапняў, а тым болей не ставіць іх на апошнія месцы ў чалавечай супольнасці, якая, як вякамі ні перамешваецца, складваецца ўсё ж пакуль што з народаў і нацый. Стаўленне беларусаў да саміх сябе, да самаідэнтыфікацыі — ніякі не ўнікальны выпадак у гісторыі, так заўсёды было. Народ да нацыі вялі і прыводзілі ягоныя лідары.

З нацыянальнымі лідарамі маем мы гэткія ж праблемы, як і з нацыяй, бо адно з другога вынікае. Лідары нібыта былі і ёсць, услаўленыя і міфалагізаваныя, і нібыта не было іх і няма, таму што нават нешта спраўдзіўшы, здзейсніўшы, не далі яны ўсім зразумелага адказу на тое, нашто быць народам, навошта быць нацыяй? Якая ад гэтага выгада?..

Дзіўна не тое, што гэта трэба тлумачыць. Дзіўна, што дасюль гэтага ніхто не растлумачыў, раздражняючыся і крыўдуючы на народ, які жадае не таго, чаго трэба было б жадаць народу...

Але, параздражняўшыся і пакрыўдаваўшы, варта ўсё ж было б спытацца: а чаго павінен хацець народ, жывыя людзі, апроч добрага жыцця сабе і сваім дзецям?

* * *

Як ва ўсе часы, так і ў сённяшнія: нехта крычыць: «Беларусь, на Усход!», хтосьці: «Беларусь, на Захад!» А Беларусь як была, так і застаецца (і застанецца) пасярод... І не таму, што такая геаграфія, а таму, што такі народ.

* * *

31.01.2010. Апошні вечар студзеня. Цёмна. Па ўсёй Беларусі снег, мяцеліца. Ні праехаць ні прайсці...

Тэлефануе Дранько-Майсюк. Ён у Давыд-Гарадку. Днём выпіў са стрыечнымі братамі, цяпер сядзіць у напаленай хаце каля грубкі, чытае раённую газету. Газета называецца «Навіны Палесся» (столінская). На першай паласе, як і павінна быць, галоўная навіна. «Самая прыгожая пара Галівуда Брэд Піт і Анжаліка Джалі абвясцілі пра развод!»

У Столінскім раёне ад няма чаго есці (а што й ёсць з'есці, дык па снезе такім не падвезці) ляжаць каровы. Рохкаюць і вішчаць, карыты грызучы, згаладалыя свінні. Анжаліцы і Брэду ў дурным сне не прысняцца занесеныя снегам свінарнікі і фермы, замеценыя глухія двары. Не думаюць яны пра Палессе, няхай яно само пра сябе думае. Але Палессе думае пра іх...

* * *

Мая бабуля Алімпа любіла сядзець на валуне на ўскрайку нашага поля. Валун быў такі, што трэба было прыстаўляць лесвіцу, каб на яго ўзабрацца. Бабуля ўзбіралася і падоўгу на камені тым сядзела. Звычайна рабіла яна гэта на захадзе сонца. Глядзела, нерухомая, як яно сядае, завальваецца, палаючы, за Багушоўскі лес...

Я спытаў аднойчы: навошта ты на камені гэтым сядзіш і сядзіш? Яна адказвала: «А там, пад ім, мае костачкі».

Пакуль бабуля была жывая, дзіўнаваты адказ яе здаваўся мне дурнотай. Калі яна памерла, ён здаўся мне загадкай. Цяпер ён здаецца мне метафарай. Літаратурай.

* * *

На вяршыню быцця чалавек падымаецца тады, калі далучаецца да небыцця.

* * *

Чалавека (аднаго) падмануць няцяжка, людзей — цяжэй. Падмануць іх наогул было б немагчыма, калі б яны не баяліся.

Гітлер, Сталін... і нават маленькі Лукашэнка — гэта спачатку вялікі страх, а пасля ўжо вялікі падман.

* * *

У пошуках праўды страчваеш шчасце.

* * *

Усё часцей стамляюся пасярэдзіне шляху.

Процілегласць смерці не жыццё, а жаданне жыць.

* * *

Тры радасці жыцця: жанчыны, сябры, алкаголь.

Першымі робяцца лішнімі ў тваім жыцці і сыходзяць з яго жанчыны. За імі — хто ўслед за жанчынамі, хто адначасова з імі — сябры. Застаецца з табой алгаколь, ды аказваецца, што без жанчын і сяброў і ён без патрэбы.

У канцы шляху зноў, як і ў пачатку, ты ні з кім і ні з чым.

* * *

Яна была з Ерэвана. Акторка рускага тэатра. Неверагодна прыгожая і плаўная ў рухах. Мы прасвяткавалі з ёй два тыдні жыцця на возеры Балатон. Не помню, як яе звалі. Наогул не

думаў, што помню яе, і раптам сёння ўночы, больш як праз палову жыцця, яна прыснілася. Безыменная, неверагодна прыгожая і плаўная ў рухах...

Нікуды ад нас нічога не сыходзіць.

* * *

Як толькі пацягне раскрыцца, расхрыстацца, так згадваецца запавет Канфуцыя: «Ніколі не распавядайце пра сябе ні добрага, ні кепскага. У першым выпадку вам не паверацць, у другім — прыўкрасяць».

* * *

Калі Джэка Лондана спыталі, што б ён выбраў паміж славай і грашыма, ён адказаў: «Калі слава прыйдзе з грашыма, няхай прыходзіць слава».

«Я хачу жыць, як бедны чалавек з грашыма», — сказаў Пабла Пікаса.

У юнацтве я быў катэгарычна супраць таго, што адказаў Лондан і сказаў Пікаса.

Пасталеўшы... як бы гэта сказаць... устрымліваўся пры галасаванні.

Цяпер — за.

Нашы ўяўленні пра прыярытэты і каштоўнасці найбольш радыкальна мяняюцца перад страхам сустрэць старасць у галечы.

* * *

Ёсць рэчы, на якія трэба *не ўмець* глядзець. Як на квадрат Малевіча, у якім кожны, хто не ўмее глядзець, нібыта бачыць нейкі сэнс, ніякага сэнсу не бачачы.

* * *

Мальер сказаў: «Мы паміраем толькі аднойчы, але на ўсё жыццё».

* * *

Калі з маладосці было відно, які крэтынізм — старасць, дык са старасці відно, якое наіўнае глупства — маладосць.

Вось і ўвесь жыццёвы досвед.

* * *

Неяк з Максімам Танкам ішлі мы па прынарачанскім лесе і выйшлі на дзіўны ўзлесак, дзе кружком, нібы ў даўнім друвіскім танцы, стаялі ці не ўсе дрэвы, якія толькі ёсць у Беларусі: бяроза, ясень, елка, дуб, сасна... Яўген Іванавіч паказаў кійком на прагал у тым крузе: «А вось гэтае месца нібы чакае, калі на ім вырасце клён».

Праз гады, калі Максіма Танка ўжо не стала, апынуўся я ў тым жа прынарачанскім лесе, выйшаў на той дзіўны ўзлесак і ўбачыў на тым месцы, на якое паказваў Танк, малады клёнік... Не думаю, што Яўген Іванавіч сам пасадзіў яго, каб праз гады мяне здзівіць.

* * *

Савецкая імперская літаратура, у якой я пачынаў, скончылася. Сарвалася, як цягнік пад адхіл. Патанула, як «Тытанік». Лёс тых, хто патануў у акіяне разам з караблём, трагічны. Але ці не горшая, бо самотная, доля тых, хто застаўся на беразе.

Мы чыталі вершы на стадыёнах, друкаваліся ў часопісах з мільённымі накладамі — і мільёны хацелі быць падобнымі да нас, паэтаў. На каго яны хочуць быць падобнымі сёння?..

Парадаксальная праўда ў тым, што і на стадыёнах, і ў часопісах мы ўсё зрабілі для таго, каб ні стадыёнаў, ні часопісаў у нас не стала.

* * *

Афіцыйнае паведамленне ў газеце:

«1 чэрвеня 2010 года пасля працяглай і доўгай хваробы памёр паэт Андрэй Вазнясенскі».

І ўсё.

Для тых, хто не памятае, як пахне адліга, хто ў 60-х гадах мінулага стагоддзя не прарываўся праз кардоны коннай міліцыі на стадыёны, каб не футбол ці хакей паглядзець, а паслухаць вершы, — са смерцю Андрэя Вазнясенскага нічога асаблівага не сталася. Ну, памёр нехта ў адпаведным для таго ўзросце, няхай сабе паэт. Дык зараз не час паэтаў, ім якраз і пара паміраць... Але для тых, хто пах адлігі памятае і на стадыёны, дзе гучала паэзія, прарываўся, 1 чэрвеня 2010 года на 78-м годзе жыцця пасля цяжкой і працяглай хваробы памерла *эпоха*. Ці ва ўсякім разе не стала аднаго з тых, хто яе ўвасабляў.

Каб цяпер распавесці некаму, хто такі Андрэй Вазнясенскі, трэба абавязкова нагадаць, што менавіта ён падараваў Але Пугачовай «Миллион алых роз». Гэта і смешна, і сумна. Больш чым сумна. Бо час, які распазнаецца не па паэзіі, а па шлягерных тэкстах, гэта не час. Гэта бясчассе.

Вось што было задоўга да *мільёна руж*.

Запомні гэты міг.
І над шыпшынай поўнік.
І на тваім плячы прышчэпкі светлы боль.
Я — вечны Твой паэт. Твой вечны палюбоўнік.
І — анічога больш.

Запомні лета штрых, пакуль ты можаш помніць.
Хоць тысячу гадоў адлічыць час, — і ўсё ж
Ты ўскрыкнеш, і цябе шыпшыны драпне поўнік.
І — анічога больш.

*(Пераклад Р. Барадуліна)*

* * *

Таццяна Сапач загінула.

У аўтакатастрофе.

За стырном быў Сяргей Дубавец.

Да болю шкада яе. Светлую, таленавітую.

Шкада яго. Да скону жыць яму з адчуваннем віны. Хай не вінаваты — бязвінная віна пра тое не пытае.

Ён напісаў пра яе эсэ «Мой анёл паляцеў на неба». Ды не эсэ... споведзь... — такіх пранізлівых тэкстаў раней ён не пісаў.

Большасць ягоных тэкстаў наўмысна скіраваныя на правакацыю. Гэта адзін з найэфектыўных прыёмаў журналістыкі — і ён спраўна ім карыстаецца. Але тут няма каго і няма ў чым правакаваць. І выйшла не горш. Лепш.

Пранізлівае толькі чалавечае. Яно, нават найпростае, ва ўсім вышэй за прафесійнае, няхай найвытанчанае.

* * *

Адзінокае пражыта жыццё... Кажу *пражыта*, бо істотна змяніцца нічога ўжо не можа.

Зразумеў гэта за гады замежжа, дзе з чужымі людзьмі пачуваў сябе гэтак жа, як са сваімі: адзінотна, як дома.

Што ж, такой бяды...

* * *

Неабвержных доказаў існавання нашага свету няма.

* * *

Незразумела было, што з гэтага павінна вынікаць, дык нічога і не вынікла.

* * *

Нехта помніць, што ты ёсць, і думае, што ведае цябе.

* * *

І паліто ён даўжэй даношваў, чымся насіў новае, і жыццё дажываў даўжэй, чымся жыў.

* * *

Нават у самае апошняе імгненне наперадзе часу столькі ж, колькі яго засталося ззаду. Гэта і ёсць таямніца жыцця.

* * *

На пахаванні аднаго з нашых сяброў, годнага, прыгожага чалавека, Альгуня горка заплакала: «Якія людзі паміраюць! Хто застаецца?..»

Я падумаў: «Застаюцца тыя, якія таксама памруць».

Не сказаў, каб Альгуня не падумала, што я скончаны цынік.

* * *

Маім першым школьным настаўнікам быў габрэй з прозвішчам Цукерман. Жонка ягоная са старэйшым сынам з'ехалі ў Ізраіль, дзе пачалася вайна, дзе старэйшага сына забралі ў армію — і на вайне забілі.

Жонка засталася адна, мой настаўнік з малодшым сынам паехалі да яе ў Ізраіль, дзе зноў пачалася вайна, дзе малодшага сына забралі ў армію — і на вайне забілі.

Я праводзіў іх, калі яны ад'язджалі... Рабіць гэтага было н е л ь г а, але малодшы сын Цукермана быў маім сябрам, і я спытаў яго, развітваючыся: «Ты хочаш, каб цябе забілі? За нешта чужое на чужой зямлі...» І сябар мой адказаў: «Так габрэям трэба...»

Я да гэтай пары не разумею: што ён мне сказаў?

* * *

Тадэвуш Касцюшка: «Нарадзіўся я літвінам... Смуга будучыні яшчэ пакрывае лёс маёй роднай зямлі».

Сёння мы ў той, якая бачылася Касцюшку, будучыні. У яе смузе.

За два стагоддзі нічога не сталася? Не змянілася?

Змянілася. Сталася. Беларусь займела шанс стаць дэмакратычнай еўрапейскай краінай. Гэты шанс дадзены нам нашай гісторыяй, у якой Беларусь ужо была і еўрапейскай, і — у пэўным сэнсе — дэмакратычнай. І тыя, хто не хоча для нас еўрапейскай будучыні, хоча ў нас нашу гісторыю забраць. Даводзячы нам, нібы нас у нашым мінулым не было.

Не яна, не Беларусь была той еўрапейскай краінай? Віцебск і Полацк, дзе ўлада належыла народнаму сходу, на якім выбіраліся князі, — гэта не Беларусь? Тураў, дзе было напісана (хутчэй за ўсё Кірылам Тураўскім) «Слова аб палку Ігаравым» і дзе ўлада не магла перайсці з рук у рукі без згоды таго ж народнага сходу, — таксама не яна? І напісаныя па-беларуску Статуты 1529, 1566 і 1588 гадоў, якія заканадаўча ўмацоўвалі рэспубліканскі дзяржаўны лад у Віцебску, Полацку, Тураве, Наваградку, Крэве, да нас не маюць дачынення? Вялікае Княства Літоўскае ў Полацку, Тураве, Наваградку, Віцебску, Крэве — гэта што?.. Літва?.. Польшча?.. Расія?..

Міністр прускага двара (а заадно й гісторык) Герцберг лічыў, што Польшча. Расійская імператрыца Кацярына II меркавала інакш. «Гэты Герцберг, — пісала яна нямецкаму літаратару Мельхіёру Грыму, — проста дурань, які ведае гісторыю гэтаксама, як мой папугай. Самаўпэўнены невук, тупы і цяжкі, як памяранскі бык, ён нават не дапускае, што не толькі ў Полацку, але і ва ўсёй Літве ўсе справы ва ўсіх судах вяліся на рускай *(для яе, безумоўна, на рускай)* мове, што ўсе акты ў літоўскіх архівах напісаны рускімі літарамі. Літва ніколі не была пад Польшчай, і пры падзелах Польшчы я не займела ніводнага вяршка польскай зямлі».

Якую ж зямлю, калі не польскую, займела расійская імператрыца?

Кацярына лічыла, што рускую, якая называлася літоўскай. Сваю. Са сваімі, рускімі людзьмі. Паўночна-заходнімі. Тады навошта ж было сваіх, рускіх, знішчаць, як знішчалі Мураўёў ды Сувораў? І навошта было сваіх, рускіх, русіфікаваць?

Дзеля праўды, на Кацярыну праз гэта не варта надта наракаць. З ёй звязаная хутчэй паўночна-заходняя (у процівагу польскай) традыцыя ў адносінах да беларускіх земляў, а не сама русіфікацыя, якая практычна пачалася пасля трэцяга падзелу Польшчы. Пры Паўле I і Аляксандры I намаганні ў гэтым былі вялаватыя, Аляксандр дапусціў нават сустрэчны працэс, паланізацыю, але пры Мікалаі русіфікацыя пайшла поўным ходам. І тычылася яна не толькі мовы, а ў нават большай

ступені рэспубліканскага духу гэтай зямлі: у 1839 годзе была зліквідаваная Унія, а ўжо ў наступным, 1840-м, цалкам спыненае дзеянне Літоўскага (напісанага, як сцвярджала Кацярына, рускімі літарамі па-руску) Статута. На ўсход і на захад пачала расцягвацца наша гісторыя.

Цягнуць-цягнуць — расцягнуць не могуць. Надта шмат.

Напрыканцы 90-х мінулага стагоддзя я спрабаваў стварыць міжнародны фонд «Крэва». Сабраў у Крэве палякаў, літоўцаў. Каб дамовіцца: наша гісторыя — адна на ўсіх. А палякі з літоўцамі адразу: «Не ваша!» Я павёў іх у Крэўскі замак: «Калі ваша, забірайце!» А што забіраць? Камяні? І куды цягнуць? Камяні гісторыі яны толькі ў Крэве, у іншым месцы — проста каменне. Фонд (праз канфлікт з гісторыкам Лукашэнкам) стварыць не ўдалося. Але ніхто мне ніколі не давядзе, што я, народжаны пад сценамі Крэўскага замка, не маю да гэтых сцен, да гісторыі, якая ў іх стваралася, ніякага дачынення. Калі насупраць замка, на могілках, — усе мае продкі.

Нарадзіўся я літвінам... Смуга будучыні яшчэ пакрывае лёс маёй роднай зямлі.

* * *

«Мірону снілася, што ён нарадзіўся — і яго купаюць у балейцы. Балейка стаіць у садзе, на стале пад яблынямі, а яблыкі — чырвона-жаўтабокія пепінкі, ужо даспелыя — вісяць над балейкай, над Міронам, як планеты, і жывуць на тых планетах восы, пчолы, чмялі, мухі, вусені... Мірон ведае, што пепінкі называюцца пепінкамі, пчолы пчоламі, вусені вусенямі, а бацька зрывае яблык і кажа: “Во, Мірон, гэта яблык, яго можна есці”, — і паплёўвае на пепін, шморгае яго разы тры аб гімнасцёрку і грызе, смачна хрумкаючы. Галіна, з якой бацька сарваў пепін, гойдаецца, і з яе падае яшчэ адзін яблык — у ваду, у балейку. Маці, сабраўшыся ўжо выціраць Мірона, уздрыгвае, з ёй уздрыгвае вада, уздрыгваюць балейка, стол, зямля пад сталом, маці выдыхае: “Мірон, стаўбун ты чортаў... — і Мірон разумее, пра што яна, толькі не ўцяміць, хто стаўбун, ён ці бацька, бо ягонага бацьку таксама завуць Міронам, — ...а каб на галаву дзіцяці!”

Пасля Мірону сняцца хрэсьбіны, госці за сталамі пад тымі ж яблынямі. Яблыні парадзелыя, амаль пустыя, цень ад іх падае не густы, як раней, а рассыпаны, пярэсты. Пепінкі, горкамі і ўрассыпную, ляжаць на абрусах, чырванеюць і жаўцеюць бакамі паміж лустамі чорнага хлеба, паміж міскамі з белым тварагом, зялёнымі гуркамі, рудаватымі памідорамі. Пярэсты цень пакалыхваецца, прабягае па сталах хвалямі: здаецца, што сталы вось-вось паплывуць».

Ва ўсім гэтым нібыта цалкам прыдуманым тэксце прыдуманае толькі імя. Мірон. Усё астатняе ва ўсіх дэталях мне раптам *успомнілася*. Я разумею, што помніць гэтага я не магу, і тым не менш, не разумеючы, як я магу гэта помніць, *помню*.

Калі б мы з гэтага пачыналі свае біяграфіі, а не з «Я нарадзіўся ў Смаргоні 11 (хоць насамрэч 9) ліпеня 1946 года», дык мы былі б іншымі. Бо пражывалі б — ад пачатку — інакшае жыццё. Не ведаю, як бы мы яго пры такой (сапраўднай) біяграфіі пражывалі, але думаю, што лепш.

Мірон лепшы за мяне.

* * *

Вяртаючыся ў мінулае, шкадуеш пра няздзейсненае. Больш там няма чаго рабіць.

Пасля ўсім расказваеш, нібы ні пра што ў мінулым не шкадуеш.

* * *

З гадамі ўсё больш адчуваецца адсутнасць сэнсу быцця. Не толькі быцця ўвогуле, на якое, калі б не было цябе, напляваць, але (на што, здавалася б, не плюнуць) і быцця ўласнага, свайго існавання. Усё часцей узнікае пытанне: «Ну і што?..» Яно і не пытанне нават, нейкая няўцямнасць: «Ну... і... што...» Ну, жыў ты, жывеш — ну і што? Дамагаўся нечага і дамогся — ну і што? Грошы нейкія, славу нейкую займеў — ну і што? Прыдумаў нешта, напісаў — ну і што? Памрэш — ну і што?

Усё — нічога.

Але нічога і ёсць усё.

* * *

Напісаўся даволі дзіўны верш:

Пакуль Абаму не забілі,
Яшчэ мы шанец не згубілі
Грахі прад Богам замаліць
І ўсіх, каго мы не любілі,
Пакуль Абаму не забілі,
Яшчэ мы можам палюбіць.

Пакуль, як на клавіятуры,
Свет беласкуры, чарнаскуры
(Чаму і музыка гучыць),
Мы можам не спраўляць хаўтуры
Па свеце і псалмы, і суры
Адной малітваю лучыць.

Пакуль Абаму не забілі,
Яшчэ мы шанец не згубілі
У храмах свечкі запаліць.
Заб’юць Абаму — рухнуць храмы,
І Бог памрэ, і цень Абамы
Над Богам будзе галасіць.

Што гэта?..

Неадчэпнае ў апошні час прадчуванне нейкай сусветнай катастрофы. Я нават бачыў сон з такім сюжэтам: у Пакістане вырабілі партатыўную атамную бомбу, нехта яе ўкраў і ўзарваў у Амерыцы, якая не змусіла сябе чакаць з адказам...

Вайна ў тым сне не зачапіла Беларусь.

Чаму?..

Таму што я люблю яе больш за ўвесь астатні свет — і Бог, які пасылае нам сны, не рашыўся на тое, каб у мяне Беларусь адняць. Чаму ж тады адымаюць у мяне Беларусь іншыя?.. Тыя, якія адымаюць у мяне беларускую мову, культуру, гісторыю, памяць?.. Яны вышэй за Бога? Ці ў іх Бога няма?.. Ці ў іх няма Бога толькі беларускага?..

* * *

Мы і яны. І Беларусь. Яны, як і мы, кажуць: яна ў нас адна. І нібыта яно так. І не так. Бо надта ўжо розныя ў нас Беларусі.

Яны тут не жывуць, яны тут палююць. Гэтаксама яны маглі б паляваць дзе заўгодна. Але там — свае паляўнічыя. Адстраляюць.

Іх Беларусь — бязмоўная, бяздумная. Бяспамятная, бязмозглая, каб круціць ёй, як яны ўсхочуць. Для іх яна — тое, што ў рот, што ў жывот. Што чарка і скварка. А для нас — што ў душу, што ў сэрца. Што дух і кроў.

Як спалучыць гэтыя дзве Беларусі? З чаго пачаць? Мы меркавалі: з духа. З ідэі нацыянальнай. А яны вырашылі: з чаркі ды скваркі. З ідэі сацыяльнай. І павесілі білборды: «Мы любім Беларусь». Якую? Тую, дзе яны п’юць? Абжыраюцца? Дык паўсюль п’юць і жаруць. Але толькі тут раптам гукнецца глыбока ў памяці тупат Пагоні каля Крэўскага замка. Толькі тут захлынецца знячэўку душа, слухаючы «Купалінку». Нечым такім, што не выказаць. Што гэта? Адкуль?.. Вось тое, што гукаецца ў памяці, чым захлынаецца душа, і ёсць Беларусь.

Для таго каб яна гукнулася ў памяці — трэба мець памяць. Не чужую — сваю. Каб гукнулася ў душы — трэба мець душу. Сваю — не чужую. А тым больш не здабытую на паляванні.

* * *

Крэўскага бацюшку выклікалі смаргонскія ідэолагі і строга спыталі, чаму ён Някляева ў царкву пускае?..

Бацюшка не носіць у грудзях палымянае сэрца апазіцыянера, але тут нават ён не вытрываў: «У божым храме гаспадар не я, а Гасподзь, і дзверы храму свайго Ён трымае расчыненымі для ўсіх».

Ідэолагі прыгразілі бацюшку, што нажаляцца на яго Філарэту. Ну, Філарэт для лукашэнкаўскіх ідэолагаў вышэй за Бога, бо бліжэй, чым Бог, да Лукашэнкі.

* * *

Чарговае пахаванне...

Вецер са снегам, мокрадзь, халадэча — лепш у труне ляжаць, чым стаяць.

Уявіў сябе на месцы нябожчыка — і нічога. Не страшна. Можа, таму, што ўсё ж пакуль жывы, але ўсё ж...

Калі ўжо не шкада сябе самога —
Усё цяжэй кагосьці шкадаваць,
Спатоленыя вочы падымаць
На некага, не бачачы нікога.

* * *

Не ведаю, што заўтра будзе. Чытаю кнігу, выпадкова ўзятую з паліцы.

Из дома вышел человек
С дубинкой и мешком.
И в дальний путь,
И в дальний путь
Отправился пешком.

Он шел все прямо и вперед,
И все вперед глядел.
Не спал, не пил,
Не пил, не спал,
Не спал, не пил, не ел.

И вот однажды на заре
Вошел он в темный лес.
И с той поры,
И с той поры,
И с той поры исчез.

Данііл Ювачоў, ён жа Данііл Хармс, вершы перад арыштам.

* * *

Хармс не ведаў, за што яго арыштавалі.

Яму растлумачылі: за антысавецкія вершы пра самавар:

Самовар Иван Иваныч!
На столе Иван Иваныч!
Золотой Иван Иваныч!
Кипяточку не дает...

Хармс спытаў: што тут антысавецкага? Яму яшчэ раз растлумачылі — ды так, што ён прызнаў: «Мая кніжка “Іван Іваныч самавар” з’яўляецца антысавецкай».

Школа савецкай крытыкі — гэта школа, якая не чытачу, а аўтару тлумачыць тое, што ён напісаў.

* * *

Еўропа святкуе Каляды, а я — дзяжурны па дзявятай камеры ўнутранай турмы беларускага КДБ. Пад вечар скрыгоча ключ у замку, расчыняюцца дзверы: «Мусор!»

Выносіць з камеры смецце — абавязак дзяжурнага. «Быстро, б..! Бегом, б..!» У абдымку са сметніцай выскокваю ў прыбіральню, дзе ў змерзлых выкідах чалавечай жыццядзейнасці бачу абрывак газеты. Скарыстаны ў клазеце шматок.

У турме, дзе цябе спрабуюць растаптаць, абязволіць, вельмі цяжка вытрываць, не маючы ўяўлення пра тое, што адбываецца за турэмнымі сценамі. Ізаляваны ад усялякай інфармацыі, ты прагна ловіш любое слова турэмшчыкаў, адчайна намагаешся прачытаць нешта ў іх абыякавых вачах. А тут раптам — шматок газеты... І ўправа, у заляпаную кардонку выкідваючы смецце, я ўлева выварочваю шыю і разбіраю на газетным абрыўку ў жоўтых расплывах апошнія словы: «Держись, Володя! Твой брат Евгений Евтушенко».

Мне горла перахапіла...

У людзях нельга вынішчыць чалавечае. Яно незнішчальнае. Яго не вытравіць, не спаскудзіць ні брудам, ні лайном. З-пад

бруду, з-пад лайна яно прарываецца хараством. І калі ў чым-небудзь ёсць на зямлі паэзія, дык у гэтым.

* * *

Мне мой дзед Ясь казаў, калі я нецярплівы быў: «Некалі ты дазнаешся, што мудрасць — гэта трыванне».

Доўгай дарогай прыйшоў я да разумення таго, што ён казаў.

* * *

Мой сакамернік (ён не палітычны, але кажа, што таксама змагаецца з беларускай дыктатурай: крадзе ў яе грошы) здымае з майго пляча нітку, якая прычапілася, калі мяне вадзілі на допыт. Акуратна скручвае яе і хавае пад матрац.

— Нашто табе нітка?

— А раптам знойдзем іголку. І нашто яна без ніткі?

Іголка ніяк не знаходзілася. Затое праз тую нітку знайшлося іншае.

…Цяпер, што хочаш, падарую
З таго,
што маю
у турме.

Лісток паперы… Скрыдлік мыла…
*І нітачку…* Каб ты на ёй
Той крыжык на грудзях насіла,
Які зацалаваны мной.

Каб стаўшы перад абразамі
Ці Бога ўбачыўшы ў акне,
Ты ўспамінала ўсё, што з намі
Было і не, было і не…

* * *

Праз *нітачку* ўспомніў яшчэ вось што…

Калі Радаслаў Сікорскі, міністр замежных спраў Польшчы, прадстаўляў мяне Хілары Клінтан, дзяржсакратару ЗША, я заў-

важыў валасок на яе жакеце, на плячы, і рука мая звычна, ну, як да пляча Альгуні, пацягнулася, каб яго зняць — і тут пальцы торгнула, як сутаргай: нельга!.. Нешта трэба было, бо рука завісла ў паветры, рабіць, і я зрабіў выгляд, нібы зірнуў на гадзіннік — вось якраз зараз мне прыпёрла дазнацца: колькі часу?..

Па-мойму, спадарыня Хілары ўсё зразумела, і не ведаю, што пра мяне падумала, а я падумаў, што, можа быць, блізкасць ці не блізкасць з жанчынай тым і вызначаецца, можаш ці не можаш ты зняць валасок з яе пляча?

* * *

«Сяджу на нарах, як король на імянінах...»

Сеўшы, як у той блатной песні, на нарах, падумаў вось пра што.

У новай кнізе «Кон», што выйшла перад Плошчай, за якую я на нарах, перавыдадзеныя таксама вершы з ранейшых кніг. З «Адкрыцця», з «Вынаходцаў вятроў», са «Знаку аховы», з «Прошчы». Як бы ўзноўленыя мінулыя гады, лёс, жыццё.

Некалі з новымі вершамі будзе перавыдадзены «Кон».

Будзе перавыдадзеная «Прошча».

А хто і калі перавыдасць Плошчу?

Ніхто і ніколі.

Плошчы не перавыдаюцца.

Паэзія — рух у вечнае. Палітыка — рух у паўсядзённае.

Дык куды я павярнуў? Куды рухаюся?

* * *

Кантралёр сярод ночы ўсунуўся ў кармушку: «На верхних нарах слева! Ногами вперед, чтобы я лицо видел!» Яму загадалі сачыць, каб я не задушыўся, бо перад тым сказаў следчаму, что вены перагрызу (што яшчэ магу зрабіць?), калі яны Альгуню арыштуюць і, як палохаюць, «ментам отдадут». Я перавярнуўся, кантралёр пайшоў і, можа, толькі круг ці два зрабіў (турма круглая, яны тут па крузе ходзяць), я стаў прысынаць, але так, як бывае, калі ў сне пытаешся: гэта сон, ці ява? — і з каляровым

мігценнем ад святла не пагасаючай ні ўдзень ні ўночы лямпачкі выплыў са сну ў яву з вершам, які, каб не забыцца, падхапіўся і запісаў.

Як плашчаніца, бел-чырвона-бела
Лунаў над лёсам сімвал Твой святы...
Калі ўдыхнуў Гасподзь душу мне ў цела —
Ёй стала Ты.

Ты, Воля беларуская, Ты, мара
Крывіцкая, Ты, крэўная мая!..
Калі Табе патрэбная ахвяра —
Ёй стану я.

Бадай, трохі запафасна, але як прыснілася — так прыснілася. Як і ўсё жыццё.

* * *

Тлусты, чырванаморды, азызлы пасля відавочнай учарашняй п’янкі пракурор горада Менска з прозвішчам балотнай птушкі гэтак напінаўся, абвяшчаючы мне пастанову пра арышт, што я падумаў: «Зараз лопне ў порткі». Ён крыкнуў, яшчэ болей надзьмуўшыся: «Увести!» — і калі мяне прывялі ў камеру, я ўспомніў, што фразу «не лопні ў порткі» прыдумаў для гераіні аповесці «Вяртанне Веры», але не скарыстаў, дык вось яна самому мне прыдалася — і засмяяўся.

Сакамернікі кінуліся з абдымкамі. Вырашылі, што мяне вызвалілі з-пад варты.

Людзі, якіх ты прыдумаў, жывуць разам з табой.

* * *

Генерал, да якога прывялі мяне на допыт, кажа, што гэта не допыт, а «бяседа», і прапануе цыгарэту. Я думаю: «Тэатр...» — а генерал, усяляк стараючыся паказаць, нават паказацца, што ён не хто-небудзь, а сапраўдны, не тэатральны генерал, праз што сапраўдным генералам якраз і не выглядае, пытае:

— Няўжо вы не разумелі, што мы не дадзім вам да плошчы дайсці, спынім? Дзіўна...

«Мы» ў яго гучыць, як «я» (ён, а не хто-небудзь не даў мне дайсці да Плошчы), а «дзіўна» гучыць, як «які ж ты дурань!»

Ну, калі ён гэтак думае, няхай так і будзе: лепш быць дурнем на волі, чым разумнікам у турме. Тым больш, што мне ў ёй, як следчы сказаў, ці да канца жыцця сядзець, ці мяне расстраляюць, бо па маёй віне на Плошчы загінулі людзі. Таму я слухаю генерала і, як дурны, здзіўляюся, калі ён распавядае, як мяне, чалавека недасведчанага ў вялікай палітыцы (у якой дасведчаны генерал), скарысталі нашы агульныя, мае і ягоныя, ворагі. Найперш габрэі і, як кажа генерал, «маскоўскія беларусы», якія цяпер «паціраюць рукі». Што ж, калі мяне расстраляюць, а яны яшчэ й рукі паціраюць, дык калі ласка: так, габрэі з маскоўскімі беларусамі мяне скарысталі... — і генерал ледзь з-за стала свайго генеральскага не выскоквае: «Гэта не я сказаў, гэта вы сказалі!»

Ён паспяшаўся. Не вытрымаў, як зрабіў бы тое сапраўдны актор ці сапраўдны генерал, паўзу. Адразу ж прагаварыўся, выявіўся ў тым, чаго найперш дамагаўся, і сам гэта адчуў. Таму паўза ўсё ж узнікла, толькі была ўжо не ягонай, а маёй. Наўрад ці яна была доўгай, але ўспамінаецца як доўгая, бо ў ёй я не толькі зразумець паспеў, што не ўсё так страшна, як следчы з генералам малююць, але і выдыхнуў страх з грудзей.

Паўза — вось што робіць тэатр тэатрам і жыццё жыццём.

* * *

Кожны ў турме лічыць сябе лішнім, выпадковым. Зняволеным ні за што. Праз памылку. Праз несправядлівасць. Адна турма так не лічыць, даводзячы табе, што ты тут невыпадкова. Што гэта не памылка, а лёс. І аднойчы ты заўважаеш, што нешта турэмнае падобнае на тваё, а нешта тваё падобнае на турэмнае.

Лёс прымаюць такі, які ёсць.

* * *

Усё, што дае нам Бог, — гэта тое, што мы робім самі.

* * *

Не стаўшы некалі рускім паэтам, я стаў урэшце рускім шпіёнам.

Так вырашылі ў беларускім КДБ, дзе начальнікам — рускі.

Пракоп Міхайлавіч Някляеў у труне перавярнуўся.

* * *

Калі быў у турме, здавалася, што там, у свеце, без мяне нечага меней. Калі выйшаў на волю, аказалася, што нічога ў свеце не паменела, апроч людзей, якія называліся сябрамі.

Не ўсё, што маеш, ёсць.

* * *

Азіраючыся назад, бачыш, што памыляўся, а яшчэ праз нейкі час аказваецца, што памыляўся якраз тады, калі думаў, што памыляўся...

Бамаршэ сказаў: «Час — сумленны чалавек».

* * *

Жыццё — чарга за смерцю. Прычым такая, у якой ці рухацца, ці стаяць на месцы — адно і тое ж.

* * *

Лёгкой жизни я просил у Бога,
Лёгкой смерти надо бы просить.

Я аднекуль *ведаў,* што гэта радкі Івана Буніна (хоць нідзе ў Буніна іх не чытаў), і ва ўспрыняцці маім яны, гэтыя радкі, цалкам супадалі з іменем аўтара. Як бліскучае з бліскучым. Аказалася, аўтар Іван, але не Бунін. Іван Тхаржэўскі. І радкі з аўтарам перасталі супадаць.

Больш за тое, прачытаўшы ўвесь верш, напісаны Тхаржэўскім па матывах Хафіза:

Лёгкой жизни я просил у Бога:
Посмотри, как мрачно все кругом.
Бог ответил: — Подожди немного,
Ты ещё попросишь о другом.
Вот уже кончается дорога,
С каждым годом тоньше жизни нить.
Лёгкой жизни я просил у Бога,
Лёгкой смерти надо бы просить, —

я раптам са здзіўленнем заўважыў, як у суседстве з кепскімі радкамі (а тут усе радкі, апроч двух, кепскія) пабляклі і бліскучыя радкі. Жыццё (такое, як у Буніна ці, скажам, у Каржавіна), якое ўяўлялася за гэтымі двума радкамі без ведання радкоў астатніх, ператварылася ў нішто.

Не ўсё трэба дапісваць.

Не ўсё трэба дачытваць.

Не ўсё трэба дажываць.

* * *

Калі нарадзілася дачка Ева, я прыдумаў для яе казку. Запісаў ды забыў. Прачытаў казку Еве, калі ёй было гадоў сем. Яна паслухала і спытала: «Тата, ты думаеш, што дзеці — гэта дзеці, ці што дзеці — гэта ідыёты?»

Іншым разам, пераглядаючы што-кольвечы з напісанага (а значыць, з пражытага), думаю: можа быць, Еве, калі яна вырасла, трэба было і пра дарослых спытаць тое, што спытала яна некалі пра дзяцей?..

* * *

З усяго, што было, згадваюцца найчасцей крэўскія пагоркі, па якіх іду, маленькі, і нанізваю на сцяблінку мятліцы сонейкі суніц.

* * *

Я б хацеў састарыцца і памерці разам з маім жыццём. Не раней і не пазней.

# КАМЕНТАРЫ

Новую кнігу паэта, празаіка, грамадскага і палітычнага дзеяча, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі Уладзіміра Някляева склалі аўтабіяграфічныя эсэ «Цуды ўсе ў адным-адзіным цудзе» і «Тэхналогія сыходу», адказы на анкету «Яшчэ трохі жыцця...» і мемуарна-дзённікавыя запісы «Знакі прыпынку».

## Цуды ўсе ў адным-адзіным цудзе
Спроба аўтабіяграфіі

Упершыню: Тамковіч А. Уладзімір Някляеў: «Цуды ўсе ў адным-адзіным цудзе...» // Снплюс. Свободные новости плюс. 2006. 5–12 июля. У другой рэдакцыі: Цуды ўсе ў адным-адзіным цудзе: спроба аўтабіяграфіі / Някляеў У. Выбраныя творы / уклад., камент. В. Болдыравай; прадм. Р. Барадуліна. Мінск: Кнігазбор, 2010. С. 543–552. Раздзел «Так напісана», у першай рэдакцыі, стаўся аўтарскім уступным словам «Замест прадмовы» да кнігі У. Някляева «Так» (Мінск: Выд. В. Хурсік, 2004. С. 4–6). Друкуецца паводле аўтарскага электроннага носьбіта з асабістага архіва У. Някляева з невялікім дадаткам, зробленым аўтарам падчас падрыхтоўкі гэтага выдання. Датуецца: сакавік 2004, Хельсінкі, Менск; кастрычнік 2008, 2010, 2012, Менск.

Ранейшая рэдакцыя эсэ (кастрычнік 2008) адрозніваецца ад канчатковай (2010) іншымі назвамі раздзелаў: «Паміж пісталетам і абразом», «“Цяпер твае вочы будуць маімі”», «Літаратура, якую не цікавіць, чаму гарыць электрычная лямпачка», «Адно — падумаць, іншае — зрабіць», «Бог не дазволіў саграшыць прад Крэвам».

*...у дзень 200-годдзя Аляксандра Пушкіна... (с. 12)* — Уладзімір Някляеў выехаў за мяжу (у Польшчу) 6 чэрвеня 1999 г. — у дзень нарадзінаў Аляксандра Пушкіна (1799–1837), вялікага рускага паэта, празаіка, драматурга.

*...калі апынуўся я за мяжой, аказалася, што ў мяне не зусім акрэслены статус (с. 12)* — У Варшаве Някляеву прапанавалі звярнуцца да ўладаў з просьбай аб палітычным прытулку, патлумачыўшы, што інакш пасля сканчэння тэрміну дзеяння візы ён не зможа знаходзіцца ў Польшчы. Палітычны прытулак, у сваю чаргу, не даваў магчымасці вярнуцца

ў Беларусь пад пагрозай арышту і зняволення. Не збіраючыся заставацца за мяжой назаўсёды, Някляеў палітычнага прытулку не папрасіў, захоўваючы тым самым магчымасць вяртання на радзіму. Урэшце статус Някляева акрэсліў міжнародны ПЭН-цэнтр — уплывовая арганізацыя, якая аб'ядноўвае пісьменнікаў і журналістаў усяго свету і адным з накірункаў дзейнасці якой з'яўляецца дапамога тым, хто апынуўся ў складанай сітуацыі. Някляеў быў уключаны ў міжнародную праграму «Пісьменнік у бяспецы» і запрошаны па рэкамендацыі Фінскага нацыянальнага ПЭН-цэнтра ў Фінляндыю са статусам ганаровага госця горада Хельсінкі.

*Вы і так паляк, у вас дзядзька ў Польшчы жыве! (с. 12)* — Адзін з братоў маці Някляева, Магер Мікалай (1921–2011), з паваеннага часу жыў у Польшчы, служыў у польскім войску, даслужыўся да палкоўніка.

*...у мяне яшчэ і бацька рускі... (с. 12)* — Някляеў Пракоп (1911–1993), ураджэнец в. Прамая Балка Дубоўскага раёна Валгаградскай вобл. (Расія).

*Каб паступіць у тэхнікум, у інстытут, у Саюз пісьменнікаў, каб паехаць за мяжу, каб атрымаць медаль, ордэн, прэмію, каб працаваць у газеце, у часопісе, на тэлебачанні, каб стаць карэспандэнтам, загадчыкам аддзела, галоўным рэдактарам... (с. 13)* — Скончыўшы 9 класаў Смаргонскай сярэдняй школы № 1, Някляеў паступіў у Мінскі электратэхнікум сувязі (скончыў у 1965). У 1966–1967 гг. працаваў у Сібіры і на Поўначы ў Расіі. Жнівень 1967 — жнівень 1971 г. — радыёмеханік Мінскага радыётэлевізійнага атэлье № 2. Паралельна вучыўся на завочным аддзяленні філалагічнага факультэта Мінскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута імя А. М. Горкага (1968–1973). У верасні 1971 г. паступіў яшчэ і на дзённае аддзяленне паэзіі Літаратурнага інстытута імя М. Горкага (Масква), але на 2-м курсе перавёўся на завочнае аддзяленне, якое, не скончыўшы, пакінуў у 1974 г. Сябра Саюза пісьменнікаў (з 1978). Карэспандэнт, літкансультант газеты «Знамя юности» (лістапад 1972 — студзень 1975). Рэдактар бюлетэня «Тэатральны Мінск» (студзень 1975 — люты 1978). Старшы рэдактар Беларускага тэлебачання (люты 1978 — ліпень 1980). Зноў літкансультант газеты «Знамя юности» (ліпень 1980 — жнівень 1987). Галоўны рэдактар часопіса «Крыніца» («Родник») (1987–1992, 1994–1999). Галоўны рэдактар газеты «Літаратура і мастацтва» (1996–1999).

Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола (1979) і Дзяржаўнай прэміі Беларусі (1998). Кавалер ордэна «Знак Пашаны» (1986).

*Даўным-даўно адзін з каралёў Брытаніі, састарэўшы і стаміўшыся быць каралём, вырашыў скінуць з плячэй сваіх цяжар улады і падзяліць каралеўства на тры часткі паміж трыма дочкамі, адну з якіх, Кардэлію, у апошні момант абдзяліў (с. 14)* — Маецца на ўвазе 11-ты брытанскі кароль Леір (X ст. — 849 г. да н. э.), які быў караваны ў 909 г. да н. э. і ў якога былі тры дачкі: Гарнэрылія, Рэгана і Кардэлія. Адчуваючы набліжэнне старасці, Леір паведаміў дочкам, што падзеліць каралеўства на тры часткі, каб кожная атрымала спадчыну. І калі дзве старэйшыя дочкі, пабраўшыся шлюбам, усяляк ліслівілі перад бацькам, малодшая, Кардэлія, не пажадала дамагацца любові бацькі менавіта такім чынам. У выніку Леір падзяліў каралеўства паміж дзвюма старэйшымі дочкамі. Зяці далі Леіру спачатку 140 рыцараў для аховы, пасля скарацілі ахову да 30-ці, затым — да 5-ці і ўрэшце — да аднаго ахоўніка. Спалохаўшыся старэйшых дачок, Леір збег у Галію, дзе атрымаў любоў Кардэліі. Сабраўшы войска, Леір рушыў на Брытанію. Перамогшы, ён правіў яшчэ тры гады, затым перадаў трон Кардэліі.

*Дзякуючы геніяльным фантазіям Шэкспіра, увесь свет ведае пра тое, што сталася далей... (с. 14)* — Маецца на ўвазе драма «Кароль Лір» Уільяма Шэкспіра (1564–1616), вялікага англійскага паэта і драматурга.

*...гісторыя пра ўладара Вялікага Княства Літоўскага Гедзіміна... (с. 14)* — Гедзімін (каля 1275–1341) — вялікі князь літоўскі (прыблізна з 1316 г.).

*Двух са сваіх семярых сыноў, у тым ліку Альгерда, вялікі князь абдзяліў (с. 14)* — Альгерд (каля 1296–1377) — вялікі князь Вялікага Княства Літоўскага (1345–1377), сын Гедзіміна, атрымаў ад бацькі Крэўскае княства.

*...дасталося Крэва... (с. 14)* — Крэва — малая радзіма Уладзіміра Някляева, мястэчка ў Смаргонскім раёне Гродзенскай вобл., знакавае месца беларускай гісторыі: паводле вызначэння гісторыка М. Ермаловіча, тэрытарыяльнае ядро старажытнай Літвы (у будучым, з далучэннем новых тэрыторый, — Вялікае Княства Літоўскае, затым — Беларусь) існавала ў цэнтральна-заходняй частцы Беларусі на прасторы між Навагародкам, Менскам, Слонімам і Крэвам. Менавіта тут, у Крэўскім замку, у 1385 г. была падпісана дамова паміж Вялікім Княствам Літоўскім і Польскім Каралеўствам — Крэўская унія,

дакументальнае зацвярджэнне вялікім князем літоўскім Ягайлам папярэдне прынятых абавязацельстваў перайсці ў каталіцтва і ахрысціць паводле лацінскага абраду язычнікаў-літоўцаў, а таксама стварыць дзяржаўны саюз (унію) Вялікага Княства Літоўскага і Кароны Польскай.

*...рушыў вайной на брата свайго Яўнута... (с. 14)* — Яўнут (Яўнуцій, у праваслаўі Іван; каля 1308 — пасля 1366) — вялікі князь літоўскі (1341–1345), сын вялікага князя літоўскага Гедзіміна.

*...з дапамогай другога свайго брата, Кейстута... (с. 14)* — Кейстут (1297–1382) — вялікі князь літоўскі (1381–1382), сын вялікага князя Гедзіміна ад першага шлюбу.

*...свайму пляменніку Ягайлу... (с. 14)* — Ягайла (у праваслаўі Якаў, у каталіцтве Уладзіслаў; 1352?—1434) — вялікі князь літоўскі (1377–1381, 1382–1992), кароль польскі (1386–1434), старэйшы сын вялікага князя літоўскага Альгерда.

*...сына Кейстута, свайго брата стрыечнага Вітаўта... (с. 14)* — Вітаўт (у каталіцтве Віганд і Аляксандр, у праваслаўі Аляксандр; 1350–1430) — вялікі князь літоўскі (1392–1430, фармальна з 1401), сын Кейстута, адзін з выдатных дзеячаў Вялікага Княства Літоўскага; за сваю дзейнасць атрымаў найменне Вялікі.

*Тут лёс і звёў яго з маёй маці... (с. 15)* — Някляева Анастасія (у дзяв. Магер; 1919–1993), ураджэнка в. Крэва Смаргонскага раёна Гродзенскай вобл.

*...у адной з першых сваіх паэм: «Сутыкненне нацый і народаў вырашала: быць мне ці не быць?..» (с. 15)* — Радкі з паэмы Някляева «Даведка аб нараджэнні» (1978–1979).

*...адна з найбольш біяграфічных маіх аповесцяў «Мірон ды Мірон» (с. 15)* — Напісана: 1993, Менск; 2001, Хельсінкі. Упершыню: Дзеяслоў. 2004. № 13 (6).

*Мой дзед Ясь, Іван Маркавіч Магер... (с. 15)* — Магер Іван (1887–1975).

*...у прыпавесці «Чмель і вандроўнік», прысвечанай Васілю Быкаву (с. 16)* — Напісана: 2003, Менск. Упершыню: Наша Ніва. 2003. 1 жн. Быкаў Васіль (1924–2003) — народны пісьменнік Беларусі (1980), класік беларускай літаратуры.

*У чатырнаццаць год «паступаць на геолага» паехаў у Кіеў... (с. 16)* — Скончыўшы 7 класаў, Някляеў паехаў паступаць у Кіеўскі геолагаразведачны тэхнікум, але не прайшоў па конкурсе. Як ён сам пісаў, «праз каханне абы-як здаў экзамены».

*...купіў кнігу Альберта Эйнштэйна (с. 16)* — Эйнштэйн Альберт (1879–1955) — адзін са стваральнікаў сучаснай тэарэтычнай фізікі; лаўрэат Нобелеўскай прэміі па фізіцы (1921).

*З дыпломам маладога спецыяліста я апынуўся спачатку на Далёкім Усходзе, пасля ў Сібіры і на Поўначы... (с. 17)* — У 1966–1967 гг. Някляеў працаваў ва Уладзівастоку, Тайшэце, Нарыльску (Расія), куды, кіруючыся рамантычнымі памкненнямі, паехаў па ўласным жаданні, хоць пасля заканчэння тэхнікума атрымаў размеркаванне ў Ленінград (цяпер — С.-Пецярбург).

*Першая мая кніга павінна была выйсці на рускай мове, калі я вучыўся ў Літаратурным інстытуце. Свету яна не пабачыла: я забраў рукапіс з маскоўскага выдавецтва «Молодая гвардия» (с. 17)* — Пазней Някляеў тлумачыў прычыну гэтага: «Там на мяне глядзелі, як на хворага. Паэт Вадзім Кузняцоў, які працаваў у выдавецтве “Молодая гвардия” загадчыкам аддзела паэзіі і які пазней стаў маім перакладчыкам, наўпрост спытаў: “Ты ідыёт?..” Я адказаў, што я не ідыёт, а беларускі паэт, на што ён заўважыў, што гэта, мусібыць, адно і тое... Але сарказм ягоны мяне не пахіснуў, бо ўва мне сядзела адно: калі ўжо я беларускі паэт, дык першая кніга абавязкова павінна быць беларуская»*. Іншым жа разам Някляеў агучыў яшчэ адну прычыну той сваёй адмовы: «І кніга выйшла б, каб сапраўды бліскучы рускі паэт і віртуозны знаўца мовы Сямён Кірсанаў, прачытаўшы рукапіс, не сказаў мне: “Все это насколько хорошо, настолько не по-русски”. Я чакаў ад яго, паэта з эпохі Блока, Маякоўскага, Хлебнікава, любога прысуду, толькі не такога. Помню, што з нечаканкі нават пакрыўдзіўся і згадаў ягоную крэўную нацыянальную прыналежнасць: “У-у, а яшчэ рускай мове вучыць мяне будзе”. Толькі Кірсанаў на тое пляваў і, папіваючы каньячок з каўкай, як двойчы два давёў мне, што паэзія — гэта не граматыка і не сінтаксіс, і нават не лексіка. Ва ўсякім разе гэта не прамыя значэнні слоў, а тое, што адбываецца з імі ў іх спалучэннях і аддаленасцях. Гэта найперш інтанацыйны спосаб мыслення, менш ці больш метафарычны.

* Масквін А. Уладзімір Някляеў: Адолець звычку жыць... / гутарка з У. Някляевым // Дзеяслоў. 2009. № 6 (43). С. 276

“А ў цябе, — ён сказаў, — усё добра, толькі ўсе словы слоўнікавыя, інтанацыя не руская і спосаб мыслення не рускі. Не ведаю, якія, але не рускія”»*.

*...а мне паказалі адмоўную (так званую закрытую) рэцэнзію (с. 17)* — Аўтарам рэцэнзіі быў беларускі паэт Сцяпан Гаўрусёў (1931–1988), які пісаў: «Знаёмства з рукапісам зборніка “Крыло” пакідае двaістае ўражанне. З аднаго боку, перад намі несумненна здольны чалавек, якому хочацца сказаць сваё слова ў паэзіі. Адчуваецца пэўнае тэхнічнае ўмельства, спроба разнастаіць тэматыку і рытміку сваіх твораў. З другога боку, зусім відавочная залежнасць ад гатовых узораў, карацей кажучы — літаратуршчына. [...] Пачуццё меры і густу аўтару трэба развіваць і развіваць, каб не пісаць так:

Так вусны адрываюцца ад вуснаў.
Так цела адрываецца ад цела.

*(“Позні лістапад”)* [...]

Каб адзін аднаго не згубіць,
Мы крык-накрыж,
Крык-накрыж.

*(“Крык-накрыж”)*

Усё гэта — мёртвая кніжнасць, за якой не адчуваеш непасрэднага чалавечага хвалявання. [...]

З незразумелай настойлівасцю аўтар узнаўляе рэлігійныя звычкі:

На бібліі і на каране
Благаслаўляю нас дваіх.

*(“Каханая, цудоўна жыць на свеце”)*

І ўжо зусім несур’ёзна гучыць прысвячэнне верша “Іпадром” — “А. Каўбенаву, жакею. Ранеце, гнедай кабыле”. [...]

...Таму аб выданні зборніка гаварыць яшчэ рана»**.

*Урэшце кніга са зменнай назвай (не маёй, а выдавецкай)... (с. 18)* — Аўтарская назва — «Сад на скрыжаванні»; у выдавецтве «Мастацкая

* Яновіч С. Казкі пра саміх сябе / гутарка з У. Някляевым // Czasopis (Беласток, Польшча). 1999. № 10. С. 20.

** Гаўрусёў С. Рэцэнзія на рукапіс зборніка вершаў «Крыло» Уладзіміра Някляева ад 12 чэрв. 1973 г. Аўтарызаваны машынапіс за подпісам С. Гаўрусёва, другі экзэмпляр. Арыгінал. Архіў У. Някляева.

літаратура» загадчыкам аддзела паэзіі Уладзімірам Паўлавым кнізе Някляева была дадзена іншая назва — «Крыло». Выйшла пад назвай «Адкрыццё», якую даў ужо рэдактар кнігі Рыгор Барадулін.

*Найперш намаганнямі Рыгора Барадуліна... (с. 18)* — Барадулін Рыгор (нар. у 1935) — народны паэт Беларусі (1992); у 1972–1985 гг. — старшы рэдактар рэдакцыі выбраных твораў выдавецтва «Мастацкая літаратура». Рэдактар першай кнігі Някляева «Адкрыццё»; аўтар прадмовы да першай кнігі Някляева на рускай мове, якая, зрэшты, не выйшла. У прадмове да вершаў Някляева, упершыню выдадзеных у перакладзе на рускую мову ў калектыўным зборніку «Молодые поэты Белоруссии», Р. Барадулін пісаў: «Так сталася, што мне давялося потым у выдавецтве “Мастацкая літаратура” рэдагаваць і першы зборнік паэта. Гэта, на жаль, адзін з нешматлікіх, рэдкіх выпадкаў у маёй рэдактарскай практыцы, калі, не корпаючыся ў рыфмах, радках, было проста прыемна пагутарыць не з аўтарам, што рвецца, пнецца хутчэй выпусціць першую кнігу, а з цікавым, ужо акрэсленым, ужо выстаяным паэтам, чалавекам, які прайшоў добрую і грунтоўную школу жыцця і літаратурнай вучобы. [...] І тут той рэдкі шчаслівы выпадак, калі вучоба з філалагічным ухілам не зрабіла вершы паэта літаратурнымі, кніжнымі ў самым небяспечным значэнні гэтага слова. Жыццёвая загартоўка і жыццёвы вопыт, гарт перамаглі»[*]. Р. Барадулін таксама прысвяціў Някляеву верш «Быў год, яшчэ з вайны галодны...», эсэ «Уладзімер Някляеў»[**] і прадмову да яго «Выбраных твораў» «Ля самай скроні свету...»[***]

*...якi падключыў да гэтага як цяжкую артылерыю Куляшова з Панчанкам (с. 18)* — Куляшоў Аркадзь (1914–1978) — народны паэт Беларусі (1968); лаўрэат Сталінскай прэміі (1946), Дзяржаўнай прэміі БССР імя Я. Купалы (1970). Панчанка Пімен (1917–1995) — народны паэт Беларусі (1973); лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Я. Купалы (1959), Дзяржаўнай прэміі БССР імя Я. Купалы (1968), Дзяржаўнай прэміі СССР (1981). Рукапіс першай кнігі маладога паэта выратаваў

[*] Цыт. паводле: Барадулін Р. Яшчэ болей — скажа! / Р. Барадулін // Парастак радка, галінка верша: артыкулы, эсэ. Мінск: Мастацкая літаратура, 1987. С. 72–73; упершыню: Бородулин Р. Чего не хватает? // Молодые поэты Белоруссии: стихи / пер. с бел.; сост. И. Бурсов. М.: Молодая гвардия, 1979. С. 92–93.

[**] Гл.: Дуліна ад Барадуліна: (бібл-ка Свабоды. XXI ст.): Радыё «Свабодная Эўропа» / Радыё «Свабода», 2004. С. 54–56.

[***] Някляеў У. Выбраныя творы. С. 5–8.

П. Панчанка — Някляеў прыгадваў: «Бородулин отдал мою рукопись на повторную рецензию, которая была написана прямо на титульном листе и оказалась короче пути к вокзалу: *“Калі выдаваць першыя кнігі вершаў, дык такія”*. И подпись: *Пімен Панчанка, народны паэт Беларусі.* В те времена вернуть рукопись к жизни мог только тот, чей авторитет был выше авторитета рецензента, книгу зарубившего, а таким авторитетом обладали лишь народные поэты. Бородулин хотел отдать рукопись еще и Аркадию Кулешову, но решили, что два народных поэта на одного ненародного рецезента будет чересчур»[*]. Пра стаўленне П. Панчанкі таксама сведчаць яго лісты да Някляева: «Я ўважліва сачу за ўсімі Вашымі новымі вершамі (нядаўна слухаў па радыё). У многіх вершах — сапраўдная паэзія. Мы на Вас вельмі спадзяёмся. Дык глядзіце не падвядзіце...»[**]; «Помніце, я заўсёды верыў і веру і ўсюды сцвярджаю, што Вы — адзіны па-сапраўднаму таленавіты, арыгінальны і патэнцыяльна вялікі паэт (з сярэдняга пакалення). У чым з любоўю і распісваюся»[***].

*Яна патанула, як «Тытанік» (с. 19)* — «Тытанік» — брытанскі параход, на момант пабудовы буйнейшы параход свету. Затануў падчас рэйса 14 красавіка 1912 г., сутыкнуўшыся з айсбергам. Паводле адной з крыніц, з 2224 чалавек, якія знаходзіліся на борце, выратаваліся толькі 711.

*Набліжаўся чарговы з’езд КПСС (с. 19)* — XXVI з’езд КПСС (люты 1981).

*Да канца эпохі Брэжнева... (с. 20)* — Брэжнеў Леанід (1906–1982) — савецкі партыйны і дзяржаўны дзеяч; з 1964 г. — 1-шы сакратар, з 1966 г. — Генеральны сакратар ЦК КПСС.

*Гарбачоў ужо быў сакратаром ЦК (с. 20)* — Гарбачоў Міхаіл (нар. у 1931) — савецкі партыйны і дзяржаўны дзеяч; з 1978 г. — сакратар, у 1985–1991 гг. — Генеральны сакратар ЦК КПСС; член Палітбюро ЦК КПСС (1980–1992); прэзідэнт СССР (1990–1991).

*Суслаў (с. 21)* — Суслаў Міхаіл (1902–1982) — савецкі партыйны і дзяржаўны дзеяч; сакратар ЦК ВКП(б), затым — ЦК КПСС (1947–1982); член Палітбюро ЦК КПСС (1952–1953, 1955–1982).

---

[*] Некляев В. Песня для именинника // Белорусская деловая газета. 2004. 25 февр.

[**] З ліста ад 5 верас. 1977 г. Аўтограф. Арыгінал. Архіў У. Някляева.

[***] З паштоўкі ад 29 жн. 1987 г. Аўтограф. Арыгінал. Архіў У. Някляева.

*...з новай беларускай уладай, з Лукашэнкам (с. 21)* — Лукашэнка Аляксандр (нар. у 1954) — з 1994 г. — прэзідэнт Рэспублікі Беларусь.

*У 2010 годзе ў Беларусі праходзілі прэзідэнцкія выбары — і я стаў кандыдатам у прэзідэнты (с. 22)* — Узначаліўшы ў лютым 2010 г. грамадзянскую кампанію «Гавары праўду!», у верасні таго ж года Някляеў заявіў аб намеры балатавацца на пасаду прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.

*Вечарам 19 снежня 2010 года, калі людзі на выбарчых участках яшчэ галасавалі, і я — няхай тэарэтычна — мог стаць прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь, на мяне і маіх паплечнікаў напалі бандыты. Пасля аказалася, што гэта байцы спецпадраздзялення Міністэрства ўнутраных спраў, якія дзейнічалі па загадзе Лукашэнкі, кіраўніка краіны (с. 22)* — У дзень прэзідэнцкіх выбараў Някляеў сапраўды быў ледзь не забіты — прыкладна ў 19.25, калі калона актывістаў кампаніі «Гавары праўду!» на чале з яе лідарам рушыла з офіса па вул. Няміга, 42, у бок Кастрычніцкай плошчы, яна была спыненая на вул. Калектарнай супрацоўнікамі ДАІ, якія, перагарадзіўшы дарогу, патрабавалі прадставіць да агляду мікрааўтобус. Аднак «някляеўцы» адмовіліся выканаць патрабаванне, бо небеспадстаўна меркавалі, што міліцыянты канфіскуюць гукаўзмацняльную апаратуру, якая была ў машыне. Ужо праз хвіліну на Някляева і яго паплечнікаў наляцелі каля паўсотні чалавек у чорным, былі ўзарваны шумавыя гранаты. «Някляеўцаў» пачалі збіваць, сам кандыдат у прэзідэнты атрымаў удар такой моцы, што страціў прытомнасць. З чэрапнамазгавой траўмай ён быў шпіталізаваны на машыне хуткай дапамогі. Пасля супрацоўнікі ДАІ сведчылі ў судзе, што бачылі на спінах нападаўшых надпіс «міліцыя», пра гэта ж раней паведамлялася і на сайце ГУУС Мінгарвыканкама*.

*Збітага, на хуткай дапамозе мяне завезлі ў шпіталь, адкуль праз некалькі гадзін я быў выкрадзены — і апынуўся ў выніку «выбараў» не ў рэзідэнцыі прэзідэнта, а ў турме (с. 22)* — Някляеў быў літаральна выкрадзены з рэанімацыйнай палаты бальніцы хуткай медыцынскай дапамогі проста ў коўдры, без адзення, людзьмі ў цывільным, якія не паказалі ніякіх дакументаў, і дастаўлены ў следчы ізалятар КДБ Рэспублікі Беларусь, дзе ён знаходзіўся да 29 студзеня 2011 г., затым быў пераведзены пад хатні арышт.

* Гл.: ГУВД: участникам массовых беспорядков 19 декабря будет дана дополнительная правовая оценка // Электронны рэсурс: http://guvd.gov.by/news/1493.html.

*Там я напісаў паэму «Турма» (с. 22)* — Напісана 25–31 снежня 2010 г. Упершыню: Някляеў У. Турма // Дзеяслоў. 2011. № 6 (55). С. 108–123; Някляеў У. Лісты да Волі. Vilnius: Viesoji istaiga gudu informacijos centras, 2011. С. 46–73.

*...радкі з паэмы «Ложак для пчалы»... (с. 22)* — Напісана: 21 красавіка — 9 чэрвеня 2003, Хельсінкі. Упершыню: Някляеў У. Так. С. 112–226.

*...пасля «Прошчы»... (с. 23)* — Някляеў У. Прошча: вершы і паэмы. Мінск: Мастацкая літаратура, 1996.

## Тэхналогія сыходу

Упершыню: Некляев В. Технология ухода // Белорусская деловая газета. 2004. 4 июня. Друкуецца паводле аўтарызаванага перакладу з рускай мовы С. Шапрана. Датуецца: 21 траўня 2004, Хельсінкі.

Эсэ напісана да пяцігоддзя жыцця Някляева ў замежжы (Польшча, Фінляндыя). Дасылаючы эсэ 18 мая 2004 г. у рэдакцыю «Белорусской деловой газеты», Някляеў паведамляў: «...в этом году 6 июня — воскресенье. Как и пять лет назад. Глянув в календарь и случайно обнаружив это совпадение, я и написал то, что высылаю»*. Праз тры дні даслаў ужо папраўлены варыянт.

*Як пісаў Аляксандр Сяргеевіч, «в приют убогого чухонца» (с. 24)* — Радок з паэмы А. Пушкіна «Медный всадник», дакладней: «приют убогого чухонца».

*...падобны, як яму здалося, на голуба Пікаса... (с. 25)* — Пікаса Пабла (1881–1973) — іспанскі мастак, скульптар; заснавальнік кубізму.

## «Яшчэ трохі жыцця...»

Упершыню: Някляеў У. П. «Я яшчэ жыву...» / Шчыра як на духу. Споведзі вядомых людзей Беларусі: зборнік / пад рэд. Н. Гілевіча. Мінск: ГА БТ «Кніга», 2001. С. 302–306. Друкуецца паводле гэтай публікацыі з невялікімі змяненнямі, зробленымі Някляевым падчас падрыхтоўкі гэтага выдання. Датуецца: 2001, Хельсінкі; 2012, Менск.

*Партос, герой рамана «Тры мушкецёры»... (с. 29)* — Раман Дзюма Аляксандра (1802–1870), французскага пісьменніка.

* Электронны носьбіт. Архіў аўтара каментароў.

*Янка Купала, Моцарт, Мадзільяні (с. 29)* — Купала Янка (сапр. Луцэвіч Іван; 1882–1942) — народны паэт Беларусі (1925), класік беларускай літаратуры. Моцарт Вольфганг Амадэй (1756–1791) — аўстрыйскі кампазітар, выбітны прадстаўнік Венскай класічнай школы. Мадзільяні Амедэа Клементэ (1884–1920) — італьянскі мастак і скульптар, прадстаўнік экспрэсіянізму.

## Знакі прыпынку

Цыкл «Знакі прыпынку» быў распачаты У. Някляевым у 2004 г. і друкаваўся на працягу чатырох гадоў (з двухгадовым перапынкам) у газеце «Наша Ніва»*; у 2009 г. быў часткова і з некаторымі скарачэннямі ўключаны ў «Выбраныя творы»**. Праца над «Знакамі прыпынку» працягваецца й да сённяшняга часу, сведчанне таму — з'яўленне «Знакаў прыпынку» ў кастрычніку 2012 г. на сайце «Нашай Нівы»*** і публікацыя іх у часопісе «Дзеяслоў» [2012. № 4—5 (59—60); 2013. № 2 (63), 4 (65)].

У дадзеным выданні межы цыкла аўтарам былі пашыраны, бо тут у «Знакі прыпынку» таксама ўключаны фрагменты эсэ і ўспамінаў 1980-х і пачатку 2000-х гг. (пра В. Быкава, А. Вялюгіна, А. Куляшова, П. Панчанку, М. Селяшчука, эсэ «Дарыце ўсмешкі» і «Суомі»), выступленне ў эфіры Беларускай службы Радыё «Свабода», а таксама мініяцюры пра Я. Купалу і Я. Коласа, якія першапачаткова былі надрукаваны ў якасці невялікіх запісаў нататнікавага характару, але ў далейшым сталі арганічнай часткай грунтоўных біяграфічных манаграфій «Шлях»**** і «Праз лес, праз лёс»*****.

У гэтым выданні «Знакі прыпынку» друкуюцца (часткова — упершыню) паводле электроннага носьбіта з архіва У. Някляева, а таксама згодна з ранейшымі публікацыямі (ці паводле машынапісаў), якія

* Наша Ніва. 2005. № 19–23; 25–41, 43, 45, 47; 2006. № 2–4; 2007. № 3, 23, 43; 2010. № 2, 11, 12, 14, 17, 20, 25, 28.

** Някляеў У. Выбраныя творы. С. 481–542.

*** Уладзімір Някляеў пра расстраляных паэтаў: з кнігі «Знакі прыпынку» // Электронны рэсурс: http://nn.by/?c=ar&i=82638.

**** Упершыню часткова: Някляеў У. Безназоўная смерць // Народная воля. 2005. 1 ліп.; цалкам: Шлях // Дзеяслоў. 2007. № 3 (28).

***** Упершыню часткова: Някляеў У. Знакі прыпынку // Наша Ніва. 2005. № 30, 31; Складаныя дачыненьні Купалы і Коласа // Наша Ніва. 2005. № 43; цалкам: Праз лес, праз лёс // Дзеяслоў. 2007. № 4 (29).

ў кожным канкрэтным выпадку ўказваюцца. Датуюцца: 1983, 1984, 1987, 2004–2012 гг.

*Першае, што помніцца, — маці... (с. 31)* — Фрагмент эсэ Някляева «Дарыце ўсмешкі». Упершыню: Беларусь. 1984. № 6. С. 1.

*Нарадзілася дачка (с. 31)* — Някляева Ева (нар. у 1980), жыве ў Хельсінкі (Фінляндыя).

*Мы з братам спазніліся... (с. 31)* — Някляеў Іван (нар. у 1951), жыве ў Смаргоні.

*...над хуткаплыннай вадой рэчкі Крэўлянкі... (с. 33)* — Крэўлянка — рэчка ў Крэве; тут — аўтарскае напісанне, бо на мапах — Крыўлянка.

*У Джона Фаулза... (с. 34)* — Фаулз Джон (1926–2005) — англійскі пісьменнік, прадстаўнік постмадэрнізму.

*Дастаеўскі (с. 35)* — Дастаеўскі Фёдар (1821–1881) — вялікі рускі пісьменнік беларускага паходжання (продкі па лініі бацькі валодалі часткай мястэчка Дастоева ў Пінскім павеце).

*Зігмунд Фрэйд (с. 35)* — Фрэйд Зігмунд (1856–1939) — нямецкі філосаф, псіхолаг, стваральнік псіхааналізу — методыкі лекавання псіхічных захворванняў.

*Нават у «Запісках з падполля», рэчы самай патаемнай... (с. 35)* — Аповесць Ф. Дастаеўскага.

*...віцебскага гімназіста Уладзіміра Стукаліча (с. 35)* — Стукаліч Уладзімір (1856–1918) — літаратуразнавец, гісторык, краязнавец; у час навучання ў гімназіі — карэспандэнт Ф. Дастаеўскага. Расстраляны ў 1918 г. за «контррэвалюцыйную дзейнасць».

*...сцягнуўшы ў лес пры беразе возера ўсіх бронзавых леніных, сталіных... (с. 35)* — Ленін Уладзімір (сапр. Ульянаў; 1870–1924) — савецкі палітычны і дзяржаўны дзеяч, адзін з арганізатараў Кастрычніцкай рэвалюцыі 1917 г. у Расіі; старшыня Савета Народных Камісараў СССР (1922–1924). Сталін Іосіф (сапр. Джугашвілі; 1879–1953) — савецкі партыйны і дзяржаўны дзеяч; Генеральны сакратар ЦК ВКП(б) (з красавіка 1922), старшыня Савета Народных Камісараў (з 1941), затым Савета Міністраў СССР (з 1946); арганізатар масавых рэпрэсій у СССР.

*У тым ліку і я ў паэме «Вера»: «Ёсць вера веры, гэта вера — Ленін» (с. 36)* — Напісана: 1970. Упершыню: Някляеў У. Паэма — вера // Маладосць. 1974. № 8.

*Я сябраваў з Аляксандрам Кішчанкам, бліскучым мастаком (с. 36)* — Кішчанка Аляксандр (1933–1997) — беларускі мастак украінскага паходжання; народны мастак Беларусі (1992).

*Неяк Аляксандр Кішчанка, у якога, апроч таленту мастака, быў яшчэ і талент апавядальніка, распавёў пра сваё жыццё-быццё ў Кіеве ў адным жытле з Сяргеем Параджанавым (с. 37)* — Фрагмент успамінаў пра М. Селяшчука. Напісана, паводле пазнакі напрыканцы: «2007, Вялікдзень». Упершыню: Някляеў У. Партрэт карабля // Наша Ніва. 2008. № 5. Параджанаў Сяргей (сапр. Параджанян Саркіс; 1924–1990) — армянскі кінарэжысёр і сцэнарыст грузінскага паходжання (нарадзіўся ў Тбілісі); народны артыст Арменіі і Украіны (1990).

*У Міхася Стральцова... (с. 37)* — Стральцоў Міхась (Міхаіл; 1937–1987) — беларускі паэт, празаік, эсэіст.

*З Піменам Панчанкам на пісьменніцкім з’ездзе стаялі на лесвічнай пляцоўцы і курылі (с. 38)* — Фрагмент эсэ «Ёсць праўда зерня: да 70-годдзя Пімена Панчанкі». Упершыню: Някляеў У. Ёсць праўда зерня // Літаратура і мастацтва. 1987. 21 жн. Друкуецца паводле машынапісу з архіва У. Някляева.

*...запытаўся пра той кондак у Міколы Федзюковіча... (с. 38)* — Федзюковіч Мікола (1943–1997) — беларускі паэт, перакладчык.

*Аляксей Дудараў, з якім мы тады вельмі блізка сябравалі... (с. 39)* — Дудараў Аляксей (нар. у 1950) — беларускі драматург.

*...седзячы з Жэняй Янішчыц... (с. 39)* — Янішчыц Яўгенія (1948–1988) — беларуская паэтка.

*«О, таямніца кніг, скажы...» (с. 39)* — Радкі з верша А. Куляшова «Хуткасць».

*Калі развітваліся, над труной вар’яцеў лютаўскі вецер... (с. 39)* — Фрагмент эсэ пра А. Куляшова. Упершыню: Някляеў У. Святая вада // Вобраз-83: літ.-крытыч. артыкулы / [склад. А. Яскевіч]. Мінск: Мастацкая літаратура, 1983.

*Паэзія — што? Паэзія — дзе? (с. 39)* — Фрагмент эсэ пра А. Куляшова «Святая вада».

*...таямніцу Багдановіча... (с. 40)* — Багдановіч Максім (1891–1917) — беларускі паэт, класік беларускай літаратуры.

*«Ў краіне светлай, дзе я ўміраю, у белым доме ля сіняй бухты...» (с. 40)* — Радкі з верша М. Багдановіча «Ў краіне светлай, дзе я ўміраю...»

*...таямніцу Бараташвілі ў перакладзе Пастарнака... (с. 40)* — Бараташвілі Мікалай (Міколаз; 1817–1945) — грузінскі паэт. Пастарнак Барыс (1890–1960) — расійскі паэт, празаік; лаўрэат Нобелеўскай прэміі па літаратуры (1958).

*«Этот синий-синий иней мглы над именем моим» (с. 40)* — Радкі з верша М. Бараташвілі «Синий цвет».

*Ганна Ахматава ў размове з Усеваладам Іванавым... (с. 40)* — Ахматава Ганна (1889–1966) — расійская паэтка. Іванаў Усевалад (1895–1963) — расійскі пісьменнік, драматург.

*За два месяцы да пленума ў газеце «Известия» былі надрукаваныя два ягоныя вершы («Я понял: все живо...» і «Мне по душе строптивый норов...»)... (с. 41)* — Известия. 1936. 1 янв.

*Ю. Тынянаў, як сведчыць К. Чукоўскі... (с. 41)* — Тынянаў Юрый (1894–1943) — расійскі пісьменнік, драматург, літаратуразнавец беларускага паходжання [нарадзіўся ў г. Рэжыцы Віцебскай губерні (цяпер — Рэзэкнэ, Латвія)]. Чукоўскі Карней (1882–1969) — расійскі паэт, публіцыст, крытык.

*Ён любіць рух, жэст, дэталь (с. 42)* — Фрагмент эсэ пра А. Вялюгіна «Галубіная пошта гадоў». Упершыню: Някляеў У. Спосабам Праметэя // Беларусь. 1983. № 12.

*Там, дзе ў лузе з любай*
*Мёд пілі пчаліны,*
*закусілі губы*
*да крыві каліны (с. 42)* — Радкі з верша А. Вялюгіна «Летнік». Дакладней: «Мёд пілі чмяліны».

*...у Паўла Васільева ёсць радкі... (с. 42)* — Васільеў Павел (1909–1937) — расійскі паэт. Быў тройчы арыштаваны. У 1937 г. расстраляны

па абвінавачанні ў прыналежнасці да тэрарыстычнай групоўкі, якая нібыта рыхтавала замах на жыццё І. Сталіна. У 1956 г. пасмяротна рэабілітаваны.

*«Так идет, что соловьи чумеют. Так идет, что облака стоят» (с. 42)* — Радкі з верша П. Васільева «Стихи в честь Натальи».

*Анатоль Вялюгін (с. 42)* — Вялюгін Анатоль (1923–1994) — беларускі паэт, кінадраматург.

*«Ядлоўцавы куст» Стральцова (с. 42)* — Кніга паэзіі М. Стральцова (Мінск: Мастацкая літаратура, 1973).

*Ю. Сцяпанаў у прадмове да 2-га выдання «Слоўніка рускай культуры»... (с. 42)* — Сцяпанаў Юрый (1930–2012) — расійскі вучоны, філолаг. Дакладней: «Константы: словарь русской культуры».

*...укладвае верш Лермантава «Хмаркі нябесныя...»... (с. 42)* — Лермантаў Юрый (1814–1841) — вялікі рускі паэт.

*У палітыка Пятра Краўчанкі... (с. 43)* — Краўчанка Пётр (нар. у 1950) — беларускі партыйны дзеяч і дыпламат; сакратар Мінскага гарадскога камітэта КПБ (1985–1990); міністр замежных спраў Рэспублікі Беларусь (1990–1994); надзвычайны і паўнамоцны пасол Рэспублікі Беларусь ў Японіі (1998–2002).

*...блізкі быў з Максімам Лужаніным, Барысам Сачанкам... (с. 43)* — Лужанін Максім (сапр. Каратай Аляксандр; 1909–2001) — беларускі пісьменнік. Сачанка Барыс (1936–1995) — беларускі пісьменнік.

*...палітыка Андрэя Клімава... (с. 43)* — Клімаў Андрэй (нар. у 1965) — беларускі бізнесовец і палітычны дзеяч; дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь XIII склікання, член спецыяльнай парламенцкай камісіі па прававой ацэнцы парушэнняў прэзідэнта Рэспублікі Беларусь А. Лукашэнкі Канстытуцыі і законаў Рэспублікі Беларусь, адзін з ініцыятараў імпічмента прэзідэнта Лукашэнкі (1996). Узначальваў АТ «Андрей Климов и К» (1991–1996). Пераслед з боку ўладаў пачаўся пасля таго, як А. Клімаў паставіў подпіс пад зваротам дэпутатаў у Канстытуцыйны суд з патрабаваннем імпічмента А. Лукашэнкі. З таго часу тройчы асуджаны.

*...якi глумлiва здзекаваўся з Васiля Быкава, Алеся Адамовiча... (с. 44)* — Адамовiч Алесь (Аляксандр; 1927–1994) — беларускi пiсьменнiк, крытык, лiтаратуразнавец.

*...аднойчы М. К. Мураўёву (не генералу Мураўёву... (с. 44)* — Мураўёў Мiкалай (1870–1936) — расiйскi адвакат; пасля Лютаўскай рэвалюцыi быў прызначаны старшынёй Надзвычайнай следчай камiсii (1917–1918). Мураўёў Мiхаiл (1796–1866) — расiйскi дзяржаўны дзеяч; падчас паўстання 1863 г. быў прызначаны галоўным начальнiкам Паўночна-Заходняга краю (вiленскi, гарадзенскi, ковенскi i менскi генерал-губернатар, камандуючы войскамi Вiленскай ваеннай акругi, галоўны начальнiк Вiцебскай i Магiлёўскай губернiй) з надзвычайнымi паўнамоцтвамi; вельмi жорстка падаўляючы ўзброены супрацiў (атрымаў мянушку «вешальнiк»), да таго ж праводзiў радыкальную русiфiкацыю Паўночна-Заходняга краю, якi лiчыў здаўна рускiм i праваслаўным.

*Сапраўдны лiтаратар i прыстойны чалавек Янка Брыль... (с. 45)* — Брыль Янка (Iван; 1917–2006) — народны пiсьменнiк Беларусi (1981).

*Палез у слоўнiк Ушакова... (с. 45)* — Маецца на ўвазе «Толковый словарь русского языка» пад рэдакцыяй рускага фiлолага Дзмiтрыя Ушакова (1873–1942).

*...сыны Адамчыка... (с. 45)* — Адамчык Вячаслаў (1933–2001) — беларускi пiсьменнiк, драматург, сцэнарыст. Яго сыны: Глобус Адам (сапр. Адамчык Уладзiмiр; нар. у 1958), беларускi пiсьменнiк, выдавец, i Адамчык Мiраслаў (нар. у 1965), беларускi паэт, празаiк, выдавец.

*Рыгор Бярозкiн (с. 46)* — Бярозкiн Рыгор (1918–1981) — беларускi крытык, лiтаратуразнавец. Паводле бiябiблiяграфiчнага слоўнiка «Беларускiя пiсьменнiкi», Бярозкiн быў арыштаваны ў красавiку 1941 г. у сувязi з абвiнавачаннем ва «ўяўнай антысавецкай агiтацыi» i прыналежнасцi да «антысавецкай арганiзацыi». Знаходзiўся пад следствам у Мiнску. 26 чэрвеня т. г., калi калону зняволеных, у якой быў Бярозкiн, пакiнуў канвой, вярнуўся дамоў, у Магiлёў, i папрасiў ваенкамат накiраваць яго на фронт. Удзельнiчаў у баях пад Сталiнградам, Кiевам, у Карпатах. Пасля вайны (10 жнiўня 1949) быў арыштаваны другi раз i па тым жа абвiнавачаннi, што i ў 1941 г. У 1950 г. асуджаны

на 10 гадоў лагераў. Зняволенне адбываў у Карагандзінскай і Омскай вобл. (Расія). Вызвалены ў 1955 г. Рэабілітаваны ў 1956 г.

*...на трыбуне Маўзалея (у якім разам з Леніным ужо ляжыць Сталін)... (с. 46)* — Маўзалей У. Леніна быў пабудаваны ў 1924–1930 гг. У 1953–1961 гг. там знаходзілася і цела І. Сталіна.

*Пётр Машэраў (с. 46)* — Машэраў Пётр (1918–1980) — беларускі партыйны і дзяржаўны дзеяч; 1-шы сакратар ЦК КПБ (1965–1980).

*ГУЛАГ (с. 46)* — «Главное управление исправительно-трудовых лагерей, трудовых поселений и мест заключения» ў 1934–1960 гг. Сістэма была створана па асабістым загадзе І. Сталіна.

*Валянцін Тарас (с. 47)* — Тарас Валянцін (1930–2009) — беларускі паэт, перакладчык.

*Дубоўка, Грахоўскі, Шушкевіч (с. 48)* — Дубоўка Уладзімір (1890–1976) — беларускі паэт, празаік; сябра літаб'яднанняў «Маладняк», «Узвышша»; у 1930 г. арыштаваны; у 1931 г. асуджаны на 5 гадоў высылкі ў Яранск, у 1937 г. — на 10 год пазбаўлення волі; пакаранне адбываў у Кіраўскай вобл., Чувашыі, на Далёкім Усходзе, у Грузіі, Краснаярскім краі; рэабілітавны ў 1957 г.; з 1958 г. жыў у Маскве (Расія). Грахоўскі Сяргей (1913–2002) — беларускі паэт, празаік, перакладчык; у 1936 г. арыштаваны і асуджаны як «член контррэвалюцыйнай нацыянал-фашысцкай арганізацыі» і за «антысавецкую дзейнасць» да 10 гадоў пазбаўлення волі; вызвалены ў 1945 г.; у 1947 г. судзімасць была знята, але ў 1949 г. Грахоўскі быў паўторна арыштаваны і асуджаны на пасяленне ў Новасібірскай вобл. (Расія); у 1955 г. рэабілітаваны. Шушкевіч Станіслаў Пятровіч (1908–1991) — беларускі паэт; быў сябрам літаб'яднанняў «Маладняк» і БелАПП; у 1937 г. арыштаваны і асуджаны за «прыналежнасць да контррэвалюцыйнай нацдэмаўскай арганізацыі» да 8 гадоў пазбаўлення волі; у 1937–1946 гг. знаходзіўся ў лагеры і ссылцы ў Кемераўскай вобл. (Расія); у 1949 г. паўторна арыштаваны і асуджаны да высылкі ў Краснаярскі край (Расія); у 1954 г. рэабілітаваны.

*Уладзімір Хадыка (с. 48)* — Хадыка Уладзімір (1905–1940) — беларускі паэт, перакладчык; быў сябрам літаб'яднання «Маладняк»; у 1936 г. арыштаваны і ў 1937 г. асуджаны на 10 гадоў пазбаўлення

волі; загінуў на будоўлі чыгункі каля Улан-Удэ (Расія); пасмяротна рэабілітаваны (1954).

*Пры даліне за дальняю рысай*
*І лясоў, і балот вершаваных*
*Месяц топчацца біскупам лысым,*
*І палошчуцца рызы ў туманах (с. 48)* — Страфа з верша У. Хадыкі «Пры дарозе, дзе жоўтыя травы...»

*...Юлі Таўбін, у якога «месяц смяецца, як тлусты абат»... (с. 48)* — Таўбін Юлій (Юдаль; 1911–1937) — беларускі паэт, перакладчык; сябра літаб'яднання БелАПП. У 1933 г. арыштаваны і ў 1933 г. прыгавораны да 2 гадоў ссылкі. Тэрмін адбываў у Цюмені (Расія). У 1936 г. паўторна арыштаваны. У 1937 г. расстраляны. Пасмяротна рэабілітаваны (1956). Тут цытуецца радок з верша Таўбіна «Сірано дэ Бержэрак».

*...у Маякоўскага: «Я буду писать и про то, и про это, но нынче не время любовных ляс. Я всю свою звонкую силу поэта тебе отдаю, атакующий класс»? (с. 49)* — Маякоўскі Уладзімір (1893–1930) — расійскі паэт. Тут цытуюцца радкі з паэмы Маякоўскага «Владимир Ильич Ленин».

*...да Кляшторнага, да Жылкі, да Вольнага, да Багуна, Дарожнага... (с. 50)* — Кляшторны Тодар (1903–1937) — беларускі паэт, перакладчык; быў сябрам літаб'яднанняў «Маладняк», «Узвышша», БелАПП; у 1936 г. арыштаваны і ў 1937 г. расстраляны; пасмяротна рэабілітаваны (1957). Жылка Уладзімір (1900–1933) — беларускі паэт, перакладчык, крытык; быў сябрам літаб'яднанняў «Маладняк», «Узвышша»; у 1930 г. арыштаваны па справе «Саюза вызвалення Беларусі» і асуджаны на 5 гадоў ссылкі, якую адбываў ва Уржуме Кіраўскай вобл. (Расія); памёр ад туберкулёзу; пасмяротна рэабілітаваны (1960). Вольны Анатоль (сапр. Ажгірэй; 1902–1937) — беларускі паэт, празаік, сцэнарыст; быў сябрам літаб'яднанняў «Маладняк», «Полымя»; у 1936 г. арыштаваны, у 1937 г. асуджаны як «член контррэвалюцыйнай арганізацыі» і расстраляны; пасмяротна рэабілітаваны (1957). Багун Міхась (сапр. Блошкін Міхаіл; 1908–1938) — беларускі паэт, празаік, перакладчык; у 1936 г. арыштаваны і прыгавораны да 8 гадоў пазбаўлення волі; памёр у перасыльным лагерным пункце; пасмяротна рэабілітаваны (1954). Дарожны Сяргей (сапр. Серада; 1909–1943) — беларускі паэт; быў сябрам літаб'яднанняў «Маладняк», «Узвышша»; у 1936 г. арыштаваны і асуджаны на 8 гадоў пазбаўлення волі, загінуў на будаўніцтве Камсамольска-на-Амуры (Расія); пасмяротна рэабілітаваны (1957).

*...валюнтарыста Хрушчова... (с. 50)* — Хрушчоў Мікіта (1894–1971) — савецкі партыйны і дзяржаўны дзеяч; першы сакратар ЦК КПСС (1953–1964), старшыня Савета Міністраў СССР (1958–1964). Ініцыятар развянчання культу асобы І. Сталіна.

*...маршала Жукава... (с. 50)* — Жукаў Георгій (1896–1974) — савецкі военачальнік; у часы Вялікай Айчыннай вайны камандуючы войскамі шэрагу франтоў; намеснік Вярхоўнага Галоўнакамандуючага; маршал Савецкага Саюза (1943); Герой Савецкага Саюза (1939, 1944, 1945, 1956).

*Ракасоўскі (с. 50)* — Ракасоўскі Канстанцін (1896–1968) — савецкі военачальнік польскага паходжання [нарадзіўся ў Варшаве, аднак пасля ўзнагароджання другой зоркай Героя Савецкага Саюза (1945) месцам нараджэння ўказваў Вялікія Лукі (Расія)]; маршал Савецкага Саюза (1944), маршал Польшчы (1949).

*Заір Азгур (с. 51)* — Азгур Заір (1908–1995) — беларускі скульптар; народны мастак СССР (1973).

*З Аляксандрам Лукашэнкам (дырэктарам саўгаса) і Зянонам Пазняком (навукоўцам)... (с. 52)* — У 1987–1990 гг. А. Лукашэнка — дырэктар саўгаса «Гарадзец» Шклоўскага раёна Магілёўскай вобл. Пазняк Зянон (нар. у 1944) — беларускі вучоны, палітычны і грамадскі дзеяч, паэт, публіцыст; з 1976 г. — навуковы супрацоўнік аддзела археалогіі Інстытута гісторыі АН БССР; у 1988 г. адкрыў і археалагічна даследаваў масавыя пахаванні людзей у Курапатах; заснавальнік і старшыня БНФ «Адраджэньне» (1989–1999); дэпутат Вярхоўнага Савета Беларусі XII склікання (1990–1996); кіраўнік Кансерватыўна-Хрысціянскай партыі БНФ (з 1999); у 1996 г., каб пазбегнуць магчымага фізічнага ліквідавання, вымушаны эміграваць (пэўны час жыў ва Украіне, Чэхіі, Польшчы, Вялікабрытаніі); атрымаў палітычны прытулак у ЗША; жыве ў Варшаве (Польша).

*...на праграме пра наступствы Чарнобыля (с. 52)* — 26 красавіка 1986 г. адбылося разбурэнне чацвёртага энергаблока Чарнобыльскай атамнай станцыі (Украіна). Аварыя з'яўляецца буйнейшай за ўсю гісторыю атамнай энергетыкі. Радыеактыўнымі матэрыяламі была забруджана значная тэрыторыя Беларусі, а таксама Расіі і Украіны.

*...старшыня Дзяржтэлерадыё Генадзь Бураўкін... (с. 52)* — Бураўкін Генадзь (нар. у 1936) — беларускі паэт, публіцыст, дзяржаўны і грамадскі дзеяч; у 1978–1990 гг. узначальваў Дзяржтэлерадыё БССР.

*...высокапастаўлены чыноўнік з МАГАТЭ... (с. 53)* —МАГАТЭ — міжнародная арганізацыя для развіцця супрацоўніцтва ў галіне мірнага выкарыстоўвання атамнай энергіі.

*...у акадэміка Веліхава... (с. 54)* — Веліхаў Яўген (нар. у 1935) — расійскі вучоны; доктар фізіка-матэматычных навук (1966).

*...разам з акадэмікам Лягасавым... (с. 55)* — Лягасаў Валерый (1936–1988) — расійскі вучоны; у 1983–1988 гг. — першы намеснік дырэктара Інстытута атамнай энергіі імя І. В. Курчатава.

*Так распачаў я некалі (пасля выпадкова знішчаны і нанава так пакуль і не дапісаны) раман «Крэматорый» (с. 56)* — Раман «Крэматорый» быў распачаты Някляевым у Хельсінкі. Выпадкова ж знішчаны быў таму, што Някляеў націснуў не тую кнопку на клавіятуры. У яго быў стары, пакінуты яму В. Быкавым, камп'ютар, на якім, у адрозненне ад сучасных камп'ютараў, аднавіць знішчанае было немагчыма.

*...граф Леў Талстой... (с. 58)* — Талстой Леў (1828–1910) — вялікі рускі пісьменнік.

*...памешчык Афанасій Фет... (с. 58)* — Фет Афанасій (сапр. Шэншын; 1820–1892) — рускі паэт.

*...хто быў набліжаны да Кебіча, прэм'ер-міністра (с. 58)* — Кебіч Вячаслаў (нар. у 1936) — беларускі палітычны і дзяржаўны дзеяч; старшыня Савета Міністраў БССР (1990–1991); прэм'ер-міністр Беларусі (1991–1994). Пасля паразы на прэзідэнцкіх выбарах 1994 г. узначаліў гандлёва-фінансавы саюз. Член Палаты прадстаўнікоў Рэспублікі Беларусь (1996–2004).

*...іспанец Раміра дэ Маэсту... (с. 59)* — Маэсту Раміра дэ (1875–1936) — іспанскі пісьменнік і філосаф.

*Сярод пачынальнікаў цэнтральнаеўрапейскіх нацый было многа літаратараў (с. 59)* — Фрагмент эсэ «Паэт Вацлаў Ластоўскі». Упершыню: Някляеў У. Вацлаў Ластоўскі // Наша Ніва. 2005. № 45.

*Вацлаў Ластоўскі (с. 59)* — Ластоўскі Вацлаў (1883–1938) — беларускі грамадскі і палітычны дзеяч, гісторык, публіцыст, пісьменнік, літаратуразнавец, этнограф. У 1930 г. пазбаўлены звання акадэміка АН Беларусі (1928) і высланы на 5 гадоў у Саратаў (Расія). У 1937 г. паўторна арыштаваны. У 1938 г. прыгавораны да расстрэлу як «агент

польскай разведкі і ўдзельнік нацыянал-фашысцкай арганізацыі». Пасмяротна рэабілітаваны (1958, 1988).

*На грудзе, акружаным глыбокаю вадой, я горад збудаваў (с. 59)* — Радкі з верша ў прозе В. Ластоўскага «У час аблогі».

*Дзынеў патужна цяжкі спіж... (с. 60)* — Спіж (польск. *spiż*) — бронза.

*«Слязьмі душы, уздрыгамі душы — пішы!..» (с. 60)* — Не зусім дакладная цытата з верша В. Ластоўскага «Пішы...»:

«Не словамі,
не чорнаю слязой
чарнільнаю,
а нервамі, крывёй,
уздрыгамі душы
пішы!
. . . . . . . . . . . . . . . . .
...і чарамі мінуўшчыны
свой твор вяршы,
слязьмі душы
пішы!»

*У Платона Галавача... (с. 60)* — Галавач Платон (1903–1937) — беларускі пісьменнік; адзін з лідараў літаб'яднанняў «Маладняк» і БелАПП. Арыштаваны ў 1937 г. і асуджаны як «арганізатар тэрарыстычнай групоўкі» і «за правядзенне нямецка-фашысцкай дзейнасці». Расстраляны.

*...а не з гогалеўскага шыняля (с. 60)* — Маецца на ўвазе выраз Ф. Дастаеўскага: «Все мы вышли из "Шинели" Гоголя» («Шинель» — аповесць М. Гогаля).

*Леанід Дранько-Майсюк (с. 60)* — Дранько-Майсюк Леанід (нар. у 1957) — беларускі паэт, празаік; уваходзіў у склад рэдакцыі часопіса «Крыніца», які рэдагаваў Някляеў.

*Ваця Браніславец (с. 60)* — Герой рамана «Сястра» К. Чорнага.

*Маня Ірмалевіч (с. 60)* — Гераіня рамана «Сястра» К. Чорнага.

*...герояў рамана Кузьмы Чорнага «Сястра» (с. 60)* — Чорны Кузьма (сапр. Раманоўскі Мікалай; 1900–1944) — беларускі пісьменнік, класік беларускай літаратуры.

*...дзе была цырульня былога камісара Абрама Ватасона... (с. 60–61)* — Герой рамана «Сястра» К. Чорнага.

*...дзе гаспадарыў Радзівон Цівунчык... (с. 61)* — Герой рамана «Сястра» К. Чорнага.

*...мне назвалі імя скульптара (У. Жбанаў) і архітэктара (Б. Юрцін)... (с. 61)* — Жбанаў Уладзімір (1954–2012) — беларускі скульптар. Юрцін Барыс (нар. у 1932) — беларускі архітэктар.

*...пачаў сваю кнігу пра праблемы самавызначэння беларусаў Фабіян Шантыр (с. 62)* — Шантыр Фабіян (1887–1920) — беларускі публіцыст, празаік, паэт, перакладчык, грамадскі і дзяржаўны дзеяч. У 1920 г. быў арыштаваны і расстраляны.

*...ад Каліноўскага? (с. 62)* — Каліноўскі Вінцэнт Канстанцін (1838–1864) — беларускі палітычны дзеяч, публіцыст, паэт. Адзін з кіраўнікоў паўстання 1863–1864 гг. Паводле пастановы царскага ваенна-палявога суда быў пакараны смерцю на шыбеніцы.

*...30 кастрычніка 1988 года, на Дзяды... (с. 62)* — 30 кастрычніка 1988 г. адбылася масавая дэманстрацыя памяці ахвяр сталінізму (Дзяды-88), разагнаная ўладамі з ужываннем міліцэйскіх дубінак і слёзатачывых газаў. Дзяды — свята беларускага народнага календара, звязанае з памінаннем продкаў. Дзяды адзначаюцца некалькі разоў на год: Масленічныя, Радаўніцкія, Траецкія (Духаўскія або Стаўроўскія), Пятроўскія, Змітраўскія. Восеньскія Дзяды (Змітраўскія, Вялікія, Асяніны, Тоўстая вячэра, Хаўтуры) — найгалоўныя, адзначаюцца ў лістападзе.

*Мы ведалі, пра што маўчалі з імі,*
*Жывыя з мёртвымі і мёртвыя з жывымі.*
*І ўпершыню, маўклівы сцяўшы рот,*
*З натоўпу глянуў люд. Амаль народ (с. 63)* — Страфа з верша Някляева «Маўклівы мітынг». Упершыню: Літаратура і мастацтва. 1988. 11 лістап.; Крыніца. 1989. № 1. С. 10.

*...апроч маёй кнігі «Выбранае»... (с. 64)* — Някляеў У. Выбранае: для ст. шк. узросту / прадм. Л. М. Турбіной; уклад. Л. М. Галубовіча. Мінск: Вышэйшая школа, 1998.

*За два гады тузаніны з Лукашэнкам і Замяталіным... (с. 65)* — Замяталін Уладзімір (нар. у 1948) — у 1973–1991 гг. — палітработнік Савецкай Арміі (Германія, Далёкі Усход, Беларусь); у 1992–1994 гг. — намеснік

начальніка ўпраўлення, начальнік прэс-цэнтра Міністэрства абароны Рэспублікі Беларусь; у 1994 г. — прэс-сакратар старшыні Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь В. Кебіча; з 1995 г. — у адміністрацыі беларускага прэзідэнта: начальнік Галоўнага ўпраўлення грамадска-палітычнай інфармацыі, намеснік кіраўніка адміністрацыі; у 1997 г. — старшыня Дзяржкамітэта па друку, намеснік старшыні Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь (курыраваў пытанні культуры, адукацыі і рэлігіі); у 2000–2001 гг. — першы намеснік кіраўніка адміністрацыі прэзідэнта; у 2006–2010 гг. — дырэктар нацыянальнай кінастудыі «Беларусьфільм».

*Карлас Шэрман (с. 65)* — Шэрман Карлас (1934–2005) — беларускі паэт, эсэіст, перакладчык уругвайскага паходжання (нарадзіўся ў Мантэвідэа); 1-шы віцэ-прэзідэнт Беларускага ПЭН-цэнтра (1990–2001); пісаў на іспанскай і беларускай мовах.

*Рэдактар «Gazety Wyborczaj» Адам Міхнік страшна раздражнёны першымі публікацыямі пра маё з’яўленне ў Варшаве ў газеце польскіх левых «Trybuna»... (с. 65)* — Газета «Народная воля» пісала ў 1999 г.: «Политические страсти вокруг имени Владимира Некляева начинают разгораться и в Польше. В номере за 26 июля газета “Trybuna”, выражающая политику левых сил, обвинила стоящую на правом политическом фланге “Gazeta Wyborcza” и ее главного редактора Адама Михника в информационной блокаде в отношении Некляева. Эту якобы блокаду со стороны правых “Trybuna” связывает с тем, что на пресс-конференции в Сейме Некляева представлял депутат Тадеуш Ивиньский, известный левый политический деятель [...]. “Gazeta Wyborcza”, трижды представлявшая белорусского поэта, не заставила себя долго ждать и уже на следующий день назвала эти обвинения “трижды враньем”. Она инкриминировала левым использование имени Некляева в целях межпартийной борьбы и прозрачно посоветовала поэту держаться в стороне от, как выразилась газета, левого “политического гетто”.

Владимир Некляев отказался комментировать эту полемику, заявив, что он никем не был политически заангажирован в Беларуси, а тем более — это не допустимо для него в Польше. “Моя партия — Беларусь”, — сказал Владимир Некляев. Тем не менее объективно он оказался в точке пересечения интересов двух главных политических сил»*.

* Поберий В. Некляев не делится, хотя его пытаются поделить как минимум на два // Народная воля. 1999. 30 ліп.

*...наўпрост казаў мне Сяргей Станкевіч, які ўцёк у Варшаву з Масквы (с. 66)* — Станкевіч Сяргей (нар. у 1954) — расійскі палітык; у 1993–1995 гг. — дэпутат Дзяржаўнай Думы Расійскай Федэрацыі. У 1995 г. патрапіў у апалу прэзідэнта Б. Ельцына. Прычынай гэтага магла быць актыўнасць С. Станкевіча па вылучэнні мэра С.-Пецярбурга А. Сабчака ў прэзідэнты. Генеральная пракуратура зрабіла ў Дзярж-думу запыт, каб прыцягнуць Станкевіча да крымінальнай адказнасці. У тым жа годзе Станкевіч разам з сям'ёй эміграваў у ЗША, затым у Польшчу, дзе ў 1999 г. атрымаў статус палітэмігранта. Вярнуўся ў Расію, калі абвінавачанні супраць яго былі знятыя.

*Віктар Чарнамырдзін (с. 66)* — Чарнамырдзін Віктар (1938–2010) — расійскі дзяржаўны дзеяч, старшыня ўрада Расійскай Федэрацыі (1993–1998); пасол Расіі ва Украіне (2001–2009); дарадца прэзідэнта Расійскай Федэрацыі (2009–2010).

*На прэс-канферэнцыі ў Варшаве... (с. 66)* — Прэс-канферэнцыя Някляева, арганізаваная старшынёй камісіі Еўрасаюза на рэферэндуме 1996 г. у Беларусі Тадэвушам Івіньскім, адбылася 20 ліпеня 1999 г. у польскім Сейме. Падчас яе Някляеў зрабіў наступную заяву: «20 июля 1999 года в соответствии с Конституцией Республики Беларусь заканчивается срок полномочий президента Беларуси А. Лукашенко. Внесенные в Конституцию по результатам непризнанного международным демократическим сообществом антибелорусского референдума 1996 года изменения, продляющие президентские полномочия на два года, не имели и не имеют никаких причин, которые можно было бы объяснить национальными интересами страны. Из этого следует, что изменения в Конституцию внесены волей А. Лукашенко, инициатора референдума, исключительно в личных, корыстных целях. [...]

...демократическому сообществу, в том числе России и прежде всего демократической России, следовало бы без колебаний не только высказать, но и действительно обозначить неприятие диктаторских тенденций в Беларуси, оказать реальную поддержку ее демократическим силам. Подписывать какие бы то ни было политические соглашения с нелегитимной властью цивилизованным странам просто не к лицу.

А. Лукашенко использовал демократию, традиции которой были возобновлены в Беларуси движением национального Возрождения, для установления режима личной власти. Режим личной власти он использует для установления диктатуры. С 21 июля 1999 года есть

все правовые основания для того, чтобы утверждать, что в Беларуси существует диктатура и властвует диктатор — нелегитимный президент. [...]

Пять лет назад А. Лукашенко был избран президентом Республики Беларусь действительно демократическим путем. Но народ голосовал за демократию, а не за диктатуру. Народ отказывался от тоталитаризма, отвергал несвободу, избирал президента независимой страны. Сегодня эта страна на грани потери суверенитета, которым президент постыдно торгует. Независимость он готов принести в жертву власти и расправиться со всеми, кто в этом ему противостоит. Именно поэтому я и вынужден был временно покинуть Беларусь.

“Пусть найдет в себе мужество вернуться, у него в Беларуси нет проблем”, — передали мне слова президента. Это не так, в Беларуси есть проблема общая для всех. Эта проблема — диктатура. Это Александр Лукашенко должен найти в себе мужество признать реалии, снять с себя президентские полномочия, передать парламенту власть, которая ему больше не принадлежит, исполнить закон, Конституцию, на которой присягал он верой и правдой служить Беларуси.

У меня нет запасной Родины, я был и остаюсь гражданином своей страны, во всем готовым разделить ее судьбу, кроме несвободы»[*].

*Доўга рыхтавалася сустрэча спікера (рэальна ўжо былога, але фармальна яшчэ дзейнага) беларускага парламента Шарэцкага з прэзідэнтам Польшчы Квасьнеўскім (с. 67)* — Шарэцкі Сямён (нар. у 1936) — беларускі палітычны і дзяржаўны дзеяч; старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь (1996–1999); з ліпеня 1999 г. у эміграцыі — спачатку ў Літве, з 2001 г. — у ЗША. Квасьнеўскі Аляксандр (нар. у 1954) — польскі палітычны і дзяржаўны дзеяч; прэзідэнт Польшчы (1995–2005).

*Калі нехта й мог выйграць у Лукашэнкі першыя прэзідэнцкія выбары — дык гэта Генадзь Карпенка (с. 67)* — Карпенка Генадзь (1949–1999) — беларускі палітычны і дзяржаўны дзеяч. Памёр раптоўна ад кровазліцця ў мозг, што выклікала падазрэнні ў гвалтоўнай смерці.

*Шушкевіч (с. 67)* — Шушкевіч Станіслаў (нар. у 1934) — беларускі фізік, палітычны і дзяржаўны дзеяч; старшыня Вярхоўнага Савета

---

[*] Некляев В. Остаюсь гражданином Белоруссии // Литературные вести. 1999. № 38. Часткова надр.: Мы і на волі нявольныя / інт. В. Гарадзейчык з У. Някляевым // Ніва (Беласток, Польшча). 1999. 15 жн.

Беларусі (1991–1994); старшыня партыі «Беларуская сацыял-дэмакратычная Грамада» (з 1998). Удзельнік сустрэчы ў Белавежскай пушчы з прэзідэнтамі Расіі Б. Ельцыным і Украіны Л. Краўчуком, вынікам якой стала скасаванне СССР і стварэнне СНД (снежань 1991).

*Сярод іх толькі Дзмітрый Булахаў быў з каманды Лукашэнкі... (с. 68)* — Булахаў Дзмітрый (1959–2006) — беларускі дзяржаўны дзеяч; дэпутат Вярхоўнага Савета Беларусі; першы намеснік старшыні Выканаўчага камітэта — выканаўчы сакратар СНД; памочнік прэзідэнта Рэспублікі Беларусь — паўнамоцны прадстаўнік прэзідэнта ў Нацыянальным сходзе Рэспублікі Беларусь (2006).

*...якіх актыўна агітаваў дэпутат Алег Трусаў... (с. 68)* — Трусаў Алег (нар. у 1954) — беларускі археолаг і грамадскі дзеяч; адзін з заснавальнікаў БНФ, БСДГ; дэпутат Вярхоўнага Савета Беларусі XII склікання (1990–1996); з 1991 г. — намеснік, у 1992–1995 гг. — старшыня Цэнтральнай рады БСДГ; з 1997 г. — першы намеснік, з 1999 г. — старшыня Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны.

*Карпенка быў вучоным, дэпутатам, дырэктарам, мэрам... (с. 68)* — Г. Карпенка быў дырэктарам завода парашковай металургіі ў Маладзечне (1987–1990); дэпутатам Вярхоўнага Савета БССР XII скліканя, а затым і старшынёй камісіі па навуцы і навукова-тэхнічным прагрэсе (1990–1995); старшынёй Маладзечненскага гарвыканкама (1991–1994); намеснікам старшыні Вярхоўнага Савета Беларусі XIII скліканя (1995–1996). Доктар тэхнічных навук; член-карэспандэнт АН Беларусі; заслужаны дзеяч навукі Беларусі; лаўрэат Дзяржаўнай прэміі ў галіне навукі і тэхнікі.

*...ягоны амбіцыйны паплечнік Віктар Ганчар... (с. 68)* — Ганчар Віктар (1957–1999?) — беларускі палітычны і дзяржаўны дзеяч; дэпутат Вярхоўнага Савета Беларусі XII і XIII скліканя. Падчас прэзідэнцкай кампаніі 1994 г. падтрымаў А. Лукашэнку, пасля перамогі якога на выбарах быў прызначаны віцэ-прэм’ерам, аднак у тым жа 1994 г. пазбаўлены сваёй пасады, пасля чаго перайшоў у адкрытую апазіцыю да Лукашэнкі. У 1996 г. прызначаны старшынёй Цэнтральнай выбарчай камісіі. Адкрыта выступіў супраць Лукашэнкі падчас правядзення рэферэндума 1996 г. У лістападзе таго ж года адхілены ад сваёй пасады. Падчас прэзідэнцкіх выбараў 1999 г. узначаліў альтэрнатыўны Цэнтрвыбаркам, але ў верасні т. г. бясследна знік.

*Гадзіну таму Іван Ціцянкоў (прызначаны кіраўніком упраўлення спраў прэзідэнцкай адміністрацыі)... (с. 69)* — Ціцянкоў Іван (нар. у 1953) — беларускі дзяржаўны дзеяч; дэпутат Вярхоўнага Савета Беларусі (1990–1995). У 1994 г. быў актывістам прэзідэнцкай выбарчай кампаніі А. Лукашэнкі; пасля яго перамогі прызначаны кіраўніком спраў прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. Пасля рэферэндума 1995 г. уласнаручна парваў дзяржаўны, бел-чырвона-белы сцяг, які быў зняты з даху рэзідэнцыі прэзідэнта. У 1999 г. добраахвотна сышоў у адстаўку. Жыве ў Маскве (Расія).

*...Максіма Гарэцкага, ні ў раманах Івана Мележа, ні ў п'есах Кандрата Крапівы і Андрэя Макаёнка... (с. 72)* — Гарэцкі Максім (1893–1938) — беларускі пісьменнік, класік беларускай літаратуры. У 1930 г. арыштаваны па абвінавачанні ў прыналежнасці да «Саюза вызвалення Беларусі»; у 1931 г. высланы на 5 гадоў у Вятку (Расія); у 1937 г. паўторна арыштаваны і расстраляны; у 1957 г. пасмяротна рэабілітаваны. Мележ Іван (1921–1976) — народны пісьменнік Беларусі (1972). Крапіва Кандрат (сапр. Атраховіч Кандрат; 1896–1991) — народны пісьменнік Беларусі (1956). Макаёнак Андрэй (1920–1982) — народны пісьменнік Беларусі (1977).

*«Ходзім мы пад месяцам высокім, а яшчэ — пад ГПУ» (с. 72)* — Радкі з верша Т. Кляшторнага «Калі асядае муць».

*...Быкаў ужо ў Нямеччыне... (с. 74)* — Пасля вяртання з Фінляндыі, дзе В. Быкаў з жонкай Ірынай Міхайлаўнай пражыў з чэрвеня 1998 г. да снежня 1999 г., сусветна вядомы пісьменнік атрымаў запрашэнне на часовае жыхарства ў Германіі, куды пераехаў напрыканцы студзеня 2000 г.

*...на развітанне з Зянонам Пазняком і ягонай жонкай Галінай вячэраем у Чэслава Сэнюха (с. 74)* — Пазняк Галіна (у дзяв. Вашчанка), жыве ў Варшаве (Польшча). Сэнюх Чэслаў (нар. у 1930) — польскі перакладчык, паэт і публіцыст беларускага паходжання; пераклаў паэму Някляева «Паланэз».

*А дома ж ледзьве не кулаком гразіў: я табе дам!.. Любімы пісьменнік прэзідэнта!.. (с. 74)* — Маецца на ўвазе інтэрв'ю В. Быкава, якое ён даў напярэдадні ад'езду ў Фінляндыю і падчас якога сказаў, што ў тым складаным становішчы, у якім апынуўся Саюз пісьменнікаў, яго старшыня, Уладзімір Някляеў, «ничего и не намерен менять. По крайней мере, это не следует из его заявлений. Его целиком устраивает данная

ситуация. [...] Он встречается с полковником Заметалиным, с другими идеологами режима. Он — любимый писатель президента. И этим все сказано...»* Гэтае быкаўскае вызначэнне вельмі закранула Някляева — неаднойчы пасля ён прыгадваў яго**.

*Дабіваюся ад Стася (унука)... (с. 75)* — Татун Станіслаў (нар. у 1997) — унук Някляева; з 2001 г. жыве з бацькамі ў Хельсінкі.

*...серыйны томік Агаты Крысці... (с. 76)* — Крысці Агата (сапр. Малоўэн Агата Мэры Кларыса; 1890–1976) — англійская пісьменніца, сусветна вядомы аўтар дэтэктыўнай прозы.

*...раман «Майстар і Маргарыта» Міхаіла Булгакава... (с. 76)* — Булгакаў Міхаіл (1891–1940) — расійскі пісьменнік украінскага паходжання (нарадзіўся ў Кіеве).

*Дапісаў паэму «Паланэз»... (с. 78)* — Напісана: верасень 1999 — люты 2001, Варшава (Польшча), Хельсінкі (Фінляндыя). Упершыню: Літаратура і мастацтва. 2001. 1 чэрв. (надрукаваны ўрывак з паэмы); Дзеяслоў. 2002. № 1. С. 24–52.

*Так было пасля «Індыі», «Прошчы», «Саракавінаў», а ўпершыню — пасля «Маланкі»... (с. 78)* — Паэмы Някляева.

*...Паўла Антакольскага... (с. 78)* — Антакольскі Павел (1896–1978) — расійскі паэт, перакладчык.

*...Сямёна Кірсанава (с. 78)* — Кірсанаў Сямён (сапр. Кортчык; 1906–1972) — расійскі паэт.

*Блок (с. 78)* — Аляксандр Блок (1880–1921) — расійскі паэт.

*Ясенін (с. 78)* — Ясенін Сяргей (1895–1925) — расійскі паэт, класік рускай літаратуры.

*...з музыкай Хрэннікава... (с. 78)* — Хрэннікаў Ціхан (1913–2007) — расійскі кампазітар; народны артыст СССР (1963).

---

* Шапран С. Василь Быков: Заключенного концлагеря не покупают — его истребляют / инт. с В. Быковым // Имя. 1998. 4 июня.

** Гл.: Былое и думы Владимира Некляева / инт. С. Шапрана с В. Некляевым // «Комсомольская правда» в Белоруссии. 2003. 26 сент.; Някляеў У. Стрэмкі // Наш Быкаў: кніга ўспамінаў / уклад. Г. Бураўкін. Мінск: ГА БТ «Кніга». С. 439, 456–457; Шапран С. Быкаўскі камень / гутарка з У. Някляевым // Дзеяслоў. 2006. № 1 (20). С. 208.

*«Как соловей о розе поет в ночном саду, я говорил вам в прозе, на песню перейду...» (с. 78–79)* — Радкі з верша П. Антакольскага «Как соловей о розе...»

*Мать моя — колдунья или шлюха [...] (с. 79)* — Радкі з верша П. Антакольскага «Санкюлот».

*Я обезглавлен на Страстной неделе [...] (с. 80)* — Радкі з верша П. Антакольскага «Я обезглавлен на Страстной неделе...»

*...да свайго апошняга трагічнага выхаду ў Баранцава мора саракааднагадовы камандзір атамнай падводнай лодкі «Курск»... (с. 81)* — Затанула ў Баранцавым моры ў жніўні 2000 г. у выніку катастрофы. Усе 118 членаў экіпажа загінулі.

*Пачаўся рамазан (с. 82)* — Рамазан (ці рамадан) — дзявяты месяц мусульманскага (месяцовага) календара.

*Пачаўся восьмы дзясятак жыцця Уладзіміра Сямёнавіча Караткевіча (с. 83)* — Караткевіч Уладзімір (1930–1984) — беларускі паэт, празаік, драматург, класік беларускай літаратуры.

*Пачаўся чарговы прэзідэнт Злучаных Штатаў Амерыкі Буш-малодшы (с. 83)* — Буш Джордж Уокер (нар. у 1946) — амерыканскі палітык-рэспубліканец; 43-ці прэзідэнт ЗША (2001–2009); сын 41-га прэзідэнта ЗША Джорджа Г. У. Буша, вядомы таксама як Джордж Буш-малодшы.

*У сувязі з трыма гэтымі пачаткамі скончыліся:*
*1. Сакратар Рады бяспекі Рэспублікі Беларусь.*
*2. Старшыня Камітэта дзяржбяспекі Рэспублікі Беларусь.*
*3. Міністр культуры Рэспублікі Беларусь (с. 83)* — Ад сваіх пасад былі вызвалены Дзяржаўны сакратар Рады бяспекі Віктар Шэйман (1997–2000), старшыня КДБ Уладзімір Мацкевіч (1995–2000), міністр культуры Аляксандр Сасноўскі (1996–2000).

*...арганізаваная стараннямі Міхаіла Марыніча, пасла Беларусі ў Латвіі, а заадно і ў Фінляндыі... (с. 83)* — Марыніч Міхаіл (нар. у 1940) — беларускі палітычны і дзяржаўны дзеяч; у 1990–1991 гг. — мэр Мінска; у 1990–1994 гг. — дэпутат Вярхоўнага Савета Беларусі; у 1999–2001 гг. — пасол Беларусі ў Латвіі, Эстоніі і Фінляндыі. У 2001 г., падаўшы ў ад-

стаўку з пасады пасла, удзельнічаў у прэзідэнцкай кампаніі, але, не набраўшы неабходнай колькасці галасоў выбаршчыкаў, не быў зарэгістраваны кандыдатам у прэзідэнты. Пасля выбараў узначаліў грамадскую арганізацыю «Белорусская ассоциация “Деловая инициатива”». У 2004 г. арыштаваны і прыгавораны да 5-ці гадоў пазбаўлення волі. Датэрмінова вызвалены ў 2006 г.

*Карл Людвіг Бёрнэ (с. 84)* — Бёрнэ Карл Людвіг (сапр. Барух Іуда Лейб; 1786—1837) — нямецкі публіцыст, пісьменнік.

*З Быкавым сустрэліся на міжнародным кангрэсе па праблемах Цэнтральнай і Усходняй Еўропы ў Тампэрэ (с. 84)* — Фрагмент з успамінаў пра В. Быкава. Напісана: сакавік 2004, Хельсінкі (Фінляндыя). Упершыню: Някляеў У. Стрэмкі // Наш Быкаў: кніга ўспамінаў / уклад. Г. Бураўкін. Мінск: ГА БТ «Кніга», 2004.

*Наталля Татур (с. 85)* — Татур Наталля (нар. у 1949) — беларуская паэтка, журналіст; піша на рускай мове. Жыве ў ЗША.

*Скончыўся кангрэс у Тампэрэ (с. 86)* — Фрагмент успамінаў пра В. Быкава. Упершыню: Някляеў У. Стрэмкі // Наш Быкаў.

*Васіль Уладзіміравіч з Ірынай Міхайлаўнай, Якуб Лапатка, які прыехаў некалі ў Хельсінкі на паўгода і застаўся ці не назаўсёды, Аліна Бельская... (с. 86)* — Быкава Ірына (нар. у 1927) — другая жонка В. Быкава. Лапатка Якуб (нар. у 1944) — беларускі перакладчык; жыве ў Фінляндыі. Бельская Аліна ў 1997 г., у той час студэнтка БДУ, праходзіла па «справе» Аляксея Шыдлоўскага і Вадзіма Лабковіча, якіх пераследвалі за антылукашэнкаўскія графіці; эміграваала ў Фінляндыю.

*...за дзяцей... (с. 87)* — У Някляева дзве дачкі: малодшая, Ева Някляева, і старэйшая, прыёмная дачка, — Ілона Бабаеўская (у дзяв. Някляева; нар. у 1960), жыве ў Маскве (Расія).

*«Самы моцны той, хто стаіць адзінока», — паўтарае Колас словы Ібсена, запісваючы іх у альбом Аляксандры Зотавай (с. 88)* — Колас Якуб (сапр. Міцкевіч Канстанцін; 1882–1956) — народны паэт Беларусі (1926), класік беларускай літаратуры. Ібсен Генрык Юхан (1828–1906) — нарвежскі драматург і тэатральны дзеяч. Зотава Аляксандра — настаўніца, блізкая знаёмая Я. Коласа.

*...Колас піша ў лісце да Сяргея Гарадзецкага... (с. 88)* — Гарадзецкі Сяргей (1884–1967) — расійскі паэт.

*...не пераслаў яму ліста ад сына, які без вестак прапаў на фронце (с. 89)* — Міцкевіч Юрый (1917–1941?) — сярэдні сын Я. Коласа.

*Чатыры дні таму назад прыслаў мне пісьмо Пятрусь Броўка (с. 89)* — Броўка Пятрусь (Пётр; 1905–1980) — народны паэт Беларусі (1962).

*...адкуль Колас напісаў жонцы... (с. 90)* — Міцкевіч Марыя (у дзяв. Каменская; 1891–1945) — жонка Я. Коласа.

*Пасля смерці Купалы Колас піша ў лісце (8.07.1942) да ягонай жонкі... (с. 90)* — Луцэвіч Уладзіслава (1891–1960) — жонка Я. Купалы. У 1944–1960 гг. — дырэктар Літаратурнага музея Янкі Купалы ў Мінску.

*Вунь Гётэ, скажуць, няхай і вялікі паэт, але ж колькі жыў!.. (с. 91)* — Гётэ Іаган Вольфганг (1749–1832) — вялікі нямецкі паэт, класік нямецкай літаратуры.

*Прыдуманая Рылеевым, паэтам не асаблівага таленту... (с. 91)* — Рылееў Кандрацій (1795–1826) — рускі паэт, адзін з кіраўнікоў снежаньскага паўстання 1825 г. на Сенацкай плошчы ў С.-Пецярбургу. Быў асуджаны на смерць праз павешанне.

*«Паэтам можаш ты не быць, грамадзянінам быць ты мусіш...» (с. 91)* — Пераклад радкоў з верша рускага паэта Мікалая Някрасава «Поэт и гражданин».

*Байранам ты можаш не быць, Рафаэлем... (с. 91)* — Байран Джордж Ноэл Гордан (1788–1824) — вялікі англійскі паэт. Рафаэль Санці (1483–1520) — вялікі італьянскі мастак.

*Калі паэт Пушкін ехаў з Міхайлаўскага... (с. 91)* — Міхайлаўскае — мястэчка ў Пскоўскай губерні (Расія), дваранскі маёнтак, які быў падараваны расійскай імператрыцай Лізаветай Пятроўнай прадзеду А. Пушкіна — Абраму Ганібалу.

*Паэту Цютчаву... (с. 91)* — Цютчаў Фёдар (1803–1873) — рускі паэт.

*«Мост Шандара Пецёфі» (с. 91)* — Пецёфі Шандар (сапр. Петравіч Аляксандр; 1823–1849) — венгерскі паэт, адзін з кіраўнікоў Венгерскай рэвалюцыі 1848–1849 гг.

*Яўген Мазалькоў (рэдактар кніг Купалы ў перакладзе на рускую мову) згадвае ў сваіх успамінах, як гасцяваў у Купалы (у 414 нумары гатэля «Масква») гадзіны за тры да купалавай смерці (с. 92)* — Мазалькоў Яўген (1909–1969) — расійскі перакладчык і літаратуразнавец беларускага паходжання (нарадзіўся ў Крычаве).

*Назаўтра ў спецпаведамленні на імя Берыі... (с. 92)* — Берыя Лаўрэнцій (1899–1953) — савецкі партыйны і дзяржаўны дзеяч, кіраўнік МУС-МДБ СССР (1938–1945), з 1941 г. намеснік старшыні Савета Народных Камісараў (пазней — Савета Міністраў СССР). Адзін з найбліжэйшых паплечнікаў І. Сталіна па арганізацыі масавых рэпрэсій. У 1953 г. расстраляны па абвінавачанні ў супрацоўніцтве з шэрагам замежных разведак.

*...з копіямі Молатаву... (с. 92)* — Молатаў Вячаслаў (сапр. Скрабін; 1890–1986) — савецкі партыйны і дзяржаўны дзеяч, кіраўнік савецкага ўрада (1930–1941); наркам, а затым міністр замежных спраў СССР (1939–1949; 1953–1956).

*У Купалы ёсць верш «Я бачыў, як вецер па полі гуляў...» (с. 93)* — Фрагмент эсэ «Святая вада». Упершыню: Някляеў У. Святая вада // Вобраз-83.

*Астаф'еў (с. 93)* — Астаф'еў Віктар (1924–2001) — расійскі пісьменнік.

*Пераззваніў, каб дазнацца, як чэхі пра Быкава рупяцца, Лукашуку на «Свабоду» (с. 94)* — Лукашук Аляксандр (нар. у 1955) — дырэктар Беларускай службы Радыё «Свабода». Жыве ў Празе (Чэхія).

*...Гавэл за Быкава просіць... (с. 94)* — Напрыканцы 2002 г. прэзідэнт Чэшскай Рэспублікі Вацлаў Гавэл (1936–2011) заявіў, што «даць Васілю Быкаву і ягонай жонцы магчымасьць жыць у Чэхіі — гэта ня толькі наш абавязак, гэта вялікі гонар для дзяржавы»*. Напярэдадні В. Быкаў напісаў заяву на імя міністра ўнутраных спраў Чэхіі: «У сувязі з тым, што ў Рэспубліцы Беларусь, дзе я нарадзіўся і пражываў да 1999 году, склалася непрыязная для мяне сітуацыя (найперш палітычная), якая не дае магчымасьці для маёй прафэсійнай літаратурнай дзейнасьці і нармальнага існаваньня, прашу ўрад ЧР прадаставіць мне права пра-

---

* Навумчык С. Васіль Быкаў будзе жыць у Чэхіі / інт. з В. Быкавым на Радыё «Свабода» 12 снеж. 2002 г. // Быкаў на Свабодзе. Выд. 2-е. Радыё «Свабодная Эўропа» / Радыё «Свабода», 2005. С. 310.

жываньня ў Чэхіі. Разам са мной знаходзіцца жонка Быкава Ірына, якая далучаецца да мае просьбы»*.

*...патэлефанаваў у Менск Мураўёву: як там Быкаў?.. (с. 95)* — Мураўёў Генадзь (1938–2012) — беларускі ўрач; прафесар, доктар медыцынскіх навук. Апекаваўся В. Быкавым ў апошнія дні жыцця.

*...«Мы яшчэ пасядзім з вамі, Васіль Уладзіміравіч, на вашым любімым валуне ў Вуасары» (с. 95)* — Вуасары — мікрараён Хельсінкі.

*Для газеты «Народная воля» напісаў нешта накшталт некралога... (с. 95)* — Някляеў У. Жыў, каб была Айчына // Народная воля. 2003. 24 чэрв.

*...прафесар Мураўёў патэлефанаваў мне 22 чэрвеня ўвечары (с. 98)* — Фрагмент успамінаў пра В. Быкава. Упершыню: Някляеў У. Стрэмкі // Наш Быкаў.

*Я спытаў: «А што Ірына Міхайлаўна?..» (с. 98)* — Быкава Ірына Міхайлаўна, другая жонка В. Быкава.

*...зазірнуў да Ніла Гілевіча (с. 98)* — Гілевіч Ніл (нар. у 1931) — народны паэт Беларусі (1991).

*Суседкай, якая паведаміла мне пра смерць Васіля Быкава, была пляменніца Уладзіміра Караткевіча (с. 99)* — Сінькевіч Алена; жыве ў той жа кватэры, у якой жыў У. Караткевіч.

*У часовым маім жытле, у кватэры, у якой жыву я ў Хельсінкі, вісіць на сцяне карціна, якая мне не належыць (с. 100)* — Фрагмент успамінаў пра В. Быкава. Упершыню: Някляеў У. Стрэмкі // Наш Быкаў. Маецца на ўвазе карціна Ранеля Тойвы (нар. у 1921), народнага мастака Расіі (1991), які ў 1995 г. эміграваў у Фінляндыю. Карціна была падорана В. Быкаву. Цяпер захоўваецца ў яго жонкі І. Быкавай.

*...гербам «Пагоня»... (с. 100)* — «Пагоня» — першапачаткова герб Полацка і Наваградка, пазней, пачынаючы з другой паловы XIII ст., дзяржаўны сімвал Вялікага Княства Літоўскага, Беларускай Народнай Рэспублікі (1918), Рэспублікі Беларусь (1991–1995), а таксама Літоўскай Рэспублікі (з 1990).

---

* Навумчык С. «Ён прыехаў, сам памёр, усё спакойна»: апошнія тыдні Васіля Быкава // Быкаў на Свабодзе. С. 610.

*...якога мне Юка Малінен падсеяў... (с. 100)* — Малінен Юка (нар. у 1950) — фінскі паэт, перакладчык; віцэ-прэзідэнт Фінскага ПЭН-цэнтра.

*...пачаў з перакладу інсцэніроўкі «Мёртвых душ» для Купалаўскага тэатра (с. 101)* — «Мёртвые души» — паэма Мікалая Гогаля (1809–1852), вялікага рускага пісьменніка ўкраінскага паходжання (нарадзіўся ў мястэчку Сарочынцы Палтаўскай губерні). Купалаўскі тэатр — Нацыянальны акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы, знаходзіцца ў Мінску; найстарэйшы беларускі тэатр: у 1890–1920 гг. — Губернскі тэатр; з 1920 г. — Беларускі дзяржаўны тэатр (з 1921 г. — Акадэмічны; з 1926 г. — БДТ-1); з 1944 г. — Беларускі тэатр імя Янкі Купалы (з 1955 г. — Акадэмічны; з 1993 г. — Нацыянальны).

*Сабакевіч (с. 101)* — Герой паэмы «Мёртвые души» М. Гогаля.

*...словы Оскара Уайльда... (с. 101)* — Уайльд Оскар (1854–1900) — англійскі пісьменнік і драматург ірландскага паходжання.

*...Плюшкін выйграе ў параўнанні з Сабакевічам, Наздровым... (с. 101)* — Героі паэмы «Мёртвые души» М. Гогаля.

*...каб на быкаўскай магіле стаяў фінскі камень... (с. 102)* — Камень на магілу В. Быкава быў прывезены з Фінляндыі дзякуючы намаганням Някляева, а таксама віцэ-прэзідэнта Фінскага ПЭН-цэнтра Юкі Малінена і дырэктара дэпартамента культуры муніцыпалітэта Хельсінкі Юр'ё Лармалы.

*...разам з Уладзімірам Гілепам... (с. 103)* — Гілеп Уладзімір — намеснік міністра культуры Рэспублікі Беларусь у 1994–1996 гг.

*...у майстэрні мастака Аляксея Марачкіна (с. 103)* — Марачкін Аляксей (нар. у 1940) — беларускі мастак.

*...на пленэры на радзіме Быкава ў Бычках (с. 104)* — Вёска Бычкі Ушацкага раёна Віцебскай вобл., дзе нарадзіўся В. Быкаў.

*Памятаючы, як глыбінна адчула Беларусь страту Васіля Быкава, цяперашняя антынацыянальная ўлада не дазволіла Беларусі гэтаксама адчуць страту Янкі Брыля (с. 106)* — Цырымонія развітання з В. Быкавым, на якую прыйшло больш за 50 тысяч чалавек, адбылася ў Доме літаратара. Да Усходніх могілак пешшу праз увесь горад, па праспекце тады яшчэ імя Ф. Скарыны (цяпер — Незалежнасці),

Васіля Быкава праводзілі некалькі тысяч чалавек. Развітанне з Янкам Брылём адбылося ў яго кватэры на вул. Дразда. Ніякай афіцыйнай жалобы з гэтай нагоды абвешчана не было (зрэшты, як і ў выпадку з Быкавым).

*Прыдумаўся эпізод для аповесці «Дзень нямецкай арміі»... (с. 106)* — Упершыню: Някляеў У. Дзень нямецкай арміі: урывак з аповесьці // Наша Ніва. 2008. 27 сак. Тут жа аўтарскае папярэджанне: «Заўвага: прыдуманыя аўтарам імёны пэрсанажаў аповесьці могуць выпадкова супадаць з імёнамі рэальных людзей».

*Паўліна Мядзёлка (с. 108)* — Мядзёлка Паўліна (1893–1974) — беларускі педагог, актрыса; першая выканаўца ролі Паўлінкі ў пецярбургскай прэм'еры аднайменнай п'есы Я. Купалы (1913). З 1918 г. настаўнічала ў Мінску, а таксама ўдзельнічала ў пастаноўках Першага таварыства беларускай драмы і камедыі. Двойчы арыштавана польскімі ўладамі (1919, 1920). Сядзела ў турме Вронкі на Познаньшчыне (Польшча). Пасля вызвалення накіравана на жыхарства ў Лодзь (Польшча). У 1921 г. па падробных дакументах выехала ў Вільню, затым — у Літву, у 1922 г. — у Латвію, дзе выкладала ў беларускай гімназіі ў Дзвінску (цяпер — Даўгаўпілс, Латвія). У 1924 г. зноў арыштавана, на наступны год — апраўдана судом. У тым жа годзе пераехала ў БССР, дзе працавала ў сектары мастацтва Інстытута беларускай культуры (з 1928 г. — Беларуская акадэмія навук); у 1927–1930 гг. выкладала беларускую мову ў Горацкай сельскагаспадарчай акадэміі. У 1930 г. арыштавана па справе «Саюза вызвалення Беларусі» і выслана ў Казань (Расія). У 1947 г. пераехала ў Будслаў.

*...на допыце ў ДПУ... (с. 108)* — Дзяржаўнае палітычнае ўпраўленне пры Народным камісарыяце ўнутраных спраў БССР, затым — Аб'яднанае дзяржаўнае палітычнае ўпраўленне пры Савеце Народных Камісараў БССР (пазней — Камітэт дзяржаўнай бяспекі). Спецыялізацыя: барацьба з контррэвалюцыяй, шпіянажам, дзяржаўная бяспека, барацьба з антысавецкімі элементамі.

*Да першай групы, якую жартам называлі беларускай арыстакратыяй, адносіліся Доўнар-Запольскі, Краскоўскія, Ермаковічы, Цвікевічы, Аляксандар і Іван Смолічы (с. 108)* — Доўнар-Запольскі Мітрафан (1867–1934) — гісторык і этнограф беларускага паходжання (нарадзіўся ў Рэчыцы); актыўна падтрымліваў Беларускую Народную Рэспубліку. Краскоўскі Іван (1880–1955) — беларускі і ўкраінскі палітычны дзеяч,

публіцыст, педагог; у 1918 г. уваходзіў у склад урада Украінскай Народнай Рэспублікі; з 1922 г. дырэктар Дзвінскай дзяржаўнай беларускай гімназіі; з 1925 г. працаваў у Беларускім дзяржаўным універсітэце, Інбелкульце; у 1930 г. арыштаваны па справе «Саюза вызвалення Беларусі»; у 1931 г. высланы на 5 гадоў у Самару (Расія); у 1937 г. паўторна арыштаваны; у 1940 г. вызвалены. Ермаковічы — асобы не высветлены. Цвікевіч Аляксандр (1888–1937) — беларускі грамадска-палітычны дзеяч, гісторык, юрыст, філосаф, публіцыст; у 1921–1923 гг. — міністр замежных спраў ва ўрадзе Беларускай Народнай Рэспублікі В. Ластоўскага; у 1923–1925 гг. узначальваў новы ўрад БНР; з 1929 г. — у Інстытуце гісторыі Беларускай акадэміі навук; у 1930 г. арыштаваны па справе «Саюза вызвалення Беларусі»; у 1931 г. быў сасланы на 5 гадоў у Перм, Ішыму, Сарапул (Расія); у 1937 г. паўторна арыштаваны і расстраляны; пасмяротна рэабілітаваны (1988, 1989). Смолічы Аляксандр, Іван — асобы не высветлены; мабыць, маецца на ўвазе Смоліч Аркадзь (1891–1938) — дзеяч беларускага нацыянальна-дзяржаўнага адраджэння, вучоны ў галіне эканомікі, сельскай гаспадаркі, картаграфіі, геаграфіі; адзін з ініцыятараў абвяшчэння ў 1918 г. БНР; з 1925 г. — намеснік старшыні Інбелкульта; з 1929 г. член Прэзідыума Беларускай акадэміі навук; у 1930 г. арыштаваны па справе «Саюза вызвалення Беларусі»; у 1931 г. быў сасланы на 5 гадоў у Осу Пермскай вобл. (Расія); у 1937 г. паўторна арыштаваны; у 1938 г. расстраляны; пасмяротна рэабілітаваны (1957, 1988). Трэба адзначыць, што гэтая выпіска з паказанняў П. Мядзёлкі падчас допыту ў ДПУ была зроблена Някляевым з архіўных матэрыялаў КДБ у пачатку 1990-х гг., калі ён збіраў матэрыялы пра Я. Купалу; удакладніць прозвішчы цяпер не ўяўляецца магчымым.

*Другая група, якая з першай падтрымлівала толькі ветлівае знаёмства, — Некрашэвічы, Купала, Грамыкі, Жылуновічы... (с. 108)* — Некрашэвіч Сцяпан (1883–1937) — беларускі навуковец і грамадскі дзеяч, ініцыятар стварэння і першы старшыня Інбелкульта; у 1930 г. арыштаваны па справе «Саюза вызвалення Беларусі»; у 1931 г. высланы на 5 гадоў у Сарапул (Удмурція, Расія); у 1936 г. тэрмін высылкі прадоўжаны на 2 гады; паўторна арыштаваны ў 1937 г. і расстраляны; пасмяротна рэабілітаваны (1957, 1988). Грамыка Міхайла (Міхаіл; 1885–1969) — беларускі пісьменнік, геолаг, педагог; у 1930 г. арыштаваны па справе «Саюза вызвалення Беларусі»; у 1931 г. высланы на 5 гадоў у Іванава-Вазнясенск (Расія); рэабілітаваны ў 1957 г.

Жылуновіч Зміцер (псеўданім Цішка Гартны; 1887–1937) — беларускі пісьменнік, грамадскі і дзяржаўны дзеяч; у 1936 г. арыштаваны; памёр у 1937 г. у магілёўскай псіхіятрычнай лячэбніцы; пасмяротна рэабілітаваны (1955, 1987).

*Заходзілі іншым разам (не асабліва часта) Прышчэпаў і Чарот... (с. 108)* — Прышчэпаў Дзмітрый (1896–1940) — народны камісар земляробства БССР (1924–1929), намеснік старшыні Дзяржплана БССР (з 1929); у 1930 г. арыштаваны па справе «Саюза вызвалення Беларусі»; памёр у турэмнай бальніцы; пасмяротна рэабілітаваны. Чарот Міхась (сапр. Кудзелька Міхаіл; 1896–1937) — беларускі паэт, драматург, празаік, рэдактар і грамадскі дзеяч; у 1937 г. арыштаваны як «агент польскай разведкі»; прыгавораны да вышэйшай меры пакарання; пасмяротна рэабілітаваны (1956).

*Цікаўнасць да беларускай гісторыі, увогуле да беларушчыны — шмат у каго ад Уладзіміра Караткевіча. А ў ім адкуль? У зрусіфікаваным (якім ён і быў да паступлення ў Кіеўскі ўніверсітэт) юнаку з усходняй Беларусі... (с. 108)* — У 1949–1954 гг. У. Караткевіч вучыўся на філалагічным факультэце Кіеўскага ўніверсітэта, пасля заканчэння якога здаў кандыдацкі мінімум і пачаў пісаць дысертацыю пра паўстанне 1863 г. У 1954–1956 гг. працаваў настаўнікам у в. Лесавічы, што на Кіеўшчыне. У 1956 г. пераехаў у Оршу.

*Сыс (с. 111)* — Сыс Анатоль (1959–2005) — беларускі паэт. Ахвяруючы ў 1996 г. Някляеву верш «Страцім-Лебедзь», А. Сыс напісаў у прысвячэнні: «Маёй першай і апошняй любові Уладзіміру Някляеву».

*Цікава, што ў Чэхава... (с. 112)* — Чэхаў Антон (1860–1904) — вялікі рускі пісьменнік, драматург.

*...Іван Дзмітрыевіч Громаў, сталы прабывальнік палаты № 6... (с. 112)* — Герой апавядання «Палата № 6» А. Чэхава.

*Доктар Андрэй Яфімавіч Рагін, апынуўшыся ў палаце № 6... (с. 112)* — Герой апавядання «Палата № 6» А. Чэхава.

*«А неўраджаі ў нас праз тое, што асушылі пінскія балоты», — сцвярджаў паштмайстар Міхаіл Авяр’янавіч... (с. 112)* — Герой апавядання «Палата № 6» А. Чэхава.

*...Аляксандру Кузьміну, трэцяму пасля Машэрава начальніку... (с. 112)* — Кузьмін Аляксандр (1918–2003) — беларускі партыйны і дзяржаўны дзеяч; сакратар ЦК КПБ па ідэалогіі (1971–1986).

*Іван Мележ (с. 113)* — Мележ Іван (1921–1976) — народны пісьменнік Беларусі (1972).

*...«Маладую гвардыю» Фадзеева (с. 114)* — Фадзееў Аляксандр (1901–1956) — расійскі пісьменнік; генеральны сакратар і старшыня праўлення СП СССР (1946–1954), сакратар праўлення СП СССР (1954–1956); лаўрэат Сталінскай прэміі (1946). «Маладая гвардыя» — раман Фадзеева (1946, 1951), які ўваходзіў у навучальную праграму сярэдняй школы ў СССР.

*...пры часопісе «Arche»... (с. 114)* — «Arche Пачатак» — беларускі навуковы, навукова-папулярны, грамадска-палітычны і літаратурна-мастацкі часопіс; выдаецца з 1998 г. Заснавальнік — Андрэй Дынько. Галоўны рэдактар — Валер Булгакаў (1998–2012).

*...яшчэ больш не ладзяць з «дзеяслоўцамі»... (с. 114)* — «Дзеяслоў» — беларускі літаратурны часопіс; выдаецца з 2002 г. Заснавальнік — ГА «Літаратурна-мастацкі фонд “Нёман”». Галоўны рэдактар — Барыс Пятровіч (Сачанка). «Дзеяслоў» быў створаны пасля заснавання Міністэрствам інфармацыі рэдакцыйна-выдавецкай установы «Літаратура і Мастацтва» (2002). Пазіцыянуецца як незалежны літаратурны часопіс — у процілегласць літаратурным часопісам, гвалтоўным чынам уключаным у РВУ «ЛіМ» («Маладосць», «Полымя»).

*У 1830 годзе беларус Тадэвуш Булгарын піша ў «Северной пчеле»... (с. 114)* — Булгарын Фадзей (Ян Тадэвуш; 1789–1859) — расійскі пісьменік і крытык беларускага паходжання (нарадзіўся ў маёнтку Пырашава Мінскага ваяводства), выдавец першай прыватнай грамадска-палітычнай штодзённай газеты «Северная пчела».

*...служыць шчырэй Бахусу і Плутусу... (с. 114)* — Бахус — з рымскай міфалогіі, адпавядае Дыянісу ў старажытнагрэчаскай міфалогіі — богу вінаробства. Плутас — бог багацця ў грэчаскай міфалогіі.

*...стаў спрыяць Дэльвігу... (с. 115)* — Дэльвіг Антон (1798–1931) — рускі паэт і выдавец; сябра А. Пушкіна.

*...Жукоўскага заўсёды буду шанаваць... (с. 115)* — Жукоўскі Васіль (1783–1852) — рускі паэт, перакладчык; стваральнік рамантызму ў рускай паэзіі.

*...Вяземскага добрым, разумным, высакародным... (с. 115)* — Вяземскі Пётр (1792–1878) — рускі паэт, крытык.

*Мікалай Іванавіч Грэч (с. 115)* — Грэч Мікалай (1787–1867) — рускі выдавец, рэдактар, публіцыст.

*...словы Фрыдрыха II... (с. 115)* — Фрыдрых II (1712–1786) — кароль Прусіі (з 1740), прадстаўнік асветніцкага абсалютызму, адзін з заснавальнікаў пруска-нямецкай дзяржаўнасці.

*...проклинаю всех этих Янок Купал, Якубов Колосов, Бедуль... (с. 116)* — Бядуля Змітрок (сапр. Плаўнік Самуіл; 1886–1941) — беларускі празаік, паэт; сакратар рэдакцыі газеты «Наша Ніва» (1912–1915); член літаратурнага аб'яднання «Маладняк»; разам з А. Бабарэкам, У. Дубоўкам, К. Чорным, К. Крапівой, Я. Пушчам уваходзіў у літаратурна-мастацкае аб'яднанне «Узвышша».

*Маналог Чычыкава... (с. 116)* — Герой паэмы «Мёртвые души» М. Гоголя.

*...галоўны тагачасны гэбіст Л. Цанава... (с. 116)* — Цанава Лаўрэнцій (1900–1950) — савецкі партыйны і дзяржаўны дзеяч; наркам унутраных спраў БССР (1938–1951); адзін з арганізатараў сталінскіх рэпрэсій.

*...мастак Раман Семашкевіч... (с. 116)* — Семашкевіч Раман (1900–1937) — расійскі мастак беларускага паходжання (нарадзіўся ў мястэчку Лебедзева Віленскай губерні). У 1937 г. арыштаваны па сфабрыкаваным абвінавачанні ў контррэвалюцыйнай агітацыі; у тым жа годзе расстраляны. Карціны Р. Семашкевіча былі канфіскаваныя НКВД.

*У 1935 годзе знайшлі ў лагеры ўдаву Калчака... (с. 117)* — Калчак Аляксандр (1874–1920) — рускі палітычны дзеяч; віцэ-адмірал Расійскага імператарскага флота (1916), адмірал Сібірскай флатыліі (1918); Вярхоўны кіраўнік Расіі (1918–1920). У сапраўднасці размова ідзе пра каханую А. Калчака Ганну Цімірову (1893–1975), бо яго жонка, Соф'я Фёдараўна (1876–1956), эмігравала з Расіі ў 1919 г. Неаднойчы арыштаваная (1920, 1921, 1925, 1935, 1938, 1949) была менавіта Ганна Цімірова.

*Герой Савецкага Саюза Фёдараў, былы сакратар Чарнігаўскага абкама... (с. 118)* — Фёдараў Аляксей (1901–1989) — савецкі партыйны і дзяржаўны дзеяч, адзін з кіраўнікоў партызанскага руху ў Вялікай

Айчыннай вайне; генерал-маёр (1943); двойчы Герой Савецкага Саюза (1942, 1944).

*Ляцім у «Дугласе»... (с. 118)* — Амерыканскі самалёт; у часы Вялікай Айчыннай вайны паставўляўся ў СССР.

*...дорыць Міколу Бажану... (с. 118)* — Бажан Мікола (Мікалай; 1904–1983) — украінскі паэт.

*Яўген Еўтушэнка (с. 118)* — Еўтушэнка Яўген (нар. у 1933) — расійскі паэт беларускага паходжання (продкі па лініі маці паходзяць з в. Хамічы на Гомельшчыне). Прысвяціў Някляеву верш: «Среди всех негодяев, Проходимцев, громил, Ты, Володя Некляев, Светлый дух сохранил!» Катэгарычна выступіў супраць арышту Някляева ў снежні 2010 г.: «Требую, чтобы Некляева немедленно воссоединили с его семьей, с его народом, а напавших арестовали и судили показательным открытым судом. Когда политика превращается в избиения и затыкания рта любым способом, она перестает быть политикой и становится уголовным преступлением»[*]. Аўтар прадмовы «Думать так, чтобы все возвышались...» да кнігі Някляева «Окно» (М.: Время, 2010).

*Мікалай Матукоўскі (с. 119)* — Матукоўскі Мікалай (1929–2001) — беларускі драматург, сцэнарыст, публіцыст; літсупрацоўнік, загадчык аддзела навукі і школ, загадчык аддзела літаратуры і мастацтва газеты «Звязда» (1952–1960); галоўны рэдактар літаратурна-драматычнага вяшчання Беларускага радыё (1960–1964); галоўны рэдактар рэпертуарна-рэдакцыйнай калегіі Міністэрства культуры БССР (1964–1966); з 1966 г. — уласны карэспандэнт, з 1970 г. — загадчык Беларускага аддзялення рэдакцыі газеты «Известия».

*...выкананне Трынаццатай сімфоніі Шастаковіча ў Менску (с. 119)* — Шастаковіч Дзмітрый (1906–1975) — расійскі кампазітар беларускага паходжання (унук паўстанца 1863 г.; продкі па лініі бацькі жылі ў мястэчку Шэметава Завілейскага павета Віленскай губерні); народны артыст СССР (1954). У аснову сімфоніі № 13 сі-бемоль мінор («Бабий яр») пакладзены паэтычныя творы Я. Еўтушэнкі, у тым ліку знакаміты «Бабий яр» (1961) — паэма на тэму генацыду і праследу яўрэяў у гады Вялікай Айчыннай вайны. Пасля яе публікацыі аўтара абвінавацілі ў адсутнасці патрыятызму і аднабаковым асвятленні тэмы — у творы

[*] Басинский П. Свободу поэту!: Евгений Евтушенко требует освобождения Владимира Некляева // Российская газета. 2010. 23 дек.

не прыгадваліся ахвяры не яўрэйскай нацыянальнасці. Аднак такія акалічнасці не спынілі Д. Шастаковіча. Сімфонія № 13 выконвалася у Мінску ў сакавіку 1963 г.

*...на станцыі Зіма... (с. 119)* — Адміністрацыйны цэнтр Зімінскага раёна Іркуцкай вобл. (Расія), дзе нарадзіўся Я. Еўтушэнка.

*...Вазнясенскага... (с. 119)* — Вазнясенскі Андрэй (1933–2010) — расійскі паэт.

*Гумілёў (с. 119)* — Гумілёў Мікалай (1886–1921) — расійскі паэт. Быў арыштаваны па падазрэнні ва ўдзеле ў змове «Петроградской боевой организации В. Н. Таганцева» і затым расстраляны. Першай жонкай М. Гумілёва была паэтка Г. Ахматава.

*Пра Ахмадуліну казала... (с. 120)* — Ахмадуліна Бэла (Ізабэла; 1937–2010) — расійская паэтка.

*Валянцін Акудовіч (с. 120)* — Акудовіч Валянцін (нар. у 1950) — беларускі філосаф, культуролаг; уваходзіў у склад рэдакцыі часопіса «Крыніца», які рэдагаваў Някляеў.

*...з праўкай Канстанціна Сіманава... (с. 120)* — Сіманаў Канстанцін (1915–1979) — рускі пісьменнік; сакратар праўлення СП СССР (1954–1959, 1967–1979).

*...яшчэ да пастановы ЦК ВКП(б) «Аб часопісах “Звезда” і “Ленинград”»... (с. 120)* — Пастанова аргбюро ЦК ВКП(б) ад 14 жніўня 1946 г. была накіравана супраць часопісаў «Звезда» і «Ленинград», на старонках якіх друкавалася «много безыдейных, идеологически вредных произведений», у прыватнасці творы «пошляка и подонка» М. Зошчанкі, якія «чужды советской литературе», і Г. Ахматавай, якая з'яўляецца «типичной представительницей чуждой нашему народу пустой безыдейной поэзии. Ее стихотворения, пропитанные духом пессимизма и упадочничества, выражающие вкусы старой салонной поэзии, и застывшей на позициях буржуазно-аристократического эстетства и декадентства, “искусстве для искусства”, не желающей идти в ногу со своим народом, наносят вред делу воспитания нашей молодежи и не могут быть терпимы в советской литературе».

*...угаворваў знакамітых эмігрантаў (Івана Буніна ды іншых)... (с. 120)* — Бунін Іван (1870–1953) — расійскі пісьменнік; лаўрэат Нобелеўскай прэміі па літаратуры (1933). У 1920 г. эміграваў у Францыю.

*Валянціна Сярова, у той час жонка Сіманава... (с. 120)* — Сярова Валянціна (1917—1975) — расійская актрыса.

*...ажаніўшыся з удавой паэта... (с. 121)* — Размова ідзе пра Ларысу Жадаву (1927—1981), удаву франтавога таварыша К. Сіманава — расійскага паэта Сямёна Гудзенкі (1922—1953).

*Бой был коротким. А потом... (с. 121)* — Радкі з верша «Перед атакой» С. Гудзенкі.

*Падараваўшы жыццё, жанчыны дораць нам каханне (с. 121)* — Фрагмент эсэ «Дарыце ўсмешкі». Упершыню: Беларусь. 1984. № 6.

*Бліскучы рускі актор Міхаіл Жараў... (с. 121)* — Жараў Міхаіл (1899—1981) — расійскі акцёр; народны артыст СССР (1949).

*«Вясковы дэтэктыў» (с. 121)* — Фільм расійскага рэжысёра Івана Лукінскага (1968).

*...грандыёзна граў Меншыкава... (с. 121)* — Князь Меншыкаў — герой рамана «Пётр І» А. Талстога.

*...казаў А. Талстому... (с. 121)* — Талстой Аляксей (1882—1945) — расійскі пісьменнік, аўтар рамана «Пётр І».

*Не цягну я на любімца Пятра... (с. 121)* — Маецца на ўвазе Пётр І Вялікі (Пётр Аляксеевіч; 1672—1725) — апошні цар усяе Русі з дынастыі Раманавых (з 1682) і першы расійскі імператар (з 1721).

*У Самуіла Маршака... (с. 121)* — Маршак Самуіл (1887—1964) — расійскі паэт, драматург, перакладчык.

*У вершы відавочна больш Хармса... (с. 122)* — Хармс Данііл (сапр. Ювачоў; 1905—1942) — расійскі пісьменнік. Арыштаваны ў жніўні 1941 г. паводле даносу супрацоўніка НКВД за распаўсюд «клеветнических и пораженческих настроений». Каб пазбегнуць расстрэлу, Д. Хармс сімуляваў вар'яцтва, у выніку быў накіраваны ваенным трыбуналам у псіхіятрычную бальніцу, дзе памёр падчас блакады Ленінграда.

*Страфа з першага выдання «Сымона-музыкі»... (с. 122)* — Паэма Я. Коласа.

*Калі верыць Максіму Лужаніну... (с. 122)* — М. Лужанін, аўтар кнігі «Колас расказвае пра сябе» (1964), быў літаратурным сакратаром Я. Коласа.

*Рабіце ўсё, каб жанчыны ўсміхаліся... Бо ўсміхнулася Джаконда — і з'явіўся Леанарда да Вінчы (с. 124)* — Фрагмент эсэ «Дарыце ўсмешкі». Упершыню: Беларусь. 1984. № 6. «Джаконда» ці «Мона Ліза» (поўная назва — «Партрэт гаспадыні Лізы дэль Джаконда») — карціна Леанарда да Вінчы (1452—1519), вялікага італьянскага мастака і вучонага, аднаго з буйных прадстаўнікоў мастацтва эпохі Адраджэння.

*Быў такі рускі літаратар Антон Сарокін... (с. 124)* — Сарокін Антон (1884—1928) — расійскі пісьменнік.

*Акадэмік Капіца... (с. 124)* — Капіца Пётр (1894—1984) — расійскі інжынер, фізік; акадэмік АН СССР (1939); лаўрэат Нобелеўскай прэміі па фізіцы (1978).

*Ангельскі вучоны Філіп Гасэ... (с. 125)* — Гасэ Філіп Генры (1810—1888) — англійскі вучоны-натураліст.

*Дарвін (с. 125)* — Дарвін Чарльз Роберт (1809—882) — англійскі натураліст.

*Не Карэйка ж ён, каб, маючы столькі ўсяго, чакаць, пакуль Астап з'явіцца (с. 126)* — Герой рамана «Золотой теленок» расійскіх пісьменнікаў І. Ільфа і Я. Пятрова, падпольны мільянер. Астап Бэндар — галоўны герой раманаў «Двенадцать стульев» і «Золотой теленок» І. Ільфа і Я. Пятрова.

*...сказаў, здаецца, Шатабрыян. Кошкін па-нашаму (с. 127)* — Шатабрыян Франсуа Рэнэ дэ (1768—1848) — французскі пісьменнік і дзяржаўны дзеяч, заснавальнік рамантызму ў французскай літаратуры. Паводле тлумачэння Някляева, калі перакласці з французскай прозвішча Шатабрыян (Chateaubriand) у ягоным значэнні [Le chat — кот *(франц.)*], дык будзе — Кошкін ці Коткін.

*Кастанеда (с. 127)* — Кастанеда Карлас (1925—1998) — амерыканскі антраполаг і філосаф.

*Ніцшэ (с. 127)* — Ніцшэ Фрыдрых (1844—1900) — нямецкі мысляр і філосаф.

*Жан-Поль Сартр (с. 128)* — Сартр Жан-Поль (1905—1980) — французскі пісьменнік і філосаф-экзістэнцыяліст.

*Салжаніцын (с. 128)* — Салжаніцын Аляксандр (1918—2008) — расійскі пісьменнік; лаўрэат Нобелеўскай прэміі па літаратуры (1970).

У 1974 г. быў дэпартаваны ў ФРГ. У 1976–1994 гг. жыў у ЗША. У маі 1994 г. вярнуўся ў Расію.

*Геракліт (с. 128)* — Геракліт Эфескі (544–483 гг. да н. э.) — старажытнагрэчаскі філосаф.

*А ў вядомым афарызме Клаўзевіца... (с. 128)* — Клаўзевіц Карл Філіп Готліб (1780–1831) — нямецкі ваенны тэарэтык, гісторык, пісьменнік.

*Мішэль Фуко (с. 128)* — Фуко Мішэль Поль (1926–1984) — французскі філосаф, тэарэтык культуры, гісторык.

*Як у «Белым сонцы пустыні»... (с. 129)* — Мастацкі фільм расійскага кінарэжысёра Уладзіміра Матыля (1970).

*Помнік Хусейнаў скідалі... (с. 129)* — Садам Хусейн (1937–2006) — іракскі палітычны і дзяржаўны дзеяч; прэзідэнт Ірака (1979–2003). Скінуты ў выніку ўварвання войска шматнацыянальнай кааліцыі на чале з ЗША і Вялікабрытаніяй. Павешаны паводле прысуду Вярхоўнага суда Ірака.

*Прыгавораны радыкальнымі ісламістамі да смерці Сальман Рушдзі... (с. 130)* — Рушдзі Салман (нар. у 1947) — брытанскі пісьменнік індыйскага паходжання. Аўтар рамана «Сатанінскія вершы», у якім ісламскія радыкалы ўбачылі знявагу Карана і прысудзілі пісьменніка да пакарання смерцю.

*Жак Дэрыда (с. 130)* — Дэрыда Жак (1930–2004) — французскі філосаф, вядомы сваёй тэорыяй «дэканструкцый», паводле якой сэнс любога тэксту можа быць патлумачаны адвольна.

*Чжуан-цзы (с. 130)* — Чжуан-цзы (таксама Чжуан Чжоў; IV ст. да н. э.) — старажытнакітайскі філосаф.

*...рэдактар «Нашай Нівы» Андрэй Дынько... (с. 130)* — Дынько Андрэй (нар. у 1974) — беларускі журналіст, перакладчык; заснавальнік часопіса «Arche» (з 1998); галоўны рэдактар газеты «Наша Ніва» (з 2000); віцэ-прэзідэнт Беларускага ПЭН-цэнтра (2000–2004).

*Адзін з маіх дзядзькоў, Лявон Іванавіч... (с. 131)* — Адзін з братоў маці Някляева, Магер Лявон (1928–1994).

*...успамін Рэваза Інанішвілі пра Віктара Барысавіча Шклоўскага... (с. 131)* — Інанішвілі Рэваз (1926–1991) — грузінскі пісьменнік. Шклоўскі Віктар (1893–1984) — расійскі пісьменнік, крытык, тэарэтык літаратуры.

*...дзе кляймілі Амерыку падчас Карыбскага крызісу... (с. 131)* — Карыбскі крызіс — супрацьстаянне паміж СССР і ЗША з нагоды размяшчэння Савецкім Саюзам ядзерных ракет на Кубе ў кастрычніку 1962 г.

*Табідзе Тыцыян (с. 132)* — Табідзе Тыцыян (1895–1937) — грузінскі паэт.

*Шклярэўскі (с. 132)* — Шклярэўскі Ігар (нар. у 1938) — расійскі паэт беларускага паходжання (нарадзіўся ў мястэчку Бялынічы Магілёўскай вобл.). Адзін з перакладчыкаў Някляева на рускую мову.

*Юрый Кузняцоў (с. 132)* — Кузняцоў Юрый (1941–2003) — расійскі паэт; адзін з перакладчыкаў Някляева.

*...калі ў 1934 годзе арыштавалі Мандэльштама... (с. 132–133)* — Мандэльштам Восіп (1891–1938) — расійскі паэт, празаік, перакладчык польскага паходжання (нарадзіўся ў Варшаве). У 1934 г. арыштаваны і сасланы на Урал. Пасля спробы самагубства атрымаў дазвол пераехаць у Варонеж. У 1938 г. паўторна арыштаваны за «контррэвалюцыйную дзейнасць» і прыгавораны да 5 гадоў папраўчых лагераў і накіраваны па этапе на Далёкі Усход, дзе памёр ад тыфу. Пасмяротна рэабілітаваны (1956, 1987).

*Цветаева (с. 133)* — Цвятаева Марына (1892–1941) — расійская паэтка, празаік, перакладчыца.

*Сталін патэлефанаваў Пастарнаку ў звязку з арыштам Восіпа Мандэльштама. Пацікавіўся: «Ён жа ваш сябар»? — на што Пастарнак адказаў, што ён хацеў бы пагаварыць з правадыром не па тэлефоне пра Мандэльштама, а пры асабістай сустрэчы пра жыццё і смерць — і Сталін кінуў трубку (с. 133)* — Існуе больш за дзесяць версій тэлефоннай размовы Б. Пастарнака з І. Сталіным. Паводле бальшыні з іх, Сталін запытаўся, ці з'яўляецца Мандэльштам сябрам Пастарнака, і Барыс Леанідавіч сапраўды не адказаў на гэтае пытанне; паводле ж адной з версій, сказаў, што сяброўства паміж імі ніколі і не было, на гэта Сталін заўважыў: «Мы, старыя бальшавікі, ніколі не адракаліся ад сваіх сяброў. А весці з вамі пустыя гутаркі патрэбы ў мяне няма», — і паклаў трубку. Пастарнак спрабаваў дазваніцца Сталіну, каб патлумачыць, што Мандэльштам, насамрэч, ніколі не быў яго сябрам і таму не ад баязлівасці ён «адрокся» ад «сяброўства», аднак не дазваніўся.

*«Мы живем, под собою не чуя страны...» (с. 133)* — Радок з антысталінскага верша В. Мандэльштама, за які аўтар і быў арыштаваны ў 1934 г.

*«Вось свету праходзіць скрозь сэрца паэта», — хай даруе мне вольны пераклад Генрых Гейнэ... (с. 133)* — Недакладны пераклад радкоў вялікага нямецкага паэта Генрыха Гейнэ (1797–1856): «Усе трэшчыны свету праходзяць скрозь сэрца паэта».

*...адносіны ў Польшчы да Адама Міцкевіча... (с. 133)* — Міцкевіч Адам (1798–1865) — вялікі польскі паэт беларускага паходжання (нарадзіўся ў фальварку Завоссе Навагрудскага павета Літоўскай губерні). Маці Міцкевіча — з сям'і хрышчаных яўрэяў. Сам Міцкевіч быў ахрышчаны ў фарным касцёле Навагрудка.

*...нашчадкамі цара Давіда (с. 133)* — Цар Давід — другі цар Ізраіля, цараваў 40 гадоў (каля 1005–965 г да н. э.).

*Бацька Пастарнака, акадэмік жывапісу Леанід (насамрэч Ісаак) Пастарнак... (с. 134)* — Пастарнак Леанід (Аўрум ці Ісак; 1862–1945) — расійскі мастак і графік, настаўнік.

*Лао-цзы (с. 135)* — Лао-цзы (VI ст. да н. э.) — старажытнакітайскі філосаф, адзін са стваральнікаў вучэння даасізму.

*Даос Цзы Ся (у кнізе Ян Чжу)... (с. 135)* — Дао — старажытнакітайская філасофская сістэма самаўдасканалення («шлях узнясення») чалавека. Цзы Ся (V ст. да н. э.) — старажытнакітайскі філосаф, вучань (па некаторых звестках — унук) Канфуцыя.

*...прыдумалі футурысты... (с. 135)* — Футурызм — агульная назва авангардысцкіх рухаў 1910-х — пачатку 1920-х гг.

*П'ю каву з балгарынам Георгіем Канстанцінавым... (с. 136)* — Канстанцінаў Георгій (сапр. Хрыстаў; нар. у 1943) — балгарскі паэт, празаік.

*Аляксандр Македонскі (с. 137)* — Македонскі Аляксандр (356–323 гг. да н. э.) — македонскі цар (з 336 г. да н. э.), адзін з найвялікшых палкаводцаў у гісторыі.

*Кірыл з Мяфодзіем (с. 137)* — Кірыл (свецкае імя Канстанцін; 827–869) і Мяфодзій (свецкае імя Міхаіл; 815–885) — рэфарматары славянскай азбукі і стваральнікі царкоўнаславянскай мовы, прапаведнікі хрысціянства. Былі кананізаваныя і ўшаноўваюцца як святыя.

*...спачатку ў Балгарыю, да цара Барыса... (с. 137)* — Барыс I (1-я пал. IX ст. — 907) — цар Балгарыі (852–889; да хрышчэння (864) — хан). У 865 г. увёў хрысціянства ў якасці дзяржаўнай рэлігіі. Ушаноўваецца як святы ў рангу роўнаапостальнага.

*Расул Гамзатаў (с. 138)* — Гамзатаў Расул (1923—2003) — аварскі паэт, народны паэт Дагестана (1959).

*Леў Ашанін (с. 138)* — Ашанін Леў (1912—1996) — расійскі паэт.

*Валянцін Катаеў, Сяргей Залыгін, Фёдар Абрамаў, Юльян Сямёнаў і Юры Трыфанаў (с. 138)* — Катаеў Валянцін (1897—1986) — расійскі пісьменнік, драматург. Залыгін Сяргей (1913—2000) — расійскі пісьменнік; галоўны рэдактар часопіса «Новый мир» (1986 — 1998). Абрамаў Фёдар (1920—1983) — расійскі пісьменнік. Сямёнаў Юльян (сапр. Ляндрэс; 1931—1993) — расійскі пісьменнік. Трыфанаў Юрый (1925—1981) — расійскі пісьменнік.

*Леанід Лявонаў (с. 138)* — Лявонаў Леанід (1899—1994) — расійскі пісьменнік.

*Афанасій Салынскі і Аляксандр Валодзін, Віктар Розаў (с. 138)* — Салынскі Афанасій (1920—1993) — расійскі драматург. Валодзін Аляксандр (сапр. Ліўшыц; 1919—2001) — расійскі драматург, паэт. Розаў Віктар (1913—2004) — расійскі друматург.

*Леанід Мартынаў, Міхаіл Луконін, Васіль Фёдараў, Яраслаў Смелякоў, Аляксандр Межыраў, Уладзімір Сакалоў (с. 138)* — Мартынаў Леанід (1905—1980) — расійскі паэт. Луконін Міхаіл (1918—1976) — расійскі паэт. Фёдараў Васіль (1918—1984) — расійскі паэт. Смелякоў Яраслаў (1912—1972) — расійскі паэт. Межыраў Аляксандр (1923–2009) — расійскі паэт; у 1992 г. эміграваў у ЗША. Сакалоў Уладзімір (1928—1997) — расійскі паэт.

*...Давідам Кугульцінавым... (с. 138)* — Кугульцінаў Давід (1922–2006) — калмыцкі паэт; народны паэт Калмыкіі (1969). У 1944 г. дэпартаваны ў г. Нарыльск. У 1957 г. вярнуўся ў Калмыкію.

*...разам з Чынгізам Айтматавым і Кайсынам Куліевым... (с. 138)* — Айтматаў Чынгіз (1928–2008) — кіргізскі пісьменнік; народны пісьменнік Кіргізіі (1974). Куліеў Кайсын (1917–1985) — балкарскі паэт; народны паэт Кабардзіна-Балкарскай АССР (1967); пасля

дэмабілізацыі з Савецкай Арміі (1945) Кулієву, дзякуючы намаганням Б. Пастарнака, было дазволена пражыванне ў Маскве, аднак ён, вырашыўшы раздзяліць лёс свайго народа, з'ехаў у Кіргізію, куды ў 1944 г. па загадзе І. Сталіна былі дэпартаваны балкарцы; вярнуўся ў Кабардзіна-Балкарыю ў 1956 г.

*...вельмі падобны на сябра Маршака акцёра Міхоэлса, які трагічна загінуў у Мінску (с. 139)* — Міхоэлс Саламон (1890–1948) — яўрэйскі тэатральны акцёр і рэжысёр; народны артыст СССР (1939); лаўрэат Сталінскай прэміі (1946). Быў забіты супрацоўнікамі Міністэрства дзяржбяспекі пад кіраўніцтвам старшыні МДБ БССР Л. Цанавы і па асабістым загадзе І. Сталіна, забойства было замаскіравана пад дарожнае здарэнне.

*Дождик бы нужен, его не видать [...] (с. 139)* — З верша «Дождик бы нужен, его не видать...» Р. Гамзатава.

*У фінскіх памежнікаў не аказалася Альгунінага пашпарта... (с. 140)* — Маецца на ўвазе Някляева Вольга (у дзяв. Болдырава; нар. у 1969), другая жонка Някляева.

*...«Як табе было з Людмілай?..» (с. 141)* — Някляева Людміла (у дзяв. Гембіцкая; нар. у 1940) — першая жонка Някляева.

*Мая ўнучка Аня... (с. 141)* — Бабаеўская Ганна (нар. у 1983) — дачка старэйшай дачкі Някляева Ілоны, жыве ў Маскве.

*Людміла, Ілона, Ева, Сяргей, Сямён, Аня, Аляксандр, Стас... Цяпер яшчэ Джан (с. 141)* — Адпаведна першая жонка Някляева Людміла Някляева, старэйшая дачка Ілона Бабаеўская (у дзяв. Някляева; нар. у 1960), жыве ў Маскве, малодшая дачка Ева Някляева, Сяргей Бабаеўскі (нар. у 1957) — муж Ілоны, жыве ў Маскве, Сямён Татун (нар. у 1978) — муж Евы, жыве ў Хельсінкі, унукі Някляева Ганна і Аляксандр (нар. у 1989) Бабаеўскія, Станіслаў Татун, а таксама Ахмед Джан (Ахмед Йылдыз; нар. у 1980) — муж Ганны, жыве ў Маскве.

*«Калі б я быў султан...» — як пяецца ў песні з камедыі Гайдая (с. 141)* — Маецца на ўвазе фільм «Кавказская пленница, или Новые приключения Шурика» (1966) расійскага рэжысёра, народнага артыста СССР (1989) Леаніда Гайдая (1923–1993). «Если б я был султан» — песня на словы М. Дзербянёва, музыка А. Зацэпіна.

*Святы Аўгустын (с. 142)* — Аўгусцін Блажэнны (354–430) — філосаф, прапаведнік, хрысціянскі багаслоў; святы каталіцкай і праваслаўнай цэркваў.

*«Алах акбар!» (с. 142)* — Арабскі выраз, у перакладзе: «Бог найвялікшы!»

*...генеральны камісар Вільгельм Кубэ... (с. 142)* — Кубэ Вільгельм (1887–1943) — палітычны і дзяржаўны дзеяч нацысцкай Германіі; генеральны камісар Генеральнай акругі Беларусь Рэйхскамісарыята Остланд (1941–1943).

*Зрабілі гэта жаўнеры Арміі Краёвай... (с. 143)* — Армія Краёва была створана па загадзе польскага эміграцыйнага ўрада ў Лондане ў лютым 1942 г. Дзейнасць яе падпарадкоўвалася задачы аднаўлення Польскай дзяржавы ў даваенных межах, г. зн. разам з Заходняй Беларуссю. У розныя перыяды акупацыі Армія Краёва выступала то супраць немцаў і Чырвонай Арміі, то на іх баку; гэтак жа вагалася стаўленне да яе нямецкіх акупантаў і савецкага падполля.

*Калі ў 1996 годзе хавалі Героя Савецкага Саюза А. Р. Мазанік, якая была непасрэднай выканаўцай забойства гаўляйтара... (с. 143)* — Мазанік Алена (1914–1996) — беларуская разведчыца; Герой Савецкага Саюза (1943).

*...«вырас пад гарматнымі стваламі»... (с. 143)* — Радок з верша С. Гаўрусёва «Я вырас пад гарматнымі стваламі».

*Мемуары Жукава... (с. 144)* — Мемуары Г. Жукава «Воспоминания и размышления» былі выдадзены ў 1969 г.

*...в разговорах с Василевским, Новиковым и Вороновым... (с. 145)* — Васілеўскі Аляксандр (1895–1977) — савецкі военачальнік; у 1942–1945 гг. — начальнік Генеральнага штаба; у 1949–1953 гг. — міністр Узброеных сіл і ваенны міністр СССР; маршал Савецкага Саюза (1943); Герой Савецкага Саюза (1944, 1945). Новікаў Аляксандр (1900–1976) — савецкі военачальнік; Галоўны маршал авіяцыі (1944); Герой Савецкага Саюза (1945, 1945); у 1946 г. быў арыштаваны па сфабрыкаванай «авіяцыйнай справе» і асуджаны да пяці гадоў няволі; у 1953 г. рэабілітаваны і ўзноўлены ў званні. Воранаў Мікалай (1899–1968) — савецкі военачальнік; Галоўны маршал артылерыі (1944); Герой Савецкага Саюза (1965).

*...я никогда не приписывал себе операцию в Крыму. Если где-либо и шла речь, то это относилось к операции под станицей Крымской, которую я проводил по Вашему поручению (с. 145)* — Крымская аперацыя 1944 г. — наступальная аперацыя савецкіх войск з мэтай вызвалення Крыма ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў падчас Вялікай Айчыннай вайны; ніякага дачынення да гэтай аперацыі Г. Жукаў не меў.

*Добра, што пра пасляваенную сталінскую апалу, пад якую падпаў Жукаў... (с. 146)* — У чэрвені 1946 г. Г. Жукаў, пазбаўлены пасады Галоўнакамандуючага сухапутнымі войскамі, быў прызначаны на пасаду камандуючага войскамі Адэскай акругі. З 1948 г. — камандуючы Уральскай ваеннай акругай. У 1953 г., пасля смерці І. Сталіна, — першы намеснік міністра абароны СССР.

*...я ўпершыню пачуў ад Кіма Хадзеева — ці не адзінага беларускага дысідэнта (с. 146)* — Хадзееў Кім (1929–2001) — беларускі філосаф, культуролаг. Двойчы арыштаваны (1948, 1962).

*...у гады так званай «хрушчоўскай адлігі»... (с. 146)* — «Хрушчоўская адліга» — вызначэнне гістарычнага перыяду ў грамадска-палітычным развіцці СССР пасля смерці І. Сталіна, якое было дадзена расійскім пісьменнікам І. Эрэнбургам у аповесці «Оттепель» (1954) і якое было звязана з імем 1-га сакратара ЦК КПСС М. Хрушчова.

*Трыццаць тысяч салдацікаў паклаў маршал Жукаў па загадзе генералісімуса Сталіна толькі пры штурме Зеелаўскіх вышыняў пад Берлінам (с. 146)* — Баі за Зеелаўскія вышыні — пачатковая фаза Берлінскай наступальнай аперацыі (16 красавіка — 8 мая 1945). Зеелаўскія вышыні — шматлікія пагоркі паблізу ад нямецкага г. Зеелаў, 90 км на ўсход ад Берліна. Баі за вышыні працягваліся тры дні (16–19 красавіка). Увогуле страты ў Берлінскай аперацыі — больш за 350 тыс. (з іх забітымі — каля 80 тыс.).

*Таісія Бондар, Раіса Баравікова (с. 148)* — Бондар Таіса (1945–2005) — беларуская паэтка, празаік. Баравікова Раіса (нар. у 1947) — беларуская паэтка, празаік; пасля стварэння рэдакцыйна-выдавецкай установы «Літаратура і Мастацтва» была прызначана галоўным рэдактарам часопіса «Маладосць» (2002–2011).

*Еўдакія Лось (с. 148)* — Лось Еўдакія (1929–1977) — беларуская паэтка.

*З год таму мяне ўсур'ёз дапытвалі, ці не адмоўлюся ад верша «Паэтэсы»? Хтосьці там адмовіўся ад падараваных Таісай кніг, нехта — ад прысвечаных ёй карцін... (с. 148)* — У 2002–2005 гг. Т. Бондар была намеснікам, а затым дырэктарам (змяніла на гэтай пасадзе дэпутата С. Касцяна) створанай у 2002 г. Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь РВУ «Літаратура і мастацтва», у склад якой былі гвалтоўна ўключаны часопісы «Всемирная литература», «Маладосць», «Нёман», «Полымя» і газета «Літаратура і мастацтва». Па сутнасці, менавіта ў сувязі з узнікненнем арганізаванага ўладамі холдынга «ЛіМ» і адбыўся афіцыйны раскол паміж беларускімі пісьменнікамі, якія былі падзелены на «чэсных» і «нячэсных» (вызначэнне А. Лукашэнкі, упершыню выкарыстанае ім ў дачыненні да айчынных журналістаў): «чэсныя» не толькі занялі рэдакцыйныя месцы «нячэсных», але і адмовілі ім у публікацыях; зрэшты, шэраг славутых пісьменнікаў (Р. Барадулін, Я. Брыль, В. Быкаў) самі забралі свае творы з «экспрапрыяваных» уладамі рэдакцый і ў далейшым адмаўляліся друкавацца там. Такім чынам улады не толькі правялі цяпер ужо відавочны падзел паміж літаратарамі, але, па сутнасці, нацкавалі адных на другіх. Гэта быў пачатак адкрытай канфрантацыі (свае супраць сваіх), які ў далейшым прывёў да ўзнікнення яшчэ аднаго, праўладнага Саюза пісьменнікаў. У той час Т. Бондар гаварыла: «...старшее поколение, все эти маститые литераторы, уже давно все сказало. [...] И Брыль, и Быков (при всем моем глубочайшем уважении к этим авторам) уже много лет ничего не добавляют к тому, что было ими сделано. А то, что пишется, не придает высоты сделанному ими ранее. Их поколение в свое время никуда не пропускало наше поколение, а поколение 30–40-летних, не говоря уже о юных, им и вовсе не интересно». І тады ж, адказваючы на пытанне: «Иначе как тогда объяснить то, что произведения ряда авторов (к примеру, В. Быкова, В. Рязанова, В. Тараса и др.) уже сняты со страниц журналов?», тлумачыла: «...опять одни и те же имена. И если их произведения пока, временно (!) убраны, то только для того, чтобы уступить место тем, кто до этого практически не имел возможности напечататься. И в этом я не вижу ущемления прав. [...] ...“Игра в классики” — не для меня. Я упомянула, что старшее поколение уже сказало все. Люди, слава Богу, физически живы, но Литературы они больше не делают. [...] ...С огромной теплотой вспоминаю “последних могикан”, настоящих классиков, поколение Максима Танка. Они действительно видели (!) всех, кто шел за ними, и поддерживали талантливых. Я как-то сказала Быкову (за что он ужасно обиделся):

“Василий Владимирович, кого вы, такая глыба, со своим бесспорным авторитетом, поддержали из белорусских литераторов?” Никого никогда не читал и никогда никого не поддержал...»*

*Некалі песня савецкая была — мажорная, рамантычная, з прыпевам: «А нам не страшны ні вал дзявяты, ні холад вечнай мерзлаты! А мы рабяты, а мы рабяты шасцідзясятай шыраты!..» (с. 150)* — Фрагмент эсэ «Суомі». Упершыню: Някляеў У. Суомі // Народная воля. 2003. 18 ліп. — з аўтарскай анатацыяй: «Суомі, ці ў эпасе — Калева, ці ў сучаснай назве — Фінляндыя, як і Беларусь, — краіна Усходняй, а не, як камусьці, можа, здаецца, Заходняй Еўропы. Беларусь з Фінляндыяй, не маючы агульнай мяжы, знаходзяцца ў адным і тым жа часавым поясе. Але ў розных часах...

Задумаўшыся над тым, як яно сталася, што мы ў розных часах, я паспрабаваў параўнаць гісторыю беларусаў і фінаў: нашы шляхі, нашы лёсы. У іх столькі падабенства, яны так шмат у чым супадалі, што я здзівіўся: як жа так разышліся? З гэтага здзіўлення пачалася кніга, якую я час ад часу, урыўкамі — паміж вершамі і прозай — пішу... Не абяцаючы ні сабе, ні некаму, што дапішу да канца...» Напрыканцы эсэ было пазначана: «Працяг будзе», але ён не паследаваў. «А мы рабяты, а мы рабяты шасцідзясятай шыраты!..» — дакладней: песня «Ребята 70-й широты» на словы Л. Лучкіна, музыка С. Пажлакова.

*...каб выкрасці Лінду, маці Калевіпоэга (герой эстонскай міфалогіі, аналаг Кулерва, героя фінскага эпасу «Калевала») (с. 150)* — Калевіпоэг — у эстонскай міфалогіі асілак, сын асілка Калевы; змагар з нячыстай сілай, зрэдчас — з прыгнятальнікамі народа ці з іншаземнымі ворагамі. «Калевала» — карэла-фінскі паэтычны эпас, у аснову якога пакладзены карэльскія народныя эпічныя песні.

*Бог Уку (с. 150)* — Вярхоўны нябесны бог у эстонскай міфалогіі.

*У 1721 годзе ў горадзе Уусікаупункі (гэта зусім не так цяжка вымавіць, як здаецца) быў падпісаны мір паміж Расіяй і Швецыяй (с. 152)* — Фрагмент эсэ «Суомі». Упершыню: Някляеў У. Суомі // Народная воля. 2003. 18 ліп.

*Канфуцыя спыталі... (с. 153)* — Канфуцый (Кун цу; каля 551–479 да н. э.) — старажытнакітайскі філосаф, заснавальнік філасофскай школы канфуцыянства.

* Таиса Бондарь: У нашего народа особая миссия / инт. О. Мещеряковой с Т. Бондарь // 7 дней. 2002. 8 июня.

*Людвіг Вітгенштэйн (с. 153)* — Вітгенштэйн Людвіг (1889–1951) — аўстра-англійскі філосаф, адзін са стваральнікаў аналітычнай філасофіі.

*«Навошта дэбаты, навошта падлікі: Гілевіч — цыбаты, а Быкаў — вялікі» (с. 155)* — Эпіграма Р. Барадуліна.

*Спектаклі па п'есе Карнейчука «Фронт»... (с. 156)* — Карняйчук Аляксандр (1905–1972) — рускі пісьменнік; лаўрэат пяці Сталінскіх прэмій (1941, 1942, 1943, 1949, 1951) і Міжнароднай Ленінскай прэміі «За ўмацаванне міру між народамі» (1960).

*Барыс Пастарнак сходзіў на мхатаўскі спектакль... (с. 156)* — МХАТ — Маскоўскі мастацкі акадэмічны тэатр, які быў заснаваны ў 1898 г. З 1932 г. — МХАТ СССР імя М. Горкага. Пасля раздзялення тэатра ў 1987 г. узніклі МХАТ імя М. Горкага і МХАТ імя А. П. Чэхава (з 2004 — МХТ імя А. П. Чэхава).

*Гейдар (с. 156)* — Гейдар Джэмаль (нар. у 1947) — ісламскі філосаф, палітолаг, грамадскі дзеяч.

*...і ты маркіз дэ Гіз (с. 156)* — Можна мець на ўвазе і Франсуа І Латарынгскага (1519–1563) — французскага ваеннага і дзяржаўнага дзеяча часоў Рэлігійных войнаў у Францыі, і іншага маркіза дэ Гіза — паводле тлумачэння Някляева, істотнага значэння гэта не мае.

*...пераджыве Вальтэра... (с. 156)* — Вальтэр Мары Франсуа Аруэ (1694–1778) — французскі пісьменнік і філосаф.

*...грамадзянін Фушэ, міністр паліцыі ва ўрадзе Дырэкторыі... (с. 156)* — Фушэ Жозэф, герцаг Атранцкі (1759–1820) — французскі палітычны і дзяржаўны дзеяч; міністр паліцыі (прызначаўся на гэтую пасаду чатыры разы, у тым ліку Напалеонам і Людовікам XVIII).

*Бамаршэ (с. 156)* — Бамаршэ П'ер Агюстэн Карон (1732–1799) — французскі пісьменнік.

*Патэлефанавалі з Радыё «Свабода» з просьбай сказаць што-небудзь пра «Крыніцу», першую і другую... (с. 157)* — У 1992 г. выданне часопіса «Крыніца» было спынена, узноўлена ў ліпені 1994 г.

*...успомнілася адно: як ляжаў у шпіталі, амаль нерухомы... (с. 157)* — Вясной 1999 г., падчас падзей, якія разварочваліся вакол рэдакцыі

часопіса «Крыніца» і яе галоўнага рэдактара, у Някляева здарыўся інсульт, у выніку чаго ён патрапіў у бальніцу.

*Я стрымана адношуся да Алеся Сцяпанавіча Разанава — ён стрымана адносіцца да мяне. Прычына — у тым, што сталася ў рэдакцыі «Крыніцы» ў 1999 годзе (с. 157)* — Разанаў Алесь (нар. у 1947) — беларускі паэт; уваходзіў у склад рэдакцыі часопіса «Крыніца», які рэдагаваў Някляеў, быў намеснікам галоўнага рэдактара. Пасля таго як па загадзе Дзяржкамдруку Някляеў напрыканцы снежня 1998 г. быў звольнены, выконваючым абавязкі галоўнага рэдактара «Крыніцы» стаў А. Разанаў. У 2001 г. часова з’ехаў у Германію. Трэба адзначыць, што ў той час, калі Някляеў пасля прэзідэнцкіх выбараў 2010 г. гвалтоўна ўтрымліваўся ў засценках КДБ, Разанаў быў сярод тых, хто падпісаў калектыўны ліст з патрабаваннем забяспечыць арыштаванаму паэту неабходную медыцынскую дапамогу і вызваліць яго.

*Тут са мной твае «Палыновыя санеты» (с. 160)* — Цыкл вершаў Р. Барадуліна.

*«І зразумееш на чужых вятрах, што толькі дома ты і быў адзіны. Цяпер, як гук забытае лаціны, наводзіш на сябе самога страх» (с. 160)* — З верша Р. Барадуліна «І зразумееш на чужых вятрах...» (цыкл «Палыновыя санеты»).

*«Мне цяжка быць самім сабой былым. Жарсць сватае маю світанак шэры.*
*Я ўжо цяпер, як беспрытульны дым, перад якім пазачынялі дзверы» (с. 160)* — З верша Р. Барадуліна «І ад сябе паціху адстаю...» (цыкл «Палыновая санеты»). Дакладней:

Мне цяжка быць самім сабой, былым.
Мой новы страх дрыжыць, як той асіннік.
Жарсць сватае маю світанак шэры.
Я ўжо цяпер, як беспрытульны дым,
Перад якім пазачынялі дзверы.

*...а калі сам быў спытаўся ў Александроўскай... (с. 161)* — Александроўская Ларыса (1904–1980) — беларуская оперная спявачка; галоўны рэжысёр Беларускага тэатра опера і балета (з 1951); народная артыстка СССР (1940); лаўрэат Сталінскай прэміі 2-й ст. (1941). Працуючы ў Беларускім тэатральным аб’яднанні, Някляеў думаў запісаць успаміны Л. Александроўскай, але ў хуткім часе супрацоўнік

КДБ параіў яму не «...улазіць у мемуары Александроўскай. Яна старая і можа наплявузгаць ня тое, што трэба. Вінаваты будзеце вы»[*]. Зрэшты, існуе яшчэ адна прычына, чаму Някляеў не зрабіў запісу ўспамінаў — ён прызнаваўся: «...чалавек сталінскіх часоў, Ларыса Пампееўна ставіла такія кансьпіратыўныя ўмовы запісу яе ўспамінаў, што на тое, каб напісаць кнігу, спатрэбілася б гадоў пяць»[**]; «по молодости хотелось своим творчеством заниматься. Теперь понимаю, что не одной своей книжкой можно было пожертвовать ради этого»[***].

*І сказала, што не толькі ад Панамарэнкі... (с. 161)* — Панамарэнка Панцеляймон (1902–1984) — савецкі партыйны і дзяржаўны дзеяч; 1-шы сакратар ЦК КПБ (1938–1947).

*«Партызаны, партызаны, беларускія сыны...» (с. 161)* — Радкі з верша Я. Купалы «Беларускім партызанам».

*...да Станіслава Куняева (с. 161)* — Куняеў Станіслаў (нар. у 1932) — рускі паэт, публіцыст; галоўны рэдактар часопіса «Наш современник» (з 1989).

*Прочел рецензию Абрамыча (Барыса Слуцкага, які падтрымліваў Шклярэўскага ад самага ягонага прыезду ў Маскву) (с. 161)* — Слуцкі Барыс (1919–1986) — рускі паэт.

*Актрыса Ранеўская... (с. 162)* — Ранеўская Фаіна (1896–1984) — расійская актрыса; народная артыстка СССР.

*У Алега Чухонцава... (с. 162)* — Чухонцаў Алег (нар. у 1938) — расійскі паэт.

*...прыдуманы жонкай Блока (с. 162)* — Блок Любоў (у дзяв. Мендзялеева; 1881–1939) — актрыса, гісторык балета, жонка Аляксандра Блока, расійскага паэта.

---

[*] Паводле: Дубянецкі М. «Трэба рызыкаваць...»: дзённікавыя запісы 1985–1988 гадоў / падрыхт. да друку С. Дубянецкага; публ. М. М. Дубянецкай //Дзеяслоў. 2008. № 6 (37). С. 242.

[**] З інтэрв'ю У. Някляева Радыё «Свабода» 27 чэрв. 2006 г. Скобла М. Уладзімір Някляеў: Мая вэрсія: Янку Купалу забілі // Электронны рэсурс: http://www.svaboda.org/content/transcript/797093.html.

[***] Владимир Некляев: Смерть Купалы была выгодна многим / инт. Н. Белохвостик с В. Некляевым // «Комсомольская правда» в Белоруссии. 2006. 2–8 нояб.

*Ежы Лец (с. 163)* — Лец Станіслаў Ежы (1909–1966) — польскі паэт, філосаф, пісьменнік-сатырык.

*...раману «Лабух»... (с. 163)* — Напісана: люты 2002 — сакавік 2003, Расціла, Хельсінкі. Упершыню: Някляеў У. Лабух: раманчык. Мінск, 2003.

*Ліліт. Але гэтае імя прыватызаванае ў літаратуры Набокавым (с. 163)* — Ліліт — паводле кабалістычнай тэорыі, першая жонка Адама, першага чалавека, які быў створаны Богам. Набокаў Уладзімір (1899–1977) — рускі і амерыканскі празаік, паэт, перакладчык, які эміграваў з Расіі разам з сям'ёй у 1919 г. Пад «прыватызацыяй» імя Ліліт маецца на ўвазе раман Набокава «Лолита» (1955).

*У мастака Абеля Пана (Прэфермана)... (с. 163)* — Пан Абель (Федэрман Аба; 1883–1963) — ізраільскі мастак беларускага паходжання (нарадзіўся ў м. Крэслаўка Віцебскай губерні).

*...у Эдэме... (с. 163)* — Эдэм — у Бібліі райскі сад, месца першажыхарства людзей.

*Ева (с. 163)* — жонка Адама, якая была створана з яго рабра.

*Падымайся з нізін, сакаліна сям'я... (с. 166)* — Радкі з верша Я. Купалы «Маладая Беларусь».

*...мастакі Уладзімір Вішнеўскі і Рыгор Сітніца... (с. 166)* — Вішнеўскі Уладзімір (нар. у 1955) — беларускі мастак-графік. Сітніца Рыгор (нар. у 1958) — беларускі мастак, паэт.

*Стрыечны брат памёр. Яўген Магер (с. 166)* — Магер Яўген (1955–2006).

*Клаўдзія Шульжэнка (с. 167)* — Шульжэнка Клаўдзія (1906–1984) — расійская спявачка; народная артыстка СССР (1971).

*«Не говорите такие слова, я ведь могу рассердиться!..» (с. 167)* — Радкі з песні «Три вальса» (словы В. Драгунскага і Л. Давідовіча, музыка А. Цфасмана), у якой апавядаецца, вядома, пра іншае:

Помню первый студенческий бал, —
В светлом празднике актовый зал.
Помню голос такой молодой:
«Первый вальс я прошу вас со мной!»

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Мама, два брата студенты.
Угадайте... не секрет...
Не люблю комплиментов!
Не говорите такие слова,
Я ведь могу рассердиться!
Ох, как кружится голова,
Как голова кружится.

*...у фільме Жана-П'ера Жэнэ «Амелі»... (с. 167)* — «Амелі» — фільм французскага рэжысёра Жана-П'ера Жэнэ (2001).

*...чытаючы артыкул Ніла Гілевіча пра самога сябе пры публікацыі «Лысай гары» ў газеце «Народная воля» (с. 168)* — Гілевіч Н. Як быў напісаны «Сказ пры Лысую гару» // Народная воля. 2003. 30 жн.

*Якубовіч (с. 168)* — Якубовіч Павел (нар. у 1946) — беларускі журналіст, публіцыст; уваходзіў у склад рэдакцыі часопіса «Крыніца», які рэдагаваў Някляеў; з 1995 г. — галоўны рэдактар газеты «Советская Белоруссия» («СБ: Беларусь сегодня»). Лаўрэат прэміі прэзідэнта А. Лукашэнкі «За духовное возрождение» (2006).

*Караль Вайтыла (с. 168)* — Ян Павел II (свецкае імя Вайтыла Караль Ёзэф; 1920–2005) — Папа Рымскі, прадстаяцель Рымска-каталіцкай царквы (1978–2005).

*Ну, калі ўжо Хаім Вейцман, першы ізраільскі прэзідэнт, з Моталя (с. 168)* — Вейцман Хаім Азрыэль (1874–1952) — першы прэзідэнт Ізраіля (1949–1952). Нарадзіўся ў мястэчку Моталь, каля Пінска.

*Бураўкін у каторы раз распавядае пра тое, як яны з Вярцінскім збіралі подпісы пад лістом у абарону Быкава (с. 168)* — Размова пра падзеі 1966 г., калі пасля публікацыі аповесці В. Быкава «Мёртвым не баліць» у часопісе «Новый мир» (1966. № 1, 2) у газеце «Советская Белоруссия» (1966. 8 крас.) з'явіўся артыкул не толькі супраць аповесці — пад сумненне была пастаўлена практычна ўся творчасць пісьменніка. Артыкул «Вопреки правде жизни» быў надрукаваны без подпісу, што сведчыла аб тым, што матэрыял адлюстроўвае пазіцыю ЦК КПБ. На абарону В. Быкава паўсталі паэты Г. Бураўкін і А. Вярцінскі: напісаўшы ліст сакратару ЦК КПБ па ідэалогіі С. Пілатовічу, яны сабралі (разам з Н. Гілевічам) 53 подпісы літаратараў, у тым ліку Я. Брыля, А. Куляшова, М. Лынькова, І. Мележа і інш.

*Навуменка (с. 169)* — Навуменка Іван (1925–2007) — народны пісьменнік Беларусі (1995); у 1958–1969 гг. — старшы выкладчык, дацэнт кафедры беларускай літаратуры БДУ імя У. І. Леніна, пасля абароны доктарскай дысертацыі (1969) — прафесар, загадчык кафедры беларускай літаратуры тамсама (1969–1972).

*...з Аляксандрам Сімуравым, колішнім карэспандэнтам «Праўды» ў Беларусі (с. 169)* — Сімураў Аляксандр (1921–200?) — беларускі журналіст, загадчык карэспандэнцкага пункта газеты «Правда» ў Беларусі.

*Калі ўсчалася валтузня з Быкавым праз аповесць «Мёртвым не баліць», звоніць мне Кузьмін: «Зайдзі!..» Прыходжу, яшчэ ў парозе стаю, а ён адразу: «Трэба Быкава ў "Праўдзе" адмяцеліць...» (с. 170)* — У гэты час (1962–1971) А. Кузьмін быў загадчыкам аддзела агітацыі і прапаганды ЦК КПБ. Сапраўды, у 1966 г., пасля з'яўлення ў «Новом мире» аповесці «Мёртвым не баліць», у газеце «Правда» быў надрукаваны артыкул «Правда о великой войне» (1966. 17 крас.), у якім аповесць В. Быкава была названа «няўдачай аўтара» і «няўдача гэта — вынік сур'ёзных ідэйна-эстэтычных пralікаў пісьменніка». Але аўтарам гэтага артыкула быў тагачасны аспірант Акадэміі грамадскіх навук У. Сеўрук, да таго ж загад на з'яўленне артыкула быў дадзены не ў Мінску, а ў Маскве — у аддзелах прапаганды і культуры ЦК КПСС. Імя В. Быкава негатыўна прыгадвалася на старонках «Праўды» ў другі раз у 1967 г. — цяпер ужо ў рэдакцыйным артыкуле «Когда отстают от времени» (27 студз.), але гэты артыкул быў накіраваны ў першую чаргу супраць часопіса «Новый мир», а не асабіста Быкава.

*Сахараў (с. 170)* — Сахараў Андрэй (1921–1989) — расійскі фізік і грамадскі дзеяч, дысідэнт, праваабаронца; адзін са стваральнікаў першай савецкай вадароднай бомбы; лаўрэат Нобелеўскай прэміі міру (1975). У 1980 г. без суда быў сасланы ў г. Горкі; тады ж за антысавецкую дзейнасць быў пазбаўлены звання тройчы Героя Сацыялістычнай Працы (1953, 1956, 1962) і званняў лаўрэата Сталінскай (1953) і Ленінскай (1956) прэмій. Вярнуўся ў Маскву напрыканцы 1986 г. з дазволу Генеральнага сакратара ЦК КПСС М. Гарбачова.

*Бо Ціхан Кісялёў, які змяніў Машэрава... (с. 170)* — Кісялёў Ціхан (1917–1983) — беларускі партыйны і дзяржаўны дзеяч; намеснік старшыні Савета Міністраў БССР (1978–1980); 1-шы сакратар ЦК КПБ (1980–1983).

*Вітаўт Кіпель (с. 171)* — Кіпель Вітаўт (нар. у 1927) — беларускі гісторык, бібліёграф, грамадскі дзеяч беларускай эміграцыі, дырэктар Беларускага інстытута навукі і мастацтва (Нью-Ёрк, ЗША).

*Аляксандр Старыкевіч (с. 172)* — Старыкевіч Аляксандр (нар. у 1972) — беларускі журналіст; галоўны рэдактар газет «Беларускі час» (2000–2003), «Салідарнасць» (з 2003). Сябра Рады Беларускай Народнай Рэспублікі.

*...які Казуліна судзіў... (с. 172)* — Казулін Аляксандр (нар. у 1955) — беларускі грамадскі і палітычны дзеяч; кандыдат фізіка-матэматычных навук (1988), доктар педагагічных навук (1996); рэктар Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта (1996–2003); у 2005–2008 гг. — старшыня Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Грамада); у 2006 г. — кандыдат у прэзідэнты Рэспублікі Беларусь. 25 сакавіка 2006 г. падчас масавых выступленняў грамадзян супраць афіцыйных вынікаў прэзідэнцкіх выбараў быў арыштаваны і пакараны пяццю з паловай гадамі пазбаўлення волі «за злачыннае хуліганства і арганізацыю масавых беспарадкаў». У 2008 г. на падставе прэзідэнцкага ўказа памілаваны.

*Памёр Барыс Ельцын (с. 173)* — Ельцын Барыс (1931–2007) — расійскі партыйны і дзяржаўны дзеяч; першы сакратар Свярдлоўскага абкама КПСС (1976–1985); першы прэзідэнт Расійскай Федэрацыі (1991–1999).

*М. Ульянаў (с. 173)* — Ульянаў Міхаіл (1927–2007) — расійскі акцёр; народны артыст СССР (1969).

*...з рускім празаікам Юрыем Скопам... (с. 174)* — Скоп Юрый (нар. у 1936) — расійскі пісьменнік, кінадраматург.

*З’ездзілі ў Глушу... (с. 175)* — родная вёска А. Адамовіча (Бабруйскі раён Магілёўскай вобл.), куды сям’я Адамовічаў пераехала ў 1928 г. з в. Канюхі Копыльскага раёна Мінскай вобл., дзе і нарадзіўся А. Адамовіч.

*Букчын, Гарэцкі, Вярцінскі, Законнікаў, Тычына, Тарас, Наталля Адамовіч (с. 175)* — Букчын Сямён (Самуіл; нар. у 1941) — беларускі пісьменнік расійскага паходжання (нарадзіўся ў с. Валаконаўка Валаконаўскага раёна Курскай вобл.). Гарэцкі Радзім (нар. у 1928) — бела-

рускі вучоны, грамадскі дзеяч. Вярцінскі Анатоль (нар. у 1931) — беларускі паэт. Законнікаў Сяргей (нар. у 1946) — беларускі паэт, публіцыст; у 1986–2002 гг. — галоўны рэдактар часопіса «Полымя». Тычына Міхась (Міхаіл; нар. у 1943) — беларускі крытык, літаратуразнавец, празаік; стрыечны брат А. Адамовіча. Тарас Валянцін (1930–2009) — беларускі паэт, перакладчык. Наталля Адамовіч (нар. у 1954) — дачка А. Адамовіча.

*Уладзімір Калеснік (с. 176)* — Калеснік Уладзімір (1922–1994) — беларускі крытык, літаратуразнаўца, пісьменнік; загадчык кафедры літаратуры Брэсцкага педагагічнага інстытута (1956–1988); сакратар Брэсцкага абласнога аддзялення СП БССР (1956–1970).

*Па Парыжах катаюся, пра Луўр расказваю. Як Сейфуліна (с. 176)* — Сейфуліна Лідзія (1889–1954) — расійская пісьменніца.

*У артыкуле Янкі Пазняка... (с. 177)* — Пазняк Ян (1877–1939?) — палітычны і культурны дзеяч, публіцыст. Дзед вядомага беларускага палітыка Зянона Пазняка.

*Тэлефануе Наталля Шарангovіч і просіць напісаць успаміны пра Міколу Селяшчука. Выдавецтва «Мастацкая літаратура» выдае кнігу да ягонага юбілею (с. 178)* — Шаранговіч Наталля (нар. у 1967) — беларускі мастацтвазнаўца; дырэктар Музея сучаснага выяўленчага мастацтва; лаўрэат Спецыяльнай прэміі прэзідэнта Рэспублікі Беларусь дзеячам культуры і мастацтва. Селяшчук Мікалай (1947–1996) — беларускі мастак. Размова ідзе пра кнігу «Мікола Селяшчук. Гучанне паэзіі нябёсаў: успаміны, эсэ, дзённікі» (уклад. Н. Шаранговіч. Мінск: Мастацкая літаратура, 2007).

*«Жыву над акіянам», — часцяком казаў Мікола Селяшчук і гэтаксама сказаў, калі я знаёміў яго з актрысай Святланай Сухавей (с. 178)* — Фрагмент эсэ «Партрэт карабля». Упершыню: Наша Ніва. 2008. № 5. Сухавей Святлана (нар. у 1952) — беларуская актрыса; заслужаная артыстка Беларусі.

*Адну з маіх кніг («Знак аховы») афармляў Мікола Селяшчук (с. 178)* — Знак аховы. Мінск: Мастацкая літаратура, 1983.

*...адсвяткаваць выхад сваёй кнігі «Пара любові і жалю»... (с. 179)* — Янішчыц Я. Пара любові і жалю: кніга лірыкі. Мінск: Мастацкая літаратура, 1983.

*...Раіса Баравікова, у якой ці не ў той жа год выйшаў у афармленні Селяшчука зборнік вершаў «Такое кароткае лета»... (с. 179)* — Баравікова Р. Такое кароткае лета: лірыка. Мінск: Мастацкая літаратура, 1981.

*Мой родны!.. Бог табе суддзя... (с. 179)* — Радкі з верша Някляева «Мне трыццаць. Час настаў такі...»

*Зусім незадоўга да сваёй трагічнай сустрэчы з Тырэнскім морам... (с. 179)*— М. Селяшчук загінуў у Тырэнскім моры — яго захліснула хваля.

*Фелікс Янушкевіч, Уладзімір Тоўсцік, Уладзімір Савіч, Георгій Скрыпнічэнка (с. 180)* — Янушкевіч Фелікс (нар. у 1954), Тоўсцік Уладзімір (нар. у 1949), Савіч Уладзімір (нар. у 1952), Скрыпнічэнка Георгій (нар. у 1940) — беларускія мастакі.

*...як паміж Сцылаю і Харыбдай... (с. 180)* — Марскія пачвары ў старажытнагрэчаскай міфалогіі.

*Гэта пачатак аповесці «Пуціна» Барыса Пятровіча, першае апавяданне якога надрукаваў я некалі ў часопісе «Крыніца» (с. 182)* — Пятровіч Барыс (сапр. Сачанка Барыс Пятровіч; нар. у 1959) — беларускі пісьменнік; галоўны рэдактар часопіса «Дзеяслоў»; старшыня Саюза беларускіх пісьменнікаў (з 2011). Першае яго апавяданне, «Успамін. Яблыкі», надрукавана: Крыніца. 1988. № 8.

*Паміраючы ад раку, Яўген Будзінас... (с. 182)* — Будзінас Яўген (1944–2007) — беларускі празаік, публіцыст, бізнесовец, стваральнік культурна-краязнаўчай сядзібы «Дудуткі».

*...песні Акуджавы... (с. 182)* — Акуджава Булат (1924–1997) — расійскі паэт, бард, празаік.

*«И друзей созову, на печаль свое сердце настрою...» (с. 182)* — Радкі з песні Б. Акуджавы «Грузинская песня».

*Ці песня Лазы «На маленьком плоту...» (с. 182)* — Лаза Юрый (нар. у 1954) — расійскі спявак, паэт, кампазітар. Дакладней — песня «Плот».

*Памёр Мікола Сідаровіч (с. 183)* — Сідаровіч Мікалай (1947–2008) — беларускі журналіст; блізкі сябар Някляева. Яму прысвечаны верш Някляева «Святкуем дзень сустрэч...» (1973).

*З Віктарам Ледзеневым... (с. 183)* — Ле́дзенеў Віктар (нар. у 1941) — беларускі журналіст, пісьменнік. Адзін з прататыпаў аповесці Някляева «Аўтамат з газіроўкай з сіропам і без». Да ягонай кнігі прозы «Очки» (Минск: Ковчег, 2010) Някляеў напісаў прадмову «Мой друг Виктор Леденев».

*А імя жанчыны з гэтай легенды — Ірына Казуліна, да шлюбу — Сабалеўская (с. 184)* — Казуліна Ірына (1959–2008) — жонка А. Казуліна.

*Не стала Уладзіміра Будніка... (с. 184)* — Буднік Уладзімір (1949–2007) — беларускі кампазітар. Напісаў у суаўтарстве з Някляевым шэраг песень: «Землякі», «Зямляне», «Зямля мая белакрылая», «На мяжы расстаняў і сустрэч», «Янка Купала» ды інш.

*...«Сядай, на ім Радзівіл сядзеў!..» (с. 185)* — Відаць, маецца на ўвазе абагулена: Радзівілы — славуты беларускі магнацкі род, вядомы з часоў Вялікага Княства Літоўскага.

*...але ўрэшце Шпянёў з Палівода у аранжыроўцы і Кудрын у вакале... (с. 185)* — Шпянёў Андрэй (нар. у 1941) — беларускі музыкант, аранжыроўшчык, артыст Дзяржаўнага канцэртнага аркестра Беларусі. Палівода Ігар (1950–1996) — беларускі кампазітар, музыкант, аранжыроўшчык; артыст ансамбля «Песняры»; напісаў у суаўтарстве з Някляевым шэраг песень, у тым ліку «Милую тебя». Кудрын Уладзімір — беларускі спявак, першы выканаўца песні У. Будніка і У. Някляева «Янка Купала»; напрыканцы 1990-х гг. эміграваў у Аўстралію.

*...я паказаў песню Ціхановічу (с. 185)* — Ціхановіч Аляксандр (нар. у 1952) — беларускі эстрадны спявак, удзельнік ансамбля «Верасы» (1973–1986); народны артыст Беларусі (2006). Напісаў у суаўтарстве з Някляевым песню «Сінь-васількі».

*Гэты сяржант Рыбакоў (дарэчы, з гэткім жа прозвішчам і суддзя, які прыгаварыў Казуліна, і колішні тэлеідэолаг... (с. 186)* — Пад тэлеідэолагам маецца на ўвазе Ягор Рыбакоў (нар. у 1971) — у 2001–2004 гг. старшыня Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі Рэспублікі Беларусь. У 2005 г. асуджаны на 11 гадоў пазбаўлення волі ў калоніі ўзмоцненага рэжыму і з канфіскацыяй маёмасці. У лютым 2010 г. датэрмінова вызвалены.

*...з Бураўкіным ды Іосіфам Навумчыкам... (с. 187)* — Навумчык Іосіф (нар. у 1938) — старшыня Віцебскай абласной рады Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны.

*«Глядзяць зялёнымі вачыма, як незанятыя таксі...» — уладзівастоцкія вершы Барадуліна... (с. 187)* — Радкі з верша Р. Барадуліна «Порт», які быў напісаны ва Уладзівастоку (Расія), дзе Барадулін разам з беларускімі пісьменнікамі У. Караткевічам і Г. Кляўко праходзіў у жніўні-верасні 1965 г. вайсковыя зборы ў «Боевой вахте», штодзённай газеце Ціхаакіянскага флоту.

*На апошнім (2008) Чарнобыльскім шляху (с. 188)* — Чарнобыльскі шлях — пачынаючы з 1989 г., штогадовае шэсце беларускай апазіцыі, прымеркаванае да гадавіны аварыі на Чарнобыльскай АЭС (26 красавіка 1986).

*Паехалі ў нядзелю (11.05.08) у вёску Забалоцце, дзе жыве Таццяна Процька (с. 188)* — Процька Таццяна (нар. у 1951) — беларускі гісторык, грамадскі дзеяч, праваабаронца; старшыня Беларускага Хельсінскага камітэта (1995–2008).

*У Менск я вяртаўся з Мечыславам Грыбам, які спытаў, ці чытаў я ўспаміны Кебіча? (с. 188)* — Грыб Мечыслаў (нар. у 1936) — У 1985–1990 гг. — начальнік упраўлення ўнутраных спраў Віцебскага аблвыканкама; з 1990 г. — дэпутат Вярхоўнага Савета БССР (з 1991 г. — Рэспублікі Беларусь); старшыня Вярхоўнага Савета Беларусі (1994–1996); член Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Народная Грамада) (1996–2001); генерал-лейтэнант міліцыі (1993). Кебіч Вячаслаў (нар. у 1936) — беларускі палітычны і дзяржаўны дзеяч; старшыня Савета Міністраў БССР (1990–1991); прэм'ер-міністр Беларусі (1991–1994); пасля паразы на прэзідэнцкіх выбарах 1994 г. узначаліў гандлёва-фінансавы саюз; член Палаты прадстаўнікоў Рэспублікі Беларусь (1996–2004).

*У Язэпа Янушкевіча ў Ракаве... (с. 189)* — Янушкевіч Язэп (нар. у 1959) — беларускі літаратуразнавец, археограф; кандыдат філалагічных навук (1987). Ракаў — мястэчка ў 35 км ад Мінска (Валожынскі раён).

*...сустракаю Уладзіміра Яварыўскага (с. 191)* — Яварыўскі Уладзімір (нар. у 1942) — украінскі пісьменнік, публіцыст; з 2001 г. старшыня Нацыянальнага Саюза пісьменнікаў Украіны.

*Ягоны наместнік Анатоль Крым... (с. 191)* — Крым Анатоль (нар. у 1946) — украінскі драматург; з 2004 г. — сакратар Нацыянальнага Саюза пісьменнікаў Украіны.

*Бёлль, встречая, говорит... (с. 191)* — Бёль Генрых Тэадор (1917–1985) — нямецкі пісьменнік; лаўрэат Нобелеўскай прэміі па літаратуры (1972).

*На прэзентацыю кнігі (17.09.08) Валерыя Казакова «Цень гобліна» прыехаў (дакладней, Казакоў яго прывёз) Уладзімір Беразеў — паэт і рэдактар часопіса «Сибирские огни» (с. 194)* — Казакоў Валерый (нар. у 1952) — расійскі пісьменнік беларускага паходжання; палкоўнік у адстаўцы; памочнік паўнамоцнага прадстаўніка прэзідэнта Расіі ў Сібірскай федэральнай акрузе; старшыня Федэральнай нацыянальна-культурнай аўтаноміі «Беларусы Расіі»; давераная асоба кандыдата ў прэзідэнты У. Пуціна (2012). Беразеў Уладзімір (нар. у 1959) — расійскі паэт, эсэіст, перакладчык, публіцыст; галоўны рэдактар часопіса «Сибирские огни».

*Украдут жену, пророк умрет... (с. 194)* — Страфа з верша «Он пожаром Трои опален» У. Беразева.

*Чаргінец (с. 194)* — Чаргінец Мікалай (нар. у 1937) — у 1987–1993 гг. — начальнік упраўлення ўнутраных спраў на транспарце МУС Беларусі; у 1997–2008 гг. — старшыня пастаяннай камісіі Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь па міжнародных справах і нацыянальнай бяспецы; з 2005 г. — старшыня праўладнага Саюза пісьменнікаў Беларусі.

*...вершы Паўло Вольвача... (с. 196)* — Вольвач Павел (нар. у 1963) — украінскі паэт, празаік.

*...І вустами куль і межиріч... (с. 196)* — Радкі з верша П. Вольвача «Віриться не вітрові — стіні...»

*...артыкул Алега Раманчука (рэдактара часопіса «Універсум») (с. 197)* — Раманчук Алег — украінскі журналіст, публіцыст, пісьменнік.

*Ющанка падпісаў указ аб правядзенні датэрміновых парламенцкіх выбараў, урад (Цімашэнка) не дае на іх грошай (с. 197)* — Ющанка Віктар (нар. у 1954) — украінскі палітычны і дзяржаўны дзеяч; прэм’ер-міністр Украіны (1999–2001); прэзідэнт Украіны (2004–2010). Цімашэнка Юлія (нар. у 1960) — украінскі палітычны і дзяржаўны дзеяч;

прэм'ер-міністр Украіны (2005; 2007–2010); адна з кіраўнікоў «Аранжавай рэвалюцыі» (2004); у 2011 г. асуджана на 7 гадоў пазбаўлення волі за злоўжыванне ўладай і службовымі паўнамоцтвамі.

*Дзмітро Паўлычка абсалютна дакладна прачытаў скразную метафару верша «Ляўкі»... (с. 197)* — Паўлычка Дзмітро (Дзмітрый; нар. у 1929) — украінскі паэт, публіцыст. «Ляўкі» — верш Някляева.

*Праз гэты вобраз можна ўбачыць і Паўло Тычыну ды Максіма Рыльскага, Уладзіміра Сасюру ды Андрэя Малышку... (с. 197)* — Тычына Паўло (1891–1967) — украінскі паэт і дзяржаўны дзеяч; наркам адукацыі УССР (1943–1948); старшыня Вярхоўнага Савета УССР (1953–1959); дырэктар Інстытута літаратуры АН УССР. Рыльскі Максім (1895–1964) — украінскі паэт, класік украінскай паэзіі; у 1920-я гг. належаў да аб'яднання «неакласікаў», якое падвяргалася афіцыйнаму пераследу за адарванасць ад праблем сацыялізму; у 1931 г. быў арыштаваны і амаль год правёў у турме, пасля выхаду з якой змяніў накірунак сваёй творчасці. Сасюра Уладзімір (1897/1898–1965) — украінскі паэт; у 1951 г. стаў аб'ектам шальмавання ў газеце «Правда», якая абвінавачвала У. Сасюру ў «буржуазным нацыяналізме» за верш «Любіть Україну». Малышка Андрэй (1912–1970) — украінскі паэт.

*...пры першай публікацыі ў часопісе «Полымя»... (с. 198)* — Полымя. 1982. № 6.

*Праз сем гадоў па напісанні дастаў з шуфляды і перачытаў драму «Армагедон». Не ў тых варыянтах, якія прапаноўваў для тэатра і Раеўскаму, і Луцэнку... (с. 199)* — Драма «Армагедон» напісана ў Фінляндыі; упершыню: Дзеяслоў. 2010. № 1(44)—4(47). Раеўскі Валерый (1939–2011) — беларускі тэатральны рэжысёр; мастацкі кіраўнік Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Я. Купалы (1991–2009); народны артыст Беларусі (1998). Луцэнка Барыс (нар. у 1947) — беларускі тэатральны рэжысёр; у 1991–2008 гг. — мастацкі кіраўнік, з 2008 г. — рэжысёр-пастаноўшчык Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя М. Горкага; народны артыст Беларусі (1995).

*...стоячы ў Маскве каля нанава адбудаванага ў 2000 годзе храма Хрыста... (с. 199)* — Кафедральны Саборны храм Хрыста Збаўцы (сабор Раджджаства Хрыстова) быў закладзены ў 1839 г. у знак удзячнасці Богу за выратаванне Расіі ад напалеонаўскага нашэсця, асвечаны ў 1883 г. У 1931 г. зруйнаваны. Зноў адбудаваны ў 1994–1997 гг.

*...палац гэты на 350 метраў вышэйшы за Эйфелеву вежу і толькі трохі ніжэйшы за гару Эльбрус (с. 200)* — Эйфелева вежа (Парыж, Францыя) вышынёй 300 м. Эльбрус (Каўказ; Расія) вышынёй 5642 м.

*Казько (с. 201)* — Казько Віктар (нар. у 1940) — беларускі пісьменнік.

*Абралі, як я і прапанаваў, Андрэя Хадановіча (с. 201)* — Хадановіч Андрэй (нар. у 1973) — беларускі паэт, перакладчык; старшыня Беларускага ПЭН-цэнтра (з 2008).

*...арганізаваным няўрымслівым Яўгенам Вапам (с. 202)* — Вапа Яўген (нар. у 1965) — грамадскі дзеяч беларускай дыяспары ў Польшчы; старшыня Беларускага саюза ў Польшчы (з 1995); галоўны рэдактар тыднёвіка беларусаў Польшчы «Ніва» (Беласток, Польшча); старшыня праўлення Радыё Рацыя; сябра Вялікай рады Міжнароднага грамадскага аб'яднання «Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына"».

*Алесь Пашкевіч, Міхась Скобла ды Алена Макоўская (с. 202)* — Пашкевіч Алесь (Аляксандр; нар. у 1972) — беларускі пісьменнік; у 2002–2011 гг. — старшыня, з 2011 г. — намеснік старшыні Саюза беларускіх пісьменнікаў. Скобла Міхась (нар. у 1966) — беларускі паэт, літаратуразнавец, даследчык літаратуры. Макоўская Алена (нар. у 1970) — старшыня праўлення Міжнароднага грамадскага аб'яднання «Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына"».

*Міхась Андрасюк (с. 202)* — Андрасюк Міхась (нар. у 1959) — беларускі пісьменнік польскага паходжання. Жыве ў Польшчы. Піша на беларускай і польскай мовах.

*...да памежна-правінцыйнай кінастылістыкі Кустурыцы... (с. 202)* — Кустурыца Эмір (нар. у 1954) — сербскі кінарэжысёр баснійскага паходжання.

*Міра Лукша і Віктар Стахвюк (с. 202)* — Лукша Міра (нар. у 1958) — беларуская журналістка і пісьменніца польскага паходжання; жыве ў Польшчы; піша на беларускай і польскай мовах. Стахвюк Віктар (нар. у 1948) — беларускі пісьменнік і дзеяч польскага паходжання; дырэктар Радыё Рацыя (1999–2002, 2006–2008); жыве ў Польшчы; піша на беларускай мове.

*Слаўнае дзяўчо Ілона Карпюк... (с. 202)* — Карпюк Ілона — беларуская журналістка і спявачка польскага паходжання. Жыве ў Польшчы.

*...і не адзін Сакрат Яновіч... (с. 202)* — Яновіч Сакрат (1936–2013) — польскі пісьменнік беларускага паходжання; галоўны рэдактар часопіса «Czasopis» (Беласток, Польшча); пісаў на беларускай і польскай мовах.

*...пахавалі Ніну Мацяш (с. 203)* — Мацяш Ніна (1943–2008) — беларуская паэтка.

*«Раз'ясніваўся дзень, і ноч растаць хацела, Але твая сляза ў маю слязу глядзела...» (с. 204)* — Радкі з верша Н. Мацяш «Але твая сляза». Дакладней:

Выясніваўся дзень. І ноч растаць хацела.
...О, як твая сляза ў маю слязу глядзела!

*Так зусім нечакана ад першага сказа да апошняга напісалася апавяданне «Цмок» (с. 204)* — Напісана: 2009, Масква — Менск. Упершыню: Дзеяслоў. 2009. № 2 (39). С. 45–48.

*«Раённыя спаборніцтвы» апавяданне не назвалася. Назвалася «Алімпійскія гульні» (с. 204)* — Напісана: 25.02–1.03.2009, Менск. Упершыню: Дзеяслоў. 2009. № 2 (39). С. 62–79.

*...кніга «Цэнтр Еўропы» (с. 205)* — Някляеў У. Цэнтр Еўропы: апавяданні, аповесці. Мінск: Медысонт, 2009 (бібл-ка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; вып. 1).

*Рабінзон у Дэфо... (с. 205)* — Рабінзон Круза — герой рамана «Рабінзон Круза» Даніэля Дэфо (каля 1660–1731), англійскага пісьменніка.

*...хмуро проговорил Битов... (с. 206)* — Бітаў Андрэй (нар. у 1937) — расійскі пісьменнік; прэзідэнт Рускага ПЭН-цэнтра (з 1991).

*Днём тэлефануе Алег Шклярэўскі (с. 208)* — Шклярэўскі Алег — беларускі фотамастак, кінарэжысёр.

*На ўстаноўчым з'ездзе партыі БХД, створанай высілкамі Паўла Севярынца... (с. 208)* — Севярынец Павел (нар. у 1976) — беларускі моладзевы хрысціянскі палітык, публіцыст; адзін з заснавальнікаў, з 1997 г. — сустаршыня, у 1999–2004 гг. — старшыня «Маладога фронту»; з 2005 г. — сустаршыня партыі «Беларуская хрысціянская дэмакратыя». У 2005 г. асуджаны да 3-х гадоў абмежавання волі за арганізацыю акцый пратэсту супраць балатавання А. Лукашэнкі на 3-ці прэзідэнцкі тэрмін; у 2007 г. амніставаны. У 2011 г. зноў асуджаны

да 3-х гадоў абмежавання волі за арганізацыю акцый пратэсту пасля прэзідэнцкіх выбараў 19 снежня 2010 г.

*Кастусю Тарасаву цяжка пасля інсульту... (с. 209)* — Тарасаў Кастусь (Канстанцін; 1940–2010) — беларускі пісьменнік; уваходзіў у склад рэдакцыі часопіса «Крыніца», які рэдагаваў Някляеў.

*...з дакладам першага сакратара выканкама МПС Івана Пераверзіна... (с. 210)* — Пераверзін Іван (нар. у 1953) — расійскі паэт, публіцыст; з 2000 г. — старшыня Літаратурнага фонда Расіі; старшыня выканкама Міжнароднага таварыства пісьменніцкіх саюзаў.

*...гл. крымінальную антрапалогію Ч. Ламброзы... (с. 210)* — Ламброза Чэзара (1835–1909) — італьянскі турэмны ўрач-псіхіятр, стваральнік антрапалагічнай плыні ў крыміналістыцы і крымінальным праве.

*...«напутственным» словам Сяргея Уладзіміравіча (старшыні МПС Сяргея Міхалкова)... (с. 210)* — Міхалкоў Сяргей (1913–2009) — расійскі паэт, байкапісец, аўтар гімнаў СССР і Расійскай Федэрацыі; 1-шы сакратар праўлення Маскоўскай арганізацыі Саюза пісьменнікаў РСФСР (1965–1970); старшыня Саюза пісьменнікаў РСФСР (з 1970); сустаршыня выканкама Таварыства пісьменніцкіх саюзаў (1992–1999); старшыня выканкама Міжнароднага таварыства пісьменніцкіх саюзаў (з 2005).

*За дом на Паварской, за ЦДЛ... (с. 211)* — Цэнтральны дом літаратара ў Маскве.

*...за Перадзелкіна... (с. 211)* — Маецца на ўвазе Дом творчасці пісьменнікаў «Переделкино», які знаходзіцца ў вядомым дачным пасёлку ў Маскоўскай вобл., дзе ў розны час жылі знакамітыя расійскія пісьменнікі: Б. Акуджава, Б. Ахмадуліна, І. Бабель, А. Вазнясенскі, Я. Еўтушэнка, М. Забалоцкі, В. Каверын, Р. Казакова, Л. Касіль, Б. Пастарнак, Б. Пільняк, К. Сіманаў, І. Эрэнбург і інш.

*...от жулика Гюлумяна... (с. 211)* — Гюлумян Рафаэль — былы дырэктар Міжнароднага літаратурнага фонду, які ў 2001 г. быў звольнены са сваёй пасады за фінансавыя злоўжыванні і судзіўся з МЛФ.

*...урыўкі з перапісанай нанава «Золотой блесны» — кнігі пра вечнае (с. 211)* — Кніга прозы І. Шклярэўскага.

*Некалі ўдвух вы, на пару, пераклалі «Песню пра зубра» (с. 211–212)* — «Песня пра зубра» — паэма Міколы Гусоўскага (каля 1470–1533),

паэта-лацініста беларускага паходжання, гуманіста і асветніка эпохі Адраджэння. Перакладзена на рускую мову С. Куняевым і І. Шкляроўскім, але — паасобку.

*Вадзім Кожынаў (с. 212)* — Кожынаў Вадзім (1930–2001) — расійскі крытык, літаратуразнавец.

*...Казіміра Малевіча з ягоным «Чорным квадратам»... (с. 212)* — Малевіч Казімір (1878/1879–1935) — расійскі мастак-авангардыст; заснавальнік супрэматызму. «Чорны квадрат» — найбольш знакамітая яго карціна.

*...у тым ліку на Пуціна... (с. 212)* — Пуцін Уладзімір (нар. у 1952) — расійскі палітычны і дзяржаўны дзеяч; старшыня ўрада Расійскай Федэрацыі (1999; 2008–2012); прэзідэнт Расійскай Федэрацыі (2000–2008, з 2012).

*...і рушыў з Пятром Кошалем... (с. 212)* — Кошаль Пётр (нар. у 1946) — расійскі пісьменнік і гісторык беларускага паходжання (нарадзіўся ў Слуцку).

*...на вуліцу Гвоздзева... (с. 212)* — Раней называлася — Глотаў завулак (паводле прозвішча аднаго з домаўладальнікаў); у 1964 г. перайменавана ў памяць пра расійскага рэвалюцыянера Міхаіла Гвоздзева (1886–1961).

*...фільм Рыбарава «Сведка» па матывах (як у цітрах напісана) «Суднага дня» Казько (сцэнарый Піна і таго ж Рыбарава) (с. 213)* — Рыбараў Валерый (нар. у 1943) — беларускі кінарэжысёр. Фін Павел (сапр. Фін-Хальвін; нар. у 1940) — расійскі журналіст, сцэнарыст. Дакладная назва фільма — «Сведка» (1986).

*...званок Васіля Раінчыка... (с. 213)* — Раінчык Васіль (нар. у 1950) — беларускі кампазітар, народны артыст Беларусі (1995); кіраўнік ансамбля «Верасы». Напісаў у суаўтарстве з Някляевым шэраг песень: «Караван», «Карнавал», «Любви прощальный бал», «Маладая зорка», «Музыка для всех», «Світальны анёл», «Храм» і інш.

*...Адаму Мальдзісу... (с. 214)* — Мальдзіс Адам (нар. у 1932) — беларускі літаратуразнавец, крытык, празаік; у 1962–1981 гг. — супрацоўнік Інстытута літаратуры імя Я. Купалы АН БССР.

*...першая дама адміністрацыі... (с. 215)* — Маецца на ўвазе Пяткевіч Наталля (нар. у 1972) — у 2004–2009 гг. — намеснік, у 2009–2011 гг. —

першы намеснік кіраўніка адміністрацыі прэзідэнта Рэспублікі Беларусь і старшыня Беларускага лыжнага саюза.

*Зміцер Вайцюшкевіч (с. 215)* — Вайцюшкевіч Зміцер (нар. у 1971) — беларускі спявак, кампазітар. Запісаў на вершы Някляева музычны альбом «Танга з ружай» (2006).

*...з паэмай да Філарэта... (с. 218)* — Мітрапаліт Філарэт (свецкае імя Вахрамееў Кірыл; нар. у 1935) — епіскап Рускай праваслаўнай царквы, з 1990 г. — прадстаяцель Рускай праваслаўнай царквы, Мітрапаліт Мінскі і Слуцкі, Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі.

*...паэма на Вялікдзень у газеце «Советская Белоруссия» была надрукаваная. З прысвячэннем крэўскай царкве, з каляровым фотаздымкам Алены Аляксандраўны, з віншаваннем... (с. 218)* — Магер У. Вялікдзень: Крэўскае паданне // СБ. Беларусь сегодня. 2009. 18 апр. Паэма (напісана: 16–19.01.2009, Крэва, Смаргонь, Менск) надрукавана з прысвячэннем: «Крэўскай Свята-Аляксандра-Неўскай царкве, у якой хрысціліся і адпяваліся бацькі мае, дзяды і прадзеды, ахвярую» і наступным віншаваннем: «Поздравляем старейшую прихожанку Кревской церкви Елену Александровну Магер со светлым праздником Пасхи и с 80-летием!»

*...біць кабана ў Крыўску (с. 219)* — Крыўск — вёска непадалёку ад Крэва (Смаргонскі раён).

*...дае мне зжоўклую выразку з газеты «Камсамольская праўда» за 6 кастрычніка 1953 года... (с. 221)* — Размова пра рэцэнзію Сяргея Смірнова «Ниже творческих возможностей».

*...з прапановай увайсці ў аргкамітэт па стварэнні «Беларускага дома» (с. 222)* — «Камунікат (Дамова аб намерах)» аб стварэнні «Беларускага дома» быў падпісаны старшынёй Саюза беларускіх пісьменнікаў А. Пашкевічам, старшынёй Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны А. Трусавым, старшынёй «Згуртавання беларусаў свету “Бацькаўшчына”» А. Марачкіным, У. Някляевым, А. Казуліным, Л. Акаловіч, С. Законнікавым, Г. Грушавым, А. Вярцінскім, У. Коласам, В. Мазынскім, Г. Бураўкіным. «Камунікат» прадугледжваў стварэнне Рэспубліканскага грамадскага аб’яднання «Беларускі дом» («добраахвотнай непалітычнай грамадскай арганізацыі грамадзянаў Беларусі, зацікаўленых у развіцці нацыянальнай духоўнасці, культуры

і самаідэнтыфікацыі, у адраджэнні беларускіх народных традыцый і актыўным інтэлектуальным самавыяўленні»), заснаванне Міжнароднага грамадскага аб'яднання «Беларускі дом» («з мэтамі кансалідацыі грамадска-культурніцкай дзейнасці беларускай метраполіі і нацыянальных дыяспар ды супрацоўніцтва з беларускімі дзеячамі культуры, інтэлектуаламі, якія жывуць за межамі Беларусі, а таксама прыцягнення міжнародных арганізацый і інстытутаў, фінансавых і камерцыйных структур дзеля лабіравання нацыянальных інтарэсаў Беларусі на міжнароднай арэне») і Унітарнага прадпрыемства «Беларускі дом» (асноўнымі задачамі якога павінны былі стаць: «распрацоўка і рэалізацыя культурніцкіх праектаў і праграм, накіраваных на дасягненне статутных мэтаў; аказанне інтэлектуальнай, маральнай, матэрыяльнай і сацыяльнай дапамогі носьбітам беларускай культуры і духоўнасці» і г. д.)*.

*Дубулты (с. 223)* — Дубулты — курортны пасёлак у Латвіі, дзе знаходзіўся Дом творчасці пісьменнікаў.

*...выправіў Людмілу з Евай... (с. 223)* — Някляева Людміла — першая жонка Някляева. Ева — дачка Някляева.

*Наш бедный стол... (с. 224)* — Радкі з верша А. Межырава «С войны».

*«В тумане скрылась милая Одесса, золотые огоньки...» (с. 224)* — Песня на словы А. Фацьянава, музыка В. Салаўёва-Сядога.

*Рыгор Барадулін даў мне рукапіс кнігі (каб я напісаў прадмову) з назвай «Паслаў бы табе душу» (с. 224)* — Прадмова Някляева «Матчына мова, матчына песня» да кнігі: Паслаў бы табе душу...: ліставанне Рыгора Барадуліна з мамай (1954–1971) / уклад. Н. Давыдзенкі, С. Шапрана. Мінск: Лімарыус, 2009. С. 5–6.

*Гэта ягонае ліставанне з маці ад 1954 года (калі ён паехаў вучыцца ў Менск) па 1971-шы — год смерці Куліны Андрэеўны (с. 224)* — Барадуліна Акуліна (1909–1971) — маці Р. Барадуліна.

*Руская (і нібыта нават народная) песня «Вечерний звон» (якую ў пачатку фільма В. Шукшына «Калина красная» спяваюць зэкі) — гэта насамрэч (першапачаткова) армянская народная песня... (с. 226)* — «Вечерний звон» — песня на верш І. Казлова, музыка А. Аляб'ева. Сапраўды, верш рускага паэта Івана Казлова з'яўляецца вольным перакладам

* Паводле копіі машынапісу з праўкамі Някляева і за подпісамі названых асоб. Архіў У. Някляева.

верша ірландскага англамоўнага паэта Томаса Мура. Таксама існуюць версіі, што першакрыніцай для Т. Мура была ці царкоўная песня грузінскага пісьменніка XI ст. Георгія Мтацміндэлі (Георгія Святагорца), ці тэкст армянскага паэта і манаха Грыгора Нарэкацы. Аднак факталагічных доказаў як адной, так і другой версіі не існуе, таму правільней было б казаць пра легенду ці пра міф. Шукшын Васіль (1929–1974) — расійскі пісьменнік, кінарэжысёр, акцёр.

*Рабіндранат Тагор (с. 226)* — Тагор Рабіндранат (1861–1941) — індзійскі пісьменнік, кампазітар і грамадскі дзеяч; лаўрэат Нобелеўскай прэміі па літаратуры (1913).

*Песню «Священная война» на пачатку Вялікай Айчыннай вайны напісаў Лебедзеў-Кумач... (с. 226)* — Лебедзеў-Кумач Васіль (сапр. Лебедзеў; 1898–1949) — расійскі паэт.

*...песню «Майскими короткими ночами» напрыканцы вайны — Салаўёў-Сівы (с. 226)* — Салаўёў-Сяды Васіль (сапр. Салаўёў; 1907–1979) — расійскі кампазітар; народны артыст СССР (1967).

*...сустракаю Ігара Лучанка (с. 227)* — Лучанок Ігар (нар. у 1938) — беларускі кампазітар; народны артыст Беларусі (1982); народны артыст СССР (1987); з 1980 г. — старшыня праўлення Саюза кампазітараў Беларусі. Напісаў у суаўтарстве з Някляевым шэраг песень, у тым ліку «Дажынкі», «Світанак».

*Уладзімір Кур'ян (с. 228)* — Кур'ян Уладзімір (нар. у 1954) — беларускі кампазітар, загадчык музычнай часткі Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Я. Купалы (з 1984). Напісаў музыку больш чым да пяцідзесяці спектакляў: «Тутэйшыя», «Смерць Кандзіда Тарэлкіна», «Ідылія», «Паехалі!», «Таполевая завея» і інш., а таксама рок-оперу «Масфан» і оперу «Фантазія».

*Калі за савецкім часам рэдагаваў я бюлетэнь «Тэатральны Мінск»... (с. 228)* — Бюлетэнь выдаваўся Беларускім тэатральным аб'яднаннем; Някляеў рэдагаваў «Тэатральны Мінск» у 1974–1975 гг.

*...опера Рыгора Пукста «Аповесць пра сапраўднага чалавека» (с. 229)* — Пукст Рыгор (1900–1960) — беларускі кампазітар.

*...ролю Аляксандра Мярэсьева... (с. 229)* — Герой «Повести о настоящем человеке» Барыса Палявога (сапр. Кампаў; 1908–1981), расійскага пісьменніка.

*...прызначыць замест Александроўскай Мікалая Яроменку (с. 229)* — Яроменка Мікалай (1926–2000) — беларускі акцёр; народны артыст СССР (1989).

*...быў сляпы, як Гамер... (с. 229)* — Гамер (прыблізна VII ст. да н. э.) — старажытнагрэчаскі паэт, якому прыпісваецца аўтарства эпічных паэм «Іліяда» і «Адысея».

*...круціла каханне з Бястужавым (с. 229–230)* — Маецца на ўвазе Бястужаў Аляксандр (1797–1837) — рускі пісьменнік.

*Міхася Грушвіцкага, кампазітара (с. 230)* — Грушвіцкі Міхал (1828–1904) — беларускі кампазітар.

*Сказ з рукапісу Субоціна... (с. 231)* — Субоцін Васіль (нар. у 1921) — расійскі пісьменнік.

*...пастаўлены Някрошусам (с. 231)* — Някрошус Эймунтас (нар. у 1952) — літоўскі тэатральны рэжысёр; заслужаны дзеяч мастацтваў Літвы (1986).

*...Алег Груздзіловіч са «Свабоды»... (с. 232)* — Груздзіловіч Алег (нар. у 1958) — журналіст Беларускай службы Радыё «Свабода».

*«Архіпелаг ГУЛАГ» (с. 232)* — Праца А. Салжаніцына, першы том якой ўпершыню быў выдадзены ў Парыжы ў снежні 1973 г., што прывяло да арышту аўтара, абвінавачання ў дзяржаўнай здрадзе, пазбаўлення савецкага грамадзянства і дэпартацыі ў 1974 г. у ФРГ.

*Калі ў часопісе «Маладосць» з'явілася «Дзікае паляванне...»... (с. 233)* — Маладосць. 1964. № 9–12.

*І паказвае на Сяргея Законнікава... (с. 233)* — У 1979–1986 гг. С. Законнікаў быў загадчыкам сектара мастацкай літаратуры аддзела культуры ЦК КПБ.

*...памяць пра Міхася Лынькова... (с. 236)* — Лынькоў Міхась (1899–1975) — народны пісьменнік Беларусі (1962).

*Цікавую рэч вычытаў у Праспэра Мэрымэ (апавяданне «Локіс») Васіль Зуёнак... (с. 236)* — Мэрымэ Праспэр (1803–1870) — французскі пісьменнік. Зуёнак Васіль (нар. у 1935) — беларускі паэт.

*Тэлефануе Марыйка Мартысевіч... (с. 237)* — Мартысевіч Марыя (нар. у 1982) — беларуская паэтка, журналіст.

*...пра пісьменніка Кастуся Травеня... (с. 237)* — Травень Кастусь (сапр. Кудраўцаў Яўген; нар. у 1947) — беларускі пісьменнік.

*Валерыя Кустава (с. 237)* — Кустава Валерыя (нар. у 1984) — беларуская паэтка.

*...торс — Шварцнегера (с. 237)* — Шварцнегер Арнольд Алаіс (нар. у 1947) — амерыканскі культурыст, бізнесовец, акцёр аўстрыйскага паходжання; губернатар Каліфорніі (2003–2009).

*...верш з апошнім радком «Бог не спіць» (с. 238)* — Радок з верша Някляева «Церні».

*«Бог заснуў — і свет наш знік» (с. 238)* — Радок з верша В. Куставай «Калыханка для Бога».

*Валерыя Кустава, Віталь Рыжкоў, Марыйка Мартысевіч, Рагнед Малахоўскі, Вальжына Морт, Усевалад Сцебурака, Віктар Жыбуль, Вера Бурлак, Анатоль Івашчанка, Глеб Лабадзенка, Максім Шчур, Андрэй Адамовіч (с. 238)* — паэты, якія прыйшлі ў беларускую літаратуру на памежжы XX–XXI стст.

*Пасля прэзентацыі анталогіі беларускай паэзіі... (с. 239)* — Nie chiliłem czoła przed mocą: Antologia poezji białoruskiej od XV do XX wieku. Wrocław: Kolegium Europy Wschodniej, 2008.

*...«пані трошкі ў гадах», як напісаў Барадулін... (с. 239)* — з верша «Кавярня» Р. Барадуліна.

*...і Распуціна, і пратапопа Авакума... (с. 240)* — Распуцін Грыгорый (сапр. Новых; 1864?—1916) — фаварыт імператара Мікалая II і імператрыцы Аляксандры Фёдараўны; сібірскі селянін; мянушку Распуцін атрымаў за разгульнае жыццё; у 1904–1905 гг. набыў папулярнасць у вышэйшых колах пецярбургскай арыстакратыі; з 1907 г. — пры царскім двары як цудоўны лекар; меў неабмежаваны ўплыў на царскую сям'ю. Авакум (свецкае імя Кандрацьеў Авакум; 1620/1621–1682) — пратапоп, духоўны пісьменнік; адзін з заснавальнікаў рускага стараверства; выступаў супраць рэформы патрыярха Нікана.

*«Чужая мова лашчыць мне вуха, як пірсінг на чужым языку» (с. 240)* — Верш А. Хадановіча «Чужая мова».

*Пра што напісаў Леанід Дранько-Майсюк апавяданне «Анёлак і я»?.. (с. 241)* — Фрагмент прадмовы Някляева да кнігі Л. Дранько-Майсюка:

Някляеў У. Ахоўнік ручая / [прадмова] // Дранько-Майсюк Л. Анёлак і я: апавяданне. Мінск: Галіяфы, 2009.

*...выдых Уладзіміра Дубоўкі: «О Беларусь! Мая шыпшына...» (с. 241)* — З верша У. Дубоўкі «О Беларусь! Мая шыпшына».

*Мы ідзём не плятні апяваць... (с. 241)* — Радкі з верша Т. Кляшторнага «Задыміўся імжою сыр-бор...»

*...дзе ўсялякім тролям, гномам ды Карлсанам толькі і жыць... (с. 242)* — Троль (ад шведскага — зачараванне, вядзьмарства) — звышнатуральная істота са скандынаўскай міфалогіі: карлік, велікан, вядзьмарка. Гном — казачны карлік з германскага і скандынаўскага фальклору; паводле паданняў, яны маюць бараду, жывуць пад зямлёй, вядомыя багаццем і майстэрствам. Карлсан — герой казкі «Карлсан, які жыве на даху» шведскай пісьменніцы Астрыд Ліндгрэн (1907–2002).

*На Готландзе я дапісваў аповесць «Вяртанне Веры» (с. 243)* — Напісана: вясна 2004, Расціла, Хельсінкі (Фінляндыя); вясна 2008, Вісбу, в. Готланд (Швецыя). Упершыню: Дзеяслоў. 2008. № 4 (35).

*У прадмове да выдання ў перакладзе на рускую мову шведа Свэна Дэльбланка Уладзімір Маканін піша... (с. 244)* — Дэльбланк Свэн (1931–1992) — шведскі пісьменнік, прафесар літаратуры. Маканін Уладзімір (нар. у 1937) — расійскі пісьменнік.

*...калі ангельскі (і выдатны) вучоны, філосаф, ці, як яго называюць, «даследчык цывілізацый», Арнольд Тойнбі... (с. 244)* — Тойнбі Арнольд Джозеф (1889–1975) — брытанскі гісторык, філосаф гісторыі, культуролаг; аўтар 12-томнай працы па параўнальнай гісторыі цывілізацыі «Спасціжэнне гісторыі».

*Першым прадстаўніком еўрапейскай культуры ў Расіі стаў Сімяон Полацкі (с. 245)* — Сімяон Полацкі (сапр. Пятроўскі-Сітняновіч Самуіл; 1629–1680) — праваслаўны і грэка-каталіцкі дзеяч, духоўны пісьменнік беларускага паходжання (нарадзіўся ў Полацку).

*Гуру акмеізму Гумілёў называў футурыстаў... (с. 246)* — Акмеізм — літаратурны кірунак, які супрацьстаяў сімвалізму, узнік на пачатку XX ст. у Расіі. Тэрмін «акмеізм» быў прапанаваны расійскімі паэтамі М. Гумілёвым і С. Гарадзецкім.

*...«гіенамі, што йдуць за ільвамі» (с. 246)* — Пераклад фрагмента працы М. Гумілёва «Наследие символизма и акмеизм»: «...появились футуристы, эгофутуристы и прочие гиены, всегда следующие за львом».

*Рускі акмеізм, які ўзнік на руінах французскага сімвалізму, любы Гумілёву «метафарай, якая ўзнесеная вышэй за ўсё» (с. 246)* — Пераклад фрагмента працы М. Гумілёва «Наследие символизма и акмеизм»: «Французский символизм, родоначальник всего символизма как школы, выдвинул на передний план чисто литературные задачи: свободный стих, более своеобразный и зыбкий слог, метафору, вознесенную превыше всего...»

*Яшчэ — і перш за ўсё — «перавагай раманскаму духу перад германскім», якую выяўляе (як перакананы Гумілёў) акмеізм (с. 246)* — Пераклад фрагмента працы М. Гумілёва «Наследие символизма и акмеизм»: «Мы, русские, не можем считаться с французским символизмом, хотя бы уже потому, что новое течение [...] отдает решительное предпочтение романскому духу перед германским».

*«Я хочу, чтоб к штыку приравняли перо!» (с. 246)* — Радок з верша У. Маякоўскага «Домой!»

*...«из-за пояса рвет пистолет так, что сыплется золото с кружев, с розоватых брабантских манжет»... (с. 246)* — Радок з верша М. Гумілёва «Капитаны».

*...Готліб увёў ва ўжытак... (с. 246)* — Баўмгартэн Готліб Аляксандр (1714–1762) — нямецкі філосаф, паслядоўнік Лейбніца і Вольфа, увёў тэрмін «эстэтыка».

*20-гадовы сябар (у 40 гадоў расстраляны) літаратурнага аб'яднання «Маладняк» Сяргей Фамін пачынае адзін са сваіх вершаў:*
*За вакном задыхаецца вецер... (с. 247)* — Фамін Сяргей (1906–1941) — беларускі паэт, настаўнік; сябра літаб'яднання «Маладняк». У 1935 г. арыштаваны і прыгавораны да вышэйшай меры пакарання, але прысуд быў заменены на 10 гадоў зняволення. Ссылку адбываў у Комі АССР (Расія). У 1941 г. паўторна арыштаваны як «удзельнік дыверсійнай групы» і расстраляны. Пасмяротна рэабілітаваны (1957–1958). «За вакном задыхаецца вецер...» — радок з верша «За вакном задыхаецца вецер...»

*Напрыканцы 70-х з’явіўся раман С. Сакалова «Школа для дурняў» (с. 247)* — Сакалоў Саша (Аляксандр; нар. у 1943) — расійскі пісьменнік. У 1976 г. эміграваў у Аўстрыю, пасля — у ЗША, потым — у Ізраіль.

*«Ад двух да пяці» Карнея Чукоўскага (с. 247)* — Кніга, у якой К. Чукоўскім занатаваны назіранні за моўнай творчасцю дзяцей.

*Дзмітрый Прыгаў, Усевалад Някрасаў, Уладзімір Сарокін, Леў Рубінштэйн (с. 248)* — Прыгаў Дзмітрый (1940–2007) — расійскі паэт, мастак, скульптар; адзін са стваральнікаў «маскоўскага канцэптуалізму» ў мастацтве і літаратуры. Някрасаў Усевалад (1934–2009) — расійскі паэт, тэарэтык мастацтва; адзін са стваральнікаў «маскоўскага канцэптуалізму». Сарокін Уладзімір (нар. у 1955) — расійскі пісьменнік, драматург; прадстаўнік канцэптуалізму ў рускай літаратуры. Рубінштэйн Леў (нар. у 1947) — расійскі паэт, крытык; адзін са стваральнікаў «маскоўскага канцэптуалізму».

*Внимательно коль приглядеться сегодня… (с. 248)* — Радкі з верша Д. Прыгава «Внимательно коль приглядеться сегодня…»

*«Я люблю смотреть, как умирают дети…» (с. 248)* — Радкі з верша У. Маякоўскага «Несколько слов обо мне самом».

*Прыпозненае выяўленне канцэптуалізму — Цімур Кібіраў (с. 248)* — Кібіраў Цімур (нар. у 1955) — расійскі паэт асецінскага паходжання.

*…«Homo soveticus, goodbye!» (с. 249)* — Савецкі чалавек, да пабачэння! *(лац.-англ.)*

*…з верша Алеся Дудара… (с. 249)* — Дудар Алесь (сапр. Дайлідовіч Аляксандр; 1904–1937) — беларускі паэт, крытык, перакладчык; адзін з заснавальнікаў мінскай, віцебскай і полацкай філій літаб’яднання «Маладняк». У 1929 г. арыштаваны за верш «Пасеклі наш край папалам…» і высланы ў Смаленск, дзе ў 1930 г. паўторна арыштаваны па справе «Саюза вызвалення Беларусі». У 1936 г. зноў арыштаваны і ў 1937 г. прыгавораны да вышэйшай меры пакарання, як «член антысавецкай аб’яднанай шпіёнска-тэрарыстычнай нацыянал-фашысцкай арганізацыі». Пасмяротна рэабілітаваны (1957).

*…імператар Траян… (с. 249)* — Траян Ульпій (53–117) — рымскі імператар (98–117) іспанскага паходжання.

*...як «Рома» б’ецца з «Міланам» (с. 249)* — «Рома» і «Мілан» — італьянскія футбольныя клубы адпаведна з Рыма і Мілана.

*Шмат чаго пра Віктара Пялевіна... (с. 250)* — Пялевін Віктар (нар. у 1962) — расійскі пісьменнік; прадстаўнік постмадэрнізму.

*Кшталту Чарнышэўскага (с. 250)* — Чарнышэўскі Мікалай (1828–1889) — рускі філосаф-утапіст, рэвалюцыянер-дэмакрат, літаратурны крытык, пісьменнік.

*Дзе ў такім разе раман «Што рабіць?», напісаны ў адзіночцы Аляксееўскага равеліна Петрапаўлаўскай крэпасці? (с. 250)* — У чэрвені 1862 г. М. Чарнышэўскі быў арыштаваны і адпраўлены ў адзіночную камеру Аляксееўскага равеліна Петрапалаўскай крэпасці ў С.-Пецярбургу, дзе знаходзіўся пад следствам амаль два гады і дзе напісаў раман «Что делать?»

*...напісаўся верш: «Аднавяскоўцы мае — аднавякоўцы мае» (с. 250)* — Верш Някляева «Аднавяскоўцы мае...» (1975).

*А для Уладзіміра Харытонава — прынцып (с. 251)* — Харытонаў Уладзімір (1920–1981) — расійскі паэт.

*...ставяць побач з Эдуардам Лімонавым (с. 251)* — Лімонаў Эдуард (сапр. Савенка; нар. у 1943) — расійскі паэт, празаік, публіцыст, грамадскі дзеяч; былы старшыня забароненай у Расіі Нацыянал-бальшавісцкай партыі (1994). У 1974 г. эміграваў у ЗША, у 1980 г. — у Францыю. У 1991 г., узнавіўшы савецкае грамадзянства, вярнуўся ў Расію.

*Новая руская літаратура пачалася з альманаха «Метраполь», які выйшаў у 1979 годзе (с. 251)* — «Метрополь» — зборнік непадцэнзурных тэкстаў вядомых рускіх літаратараў (Б. Ахмадуліна, А. Вазнясенскі, Я. Рэйн, У. Высоцкі, Ю. Аляшкоўскі, Г. Сапгір, Ю. Карабчыеўскі, Ю. Кубланоўскі і інш.). Выйшаў накладам 12 экзэмпляраў у 1979 г. самвыдавецкім чынам. Адзін з экзэмпляраў альманаха, нелегальна вывезены, быў перавыдадзены ў ЗША.

*Аксёнаў (с. 251)* — Аксёнаў Васіль (1932–2009) — расійскі пісьменнік, дысідэнт, адзін з арганізатараў і аўтараў альманаха «Метрополь». Пратэстуючы супраць выключэння з СП СССР за арганізацыю альманаха «Метрополь» пісьменнікаў Я. Папова і В. Ерафеева, заявіў аб выхадзе з СП. Часова выехаўшы ў ЗША ў 1980 г., на наступны год

даведаўся аб пазбаўленні савецкага грамадзянства (якое было вернута ў 1990 г.). Да 2004 г. жыў у ЗША. У апошнія гады — у Францыі і Расіі.

*Новых ці не ўсяго трое: Кубланоўскі, Кажэўнікаў ды Папоў (які геній Яўгеній) (с. 251)* — Кубланоўскі Юрый (нар. у 1947) — расійскі паэт, публіцыст, крытык, мастацтвазнавец; у часы СССР у асноўным друкаваўся ў самвыдаце і за мяжой. Кажэўнікаў Пётр (нар. у 1953) — расійскі пісьменнік; першая публікацыя — у альманаху «Метрополь». Папоў Яўген (нар. у 1946) — расійскі пісьменнік; у 1978 г. быў прыняты ў Саюз пісьменнікаў СССР, але менш чым праз год выключаны за стварэнне (разам з В. Аксёнавым, А. Бітавым, В. Ерафеевым, Ф. Іскандэрам) альманаха «Метрополь», які быў выдадзены на Захадзе; у 1980 г. пераследаваўся КДБ як адзін з аўтараў і рэдактараў альманаха сучаснай літаратуры «Каталог», які быў выдадзены ў ЗША; у 1988 г. узноўлены ў СП СССР.

*Гэта вам не Някрасаў, Владзімаў ці Гладзілін — з трэцяй хвалі рускай эміграцыі (с. 251)* — Някрасаў Віктар (1911–1987) — расійскі пісьменнік украінскага паходжання (нарадзіўся ў Кіеве); лаўрэат Сталінскай прэміі 2-й ст. (1947); пабываўшы ў 1960 г. у Італіі, ЗША і Францыі, напісаў кнігу «По обе стороны океана», за якую ў 1963 г. быў раскрытыкаваны М. Хрушчовым і абвінавачаны ў «низкопоклонстве» перад Захадам; у 1972 г. за тое, што, як сказана ў рашэнні, «позволил себе иметь собственное мнение, не совпадающее с линией партии», быў выключаны з КПСС, затым і з СП СССР; у 1974 г. пасля ператрусу на кватэры і серыі допытаў у КДБ быў вымушаны эміграваць у Францыю; у тым жа годзе пазбаўлены савецкага грамадзянства — пасля таго як у адной з радыёпраграм іранічна выказаўся аб «трылогіі» Л. Брэжнева; распараджэннем Галоўліта было забаронена згадваць у друку імя пісьменніка і яго творы; кнігі В. Някрасава былі канфіскаваныя з бібліятэк і ў асноўным знішчаны. Владзімаў Георгій (сапр. Валасевіч; 1931–2003) — расійскі пісьменнік украінскага паходжання (нарадзіўся ў Харкаве); пасля публікацыі ў 1975 г. на Захадзе аповесці «Верный Руслан» быў выключаны з СП СССР; друкаваўся за мяжой, кіраваў маскоўскай секцыяй арганізацыі Amneasty International; пад пагрозай судовага працэсу ў 1983 г. выехаў у ФРГ. Гладзілін Анатоль (нар. у 1935) — расійскі пісьменнік, дысідэнт; адкрыта выступіў супраць суда над расійскімі літаратарамі А. Сіняўскім і Ю. Даніэлем (1966), якія былі асуджаны на 7 і 5 гадоў зняволення адпаведна за публікацыю

за мяжой твораў, што нібыта ўтрымлівалі паклёп на сацыялістычны лад; у 1976 г. А. Гладзілін быў вымушаны эміграваць у Францыю.

*Аляксандр Міронаў (с. 251)* — Міронаў Аляксандр (1948–2010) — расійскі паэт, адзін з вядучых паэтаў пецярбургскага літаратурнага андэграўнду 1970-х гг.; лаўрэат прэміі імя Андрэя Белага.

*«Бог мой — смех, меня отрицающий» (с. 251)* — Радок з верша «Смех мой, агнче, ангеле ветреный...» А. Міронава.

*«Боже, дай пистолет!» (с. 251)* — Радок з верша А. Міронава «Крещенские морозы».

*Нет невода в околоплодных водах.*
*Кто вытащит меня, урода? (с. 252)* — Радкі з верша «Рождение агрессии» А. Міронава. Дакладней: «Кто вытянет меня, урода?»

*Ну а здесь — что ни день... (с. 252)* — Радкі з верша А. Міронава «Locus трезвости».

*«Міфагенная любоў каст» Сяргея Ануфрыева і Паўла Пеперштэйна... (с. 252)* — Ануфрыеў Сяргей (нар. у 1964) і Пеперштэйн Павел (нар. у 1966) — расійскія мастакі-авангардысты, заснавальнікі і ўдзельнікі арт-групы «Инспекция “Медицинская герменевтика”», аўтары постмадэрнісцкага рамана «Міфагенная любоў каст».

*Уладзімір Яхантаў, рускі актор, бліскучы чытальнік вершаў... (с. 253)* — Яхантаў Уладзімір (1899–1945) — расійскі артыст эстрады, стваральнік жанру «тэатр аднаго акцёра».

*У 1934 годзе на першым з’ездзе пісьменнікаў СССР паэта Барыса Карнілава (паэмы «Мая Афрыка», «Трыполле») пахваліў тагачасны партыйны бонза Бухарын (с. 253)* — Карнілаў Барыс (1907–1938) — расійскі паэт; у 1936 г. выключаны з ССП, у 1937 г. арыштаваны; на наступны год як актыўны ўдзельнік антысавецкай, трацкісцкай арганізацыі, якая нібыта ставіла сваёй мэтай «тэрарыстычныя метады барацьбы супраць кіраўнікоў партыі і ўрада», прыгавораны да вышэйшай меры пакарання; пасмяротна рэабілітаваны ў 1957 г. Бухарын Мікалай (1888–1938) — савецкі палітычны дзеяч; член ЦК ВКП(б) (1917–1934); у 1928 г. выступіў супраць выкарыстання надзвычайных мер падчас правядзення калектывізацыі і індустрыялізацыі, што было абвешчана «правым уклонам» у ВКП(б); расстраляны; пасмяротна рэабілітаваны ў 1988 г.

*А. Тарасенкаў (с. 253)* — Тарасенкаў Анатоль (1909—1956) — расійскі літаратуразнавец, крытык, паэт, бібліяфіл.

*Ігнат Дварчанін (с. 253)* — Дварчанін Ігнат (1895—1937) — беларускі паэт, літаратуразнавец, дзеяч беларускага нацыянальнага руху. У 1933 г. арыштаваны па справе «Беларускага нацыянальнага цэнтра» і ў 1934 г. прыгавораны да вышэйшай меры пакарання, але прысуд быў заменены на 10 гадоў пазбаўлення волі. Пакаранне адбываў на Салавецкіх астравах і будаўніцтве Беламорска-Балтыйскага канала. У 1937 г. прыгавораны да расстрэлу. Пасмяротна рэабілітаваны (1956).

*Юрыя Рытхэу, першага чукоцкага пісьменніка... (с. 253)* — Рытхэу Юрый (1930—2008) — расійскі і чукоцкі пісьменнік; пісаў на чукоцкай і рускай мовах.

*...атрымаў тэлеграму ад Хемінгуэя... (с. 254)* — Хемінгуэй Эрнест Мілер (1899—1961) — амерыканскі празаік; лаўрэат Пулітцэраўскай прэміі (1953), Нобелеўскай прэміі па літаратуры (1954).

*У Шварца ў «Голым каралі»... (с. 254)* — Шварц Яўген (1896—1958) — расійскі пісьменнік, драматург. «Голы кароль» — п’еса Я. Шварца.

*У слоўніку Даля... (с. 254)* — Маецца на ўвазе «Толковый словарь живого великорусского языка» рускага вучонага і пісьменніка Уладзіміра Даля (1801—1872).

*У набліжэннях да разгадкі першынство належыць мовазнаўцу Вільгельму Гумбальту (с. 256)* — Вільгельм фон Гумбальт (1767—1835) — нямецкі філолаг, філосаф, мовазнаўца. Адзін з заснавальнікаў лінгвістыкі як навукі.

*...як пра грузінаў сказаў Мераб Мамардашвілі: «Калі грузінскі народ абярэ Звіяда Гамсахурдзія, я пайду супраць грузінскага народа» (с. 258—259)* — Мамардашвілі Мераб (1930—1990) — грузінскі і расійскі філосаф, доктар філасофскіх навук. Гамсахурдзія Звіяд (1939—1993) — грузінскі пісьменнік, вучоны, грамадскі дзеяч; першы прэзідэнт Грузіі (1991—1992).

*У Міхася Чарота:*
*Я шумлівы чарот, я мяцежны бунтар,*
*Я балота буджу гучным шумам... (с. 259)* — Радкі з верша «Бунтар» М. Чарота.

*«Я пил из черепа отца за счастье на земле...» (с. 259)* — Радкі з верша Ю. Кузняцова «Я пил из черепа отца...»

*Першым жа сказаў іх Уладзімір Святы. Той самы, які ахрысціў Русь (с. 260)* — Уладзімір I Святаслававіч (каля 960–1015) — кіеўскі вялікі князь, у 988 г. выбраў хрысціянства ў якасці дзяржаўнай рэлігіі Кіеўскай Русі. Праслаўлены ў ліку святых як роўнаапостальны.

*Мітрапаліт Смаленскі і Калінінградскі Кірыл... (с. 261)* — Патрыярх Кірыл (свецкае імя Гундзяеў Уладзімір; нар. у 1946) — епіскап Рускай праваслаўнай царквы; з 2009 г. — Патрыярх Маскоўскі і ўсяе Русі, прадстаяцель Рускай праваслаўнай царквы; у 1984–1989 гг. — мітрапаліт Смаленскі і Калінінградскі; у 1989–2009 гг. — старшыня сінадальнага аддзела знешніх царкоўных сувязей і пастаянны член Свяшчэннага Сінода.

*А месяц будет плыть и плыть, роняя весла по озерам, а Русь все так же будет пить, плясать и плакать у забора (с. 262)* — Радкі з верша «Устал я жить в родном краю...» С. Ясеніна. Дакладней:

А месяц будет плыть и плыть,
роняя весла по озерам,
а Русь все так же будет жить,
плясать и плакать у забора.

*Пра страты беларускага этнасу ва ўсіх нашэсцях, ва ўсіх войнах, што пракаціліся па Беларусі, страты ад чацвёртай да трэцяй часткі, а то і да дзвюх трацінаў насельніцтва... (с. 262–263)* — У вайне 1654–1667 гг. паміж Расіяй і Рэччу Паспалітай беларусы згубілі больш за палову жыхароў (з 2 млн 900 тыс. засталося 1 млн 350 тыс.). У Паўночнай вайне 1700–1721 гг. паміж Маскоўскай дзяржавай і Швецыяй беларусы (якія ў складзе Рэчы Паспалітай ваявалі на баку Маскоўскай дзяржавы) згубілі 700 тыс. (загінуў кожны трэці). У вайне 1812 г. паміж Расіяй і арміяй імператара Францыі Напалеона Банапарта загінула каля 1 млн беларусаў (кожны чацвёрты). Падчас Першай сусветнай вайны (1914–1918) — 1 млн 200 тыс. (кожны пяты), да таго ж да паўмільёна беларусаў не вярнуліся з эвакуацыі. У Другой сусветнай вайне (1939–1945) Беларуссю было згублена, па розных ацэнках, ад чацвёртай да трэцяй часткі насельніцтва.

*Самая прыгожая пара Галівуда Брэд Піт і Анжаліка Джалі... (с. 264)* — Піт Брэд (Піт Уільям Брэдлі; нар. у 1963) і Войт Анджаліна Джалі (нар. у 1975) — амерыканскія акцёры, муж і жонка.

*Мая бабуля Алімпа... (с. 264)* — Магер Алімпіяда (у дзяв. Гяцэвіч; 1894–1973) — бабуля Някляева па лініі маці.

*Гітлер (с. 265)* — Гітлер Адольф (1889–1945) — заснавальнік нацыянал-сацыялізму і таталітарнай дыктатуры Трэцяга рэйха; фюрэр і рэйхсканцлер Германіі (з 1934).

*Мы прасвяткавалі з ёй два тыдні жыцця на возеры Балатон (с. 265)* — Возера ў Венгрыі, найвялікшае ў Цэнтральнай Еўропе.

*Калі Джэка Лондана спыталі... (с. 266)* — Лондан Джэк (сапр. Чэйні Джон; 1876–1916) — амерыканскі пісьменнік.

*Мальер (с. 266)* — Мальер (сапр. Паклен Жан Батыст; 1622–1673) — французскі драматург, акцёр.

*Неяк з Максімам Танкам... (с. 267)* — Танк Максім (сапр. Скурко Яўген; 1912–1995) — народны паэт Беларусі (1968); старшыня праўлення СП БССР (1967–1990).

*...менавіта ён падараваў Але Пугачовай «Миллион алых роз» (с. 268)* — Пугачова Ала (нар. у 1949) — расійская эстрадная спявачка; народная артыстка СССР (1991). «Миллион алых роз» — песня на музыку Р. Паулса, у якой А. Вазнясенскі пераказаў навелу К. Паўстоўскага пра каханне грузінскага мастака М. Пірасмані да французскай актрысы.

*Запомні гэты міг... (с. 268)* — Песня «Запомни этот миг» на словы А. Вазнясенскага, музыка М. Тарывердзіева.

*Таццяна Сапач загінула (с. 268)* — Сапач Таццяна (1962–2011) — беларуская паэтка; жыла ў Вільнюсе (Літва).

*За стырном быў Сяргей Дубавец (с. 268)* — Дубавец Сяргей (нар. у 1959) — беларускі журналіст, літаратар, крытык, выдавец; галоўны рэдактар адноўленай газеты «Наша Ніва» (1991–2000). З 1990 г. жыве ў Вільнюсе (Літва). Быў жанаты з Т. Сапач.

*Ён напісаў пра яе эсэ «Мой анёл паляцеў на неба» (с. 269)* — Дубавец С. Мой анёл паляцеў на неба // Радыё «Свабода». 2012. 26 сьнеж. // Электронны рэсурс: http://www.svaboda.org/content/article/24434038.html.

*...Альгуня горка заплакала... (с. 270)* — Вольга, другая жонка Някляева.

*Тадэвуш Касцюшка: «Нарадзіўся я літвінам... Смуга будучыні яшчэ пакрывае лёс маёй роднай зямлі» (с. 270)* — Касцюшка Тадэвуш (1746–1817) — палітычны і ваенны дзеяч Рэчы Паспалітай, кіраўнік нацыянальна-вызваленчага паўстання 1794 г.; удзельнік вайны за незалежнасць ЗША. «Нарадзіўся я літвінам...» — фрагмент ліста Т. Касцюшкі да расійскага цара Аляксандра I.

*Тураў, дзе было напісана (хутчэй за ўсё Кірылам Тураўскім) «Слова аб палку Ігаравым»... (с. 271)* — Тураўскі Кірыл (не раней 1110 і не пазней за 1134 — магчыма, у пачатку 1190-х) — царкоўны дзеяч XII ст., епіскап тураўскі; аўтар царкоўна-асветніцкіх і царкоўна-літаратурных твораў; святы праваслаўнай царквы. «Слова аб палку Ігаравым» — поўная назва «Слово о походе Игоревом, Игоря, сына Святославова, внука Олегова» — прынята лічыць помнікам старажытнарускай літаратуры. У аснове сюжэта аповед пра няўдалы паход 1185 г. рускіх князёў на полаўцаў, які быў здзейснены князем Ігарам Святаславічам.

*Міністр прускага двара (а заадно й гісторык) Герцберг... (с. 271)* — Герцберг Эвальд-Фрыдрых (1725–1795) — прускі дзяржаўны дзеяч; статс-сакратар замежных спраў Прусіі (1756–1791).

*Расійская імператрыца Кацярына II... (с. 271)* — Кацярына II Вялікая (у дзяв. Сафія Аўгуста Фрэдэрыка фон Анхальт-Цэрбст-Дорнбург; 1729–1796) — расійская імператрыца (1762–1796).

*...пісала яна нямецкамулітаратару Мельхіёру Грыму... (с. 271)* — Грым Фрыдрых-Мельхіёр (1723–1807) — нямецкі публіцыст, дыпламат, карэспандэнт імператрыцы Усерасійскай Кацярыны II.

*Тады навошта ж было сваіх, рускіх, знішчаць, як знішчалі Мураўёў ды Сувораў? (с. 271)* — Сувораў Аляксандр (1730–1800) — рускі палкаводзец, генералісімус. Калі для Расіі А. Сувораў — нацыянальны герой (правёў больш за 60 бітваў і не атрымаў ніводнай паразы), дык для Беларусі — наадварот, бо менавіта войска А. Суворава, прымаючы ўдзел у карных аперацыях, разбіла корпус паўстанцаў генерала Караля Серакоўскага і бязлітасна задушыла нацыянальна-вызваленчае паўстанне Тадэвуша Касцюшкі (1794). За пралітую беларускую кроў расійская імператрыца Кацярына II «пожаловала в вечное и потомственное владение» А. Суворову Кобрынскую воласць з 13279 душамі сялян (на душы тады лічылася мужчынскае працаздольнае насельніцтва).

*...а не сама русіфікацыя, якая практычна пачалася пасля трэцяга падзелу Польшчы (с. 271)* — Трэці падзел Рэчы Паспалітай адбыўся ў 1795 г.

*Пры Паўле I і Аляксандры I... (с. 271)* — Павел I (1754–1801) — расійскі імператар (з 1796). Аляксандр I (1777–1825) — расійскі імператар (з 1801).

*...але пры Мікалаі... (с. 271)* — Мікалай I (1796–1855) — расійскі імператар (1825–1855).

*...праз канфлікт з гісторыкам Лукашэнкам... (с. 272)* — А. Лукашэнка скончыў гістарычны факультэт Магілёўскага педагагічнага інстытута па спецыяльнасці «настаўнік гісторыі і грамадазнаўства» (1975), але ніколі не працаваў па гэтай спецыяльнасці.

*«Мірону снілася, што ён нарадзіўся — і яго купаюць у балейцы. [...] Пярэсты цень пакалыхваецца, прабягае па сталах хвалямі: здаецца, што сталы вось-вось паплывуць» (с. 272)* — Фрагмент аповесці «Мірон ды Мірон». Напісана: 1993, Менск; 2001, Хельсінкі. Упершыню: Дзеяслоў. 2004. № 13 (6). С. 3–25.

*Напісаўся даволі дзіўны верш... (с. 274)* — Гэтыя запісы ўпершыню часткова прагучалі ў эфіры Беларускай службы Радыё «Свабода» 6 красавіка 2009 г., у той час калі Някляеў быў грамадскім рэдактарам тыдня на «Свабодзе» (гл.: http://www.svaboda.org/content/transcript/1602839.html).

*Пакуль Абаму не забілі... (с. 274)* — Абама Барак (нар. у 1961) — 44-ты прэзідэнт ЗША (з 2009).

*Самовар Иван Иваныч!.. (с. 277)* — Радкі з верша «Иван Иваныч Самовар» Д. Хармса.

*...разбіраю на газетным абрыўку ў жоўтых расплывах апошнія словы: «Держись, Володя! Твой брат Евгений Евтушенко» (с. 277)* — Размова ідзе пра публікацыю: Басинский П. Свободу поэту!: Евгений Евтушенко требует освобождения Владимира Некляева // Российская газета. 2010. 23 дек.

*...Цяпер, што хочаш, падарую... (с. 278)* — Радкі з паэмы Някляева «Турма».

*Калі Радаслаў Сікорскі, міністр замежных спраў Польшчы, прадстаўляў мяне Хілары Клінтан, дзяржсакратару ЗША... (с. 278)* — Сікорскі Радаслаў (нар. у 1963) — польскі палітычны і дзяржаўны дзеяч, палітолаг; міністр абароны (2005–2007), міністр замежных спраў Польшчы (з 2007). Клінтан Хілары (нар. у 1947) — амерыканскі палітычны і дзяржаўны дзеяч, сенатар ЗША (2001–2009), дзяржаўны сакратар ЗША (2009–2012); жонка Біла Клінтана, 42-га прэзідэнта ЗША.

*У новай кнізе «Кон», што выйшла перад Плошчай... (с. 279)* — Някляеў У. Кон: Вершы двух стагоддзяў. Мінск: Лімарыус, 2010. Пад Плошчай маецца на ўвазе шматтысячнае шэсце ў дзень прэзідэнцкіх выбараў 19 снежня 2010 г.

*З «Адкрыцця», з «Вынаходцаў вятроў», са «Знаку аховы», з «Прошчы» (с. 279)* — Маюцца на ўвазе кнігі Някляева: «Адкрыццё» (Мінск: Мастацкая літаратура, 1976), «Вынаходцы вятроў» (Мінск: Мастацкая літаратура, 1979), «Знак аховы» (Мінск: Мастацкая літаратура, 1983), «Прошча» (Мінск: Мастацкая літаратура, 1996).

*Як плашчаніца, бел-чырвона-бела... (с. 280)* — Напісана: 1. 01.2011. Упершыню: Някляеў У. Лісты да Волі // Дзеяслоў. 2011. № 5 (54). С. 42.

*Іван Тхаржэўскі (с. 282)* — Тхаржэўскі Іван (1878–1951) — расійскі паэт, перакладчык.

*...па матывах Хафіза... (с. 283)* — Хафіз Шыразі (каля 1325–1389/1390) — вялікі персідскі паэт.

*...у Каржавіна... (с. 283)* — Каржавін Навум (сапр. Мандзель; нар. у 1925) — расійскі паэт, празаік, драматург, перакладчык украінскага паходжання (нарадзіўся ў Кіеве). У 1974 г. эміграваў у ЗША.

*Сяргей Шапран*

# Змест

Літаратурна-мастацкае выданне

**Някляеў** Уладзімір Пракопавіч

**ЗНАКІ ПРЫПЫНКУ**

Адказны за выпуск *М. Шыбко*
Вёрстка *В. Нога*
Карэктары *Н. Мікалаева* і *М. Чарнякевіч*

Падпісана ў друк 23.10.2013. Фармат 70×100 1/32. Папера афсетная.
Афсетны друк. Ум. друк. арк. 15,28. Ул.-выд. арк. 15,5. Наклад ?00 асобн. Заказ 2342.

Выдавецтва ТАА «Лімарыус». ЛВ № 02330/0003920 ад 16.03.2009.
Вул. Геалагічная, 59, к. 4, п. 29, 220138, г. Мінск.

Надрукавана ў друкарні ТДА «НоваПрынт». ЛП № 02330/0552786 ад 25.02.2009.
Вул. Геалагічная, 59, к. 4, п. 10, 220138, г. Мінск.

372

**Някляеў , У. П.**

Н 99 Знакі прыпынку / Уладзімір Някляеў; прадм. Віктара Казько; уклад., камент. Сяргея Шапрана. — Мінск: Лімарыус, 2013. — 372 с. : іл. — (Беларуская мемуарная бібліятэка).

ISBN 978-985-6968-35-1.

Кніга Уладзіміра Някляева «Знакі прыпынку» — гэта біяграфія душы. Аўтар падараваў нам нават не кнігу, а самога сябе, запрасіўшы нас у свет сапраўднага паэта, сучаснага літаратара, сённяшняга беларуса.

**УДК 94(476)(093)**
**ББК 63.3(4Беи)**



*Першы фотаздымак. Крэва, 1949 г.*



*З бацькам і маці. Смаргонь, 1985 г.*



*З унукам Стасам і дачкой Евай. Хельсінкі, 2013 г.*



*З жонкай Вольгай на Юравай гары ў Крэве. 2009 г.*



*Прэзідэнцкія выбары. 2010 г.*